ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 3 № 3

# XVIII З'ЕЗД ВКП (большэвікоў)







МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1939

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 3
Сакавік 1939 г.



ЗМЕС





Адрас рэдакцыі:
Менск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13.
Телефоны: нам. рэдактара—комутатар
20-000, даб. 271; агульны—24-887.



# УСТУПНАЯ ПРАМОВА ТАВАРЫША В. М. МОЛАТАВА

Таварышы! К гэтаму з'езду партыя прышла з перамогамі гістарычнай важнасці.

На месцы старой, адсталай нават у капіталістычных адносінах краіны створан новы лад,—соцыялізм у асноўным пабудован. Мы даўно прагналі памешчыкаў і капіталістаў, але канчаткова ачысцілі нашу зямлю ад усякіх эксплуататараў толькі ў апошнія годы. Створана новае грамадства, узброенае самай перадавой тэхнікай. Склалася соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян, якая ідзе ўгару, ідзе да поўнай перамогі комунізма сваёю выпрабаванай большэвіцкай дарогай. І гэта ў той час, калі капіталізм шукае для сябе выратаванне ў фашызме, праклінаемым усімі прыхільнікамі чалавечаскага прагрэса, калі капіталізм, із'едзены крызісамі і паразітычным гніеннем на карню, усё больш уцягвае Еўропу і Азію ў новую сусветную імперыялістычную вайну.

З радаснымі пачуццямі сустракаюць наш з'езд працоўныя Савецкага Саюза. Гэтыя пачуцці нам блізкі і зразумелы. Гэтыя пачуцці народжаны вялікімі баямі і склаўшымся ў нас маральна-палітычным адзінствам. Яны створаны вялікай дружбай народаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, згуртаваных у вялікую армію комунізма, гатовую да новых баёў пад сцягам Леніна—Сталіна (апладысменты, усе ўстаюць).

Мы закончылі яшчэ адзін гістарычны этап комуністычнай рэволюцыі ў СССР. Мы завяршылі ў асноўным цэлую эпоху будаўнічай работы, каб уступіць у новую эпоху, у эпоху паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Наш вопыт, вопыт будаўнікоў комуністычнага грамадства, ужо поўнасцю паказаў, што магчымасці росту сіл СССР неабмежавана вялікі. Цяпер у нашай краіне зроблена ўсё для таго, каб крыніцай біла народная творчасць на велізарных прасторах многанацыянальнага Совецкага Саюза, каб з кожным днём рос народны добрабыт, разгортвалася ўшыр і ўглыб культурнае будаўніцтва краіны соцыялізма.

Разам з тым вопыт апошніх год паказаў, што ў нас была пэўная недаацэнка знешніх варожых сіл, была недаацэнка іх варожай актыўнасці і зваротлівасці ў барацьбе з СССР. Справа дайшла да таго,

што нашы знешнія ворагі з лагера капіталізма замыслілі зрабіць свайго роду ўмяшанне ў нашы ўнутраныя справы. Гэта своеасабліває ўмяшанне ў совецкія справы заключалася ў спробе некаторых імперыялістычных дзяржаў, і асабліва фашысцкіх, завезці і размясціць сваіх агентаў у органах дзяржаўнай улады СССР. Яны, уласна, захацелі прымяніць да Совецкага Саюза свой багаты вопыт у адносінах больш слабых буржуазных дзяржаў, дзе часам ва ўрадавых вярхах сядзяць і вырашаюць справы не хто-небудзь, а іменна платныя агенты і шпіёны буйных замежных дзяржаў. Як гэта ні нагла з іх боку, але і ў адносінах да Совецкага Саюза рабіліся такія-ж спробы праз людзей, якія ўчора яшчэ прыкрывалі сваё гнуснае вераломства і здраду комуністычным партыйным білетам. Так будзе і надалей, калі на лоўкасць і зваротлівасць замежных разведак мы не адкажам падвоенай і падзесяцяронай лоўкасцю і зваротлівасцю совецкай разведкі (а п л а д ы с м е н т ы).

Вы ведаеце, проіскі знешняга класавага ворага з лагера капіталізма, асабліва з лагера фашызма, намі разбіты ўпух і ўпрах. Іх новы шпіёнскі прыём умяшання, у якім усе гэтыя Троцкія, Рыкавы, Бухарыны, Зіноўевы, Тухачэўскія, Радэкі, Ікрамавы, Любчанкі адыгралі жалкую ролю шпікаў-шкоднікаў і брудных агентаў замежных разведак,—поўнасцю праваліўся.

Мы атрымалі новы ўрок па пытанню аб дзяржаве і новы багаты вопыт аб атручаных ядам вераломства прыёмах барацьбы з совецкаю ўладай. Мы адказалі на гэта рашучым большэвіцкім умацаваннем Совецкай дзяржавы, Чырвонай арміі і ўсіх іншых баявых органаў дзяржаўнай улады, роўна як узмацненнем барацьбы з фашызмам і фашысцкай агентурай (а п л а д ы с м е н т ы).

Новая паласа ставіць перад намі новыя задачы.

З пункту гледжання нашых унутраных задач цэнтр цяжару пераносіцца цяпер на пытанні **выхаваўчыя,** на пытанні комуністычнага выхавання, на задачы ліквідацыі столь яшчэ жывучых перажыткаў капіталізма ў сазнанні працоўных.

Мы намячаем новыя планы ўздыму народнай гаспадаркі, новыя планы росту народнага добрабыту і ўсебаковага ўздыму культурнага ўзроўню працоўных.

Мы разгарнулі вялікую работу па ідэйнаму і арганізацыйнаму ўмацаванню партыі, па далейшаму ўзмацненню баявых якасцей нашых партыйных арганізацый.

Каб па-сапраўднаму ўсвядоміць і з максімальнымі практычнымі рэзультатамі скарыстаць у інтарэсах народа нашы палітычныя, нашы эканамічныя, нашы культурныя, нашы арганізацыйныя і ўсе іншыя велізарныя магчымасці, нам больш за ўсё неабходна ў даны перыяд усямернае павышэнне справы комуністычнага выхавання. Каб яшчэ больш паспяхова рашаць любыя арганізацыйныя пытанні ўздыму магутнасці нашай дзяржавы, каб яшчэ быстрэй рухацца наперад у

рашэнні асноўнай эканамічнай задачы Савецкага Саюза, у рашэнні задачы дагнаць і перагнаць у кароткі тэрмін найбольш развітыя капіталістычныя краіны таксама і ў эканамічных адносінах,—трэба высунуць наперад задачы выхавання мас у духу комуністычна-свядомых адносін да працы, задачы далейшага павышэння ідэйнага выхавання саміх кадраў партыйнага і дзяржаўнага апарата і ўсёй савецкай інтэлігенцыі ў духу марксізма-ленінізма, у духу большэвізма.

Гэты з'езд выкліча новы ўздым усёй нашай работы, новы ўздым справы комуністычнага выхавання і навукова-тэарэтычнай работы. Нашы з'езды заўсёды асвятлялі далёка ўперад назрэўшыя задачы партыі і заўсёды былі буйным этапам ва ўздыме комуністычнай свядомасці мас, у комуністычным выхаванні працоўных.

Ніякі вораг ужо не зможа зламіць наш Савецкі Саюз. Любы агрэсар разаб'е свой медны лоб аб савецкі пагранічны слуп (б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Для каго мала нашых адкрытых папярэджанняў, той даведаецца аб гэтым у свой яму паложаны час. І тым пабедаросней, тым больш значнымі ў міжнародным сэнсе будуць нашы поспехі ў гэтай надыходзячай барацьбе з сіламі знешняй агрэсіі, чым больш і чым пладатворней мы папрацуем над комуністычным выхаваннем у нашай краіне.

Таварышы дэлегаты! Дазвольце выказаць упэўненасць, што XVIII з'езд і ў гэтых адносінах выканае сваю гістарычную ролю. Парукай гэтаму, што ў нашай краіне рабочы клас і ўся маса працоўных ідзе ўперад пад высока ўзнятым пабеданосным сцягам партыі Леніна—Сталіна (у с е ў с т а ю ц ь, а п л а д ы с м е н т ы).

Парукай гэтаму, што нашу партыю вядзе ўперад вялікі арганізатар слаўных перамог комунізма, вялікі натхніцель комуністычнага выхавання мас—наш Сталін (у с е ў с т а ю ц ь, а п л а д ы с м е н т ы, в о к л і ч ы «у р а». **Голас з месца:** Няхай жыве таварыш Сталін!).

Таварышы, на з'езд выбраны 1.574 дэлегаты з рашаючым голасам, прыбыла—1.567 дэлегатаў. З прычыны гэтага дазвольце мне, па даручэнню Цэнтральнага Камітэта партыі, аб'явіць XVIII партыйны з'езд адкрытым.

---

# Справаздачны даклад таварыша СТАЛІНА на XVIII з'ездзе партыі аб рабоце ЦК ВКП(б).

## I.

## Міжнароднае становішча Совецкага Саюза.

Таварышы! З часу XVII з'езда партыі прайшло пяць год. Перыяд, як бачыце, не малы. За гэты час свет паспеў перажыць значныя змяненні. Дзяржавы і краіны, іх адносіны паміж сабой сталі ва многім зусім іншымі.

Якія іменна змяненні адбыліся за гэты перыяд у міжнароднай абстаноўцы? Што іменна змянілася ў знешнім і ўнутраным становішчы нашай краіны?

Для капіталістычных краін гэты перыяд быў перыядам сур'ёзнейшых патрасенняў як у галіне экономікі, так і ў галіне палітыкі. У галіне эканамічнай гэтыя годы былі годамі дэпрэсіі, а потым, пачынаючы з другой палавіны 1937 года,—годамі новага эканамічнага крызіса, годамі новага заняпаду прамысловасці ў ЗША, Англіі, Францыі,—значыць, годамі новых эканамічных ускладненняў. У галіне палітычнай гэтыя годы былі годамі сур'ёзных палітычных канфліктаў і патрасенняў. Ужо другі год ідзе новая імперыялістычная вайна, якая разыгралася на велізарнай тэрыторыі ад Шанхая да Гібралтара і захваціла больш 500 мільёнаў насельніцтва. Гвалтоўна перакройваецца карта Еўропы, Афрыкі, Азіі. Патрасена ў корні ўся сістэма пасляваеннага так званага мірнага рэжыма.

Для Совецкага Саюза, наадварот, гэтыя годы былі годамі яго росту і працвітання, годамі далейшага яго эканамічнага і культурнага ўздыму, годамі далейшага росту яго палітычнай і ваеннай магутнасці, годамі яго барацьбы за захаванне міру ва ўсім свеце.

Такава агульная карціна.

Разгледзім канкрэтныя даныя аб змяненнях у міжнароднай абстаноўцы.

## 1. Новы эканамічны крызіс у капіталістычных краінах. Абвастрэнне барацьбы за рынкі збыту, за крыніцы сыравіны, за новы перадзел свету.

Эканамічны крызіс, які пачаўся ў капіталістычных краінах у другой палавіне 1929 года, прадаўжаўся да канца 1933 года. Пасля гэтага крызіс перайшоў у дэпрэсію, а потым пачалося некаторае ажыўленне прамысловасці, некаторы яе ўздым. Але гэтае ажыўленне прамысловасці не перайшло ў працвітанне, як гэта бывае звычайна ў перыяд ажыўлення. Наадварот, пачынаючы з другой палавіны 1937 года, пачаўся новы эканамічны крызіс, які захваціў перш за ўсё ЗША, а ўслед за імі—Англію, Францыю і рад іншых краін.

Такім чынам, не паспеўшы яшчэ аправіцца ад удараў нядаўняга эканамічнага крызіса, капіталістычныя краіны апынуліся перад тварам новага эканамічнага крызіса.

Гэтая акалічнасць натуральна прывяла да ўзмацнення беспрацоўя. Колькасць беспрацоўных у капіталістычных краінах, якая ўпала было з 30 мільёнаў чалавек у 1933 годзе да 14 мільёнаў у 1937 годзе, цяпер зноў паднялася ў рэзультаце новага крызіса да 18 мільёнаў чалавек.

Характэрная асаблівасць новага крызіса заключаецца ў тым, што ён ва многім адрозніваецца ад папярэдняга крызіса, прычым адрозніваецца не ў лепшы бок, а ў горшы.

Па-першае, новы крызіс пачаўся не пасля працвітання прамысловасці, як гэта мела месца ў 1929 годзе, а пасля дэпрэсіі і некаторага ажыўлення, якое, аднак, не перайшло ў працвітанне. Гэта азначае, што цяперашні крызіс будзе больш цяжкім і з ім будзе трудней змагацца, чым з папярэднім крызісам.

Далей, цяперашні крызіс разыграўся не ў мірны час, а ў перыяд пачаўшайся ўжо другой імперыялістычнай вайны, калі Японія, ваюючы ўжо другі год з Кітаем, дэзарганізуе неабдымны кітайскі рынак і робіць яго амаль недаступным для тавараў іншых краін, калі Італія і Германія перавялі ўжо сваю народную гаспадарку на рэльсы ваеннай эканомікі, ухлопаўшы на гэту справу свае запасы сыравіны і валюты, калі ўсе астатнія буйныя капіталістычныя дзяржавы пачынаюць перастрайвацца на ваенны лад. Гэта азначае, што ў капіталізма рэсурсаў для нармальнага выхаду з цяперашняга крызіса будзе значна менш, чым у перыяд папярэдняга крызіса.

Нарэшце, у адрозненне ад папярэдняга крызіса, цяперашні крызіс з'яўляецца не ўсеагульным, а захватвае, пакуль што, галоўным чынам эканамічна магутныя краіны, якія не перайшлі яшчэ на рэльсы ваеннай эканомікі. Што датычыць краін агрэсіўных, накшталт Японіі, Германіі і Італіі, перабудаваўшых ужо сваю эканоміку на ваенны лад, то яны, узмоцнена развіваючы сваю ваенную прамысловасць, не перажываюць яшчэ стану крызіса перавытворчасці, хоць

і набліжаюцца да яго. Гэта азначае, што ў той час як эканамічна магутныя, неагрэсіўныя краіны пачнуць вылязаць з паласы крызіса, агрэсіўныя краіны, вычарпаўшы свае залатыя і сыравінныя запасы ў ходзе ваеннай гарачкі, павінны будуць уступіць у паласу самага жорсткага крызіса.

Гэта наглядна ілюстрыруецца хоць-бы данымі аб наяўнасці відзімых залатых запасаў у капіталістычных краінах.

**Відзімыя залатыя запасы ў капіталістычных краінах.**

(у млн. старых залатых долараў)

| | Канец 1936 г. | Верасень 1938 г. |
|---|---|---|
| **Усяго** | 12.980 | 14.301 |
| ЗША . . . . . . . . . | 6.649 | 8.126 |
| Англія . . . . . . . . . | 2.029 | 2.396 |
| Францыя . . . . . . . | 1.769 | 1.435 |
| Галандыя . . . . . . | 289 | 595 |
| Бельгія . . . . . . . . | 373 | 318 |
| Швейцарыя . . . . . . | 387 | 407 |
| Германія . . . . . . . | 16 | 17 |
| Італія . . . . . . . . . | 123 | 124 |
| Японія . . . . . . . . . | 273 | 97 |

З гэтай табліцы відаць, што залатыя запасы Германіі, Італіі і Японіі, разам узятых, прадстаўляюць меншую суму, чым запасы адной толькі Швейцарыі.

Вось некаторыя цыфравыя даныя, якія ілюстрыруюць крызіснае становішча прамысловасці капіталістычных краін за апошнія пяць год і рух прамысловага ўздыму ў СССР.

**Аб'ём прамысловай прадукцыі ў процантах к 1929 году.**

(1929 = 100)

| | 1934 | 1935 | 1936 | 1937 | 1938 |
|---|---|---|---|---|---|
| ЗША . . . . . . . . . | 66,4 | 75,6 | 88,1 | 92,2 | 72,0 |
| Англія . . . . . . . . . | 98,8 | 105,8 | 115,9 | 123,7 | 112,0 |
| Францыя . . . . . . . | 71,0 | 67,4 | 79,3 | 82,8 | 70,0 |
| Італія . . . . . . . . . | 80,0 | 93,8 | 87,5 | 99,6 | 96,0 |
| Германія . . . . . . . | 79,8 | 94,0 | 106,3 | 117,2 | 125,0 |
| Японія . . . . . . . . . | 128,7 | 141,8 | 151,1 | 170,8 | 165,0 |
| СССР . . . . . . . . . | 238,3 | 293,4 | 382,3 | 424,0 | 477,0 |

З гэтай табліцы відаць, што Совецкі Саюз з'яўляецца адзінай краінай у свеце, якая не ведае крызісаў і прамысловасць якой увесь час ідзе ўверх.

З гэтай табліцы відаць далей што ў ЗША, Англіі і Францыі пачаўся ўжо і развіваецца сур'ёзны эканамічны крызіс.

З гэтай табліцы відаць, далей, што ў Італіі і Японіі, якія раней Германіі перавялі сваю народную гаспадарку на рэльсы ваеннай эканомікі, пачаўся ўжо ў 1938 годзе перыяд руху прамысловасці ўніз.

З гэтай табліцы відаць, нарэшце, што ў Германіі, якая пазней Італіі і Японіі перабудавала сваю эканоміку на ваенны лад, прамысловасць пакуль што яшчэ перажывае стан некаторага, праўда, невялікага, але ўсё-ж руху ўверх,—адпаведна з тым, як гэта мела месца да апошняга часу ў Японіі і Італіі.

Не можа быць сумнення, што калі не здарыцца чаго-небудзь непрадбачанага, прамысловасць Германіі павінна будзе стаць на той-жа шлях руху ўніз, на які ўжо сталі Японія і Італія. Бо што значыць перавесці гаспадарку краіны на рэльсы ваеннай эканомікі? Гэта значыць даць прамысловасці аднабокі, ваенны напрамак, усямерна пашырыць вытворчасць неабходных для вайны прадметаў, не звязаную са спажываннем насельніцтва, усямерна звузіць вытворчасць і асабліва выпуск на рынак прадметаў спажывання насельніцтва,—значыцца, скараціць спажыванне насельніцтва і паставіць краіну перад эканамічным крызісам.

Такава канкрэтная карціна руху новага эканамічнага крызіса ў капіталістычных краінах.

Зразумела, што такі неспрыяльны абарот гаспадарчых спраў не мог не прывесці да абвастрэння адносін паміж дзяржавамі. Ужо папярэдні крызіс пераблытаў усе карты і прывёў да абвастрэння барацьбы з-за рынкаў збыту, з-за крыніц сыравіны. Захват Японіяй Манчжурыі і Паўночнага Кітая, захват Італіяй Абісініі,—усё гэта адлюстравала вастрыню барацьбы паміж дзяржавамі. Новы эканамічны крызіс павінен прывесці і сапраўды прыводзіць да далейшага абвастрэння імперыялістычнай барацьбы. Гутарка ідзе ўжо не аб канкурэнцыі на рынках, не аб гандлёвай вайне, не аб дэмпінгу. Гэтыя сродкі барацьбы даўно ўжо прызнаны недастатковымі. Гутарка ідзе цяпер аб новым перадзеле свету, сфер уплываў, калоній шляхам ваенных дзеянняў.

Японія стала апраўдываць свае агрэсіўныя дзеянні тым, што пры заключэнні дагавора 9-ці дзяржаў яе абдзялілі і не далі пашырыць сваю тэрыторыю за кошт Кітая, тады як Англія і Францыя ўладаюць велізарнымі калоніямі. Італія ўспомніла, што яе абдзялілі пры дзяляжы здабычы пасля першай імперыялістычнай вайны і што яна павінна вазмясціць сябе за кошт сфер уплыву Англіі і Францыі. Германія, якая сур'ёзна пацярпела ў рэзультаце першай імперыялістычнай вайны і Версальскага міру, далучылася да Японіі і Італіі і патрэбавала пашырэння сваёй тэрыторыі ў Еўропе, звароту калоній, адабраных у яе пераможцамі ў першай імперыялістычнай вайне.

Так стаў складвацца блок трох агрэсіўных дзяржаў.

На чарзе ўстала пытанне аб новым перадзеле свету шляхам вайны.

## 2. Абвастрэнне міжнароднага палітычнага становішча, крушэнне пасляваеннай сістэмы мірных дагавораў, пачатак новай імперыялістычнай вайны.

Вось пералік важнейшых падзей за справаздачны перыяд, паклаўшых пачатак новай імперыялістычнай вайне. У 1935 годзе Італія напала на Абісінію і захваціла яе. Летам 1936 года Германія і Італія арганізавалі ваенную інтэрвенцыю ў Іспаніі, прычым Германія ўцвярдзілася на поўначы Іспаніі і ў іспанскім Мароко, а Італія—на поўдні Іспаніі і на Балеарскіх астравах. У 1937 годзе Японія, пасля захвату Манчжурыі, уторглася ў Паўночны і Цэнтральны Кітай, заняла Пекін, Цяньцзін, Шанхай і стала выцясняць з зоны акупацыі сваіх іншакраінных канкурэнтаў. У пачатку 1938 года Германія захваціла Аўстрыю, а восенню 1938 года—Судэцкую вобласць Чэхаславакіі. У канцы 1938 года Японія захваціла Кантон, а ў пачатку 1939 года—востраў Хайнань.

Такім чынам, вайна, якая так непрыкметна падкралася да народаў, уцягнула ў сваю арбіту звыш 500 мільёнаў насельніцтва, пашырыўшы сферу свайго дзеяння на велізарную тэрыторыю, ад Цяньцзіна, Шанхая і Кантона праз Абісінію да Гібралтара.

Пасля першай імперыялістычнай вайны дзяржавы-пераможцы, галоўным чынам Англія, Францыя і ЗША, стварылі новы рэжым адносін паміж краінамі, пасляваенны рэжым міру. Галоўнымі асновамі гэтага рэжыму былі на Далёкім Усходзе—дагавор дзевяці дзяржаў, а ў Еўропе—версальскі і цэлы рад іншых дагавораў. Ліга нацый заклікана была рэгуліраваць адносіны паміж краінамі ў рамках гэтага рэжыма на аснове адзінага фронту дзяржаў, на аснове калектыўнай абароны безапаснасці дзяржаў. Аднак тры агрэсіўныя дзяржавы і пачатая імі новая імперыялістычная вайна апракінулі ўверх дном усю гэтую сістэму пасляваеннага мірнага рэжыма. Японія разарвала дагавор дзевяці дзяржаў, Германія і Італія—версальскі дагавор. Каб аслабаніць сабе рукі, усе гэтыя тры дзяржавы вышлі з Лігі нацый.

Новая імперыялістычная вайна стала фактам.

У наш час не так то лёгка сарвацца адразу з ланцуга і рынуцца прама ў вайну, не лічачыся з рознага роду дагаворамі, не лічачыся з грамадскай думкай. Буржуазным палітыкам вядома гэта дастаткова добра. Вядома гэта таксама фашысцкім заправілам. Таму фашысцкія заправілы, раней чым рынуцца ў вайну, рашылі пэўным чынам апрацаваць грамадскую думку, г. зн. увесці яе ў заблуджэнне, абмануць яе.

Ваенны блок Германіі і Італіі супроць інтарэсаў Англіі і Францыі ў Еўропе? Памілуйце, які-ж гэта блок! «У нас» няма ніякага ваеннага блока. «У нас» усяго-наўсяго бяскрыўдная «ось Берлін—Рым», г. зн. некаторая геаметрычная формула наконт асі. **(Смех.)**

Ваенны блок Германіі, Італіі і Японіі супроць інтарэсаў ЗША, Англіі і Францыі на Далёкім Усходзе? Нічога падобнага! «У нас» няма ніякага ваеннага блока. «У нас» усяго-наўсяго бяскрыўдны «трохвугольнік Берлін—Рым—Токіо», г. зн. маленькае захапленне геаметрыяй. **(Агульны смех.)**

Вайна супроць інтарэсаў Англіі, Францыі, ЗША? Глупства! «Мы» вядзем вайну супроць Комінтэрна, а не супроць гэтых дзяржаў. Калі не верыце, чытайце «антыкомінтэрнаўскі пакт», заключаны паміж Італіяй, Германіяй і Японіяй.

Так думалі апрацаваць грамадскую думку паны агрэсары, хоць не трудна было зразумець, што ўся гэта нязграбная ігра ў маскіроўку шыта белымі ніткамі, бо смешна шукаць «ачагі» Комінтэрна ў пустынях Манголіі, у гарах Абісініі, у дзебрах іспанскага Мароко. **(Смех.)**

Але вайна няўмольна. Яе нельга скрыць ніякімі пакровамі. Бо ніякімі «асямі», «трохвугольнікамі» і «антыкомінтэрнаўскімі пактамі» немагчыма скрыць той факт, што Японія захваціла за гэты час велізарную тэрыторыю Кітая, Італія—Абісінію, Германія—Аўстрыю і Судэцкую вобласць, Германія і Італія разам—Іспанію,—усё гэта напеspecial ракор інтарэсам неагрэсіўных дзяржаў. Вайна так і асталася вайной, ваенны блок агрэсараў—ваенным блокам, а агрэсары—агрэсарамі.

Характэрная рыса новай імперыялістычнай вайны заключаецца ў тым, што яна не стала яшчэ ўсеагульнай, сусветнай вайной. Вайну вядуць дзяржавы-агрэсары, усяляк ушчымляючы інтарэсы неагрэсіўных дзяржаў, перш за ўсё Англіі, Францыі, ЗША, а апошнія пяцяцца назад і адступаюць, даючы агрэсарам уступку за ўступкай.

Такім чынам, на нашых вачах адбываецца адкрыты перадзел свету і сфер уплыву за кошт інтарэсаў неагрэсіўных дзяржаў без якіх-небудзь спроб адпору і нават пры некаторым патуранні з боку апошніх.

Неймаверна, але факт.

Чым аб'ясніць такі аднабокі і дзіўны характар новай імперыялістычнай вайны?

Як магло здарыцца, што неагрэсіўныя краіны, якія маюць велізарныя магчымасці, так лёгка і без адпору адмовіліся ад сваіх пазіцый і сваіх абавязацельстваў ва ўгоду агрэсарам?

Ці не аб'ясняецца гэта слабасцю неагрэсіўных дзяржаў? Вядома, не! Неагрэсіўныя, дэмакратычныя дзяржавы, узятыя разам, бясспрэчна сільней фашысцкіх дзяржаў і ў эканамічных і ў ваенных адносінах.

Чым-жа аб'ясніць у такім выпадку сістэматычныя ўступкі гэтых дзяржаў агрэсарам?

Гэта можна было-б аб'ясніць, напрыклад, пачуццем баязні перад рэвалюцыяй, якая можа разыграцца, калі неагрэсіўныя дзяржавы

уступяць у вайну, і вайна прыме сусветны характар. Буржуазныя палітыкі, зразумела, ведаюць, што першая сусветная імперыялістычная вайна дала перамогу рэволюцыі ў адной з самых вялікіх краін. Яны баяцца, што другая сусветная імперыялістычная вайна можа павесці таксама да перамогі рэволюцыі ў адной або ў некалькіх краінах.

Але гэта зараз не адзіная і нават не галоўная прычына. Галоўная прычына заключаецца ў адмове большасці неагрэсіўных краін і, перш за ўсё, Англіі і Францыі ад палітыкі калектыўнай безапаснасці, ад палітыкі калектыўнага адпору агрэсарам, у пераходзе іх на пазіцыю неўмяшання, на пазіцыю «нейтралітэта».

Фармальна палітыку неўмяшання можна было-б ахарактарызаваць такім чынам: «няхай кожная краіна абараняецца ад агрэсараў, як хоча і як можа, наша справа старана, мы будзем гандляваць і з агрэсарамі і з іх афярамі». На справе, аднак, палітыка неўмяшання азначае патуранне агрэсіі, развязванне вайны,—значыцца, ператварэнне яе ў сусветную вайну. У палітыцы неўмяшання сквазіць імкненне, жаданне—не перашкаджаць агрэсарам тварыць сваю чорную справу, не перашкаджаць, скажам, Японіі ўпутацца ў вайну з Кітаем, а яшчэ лепш з Совецкім Саюзам, не перашкаджаць, скажам, Германіі ўвязнуць у еўрапейскіх справах, упутацца ў вайну з Совецкім Саюзам, даць усім удзельнікам вайны ўвязнуць глыбока ў ціну вайны, заахвочваць іх у гэтым цішком, даць ім аслабіць і знясіліць адзін другога, а потым, калі яны дастаткова аслабнуць,—выступіць на сцэну са свежымі сіламі, выступіць, вядома, «у інтарэсах міру», і прадыктаваць аслабеўшым удзельнікам вайны свае ўмовы.

І дзёшава і міла!

Узяць, напрыклад, Японію. Характэрна, што перад пачаткам утаржэння Японіі ў Паўночны Кітай усе ўплывовыя французскія і англійскія газеты громагласна крычалі аб слабасці Кітая, аб яго няздольнасці супраціўляцца, аб тым, што Японія з яе арміяй магла-б у 2—3 месяцы пакарыць Кітай. Потым еўрапейска-амерыканскія палітыкі сталі чакаць і назіраць. А потым, калі Японія разгарнула ваенныя дзеянні, уступілі ёй Шанхай, сэрца іншакраіннага капітала ў Кітаі, уступілі Кантон, ачаг манапольнага англійскага ўплыву ў Паўднёвым Кітаі, уступілі Хайнань, далі акружыць Ганконг. Ці не праўда, усё гэта вельмі падобна на заахвочванне агрэсара: моў, улязай далей у вайну, а там паглядзім.

Або, напрыклад, узяць Германію. Уступілі ёй Аўстрыю, не гледзячы на наяўнасць абавязацельства абараняць яе самастойнасць, уступілі Судэцкую вобласць, кінулі на волю лёсу Чэхаславакію, парушыўшы ўсе і ўсякія абавязацельствы, а потым сталі крыкліва хлусіць у друку аб «слабасці рускай арміі», аб «разлажэнні рускай авіяцыі», аб «беспарадках» у Совецкім Саюзе, штурхаючы немцаў

далей на ўсход, абяцаючы ім лёгкую здабычу і прыгаварваючы: вы толькі пачніце вайну з бальшэвікамі, а далей усё пойдзе добра. Трэба прызнаць, што гэта таксама вельмі падобна на падштурхоўванне, на заахвочванне агрэсара.

Характэрны шум, які падняла англа-французская і паўночна-амерыканская прэса па поваду Совецкай Украіны. Дзеячы гэтай прэсы да хрыпаты крычалі, што немцы ідуць на Совецкую Украіну, што яны маюць цяпер у руках так званую Карпацкую Украіну, якая налічвае каля 700 тысяч насельніцтва, што немцы не далей як вясной гэтага года далучаць Совецкую Украіну, якая мае больш 30 мільёнаў насельніцтва, да так званай Карпацкай Украіны. Падобна на тое, што гэты падазроны шум меў сваёй мэтай падняць ярасць Совецкага Саюза супроць Германіі, атруціць атмасферу і справацыраваць канфлікт з Германіяй без відзімых на тое падстаў.

Вядома, зусім магчыма, што ў Германіі ёсць вар'яты, якія мараць далучыць слана, г. зн. Совецкую Украіну, да казяўкі, г. зн. да так званай Карпацкай Украіны. І калі сапраўды ёсць там такія сумазброды, можна не сумнявацца, што ў нашай краіне знойдзецца неабходная колькасць смірыцельных кашуль для такіх вар'ятаў. **(Узрыў апладысментаў.)** Але калі адкінуць прэч вар'ятаў і звярнуцца да нармальных людзей, то хіба не ясна, што смешна і глупа гаварыць сур'ёзна аб далучэнні Совецкай Украіны да так званай Карпацкай Украіны? Падумайце толькі. Прышла казяўка да слана і гаворыць яму, падбачэніўшыся: «Эх ты, брацец ты мой, да чаго мне цябе шкада... Жывеш ты без памешчыкаў, без капіталістаў, без нацыянальнага гнёту, без фашысцкіх заправіл,—якое-ж гэта жыццё... Гляджу я на цябе і не магу не заўважыць,—няма табе выратавання, акрамя як далучыцца да мяне... **(Агульны смех.)** Ну што-ж, так і быць, дазваляю табе далучыць сваю невялікую тэрыторыю да маёй неабсяжнай тэрыторыі...» **(Агульны смех і апладысменты.)**

Яшчэ больш характэрна, што некаторыя палітыкі і дзеячы прэсы Еўропы і ЗША, страціўшы цярпенне ў чаканні «паходу на Совецкую Украіну», самі пачынаюць выкрываць сапраўдную падаплёку палітыкі неўмяшання. Яны прама гавораць і пішуць чорным па беламу, што немцы жорстка іх «расчаравалі», бо, замест таго, каб рушыць далей на ўсход, супроць Совецкага Саюза, яны, бачыце, павярнулі на захад і патрабуюць сабе калоній. Можна падумаць, што немцам аддалі раёны Чэхаславакіі, як цану за абавязацельства пачаць вайну з Совецкім Саюзам, а немцы адмаўляюцца цяпер плаціць па векселю, пасылаючы іх кудысьці далей.

Я далёкі ад таго, каб маралізіраваць па поваду палітыкі неўмяшання, гаварыць аб здрадзе, аб прэдацельстве і т. п. Наіўна чытаць мараль людзям, якія не прызнаюць чалавечай маралі. Палітыка ёсць палітыка, як гавораць старыя, пражжоныя буржуазныя дыпламаты.

Неабходна, аднак, заўважыць, што вялікая і небяспечная палітычная ігра, пачатая старроннікамі палітыкі неўмяшання, можа скончыцца для іх сур'ёзным правалам.

Такі сапраўдны твар пануючай цяпер палітыкі неўмяшання.

Такая палітычная абстаноўка ў капіталістычных краінах.

## 3. Совецкі Саюз і капіталістычныя краіны.

Вайна стварыла новую абстаноўку ў адносінах паміж краінамі. Яна ўнесла ў гэтыя адносіны атмасферу трывогі і няўпэўненасці. Падарваўшы асновы пасляваеннага мірнага рэжыма і апракінуўшы элементарныя паняцці міжнароднага права, вайна паставіла пад пытанне каштоўнасць міжнародных дагавораў і абавязацельстваў. Пацыфізм і праекты раззбраення аказаліся пахаванымі ў труну. Іх месца заняла ліхарадка ўзбраення. Сталі ўзбройвацца ўсе, ад малых да вялікіх дзяржаў, у тым ліку і перш за ўсё дзяржавы, якія праводзяць палітыку неўмяшання. Ніхто ўжо не верыць у елейныя прамовы аб тым, што мюнхенскія ўступкі агрэсарам і мюнхенскае пагадненне паклалі, быццам-бы, пачатак новай эры «уміратварэння». Не вераць у іх таксама самі ўдзельнікі мюнхенскага пагаднення, Англія і Францыя, якія не менш другіх сталі ўзмацняць сваё ўзбраенне.

Зразумела, што СССР не мог прайсці міма гэтых грозных падзей. Несумненна, што ўсякая, нават невялікая вайна, пачатая агрэсарамі дзе-небудзь у аддаленым кутку свету, прадстаўляе небяспеку для міралюбівых краін. Тым больш сур'ёзную небяспеку прадстаўляе новая імперыялістычная вайна, паспеўшая ўжо ўцягнуць у сваю арбіту больш пяцісот мільёнаў насельніцтва Азіі, Афрыкі, Еўропы. З прычыны гэтага наша краіна, няўхільна праводзячы палітыку захавання міру, разгарнула разам з тым сур'ёзнейшую работу па ўзмацненню баявой гатоўнасці нашай Чырвонай арміі, нашага Чырвонага Ваенна-Марскога флота.

Разам з тым у інтарэсах умацавання сваіх міжнародных пазіцый Совецкі Саюз рашыў прадпрыняць і некаторыя іншыя крокі. У канцы 1934 г. наша краіна ўступіла ў Лігу нацый, зыходзячы з таго, што, не гледзячы на яе слабасць, яна ўсё-ж можа прыгадзіцца, як месца выкрыцця агрэсараў і як некаторы, хоць і слабы, інструмент міру, які можа тармазіць развязванне вайны. Совецкі Саюз лічыць, што ў такі трывожны час не трэба пагарджаць нават такой слабай міжнароднай арганізацыяй, як Ліга нацый. У маі 1935 г. быў заключан дагавор паміж Францыяй і Совецкім Саюзам аб узаемнай дапамозе супроць магчымага нападу агрэсараў. Адначасова з гэтым быў заключан аналагічны дагавор з Чэхаславакіяй. У сакавіку 1936 г. Совецкі Саюз заключыў дагавор з Мангольскай Народнай Рэспублікай аб узаемнай дапамозе. У жніўні 1937 г. быў заключан дагавор

аб узаемным ненападзе паміж Совецкім Саюзам і Кітайскай Рэспублікай.

У гэтых трудных міжнародных умовах праводзіў Совецкі Саюз сваю знешнюю палітыку, адстойваючы справу захавання міру.

Знешняя палітыка Совецкага Саюза ясна і зразумела:

1. Мы стаім за мір і ўмацаванне дзелавых сувязей з усімі краінамі, стаім і будзем стаяць на гэтай пазіцыі, паколькі гэтыя краіны будуць трымацца такіх-жа адносін з Совецкім Саюзам, паколькі яны не папрабуюць нарушыць інтарэсы нашай краіны.

2. Мы стаім за мірныя, блізкія і добрасуседскія адносіны з усімі суседнімі краінамі, маючымі з СССР агульную граніцу, стаім і будзем стаяць на гэтай пазіцыі, паколькі гэтыя краіны будуць трымацца такіх-жа адносін з Совецкім Саюзам, паколькі яны не папрабуюць нарушыць, прама ці ўскосна, інтарэсы цэласці і недатыкальнасці граніц Совецкай дзяржавы.

3. Мы стаім за падтрыманне народаў, якія сталі афярамі агрэсіі і змагаюцца за незалежнасць сваёй радзімы.

4. Мы не баімся пагроз з боку агрэсараў і гатовы адказаць двайным ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны, якія прабуюць нарушыць недатыкальнасць Совецкіх граніц.

Такая знешняя палітыка Совецкага Саюза. **(Бурныя працяглыя апладысменты.)**

У сваёй знешняй палітыцы Совецкі Саюз апіраецца:

1. На сваю растучую гаспадарчую, палітычную і культурную магутнасць;

2. На маральна-палітычнае адзінства нашага совецкага грамадства;

3. На дружбу народаў нашай краіны;

4. На сваю Чырвоную армію і Ваенна-Марскі Чырвоны флот;

5. На сваю мірную палітыку;

6. На маральнае падтрыманне працоўных усіх краін, кроўна зацікаўленых у захаванні міру;

7. На разважлівасць тых краін, якія не зацікаўлены па тых ці іншых прычынах у нарушэнні міру.

* * *

Задачы партыі ў галіне знешняй палітыкі:

1. Праводзіць і надалей палітыку міру і ўмацавання дзелавых сувязей з усімі краінамі;

2. Захоўваць асцярожнасць і не даваць уцягнуць у канфлікты нашу краіну правакатарам вайны, якія прывыклі заграбаць жар чужымі рукамі;

3. Усямерна ўмацоўваць баявую магутнасць нашай Чырвонай арміі і Ваенна-Марскога Чырвонага флота;

4. Мацаваць міжнародныя сувязі дружбы з працоўнымі ўсіх краін, зацікаўленымі ў міры і дружбе паміж народамі.

II.

# Унутранае становішча Совецкага Саюза.

Пяройдзем да ўнутранага становішча нашай краіны.

З пункту гледжання ўнутранага становішча Совецкага Саюза справаздачны перыяд прадстаўляе карціну далейшага ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі, росту культуры, умацавання палітычнай магутнасці краіны.

Найбольш важным рэзультатам у галіне развіцця народнай гаспадаркі за справаздачны перыяд трэба прызнаць завяршэнне рэканструкцыі прамысловасці і земляробства на аснове новай, сучаснай тэхнікі. У нас няма ўжо больш, або амаль няма больш старых заводаў з іх адсталай тэхнікай і старых сялянскіх гаспадарак з іх дапатопным абсталяваннем. Аснову нашай прамысловасці і земляробства складае цяпер новая, сучасная тэхніка. Можна сказаць без пераўвелічэння, што з пункту гледжання тэхнікі вытворчасці, з пункту гледжання насычанасці прамысловасці і земляробства новай тэхнікай, наша краіна з'яўляецца найбольш перадавой у параўнанні з любой іншай краінай, дзе старое абсталяванне вісіць на нагах у вытворчасці і тармозіць справу ўкаранення новай тэхнікі.

У галіне грамадска-палітычнага развіцця краіны найбольш важным заваяваннем за справаздачны перыяд трэба прызнаць канчатковую ліквідацыю астаткаў эксплуататарскіх класаў, згуртаванне рабочых, сялян і інтэлігенцыі ў адзін агульны працоўны фронт, умацаванне маральна-палітычнага адзінства совецкага грамадства, умацаванне дружбы народаў нашай краіны і, як рэзультат усяго гэтага,—поўную дэмакратызацыю палітычнага жыцця краіны, стварэнне новай Канстытуцыі. Ніхто не смее аспрэчваць, што наша Канстытуцыя з'яўляецца найбольш дэмакратычнай у свеце, а рэзультаты выбараў у Вярхоўны Совет СССР, таксама як і ў Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік—найбольш паказальнымі.

У выніку ўсяго гэтага мы маем поўную ўстойлівасць унутранага становішча і такую моцнасць улады ў краіне, якой мог-бы пазайздросціць любы ўрад у свеце.

Разгледзім канкрэтныя даныя аб эканамічным і палітычным становішчы нашай краіны.

## 1. Далейшы ўздым прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

а) **Прамысловасць.** Рух нашай прамысловасці за справаздачны перыяд прадстаўляе карціну няўхільнага ўздыму. Уздым гэты адлюстроўвае не толькі рост прадукцыі наогул, але, перш за ўсё,—працвітанне соцыялістычнай прамысловасці, з аднаго боку, гібель прыватнай прамысловасці, з другога боку.

Вось адпаведная табліца:

**Рост прамысловасці СССР за 1934—1938 гг.**

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | У %% да папярэдняга года 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | 1938 г. у %% да 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **У млн. руб. у цэнах 1926/27 г.** | | | | | | | | | | | |
| Уся прадукцыя . | 42030 | 50477 | 62137 | 80929 | 90166 | 100375 | 120,1 | 123,1 | 130,2 | 111,4 | 111,3 | 238,8 |
| У тым ліку: | | | | | | | | | | | | |
| 1. Соцыялістычная прамысловасць . . . . | 42002 | 50443 | 62114 | 80898 | 90138 | 100349 | 120,1 | 123,1 | 130,2 | 111,4 | 111,3 | 238,9 |
| 2. Прыватная прамысловасць . . | 28 | 34 | 23 | 31 | 28 | 26 | 121,4 | 67,6 | 134,8 | 90,3 | 92,9 | 92,9 |
| | **У процантах** | | | | | | | | | | | |
| Уся прадукцыя . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | | | | | | |
| У тым ліку: . . | | | | | | | | | | | | |
| 1. Соцыялістычная прамысловасць . . . . | 99,93 | 99,93 | 99,96 | 99,96 | 99,97 | 99,97 | | | | | | |
| 2. Прыватная прамысловасць . . | 0,07 | 0,07 | 0,04 | 0,04 | 0,03 | 0,03 | | | | | | |

З гэтай табліцы відаць, што наша прамысловасць вырасла за справаздачны перыяд больш, чым у два разы, прычым увесь рост прадукцыі ішоў за кошт соцыялістычнай прадукцыі.

З гэтай табліцы відаць, далей, што соцыялістычная сістэма з'яўляецца адзінай сістэмай прамысловасці СССР.

З гэтай табліцы відаць, нарэшце, што канчатковая гібель прыватнай прамысловасці з'яўляецца фактам, якога не могуць адмаўляць цяпер нават сляпыя.

Гібель прыватнай прамысловасці нельга лічыць выпадковасцю. Яна загінула, перш за ўсё, таму, што соцыялістычная сістэма гаспадаркі з'яўляецца вышэйшай сістэмай у параўнанні з сістэмай капіталістычнай. Яна загінула, па-другое, таму, што соцыялістычная сістэма гаспадаркі дала нам магчымасць у некалькі год пераабсталяваць усю нашу соцыялістычную прамысловасць на новай, сучаснай тэхнічнай базе. Такой магчымасці не дае і не можа даць капіталістычная сістэма гаспадаркі. Гэта факт, што з пункту гледжання тэхнікі вытворчасці, з пункту гледжання аб'ёму насычанасці прамысловай вытворчасці новай тэхнікай, наша прамысловасць стаіць на першым месцы ў свеце.

Калі ўзяць тэмпы росту нашай прамысловасці ў процантах к да-



ваеннаму ўзроўню і параўнаць іх з тэмпамі росту прамысловасці галоўных капіталістычных краін, то атрымаецца наступная карціна:

**Рост прамысловасці СССР і галоўных капіталістычных краін за 1913—1938 г.г.**

| | 1913 г. | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СССР . . . | 100,0 | 380,5 | 457,0 | 562,6 | 732,7 | 816,4 | 908,8 |
| ЗША . . . . | 100,0 | 108,7 | 112,9 | 128,6 | 149,8 | 156,9 | 120,0 |
| Англія . . . . | 100,0 | 87,0 | 97,1 | 104,0 | 114,2 | 121,9 | 113,3 |
| Германія . . . | 100,0 | 75,4 | 90,4 | 105,9 | 118,1 | 129,3 | 131,6 |
| Францыя . . . | 100,0 | 107,0 | 99,0 | 94,0 | 98,0 | 101,0 | 93,2 |

З гэтай табліцы відаць, што наша прамысловасць вырасла ў параўнанні з даваенным узроўнем больш, чым у дзевяць раз, тады як прамысловасць галоўных капіталістычных краін прадаўжае таптацца вакол даваеннага ўзроўню, перавышаючы яго ўсяго толькі на 20—30 процантаў.

Гэта значыць, што па тэмпах росту наша сацыялістычная прамысловасць стаіць на першым месцы ў свеце.

Выходзіць, такім чынам, што па тэхніцы вытворчасці і тэмпах росту нашай прамысловасці мы ўжо дагналі і перагналі галоўныя капіталістычныя краіны.

У чым-жа мы адстаем? Мы ўсё яшчэ адстаем у эканамічных адносінах, г. зн. у адносінах размераў нашай прамысловай вытворчасці на душу насельніцтва. Мы вытварылі ў 1938 г. каля 15 мільёнаў тон чыгуну, а Англія—7 мільёнаў тон. Здавалася-б, справа абстаіць у нас лепш, чым у Англіі. Але калі раскласці гэтыя тоны чыгуну на колькасць насельніцтва, то атрымліваецца, што ў Англіі на кожную душу насельніцтва ў 1938 годзе прыходзілася 145 кілаграмаў чыгуну, а ў СССР—усяго 87 кілаграмаў. Або яшчэ: Англія вытварыла ў 1938 г. 10 мільёнаў і 800 тысяч тон сталі і каля 29 мільярдаў кіловат-гадзін (вытворчасць электраэнергіі), а СССР вытварыў 18 мільёнаў тон сталі і больш 39 мільярдаў кіловат-гадзін. Здавалася-б, справа ў нас абстаіць лепш, чым у Англіі. Але калі раскласці ўсе гэтыя тоны і кіловат-гадзіны на колькасць насельніцтва, то атрымліваецца, што ў Англіі прыходзілася на кожную душу насельніцтва ў 1938 годзе 226 кілаграмаў сталі і 620 кіловат-гадзін, тады як у СССР прыходзілася ўсяго 107 кілаграмаў сталі і 233 кіловат-гадзіны на душу насельніцтва.

У чым-жа справа? А ў тым, што насельніцтва ў нас у некалькі раз больш, чым у Англіі, стала быць і патрэбнасцей больш, чым у Англіі: у Савецкім Саюзе 170 мільёнаў насельніцтва, а ў Англіі не больш 46 мільёнаў. Эканамічная магутнасць прамысловасці выражаецца не ў аб'ёме прамысловай прадукцыі наогул, безадносна

да насельніцтва краіны, а ў аб'ёме прамысловай прадукцыі, узятым у яго прамой сувязі з размерамі спажывання гэтай прадукцыі на душу насельніцтва. Чым больш прыходзіцца прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва, тым вышэй эканамічная магутнасць краіны, і наадварот, чым менш прыходзіцца прадукцыі на душу насельніцтва, тым ніжэй эканамічная магутнасць краіны і яе прамысловасці. Значыць, чым больш насельніцтва ў краіне, тым больш у краіне патрэбнасцей у прадметах спажывання, стала быць, тым больш павінен быць аб'ём прамысловай вытворчасці такой краіны.

Узяць, напрыклад, вытворчасць чыгуну. Каб перагнаць Англію эканамічна ў галіне вытворчасці чыгуну, вытворчасць якога складала там у 1938 годзе 7 мільёнаў тон, нам трэба давесці штогоднюю выплаўку чыгуну да 25 мільёнаў тон. Каб перагнаць эканамічна Германію, якая вытварыла ў 1938 годзе ўсяго 18 мільёнаў тон чыгуну, нам трэба давесці штогоднюю выплаўку чыгуну да 40—45 мільёнаў тон. А каб перагнаць ЗША эканамічна, маючы на ўвазе не ўзровень 1938 крызіснага года, калі ЗША вытварылі ўсяго 18,8 мільёна тон чыгуну, а ўзровень 1929 года, калі ў ЗША быў уздым прамысловасці і калі там вытваралася каля 43 мільёнаў тон чыгуну, мы павінны давесці штогоднюю выплаўку чыгуну да 50—60 мільёнаў тон.

Тое-ж самае трэба сказаць аб вытворчасці сталі, пракату, аб машынабудаўніцтве і т. д., бо ўсе гэтыя галіны прамысловасці, як і астатнія галіны, залежаць у канчатковым выніку ад вытворчасці чыгуну.

Мы перагналі галоўныя капіталістычныя краіны ў сэнсе тэхнікі вытворчасці і тэмпаў развіцця прамысловасці. Гэта вельмі добра. Але гэтага мала. Трэба перагнаць іх таксама ў эканамічных адносінах. Мы гэта можам зрабіць, і мы гэта павінны зрабіць. Толькі ў тым выпадку, калі перагонім эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны, мы можам разлічваць, што наша краіна будзе поўнасцю насычана прадметамі спажывання, у нас будзе багацце прадуктаў, і мы атрымаем магчымасць зрабіць пераход ад першай фазы комунізма да другой яго фазы. Што патрабуецца для таго, каб перагнаць эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны? Для гэтага патрабуецца, перш за ўсё, сур'ёзнае і нястрымнае жаданне ісці ўперад і гатоўнасць пайсці на афяры, пайсці на сур'ёзныя капітальныя ўкладанні для ўсямернага расшырэння нашай соцыялістычнай прамысловасці. Ці ёсць у нас гэтыя даныя? Безумоўна ёсць! Для гэтага патрабуецца, далей, наяўнасць высокай тэхнікі вытворчасці і высокіх тэмпаў развіцця прамысловасці. Ці ёсць у нас гэтыя даныя? Безумоўна ёсць! Для гэтага патрабуецца, нарэшце, час. Так, таварышы, час. Трэба будаваць новыя заводы. Трэба каваць новыя кадры для прамысловасці. Але для гэтага неабходзен час, і не малы. Немагчыма ў 2—3 годы перагнаць эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны.

Для гэтага патрабуецца некалькі больш часу. Узяць, напрыклад, той-жа чыгун і яго вытворчасць. На працягу якога перыяду часу можна перагнаць эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны ў галіне вытворчасці чыгуну? Некаторыя работнікі Дзяржплана старога састава прапанавалі пры складанні другога пяцігадовага плана запланіраваць вытворчасць чыгуну к канцу другой пяцігодкі ў размеры 60 мільёнаў тон. Гэта значыць, што яны зыходзілі з магчымасці сярэднегадовага прыросту выплаўкі чыгуну ў размеры 10 мільёнаў тон. Гэта была, вядома, фантастыка, калі не горш. Між іншым, гэтыя таварышы, ударaліся ў фантастыку не толькі ў галіне вытворчасці чыгуну. Яны лічылі, напрыклад, што на працягу другой пяцігодкі штогодні прырост насельніцтва ў СССР павінен скласці 3—4 мільёны чалавек, або нават больш гэтага. Гэта таксама была фантастыка, калі не горш. Але калі адкінуць прэч фантазёраў і стаць на рэальную глебу, то можна прыняць, як зусім магчымы, сярэднегадовы прырост выплаўкі чыгуну ў размеры двух—двух з палавінай мільёнаў тон, маючы на ўвазе сучасны стан тэхнікі выплаўкі чыгуну. Гісторыя прамысловасці галоўных капіталістычных краін, таксама як і нашай краіны, паказвае, што гэтая норма штогодняга прыросту з'яўляецца напружанай, але зусім дасягальнай.

Стала быць, патрабуецца час, і не малы, для таго, каб перагнаць эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны. І чым вышэй будзе ў нас прадукцыйнасць працы, чым больш удасканальвацца будзе ў нас тэхніка вытворчасці, тым хутчэй можна будзе выканаць гэтую важнейшую эканамічную задачу, тым больш можна будзе скараціць тэрміны выканання гэтай задачы.

б) **Сельская гаспадарка.** Развіццё сельскай гаспадаркі ішло за справаздачны перыяд, таксама як і развіццё прамысловасці, па лініі ўздыму. Уздым гэты выражаецца не толькі ў росце сельскагаспадарчай прадукцыі, але, перш за ўсё, у росце і ўмацаванні соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, з аднаго боку, гібелі аднаасобнай гаспадаркі, з другога боку. У той час як пасеўная плошча зернавых у калгасаў вырасла з 75 мільёнаў у 1933 г. да 92 мільёнаў гектараў у 1938 г., пасеўная плошча зернавых у аднаасобнікаў скарацілася за гэты перыяд з 15,7 мільёна гектараў да 600 тысяч гектараў, гэта значыць да 0,6 проціанта ўсёй пасеўнай плошчы зернавых. Я ўжо не гавару аб пасеўных плошчах па тэхнічных культурах, дзе роля аднаасобнай гаспадаркі зведзена да нуля. Вядома, акрамя таго, што ў калгасах аб'яднана цяпер 18 мільёнаў 800 тысяч сялянскіх двароў, г. зн. 93,5 проціанта ўсіх сялянскіх двароў, не лічачы рыбалавецкіх і прамысловых калгасаў.

Гэта значыць, што калгасы канчаткова замацаваны і ўпрочаны, а соцыялістычная сістэма гаспадаркі з'яўляецца цяпер адзінай формай нашага земляробства.

Калі параўнаць рух пасеўных плошчаў па ўсіх культурах за спра-

ваздачны перыяд з размерамі пасеўных плошчаў дарэволюцыйнага перыяда, то атрымаецца наступная карціна:

**Пасеўныя плошчы ўсіх культур па СССР.**

| | У мільёнах гектараў | | | | | | 1938 г. у %% да 1913 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | |
| Уся пасеўная плошча | 105,0 | 131,5 | 132,8 | 133,8 | 135,3 | 136,9 | 130,4 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| а) Зернавыя | 94,4 | 104,7 | 103,4 | 102,4 | 104,4 | 102,4 | 108,5 |
| б) Тэхнічныя | 4,5 | 10,7 | 10,6 | 10,8 | 11,2 | 11,0 | 244,4 |
| в) Гародне-бахчавыя | 3,8 | 8,8 | 9,9 | 9,8 | 9,0 | 9,4 | 247,4 |
| г) Кармавыя | 2,1 | 7,1 | 8,6 | 10,6 | 10,6 | 14,1 | 671,4 |

З гэтай табліцы відаць, што пасеўныя плошчы выраслі ў нас па ўсіх культурах і перш за ўсё—па лініі кармавых, тэхнічных і гародне-бахчавых культур.

Гэта значыць, што наша земляробства становіцца больш кваліфікаваным і прадукцыйным, а ўкараненне правільнага севаабароту атрымлівае пад сабой рэальную глебу.

Як расла ўзброенасць нашых калгасаў і соўгасаў трактарамі, камбайнамі і іншымі машынамі за справаздачны перыяд,—адказ на гэта даюць наступныя табліцы:

**1) Трактарны парк у сельскай гаспадарцы СССР.**

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | 1938 г. у %% да 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а) Колькасць трактараў (у тыс. шт.). | | | | | | | |
| Усяго трактараў | 210,9 | 276,4 | 360,3 | 422,7 | 454,5 | 483,5 | 229,3 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| а) Трактараў у МТС | 123,2 | 177,3 | 254,7 | 328,5 | 365,8 | 394,0 | 319,8 |
| б) Трактараў у соўгасах і падсобных с./г. прадпрыемствах | 83,2 | 95,5 | 102,1 | 88,5 | 84,5 | 85,0 | 102,2 |
| б) Магутнасць у тыс. конскіх сіл. | | | | | | | |
| Усіх трактараў | 3209,2 | 4462,8 | 6184,0 | 7672,4 | 8385,0 | 9256,2 | 288,4 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| а) Трактараў у МТС | 1758,1 | 2753,9 | 4281,6 | 5856,0 | 6679,2 | 7437,0 | 423,0 |
| б) Трактараў у соўгасах і падсобных с./г. прадпрыемствах | 1401,7 | 1669,5 | 1861,4 | 1730,7 | 1647,5 | 1751,8 | 125,0 |

2) Парк камбайнаў і іншых машын у сельскай гаспадарцы СССР.
(у тыс. штук; на канец года).

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | 1938 г. у %% да 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Камбайны | 25,4 | 32,3 | 50,3 | 87,8 | 128,8 | 153,5 | 604,3 |
| Рухавікі ўнутранага згарання і лакамабілі | 48,0 | 60,9 | 69,1 | 72,4 | 77,9 | 83,8 | 174,6 |
| Складаныя і поўскладаныя зернавыя малатарні | 120,3 | 121,9 | 120,1 | 123,7 | 126,1 | 130,8 | 108,7 |
| Грузавыя аўтамабілі | 26,6 | 40,3 | 63,7 | 96,2 | 144,5 | 195,8 | 736,1 |
| Легкавыя аўтамабілі (у шт.) | 3991 | 5533 | 7555 | 7630 | 8156 | 9594 | 240,4 |

Калі да гэтых цыфр дадаць той факт, што колькасць машына-трактарных станцый за справаздачны перыяд вырасла ў нас з 2.900 адзінак у 1934 г. да 6.350 адзінак у 1938 г., то можна на падставе ўсіх гэтых даных з упэўненасцю сказаць, што рэканструкцыя нашага земляробства на аснове новай, сучаснай тэхнікі—ужо завершана ў асноўным.

Наша земляробства з'яўляецца, значыцца, не толькі найбольш буйным і механізаваным, а значыць і найбольш таварным земляробствам, але і найбольш аснашчоным сучаснай тэхнікай, чым земляробства любой іншай краіны.

Калі ўзяць рух росту прадукцыі зернавых і тэхнічных культур за справаздачны перыяд у параўнанні з дарэволюцыйным перыядам, то даныя даюць наступную карціну:

Валавая прадукцыя зернавых і тэхнічных культур па СССР.

| | У мільёнах цэнтнераў | | | | | | 1938 г. у %% да 1913 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | |
| Зернавыя | 801,0 | 894,0 | 901,0 | 827,3 | 1202,9 | 949,9 | 118,6 |
| Бавоўна (сырэц) | 7,4 | 11,8 | 17,2 | 23,9 | 25,8 | 26,9 | 363,5 |
| Лён (валакно) | 3,3 | 5,3 | 5,5 | 5,8 | 5,7 | 5,46 | 165,5 |
| Цукровыя буракі | 109,0 | 113,6 | 162,1 | 168,3 | 218,6 | 166,8 | 153,0 |
| Маслічныя | 21,5 | 36,9 | 42,7 | 42,3 | 51,1 | 46,6 | 216,7 |

З гэтай табліцы відаць, што, не гледзячы на засуху ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх раёнах у 1936 г. і ў 1938 г. і не гледзячы на небывала высокі ўраджай у 1913 годзе, рост валавой прадукцыі зярна і тэхнічных культур ішоў у нас за справаздачны перыяд няўхільна ўверх у параўнанні з узроўнем 1913 года.

Асабліва цікава пытанне аб таварнасці калгасна-соўгаснай зернавой вытворчасці. Вядомы статыстык т. Немчынаў вылічыў, што з 5 мільярдаў пудоў валавой прадукцыі зярна ў даваенны час на рынак адпускалася таварнага зярна ўсяго каля 1 мільярда 300 мільёнаў пудоў, што складае 26 процантаў таварнасці тагочаснай зернавой вытворчасці. Тав. Немчынаў лічыць, што таварнасць калгаснай і соўгаснай вытворчасці, як вытворчасці буйнай, напрыклад, у 1926—27 годах складала каля 47 процантаў валавой прадукцыі, а таварнасць аднаасобнай сялянскай гаспадаркі—каля 12 процантаў. Калі падыйсці да справы больш асцярожна і прыняць таварнасць калгасна-соўгаснай вытворчасці ў 1938 годзе ў 40 процантаў валавой вытворчасці, то атрымаецца, што наша соцыялістычная зернавая гаспадарка магла адпусціць і сапраўды адпусціла ў гэтым годзе на старану каля 2 мільярдаў і 300 мільёнаў пудоў таварнага зярна, г. зн. на 1 мільярд пудоў больш таварнага зярна, чым даваенная зернавая вытворчасць.

Значыць, высокая таварнасць соўгасна-калгаснай вытворчасці з'яўляецца яе важнейшай асаблівасцю, якая мае сур'ёзнейшае значэнне для снабжэння краіны.

У гэтай іменна асаблівасці калгасаў і соўгасаў заключаецца сакрэт таго, што нашай краіне ўдалося так лёгка і быстра вырашыць зернавую праблему, праблему дастатковага снабжэння велізарнай краіны таварным зярном.

Трэба адзначыць, што за апошнія тры годы штогоднія загатоўкі зярна не спускаліся ў нас ніжэй мільярда шасцісот мільёнаў пудоў зярна, падымаючыся часам, напрыклад, у 1937 годзе да мільярда 800 мільёнаў пудоў. Калі дадаць да гэтага каля 200 мільёнаў штогодняй закупкі зярна ды некалькі сот мільёнаў па лініі калгаснага гандлю зярном, то мы атрымаем у агульным тую суму водпуску на старану таварнага хлеба калгасамі і соўгасамі, аб якой упаміналася вышэй.

Цікава, далей, адзначыць, што за апошнія тры годы база таварнага зярна перамясцілася з Украіны, якая лічылася раней жытніцай нашай краіны, на поўнач і ўсход, г. зн. у РСФСР. Вядома, што за апошнія два—тры годы Украіна загатаўляе зярна ўсяго каля 400 мільёнаў пудоў штогодна, тады як РСФСР загатаўляе за гэтыя годы штогодна мільярд сто—мільярд дзвесце мільёнаў пудоў таварнага зярна.

Так абстаіць справа з зернавой вытворчасцю.

Што датычыць жывёлагадоўлі, то і ў гэтай, найбольш адсталай, галіне сельскай гаспадаркі намеціліся за апошнія годы сур'ёзныя зрухі. Праўда, па конскаму пагалоўю і аўцагадоўлі мы яшчэ адстаем ад дарэволюцыйнага ўзроўню, але па буйнай рагатай жывёле і свінагадоўлі мы перавалілі ўжо дарэволюцыйны ўзровень.

Вось даныя наконт гэтага:

**Пагалоўе жывёлы па СССР** (у млн. галоў).

| | На ліпень месяц. | | | | | | | 1938 г. у %% | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1916 г. па даных перапісу | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | да 1916 г. па перапісу | да 1933 г. |
| Коні . . . . . . . . . | 35,8 | 16,6 | 15,7 | 15,9 | 16,6 | 16,7 | 17,5 | 48,9 | 105,4 |
| Буйная рагатая жывёла . . . . . . . | 60,6 | 38,4 | 42,4 | 49,2 | 56,7 | 57,0 | 63,2 | 104,3 | 164,6 |
| Авечкі і козы . . . . . | 121,2 | 50,2 | 51,9 | 61,1 | 73,7 | 81,3 | 102,5 | 84,6 | 204,2 |
| Свінні . . . . . . . . . | 20,9 | 12,1 | 17,4 | 22,5 | 30,5 | 22,8 | 30,6 | 146,4 | 252,9 |

Не можа быць сумнення, што адсталасць у галіне конегадоўлі і аўцагадоўлі будзе ліквідавана ў найкарацейшы тэрмін.

в) **Тавараабарот, транспарт.** Разам з уздымам прамысловасці і сельскай гаспадаркі рос і тавараабарот у краіне. Рознічная сетка дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю вырасла за справаздачны перыяд на 25 процантаў. Рознічны абарот дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю вырас на 178 процантаў. Абарот калгасна-базарнага гандлю вырас на 112 процантаў.

Вось адпаведная табліца:

**Тавараабарот.**

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | 1938 г. у %% да 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Рознічная сетка дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю (магазіны і палаткі)—на канец года . . . . . . . . . | 285355 | 286236 | 268713 | 289473 | 327361 | 356930 | 125,1 |
| 2. Рознічны абарот дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю (уключаючы грамадскае харчаванне)—у млн. руб. . . | 49789,2 | 61814,7 | 81712,1 | 106760,9 | 125943,2 | 138574,3 | 278,3 |
| 3. Абарот калгаснага базарнага гандлю у млн. руб. | 11500,0 | 14000,0 | 14500,0 | 15607,2 | 17799,7 | 24399,2 | 212,2 |
| 4. Абласныя гадлёвыя базы збытаў Наркамхарчпрома, НКЛегпрома, НКЦяжпрома, НКЛеса, НКМясцпромаў саюзных рэспублік—на канец года | 718 | 836 | 1141 | 1798 | 1912 | 1994 | 277,7 |

Зразумела, што тавараабарот у краіне не мог-бы так разгарнуцца без пэўнага росту транспартных перавозак. І сапраўды, перавозкі выраслі за справаздачны перыяд па ўсіх відах транспарта, асабліва па чыгуначнаму і паветранаму транспарту. Перавозкі выраслі таксама па воднаму транспарту, але з вялікімі ваганнямі, а ў 1938 годзе перавозкі па воднаму транспарту далі, на жаль, некаторае зніжэнне ў параўнанні з папярэднім годам.

Вось адпаведная табліца:

Грузаабарот.

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | 1938 г. у %% да 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чыгункі (у мільярдах тона-кілометраў) . . . . | 169,5 | 205,7 | 258,1 | 323,4 | 354,8 | 369,1 | 217,7 |
| Рачны і маркі транспарт (у мільярдах тона-кілометраў) . . . . . . | 50,2 | 56,5 | 68,3 | 72,3 | 70,1 | 66,0 | 131,5 |
| Грамадзянскі паветраны флот (у мільёнах тона-кілометраў) . . . . . | 3,1 | 6,4 | 9,8 | 21,9 | 24,9 | 31,7 | 1022,6 |

Не можа быць сумнення, што некаторая адсталасць воднага транспарта ў 1938 годзе будзе ліквідавана ў 1939 годзе.

## 2. Далейшы ўздым матэрыяльнага і культурнага становішча народа.

Прадаўжаючыйся ўздым прамысловасці і сельскай гаспадаркі не мог не прывесці і сапраўды прывёў да новага росту матэрыяльнага і культурнага становішча народа.

Знішчэнне эксплуатацыі і ўмацаванне соцыялістычнай сістэмы ў народнай гаспадарцы, адсутнасць беспрацоўя і звязанай з ім нішчаты ў горадзе і вёсцы, велізарнае расшырэнне прамысловасці і неспынны рост колькаснасці рабочых, рост прадукцыйнасці працы рабочых і калгаснікаў, замацаванне зямлі навечна за калгасамі і снабжэнне калгасаў велізарнай колькасцю першакласных трактараў і сельскагаспадарчых машын,—усё гэта стварыла рэальныя ўмовы для далейшага росту матэрыяльнага становішча рабочых і сялян. Паляпшэнне-ж матэрыяльнага становішча рабочых і сялян натуральна прывяло да паляпшэння матэрыяльнага становішча інтэлі-

генцыі, якая прадстаўляе значную сілу нашай краіны і абслугоўвае інтарэсы рабочых і сялян.

Цяпер ужо гутарка ідзе не аб тым, каб прыстроіць як-небудзь у прамысловасці і ўзяць з міласці на работу беспрацоўных і бяздомных сялян, якія адбіліся ад вёскі і жывуць пад страхам голаду. Такіх сялян даўно ўжо няма ў нашай краіне. І гэта, вядома, добра, бо яно сведчыць аб заможнасці нашай вёскі. Цяпер гутарка можа ісці толькі аб тым, каб прапанаваць калгасам уважыць нашу просьбу і адпускаць нам для растучай прамысловасці штогодна хоць-бы каля паўтара мільёна маладых калгаснікаў. Калгасы, стаўшыя ўжо заможнымі, павінны мець на ўвазе, што без такой дапамогі з іх боку вельмі трудна будзе расшыраць далей нашу прамысловасць, а без расшырэння прамысловасці—не зможам задавальняць растучы попыт сялян на тавары масавага спажывання. Калгасы маюць поўную магчымасць задаволіць гэтую нашу просьбу, бо багацце тэхнікі ў калгасах аслабаняе частку работнікаў у вёсцы, а гэтыя работнікі, пераведзеныя ў прамысловасць, маглі-б прынесці велізарную карысць усёй нашай народнай гаспадарцы.

У выніку мы маем наступныя паказчыкі паляпшэння матэрыяльнага становішча рабочых і сялян за справаздачны перыяд:

1. Народны даход узрос з 48,5 мільярда рублёў у 1933 г. да 105,0 мільярдаў рублёў у 1938 г.;

2. Колькасць рабочых і служачых паднялася з 22 мільёнаў з лішнім чалавек у 1933 г. да 28 мільёнаў чалавек у 1938 г.;

3. Гадавы фонд заработнай платы рабочых і служачых вырас з 34.953 мільёнаў рублёў да 96.425 мільёнаў рублёў;

4. Сярэднегадавая заработная плата рабочых прамысловасці, складаўшая ў 1933 г. 1.513 рублёў, паднялася да 3.447 рублёў у 1938 г.;

5. Грашовыя даходы калгасаў падняліся з 5.661,9 мільёна рублёў у 1933 г. да 14.180,1 мільёна рублёў у 1937 г.;

6. Сярэдняя выдача зярна ў зернавых раёнах на адзін калгасны двор паднялася з 61 пуда ў 1933 годзе да 144 пудоў у 1937 годзе, не лічачы насення, насенных страхавых фондаў, кармавога фонда для грамадскай жывёлы, зернапаставак, натураплаты работ МТС;

7. Дзяржаўныя асігнаванні па бюджэту на сацыяльна-культурныя мерапрыемствы ўзраслі з 5.839,9 мільёна рублёў у 1933 г. да 35.202,5 мільёна рублёў у 1938 годзе.

Што датычыць культурнага становішча народа, то яго ўздым ішоў услед за ўздымам матэрыяльнага становішча народа.

З пункту гледжання культурнага развіцця народа справаздачны перыяд быў сапраўды перыядам культурнай рэвалюцыі. Укараненне ў жыццё усеагульна-абавязковай першапачатковай асветы на мовах

нацыянальнасцей СССР, рост колькасці школ і навучаючыхся ўсіх ступеней, рост колькасці выпускаемых вышэйшымі школамі спецыялістаў, стварэнне і ўмацаванне новай, совецкай інтэлігенцыі,—такая агульная карціна культурнага ўздыму народа.

Вось даныя наконт гэтага:

1) Павышэнне культурнага ўзроўню народа.

| Паказчыкі | Адзінка вымярэння. | 1933/34 г. | 1938/39 г. | 1938/39 г. у %% да 1933/34 г. |
|---|---|---|---|---|
| Колькасць навучаючыхся ў школах усіх ступеней . . . . . . . . | тыс. чал. | 23814 | 33965,4 | 142,6 |
| У тым ліку: | | | | |
| па пачатковай асвеце . . . . . . . | " | 17873,5 | 21288,4 | 119,1 |
| па сярэдняй асвеце (агульнай і спецыяльнай) . . . . . . . . . . | " | 5482,2 | 12076,0 | 220,3 |
| па вышэйшай асвеце . . . . . . . | " | 458,3 | 601,0 | 131,1 |
| Колькасць навучаючыхся ў СССР (уключаючы ўсе віды навучання) | " | — | 47442,1 | — |
| Колькасць масавых бібліятэк . . . | тысяч | 40,3 | 70,0 | 173,7 |
| Колькасць кніг у іх . . . . . . . . | млн. | 86,0 | 126,6 | 147,2 |
| Колькасць клубных устаноў . . . . | тысяч | 61,1 | 95,6 | 156,5 |
| Колькасць тэатраў . . . . . . . . | адзінак | 587 | 790 | 134,6 |
| Колькасць кіноўстановак (без вузкаплёначных) . . . . . . . . . | " | 27467 | 30461 | 110,9 |
| У тым ліку гукавых . . . . . . . | " | 498 | 15202 | у 31 раз |
| Колькасць кіноўстановак (без вузкаплёначных) на сяле . . . . . | " | 17470 | 18991 | 108,7 |
| У тым ліку гукавых . . . . . . . . | " | 24 | 6670 | у 278 раз |
| Гадавы тыраж газет . . . . . . . . | млн. | 4984,6 | 7092,4 | 142,3 |

2) Пабудавана школ за 1933—1938 г.г. па СССР.

| Годы | Колькасць школ | | Усяго |
|---|---|---|---|
| | У гарадах і паселішчах гарадскога тыпу | У сельскіх мясцовасцях | |
| 1933 . . . . | 326 | 3261 | 3587 |
| 1934 . . . . | 577 | 3488 | 4065 |
| 1935 . . . . | 533 | 2829 | 3362 |
| 1936 . . . . | 1505 | 4206 | 5711 |
| 1937 . . . . | 730 | 1323 | 2053 |
| 1938 . . . . | 583 | 1246 | 1829 |
| Усяго за 1933—38 гг. | 4254 | 16353 | 20607 |

З) Выпушчана маладых спецыялістаў з вышэйшых навучальных установу за 1933—1938 г.г. (у тыс.)

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго па СССР (не лічачы ваенных спецыялістаў) | 34,6 | 49,2 | 83,7 | 97,6 | 104,8 | 106,7 |
| 1. Інжынеры прамысловасці і будаўніцтва | 6,1 | 14,9 | 29,6 | 29,2 | 27,6 | 25,2 |
| 2. Інжынеры транспарта і сувязі | 1,8 | 4,0 | 7,6 | 6,6 | 7,0 | 6,1 |
| 3. Інжынеры па механізацыі сельскай гаспадаркі, аграномы, ветэрынарныя урачы і заатэхнікі | 4,8 | 6,3 | 8,8 | 10,4 | 11,3 | 10,6 |
| 4. Эканамісты і юрысты | 2,5 | 2,5 | 5,0 | 6,4 | 5,0 | 5,7 |
| 5. Выкладчыкі сярэдняй школы, рабфакаў, тэхнікумаў і іншыя работнікі асветы, у тым ліку работнікі мастацтва | 10,5 | 7,9 | 12,5 | 21,6 | 31,7 | 35,7 |
| 6. Урачы, правізары і работнікі фізічнай культуры | 4,6 | 2,5 | 7,5 | 9,2 | 12,3 | 13,6 |
| 7. Іншыя спецыяльнасці | 4,3 | 11,1 | 12,7 | 14,2 | 9,9 | 9,8 |

У рэзультаце ўсёй гэтай велізарнай культурнай работы нарадзілася і склалася ў нас шматлікая новая, советская інтэлігенцыя, якая вышла з радоў рабочага класа, сялянства, совецкіх служачых, плоць ад плоці і кроў ад крыві нашага народа,—інтэлігенцыя, якая не ведае ярма эксплуатацыі, ненавідзіць эксплуататараў і гатова служыць народам СССР верай і праўдай.

Я думаю, што нараджэнне гэтай новай, народнай, соцыялістычнай інтэлігенцыі з'яўляецца адным з самых важных рэзультатаў культурнай рэволюцыі ў нашай краіне.

## 3. Далейшае ўмацаванне совецкага ладу.

Адзін з важнейшых рэзультатаў справаздачнага перыяда заключаецца ў тым, што ён прывёў да далейшага ўмацавання ўнутранага становішча краіны, да далейшага ўмацавання совецкага ладу.

Інакш і не магло быць. Уцвярджэнне соцыялістычнай сістэмы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, уздым прамысловасці і сельскай гаспадаркі, уздым матэрыяльнага становішча працоўных, павышэнне культурнасці народных мас, павышэнне іх палітычнай актыўнасці,— усё гэта, ажыццёўленае пад кіраўніцтвам совецкай улады, не магло не прывесці да далейшага ўмацавання совецкага ладу.

Асаблівасць совецкага грамадства цяперашняга часу, у адрозненне ад любога капіталістычнага грамадства, заключаецца ў тым, што ў ім няма больш антаганістычных, варожых класаў, эксплуататарскія класы ліквідаваны, а рабочыя, сяляне і інтэлігенцыя, складаючыя совецкае грамадства, жывуць і працуюць на пачатках дружаственнага супрацоўніцтва. У той час як капіталістычнае грамадства

раздзіраецца непрымірымымі супярэчнасцямі паміж рабочымі і капіталістамі, паміж сялянамі і памешчыкамі, што вядзе да няўстойлівасці яго ўнутранага становішча, совецкае грамадства, вызваленае ад ярма эксплуатацыі, не ведае такіх супярэчнасцей, свабодна ад класавых сутычак і прадстаўляе карціну дружаственнага супрацоўніцтва рабочых, сялян, інтэлігенцыі. На аснове гэтай агульнасці і разгарнуліся такія рухаючыя сілы, як маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства, дружба народаў СССР, совецкі патрыятызм. На гэтай-жа аснове ўзніклі Канстытуцыя СССР, прынятая ў лістападзе 1936 г., і поўная дэмакратызацыя выбараў у вярхоўныя органы краіны.

Што датычыць саміх выбараў у вярхоўныя органы краіны, то яны паслужылі бліскучай дэманстрацыяй таго самага адзінства совецкага грамадства і той самай дружбы народаў СССР, якія складаюць характэрную асаблівасць унутранага становішча нашай краіны. Як вядома, на выбарах у Вярхоўны Совет СССР у снежні 1937 г. за блок комуністаў і беспартыйных галасавала амаль 90 мільёнаў выбаршчыкаў, г. зн. 98,6 процанта ўсіх прымаўшых удзел у галасаванні, а на выбарах у Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік у чэрвені 1938 г. за блок комуністаў і беспартыйных галасавала 92 мільёны выбаршчыкаў, г. зн. 99,4 процанта ўсіх прымаўшых удзел у галасаванні.

Вось дзе аснова моцнасці совецкага ладу і крыніца невычарпальнай сілы Совецкай улады.

Гэта значыць, між іншым, што ў выпадку вайны тыл і фронт нашай арміі з прычыны іх аднароднасці і ўнутранага адзінства— будуць мацней, чым у любой іншай краіне, аб чым трэба было-б памятаць зарубежным любіцелям ваенных сутычак.

Некаторыя дзеячы зарубежнай прэсы балбочуць, што ачышчэнне совецкіх арганізацый ад шпіёнаў, забойцаў і шкоднікаў накшталт Троцкага, Зіноўева, Каменева, Якіра, Тухачэўскага, Розенгольца, Бухарына і іншых ізвергаў «пахіснула» быццам-бы совецкі лад, унесла «разлажэнне». Гэта пошлая балбатня варта таго, каб паздзекавацца над ёю. Як можа пахіснуць і разлажыць совецкі лад ачышчэнне совецкіх арганізацый ад шкодных і варожых элементаў? Трацкісцка-бухарынская кучка шпіёнаў, забойцаў і шкоднікаў, прасмыкаўшаяся перад заграніцай, пранікнутая раб'ім пачуццем нізкапаклонства перад кожным іншакраінным чынушай і гатовая пайсці да яго ў шпіёнскае ўслужэнне,—кучка людзей, не зразумеўшая таго, што апошні совецкі грамадзянін, свабодны ад ланцугоў капітала, стаіць галавой вышэй любога зарубежнага высокапастаўленага чынушы, цягнучага на плячах ярмо капіталістычнага рабства,—каму патрэбна гэта жалкая банда прадажных рабоў, якую каштоўнасць яна можа прадстаўляць для народа і каго яна можа «разлажыць»? У 1937 годзе былі прыгавораны да расстрэлу Тухачэўскі, Якір, Убарэвіч і ін-

шыя ізвергі. Пасля гэтага адбыліся выбары ў Вярхоўны Совет СССР. Выбары далі Совецкай уладзе 98,6 процанта ўсіх удзельнікаў галасавання. У пачатку 1938 г. былі прыгавораны да расстрэлу Розенгольц, Рыкаў, Бухарын і іншыя ізвергі. Пасля гэтага адбыліся выбары ў Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік. Выбары далі Совецкай уладзе 99,4 процанта ўсіх удзельнікаў галасавання. Паўстае пытанне, дзе-ж тут прызнакі «разлажэння» і чаму гэтае «разлажэнне» не сказалася на рэзультатах выбараў?

Слухаючы гэтых іншакраінных балбатуноў, можна прыйсці да вываду, што калі-б пакінулі на волі шпіёнаў, забойцаў і шкоднікаў і не перашкаджалі-б ім шкодзіць, забіваць і шпіёніць, то совецкія арганізацыі былі-б куды больш моцнымі і ўстойлівымі. **(Смех.)** Ці не вельмі рана выдаюць сябе з галавою гэтыя паны, якія так нагла абараняюць шпіёнаў, забойцаў, шкоднікаў?

Ці не вярней будзе сказаць, што ачышчэнне совецкіх арганізацый ад шпіёнаў, забойцаў, шкоднікаў павінна было прывесці і сапраўды прывяло да далейшага ўмацавання гэтых арганізацый?

Аб чым гавораць, напрыклад, падзеі ля возера Хасан, як не аб тым, што ачышчэнне совецкіх арганізацый ад шпіёнаў і шкоднікаў з'яўляецца вярнейшым сродкам іх умацавання?

* * *

Задачы партыі ў галіне ўнутранай палітыкі:

1. Разгарнуць далей уздым нашай прамысловасці, рост прадукцыйнасці працы, удасканаленне тэхнікі вытворчасці з тым, каб, пасля таго, як перагналі ўжо галоўныя капіталістычныя краіны ў галіне тэхнікі вытворчасці і тэмпаў росту прамысловасці,—перагнаць іх таксама эканамічна на працягу бліжэйшых 10—15 год.

2. Разгарнуць далей уздым нашага земляробства і жывёлагадоўлі з тым, каб на працягу бліжэйшых 3—4 год дабіцца штогодняй вытворчасці зярна 8 мільярдаў пудоў з сярэдняй ураджайнасцю на гектар у 12—13 цэнтнераў, павялічыць вытворчасць па тэхнічных культурах на 30—35 процантаў у сярэднім, павялічыць пагалоўе авечак і свіней удвая, пагалоўе буйнай рагатай жывёлы—процантаў на 40, пагалоўе коней—процантаў на 35.

3. Прадаўжаць далей паляпшэнне матэрыяльнага і культурнага становішча рабочых, сялян, інтэлігенцыі.

4. Няўхільна праводзіць у жыццё нашу соцыялістычную Канстытуцыю, ажыццяўляць да канца дэмакратызацыю палітычнага жыцця краіны, умацоўваць маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства і дружаственнае супрацоўніцтва рабочых, сялян, інтэлігенцыі, умацоўваць усямерна дружбу народаў СССР, развіваць і культывіраваць совецкі патрыятызм.

5. Не забываць аб капіталістычным акружэнні, памятаць, што замежная разведка будзе засылаць у нашу краіну шпіёнаў, забой-

цаў, шкоднікаў. Памятаць аб гэтым і ўмацоўваць нашу социялістычную разведку, сістэматычна дапамагаючы ёй граміць і карчаваць ворагаў народа.

III.

# Далейшае ўмацаванне ВКП(б).

З пункту гледжання палітычнай лініі і штодзеннай практычнай работы справаздачны перыяд быў перыядам поўнай перамогі генеральнай лініі нашай партыі. **(Бурныя працяглыя апладысменты).**

Уцвярджэнне социялістычнай сістэмы ва ўсёй народнай гаспадарцы, завяршэнне рэканструкцыі прамысловасці і земляробства на аснове новай тэхнікі, датэрміновае выкананне другога пяцігадовага плана па прамысловасці, уздым штогодняй вытворчасці зярна да ўзроўню 7 мільярдаў пудоў, знішчэнне нішчаты і беспрацоўя і ўздым матэрыяльнага і культурнага становішча народа,—такія асноўныя дасягненні, якія дэманструюць правільнасць палітыкі нашай партыі, правільнасць яе кіраўніцтва.

Перад тварам гэтых грандыёзных дасягненняў праціўнікі генеральнай лініі нашай партыі, розныя там «левыя» і «правыя» плыні, усякія там трацкісцка-пятакоўскія і бухарынска-рыкаўскія перараджэнцы аказаліся вымушанымі змяцца ў камок, схаваць свае зацяганыя «платформы» і пайсці ў падполле. Не маючы мужнасці пакарыцца волі народа, яны палічылі за лепшае зліцца з меншавікамі, эсэрамі, фашыстамі, пайсці ва ўслужэнне да замежнай разведкі, наняцца ў шпіёны і абавязацца дапамагаць ворагам Совецкага Саюза расчляніць нашу краіну і аднавіць у ёй капіталістычнае рабства. Такі бясслаўны канец праціўнікаў лініі нашай партыі, стаўшых потым ворагамі народа.

Разграміўшы ворагаў народа і ачысціўшы ад перараджэнцаў партыйныя і совецкія арганізацыі, партыя стала яшчэ больш адзінай у сваёй палітычнай і арганізацыйнай рабоце, яна стала яшчэ больш згуртаванай вакол свайго Цэнтральнага Камітэта. **(Бурныя апладысменты. Усе дэлегаты ўстаюць і стоячы вітаюць дакладчыка. Воклічы: «Таварышу Сталіну ура! Няхай жыве таварыш Сталін! Няхай жыве ЦК нашай партыі! Ура!»)**

Разгледзім канкрэтныя даныя аб развіцці ўнутранага жыцця партыі, аб яе арганізацыйнай і прапагандысцкай рабоце за справаздачны перыяд.

## 1. Меры палепшання састава партыі. Разбуйненне арганізацый. Набліжэнне кіруючых органаў да нізавой работы.

Умацаванне партыі і яе кіруючых органаў ажыццяўлялася за справаздачны перыяд у першую чаргу па двух лініях: па лініі рэгуліравання састава партыі, выцяснення ненадзейных і адбору лепшых,

і па лініі разбуйнення арганізацый, змяншэння іх размераў і набліжэння кіруючых органаў да нізавой, апаратыўнай, канкрэтнай работы.

На XVII з'ездзе партыі было прадстаўлена 1.874.488 членаў партыі. Калі параўнаць гэтыя даныя з данымі аб колькасці членаў партыі, прадстаўленых на папярэднім, XVI з'ездзе партыі, то атрымаецца, што за перыяд ад XVI з'езда партыі да XVII з'езда ў партыю прыбыла 600 тысяч новых членаў партыі. Партыя не магла не адчуць, што такі масавы наплыў у партыю ва ўмовах 1930—1933 гадаў з'яўляецца нездаровым і непажаданым расшырэннем яе састава. Партыя ведала, што ў яе рады ідуць не толькі чэсныя і адданыя, але і выпадковыя людзі, але і кар'ерысты, якія імкнуцца скарыстаць сцяг партыі ў сваіх асабістых мэтах. Партыя не магла не ведаць, што яна сільна не толькі колькасцю сваіх членаў, але, перш за ўсё, іх якасцю. У сувязі з гэтым паўстала пытанне аб рэгуліраванні састава партыі. Было рашано прадоўжыць чыстку членаў партыі і кандыдатаў, пачатую яшчэ ў 1933 годзе, і яна сапраўды была прадоўжана да мая 1935 года. Было рашано, далей, спыніць прыём у партыю новых членаў, і ён сапраўды быў спынен аж да верасня 1936 года, прычым прыём у партыю новых членаў быў адноўлен толькі 1 лістапада 1936 года. Далей, у сувязі са зладзейскім забойствам тав. Кірава, якое сведчыла аб тым, што ў партыі ёсць не мала падазроных элементаў, было рашано правесці праверку і абмен партыйных дакументаў, прычым тое і другое было закончана толькі к верасню 1936 года. Толькі пасля гэтага быў адкрыт прыём у партыю новых членаў і кандыдатаў. У рэзультаце ўсіх гэтых мерапрыемстваў партыя дабілася таго, што яна ачысціла свае рады ад выпадковых, пасіўных, кар'ерысцкіх і прама варожых элементаў, адабраўшы найбольш стойкіх і адданых людзей. Нельга сказаць, што чыстка была праведзена без сур'ёзных памылак. Нажаль, памылак аказалася больш, чым можна было меркаваць. Бясспрэчна, што нам не прыдзецца больш карыстацца метадам масавай чысткі. Але чыстка 1933—1936 гг. была ўсё-ж немінуча і яна ў асноўным дала станоўчыя рэзультаты. На гэтым XVIII з'ездзе прадстаўлена каля 1.600 тысяч членаў партыі, г. зн. на 270 тысяч членаў партыі менш, чым на XVII з'ездзе. Але ў гэтым няма нічога дрэннага. Наадварот, гэта—к лепшаму, бо партыя ўмацоўваецца тым, што ачышчае сябе ад скверны. Партыя ў нас цяпер некалькі менш па колькасці яе членаў, але затое яна лепш па якасці.

Гэта вялікае дасягненне.

Што датычыць палепшання штодзеннага партыйнага кіраўніцтва ў сэнсе яго набліжэння да нізавой работы, у сэнсе яго далейшай канкрэтызацыі, то партыя прышла да таго вываду, што разбуйненне арганізацый, змяншэнне іх размераў з'яўляецца найлепшым сродкам для таго, каб аблягчыць партыйным органам кіраўніцтва

гэтымі арганізацыямі, а само кіраўніцтва зрабіць канкрэтным, жывым, аператыўным. Разбуйненне ішло як па лініі наркаматаў, так і па лініі адміністрацыйна-тэрытарыяльных арганізацый, г. зн. па лініі саюзных рэспублік, краёў, абласцей, раёнаў і т. п. У рэзультаце прынятых мерапрыемстваў мы маем цяпер замест 7 саюзных рэспублік 11 саюзных рэспублік, замест 14 наркаматаў СССР, 34 наркамата, замест 70 краёў і абласцей, 110 краёў і абласцей, замест 2.559 гарадскіх і сельскіх раёнаў 3.815. Адпаведна з гэтым у сістэме кіруючых органаў партыі ёсць цяпер 11 цэнтральных камітэтаў на чале з ЦК ВКП(б), 6 краявых камітэтаў, 104 абласныя камітэты, 30 акруговых камітэтаў, 212 агульна-гарадскіх камітэтаў, 336 гарадскіх раённых камітэтаў, 3.479 сельскіх раённых камітэтаў і 113.060 пярвічных партыйных арганізацый.

Нельга сказаць, што справа разбуйнення арганізацый ужо закончана. Вярней за ўсё разбуйненне пойдзе далей. Але, як бы то ні было, яно ўжо дае свае добрыя рэзультаты як у адносінах паляпшэння штодзеннага кіраўніцтва работай, так і ў адносінах набліжэння самога кіраўніцтва да нізавой канкрэтнай работы. Я ўжо не гавару аб тым, што разбуйненне арганізацый дало магчымасць вылучыць на кіруючую работу сотні і тысячы новых людзей.

Гэта таксама вялікае дасягненне.

## 2. Падбор кадраў, іх вылучэнне, іх расстаноўка.

Рэгуліраванне састава партыі і наблiжэнне кіруючых органаў да канкрэтнай нізавой работы не былі і не маглі быць адзіным сродкам далейшага ўмацавання партыі і яе кіраўніцтва. Другім сродкам умацавання партыі за справаздачны перыяд было карэннае паляпшэнне работы з кадрамі, паляпшэнне справы падбору кадраў, іх вылучэння, іх расстаноўкі, іх праверкі ў працэсе работы.

Кадры партыі—гэта камандны састаў партыі, а паколькі наша партыя стаіць ва ўладзе,—яны з'яўляюцца таксама камандным саставам кіруючых дзяржаўных органаў. Пасля таго як выпрацавана правільная палітычная лінія, правераная на практыцы, кадры партыі становяцца рашаючай сілай партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва. Мець правільную палітычную лінію,—гэта, вядома, першая і самая важная справа. Але гэтага ўсё-ж недастаткова. Правільная палітычная лінія патрэбна не для дэкларацыі, а для правядзення ў жыццё. Але каб ператварыць у жыццё правільную палітычную лінію, патрэбны кадры, патрэбны людзі, разумеючыя палітычную лінію партыі, успрыймаючыя яе як сваю ўласную лінію, гатовыя правесці яе ў жыццё, умеючыя ажыццяўляць яе на практыцы і здольныя адказваць за яе, абараняць яе, змагацца за яе. Без гэтага правільная палітычная лінія рыскуе астацца на паперы.

Тут іменна і паўстае пытанне аб правільным падборы кадраў, аб

вырошчванні кадраў, аб вылучэнні новых людзей, аб правільнай расстаноўцы кадраў, аб іх праверцы па праробленай рабоце.

Што значыць правільна падбіраць кадры?

Правільна падбіраць кадры, гэта яшчэ не значыць набраць сабе замаў і помаў, скласці канцылярыю і выпускаць адтуль розныя ўказанні. **(Смех.)** Гэта таксама не значыць злоўжываць сваёй уладаю, перакідваць без толку дзесяткі і сотні людзей з аднаго месца ў другое і назад і ўстрайваць бясконцыя «рэарганізацыі». **(Смех.)**

Правільна падбіраць кадры гэта значыць:

Па-першае, цаніць кадры, як залаты фонд партыі і дзяржавы, даражыць імі, мець да іх павагу.

Па-другое, ведаць кадры, старанна вывучаць дастоінствы і недахопы кожнага кадравага работніка, ведаць, на якім пасту могуць лягчэй за ўсё разгарнуцца здольнасці работніка.

Па-трэцяе, клапатліва вырошчваць кадры, дапамагаць кожнаму растучаму работніку падняцца ўверх, не шкадаваць часу для таго, каб цярпліва «павазіцца» з такімі работнікамі і паскорыць іх рост.

Па-чацвертае, своечасова і смела вылучаць новыя, маладыя кадры, не даючы ім перастаяцца на старым месцы, не даючы ім закіснуць.

Па-пятае, расставіць работнікаў па пастах такім чынам, каб кожны работнік адчуваў сябе на месцы, каб кожны работнік мог даць нашай агульнай справе максімум таго, што наогул здолен ён даць па сваіх асабістых якасцях, каб агульны напрамак работы па расстаноўцы кадраў поўнасцю адпавядаў патрабаванням той палітычнай лініі, у імя правядзення якой робіцца гэтая расстаноўка.

Асаблівае значэнне мае тут пытанне аб смелым і своечасовым вылучэнні новых, маладых кадраў. Я думаю, што ў нашых людзей няма яшчэ поўнай яснасці ў гэтым пытанні. Адны лічаць, што пры падборы людзей трэба арыентавацца, галоўным чынам, на старыя кадры. Другія, наадварот, думаюць арыентавацца, галоўным чынам, на маладыя кадры. Мне здаецца, што памыляюцца і тыя і другія. Старыя кадры прадстаўляюць, вядома, вялікае багацце для партыі і дзяржавы. У іх ёсць тое, чаго няма ў маладых кадраў—велізарны вопыт па кіраўніцтву, марксісцка-ленінская прынцыповая загартоўка, веданне справы, сіла арыентыроўкі. Але, па-першае, старых кадраў бывае заўсёды мала, менш, чым трэба, і яны ўжо часткова пачынаюць выходзіць са строю ў сілу натуральных законаў прыроды. Па-другое, у адной часткі старых кадраў бывае часам схільнасць упорна глядзець у мінулае, застраць на мінулым, застраць на старым і не заўважаць новага ў жыцці. Гэта называецца стратай пачуцця новага. Гэта вельмі сур'ёзны і небяспечны недахоп. Што датычыць маладых кадраў, то ў іх, вядома, няма таго вопыту, загартоўкі, ведання справы і сілы арыентыроўкі, якія маюць старыя кадры. Але, па-першае, маладыя кадры складаюць велізарную большасць, па-

другое, яны маладыя, і ім не пагражае, пакуль што, выхад са строю. Па-трэцяе, у іх ёсць у ізбытку пачуцце новага,—каштоўная якасць кожнага бальшэвіцкага работніка і, па-чацвертае, яны растуць і адукоўваюцца да таго быстра, яны пруць уверх да таго імкліва, што недалёк той час, калі яны дагоняць старыкоў, стануць побач з імі і будуць ім дастойнай зменай. Значыцца, задача заключаецца не ў тым, каб арыентыравацца альбо на старыя, альбо на новыя кадры, а ў тым, каб трымаць курс на спалучэнне, на з'яднанне старых і маладых кадраў у адным агульным аркестры кіруючай работы партыі і дзяржавы. **(Працяглыя апладысменты.)**

Вось чаму неабходна своечасова і смела вылучаць маладыя кадры на кіруючыя пасты.

Адно з сур'ёзных дасягненняў партыі за справаздачны перыяд у справе ўмацавання партыйнага кіраўніцтва заключаецца ў тым, што яна з поспехам праводзіла знізу да верху гэты іменна курс на спалучэнне старых і маладых работнікаў у галіне падбору кадраў.

У Цэнтральным Камітэце партыі ёсць даныя, з якіх відаць, што за справаздачны перыяд партыя здолела вылучыць на кіруючыя пасты па дзяржаўнай і партыйнай лініі больш 500 тысяч маладых бальшэвікоў, партыйных і прымыкаючых да партыі, з іх больш 20 працантаў жанчын.

У чым заключаецца цяпер задача?

Задача заключаецца ў тым, каб узяць поўнасцю ў адны рукі справу падбору кадраў знізу да верху і падняць яе на належную, навуковую, бальшэвіцкую вышыню.

Для гэтага неабходна пакончыць з расшчапленнем справы вывучэння, вылучэння і падбору кадраў па розных раздзелах і сектарах, сканцэнтраваўшы яе ў адным месцы.

Такім месцам павінна быць Упраўленне кадраў у саставе ЦК ВКП(б) і адпаведны аддзел кадраў у саставе кожнай рэспубліканскай, краявой і абласной партарганізацыі.

## 3. Партыйная прапаганда. Марксісцка-ленінскае выхаванне членаў партыі і партыйных кадраў.

Ёсць яшчэ адна галіна партыйнай работы, вельмі важная і вельмі адказная, па лініі якой ажыццяўлялася за справаздачны перыяд умацаванне партыі і яе кіруючых органаў,—гэта партыйная прапаганда і агітацыя, вусная і друкаваная, работа па выхаванню членаў партыі і кадраў партыі ў духу марксізма-ленінізма, работа па павышэнню палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню партыі і яе работнікаў.

Наўрад ці ёсць неабходнасць многа гаварыць аб сур'ёзнейшым значэнні справы партыйнай прапаганды, справы марксісцка-ленінскага выхавання нашых работнікаў. Я маю на ўвазе не толькі работнікаў партыйнага апарата. Я маю на ўвазе таксама работнікаў камсамольскіх, прафсаюзных, гандлёва-кааперацыйных, гаспадар-

чых, савецкіх, асветніцкіх, ваенных і іншых арганізацый. Можна здавальняюча паставіць справу рэгуліравання састава партыі і набліжэння кіруючых органаў да нізавой работы; можна здавальняюча паставіць справу вылучэння кадраў, іх падбору, іх расстаноўкі; але калі пры ўсім гэтым пачынае чаму-небудзь кульгаць наша партыйная прапаганда, калі пачынае занепадаць справа марксісцка-ленінскага выхавання нашых кадраў, калі аслабявае наша работа па павышэнню палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню гэтых кадраў, а самі кадры перастаюць у сувязі з гэтым цікавіцца перспектывай нашага руху ўперад, перастаюць разумець праваты нашай справы і ператвараюцца ў бесперспектыўных дзяляг, слепа і механічна выконваючых указанні зверху,—то павінна абавязкова заняпасці ўся наша дзяржаўная і партыйная работа. Трэба прызнаць, як аксіому, што чым вышэй палітычны ўзровень і марксісцка-ленінская свядомасць работнікаў любой галіны дзяржаўнай і партыйнай работы, тым вышэй і пладатворней сама работа, тым эфектыўней рэзультаты работы, і наадварот,—чым ніжэй палітычны ўзровень і марксісцка-ленінская свядомасць работнікаў, тым больш магчымы зрывы і правалы ў рабоце, тым больш магчыма здрабненне і выраджэнне саміх работнікаў у дзяляг-крахабораў, тым больш магчыма іх перараджэнне. Можна з упэўненасцю сказаць, што калі-б мы здолелі падрыхтаваць ідэалагічна нашы кадры ўсіх галін работы і загартаваць іх палітычна ў такой меры, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы здолелі зрабіць іх зусім зрэлымі марксістамі-ленінцамі, здольнымі рашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай,—то мы мелі-б усе падставы лічыць дзевяць дзесятых усіх нашых пытанняў ужо вырашанымі. А рашыць гэтую задачу мы безумоўна можам, бо ў нас ёсць усе сродкі і магчымасці, неабходныя для таго, каб вырашыць яе.

Вырошчванне і фарміраванне маладых кадраў працякае ў нас звычайна па асобных галінах навукі і тэхнікі, па спецыяльнасцях. Гэта неабходна і мэтазгодна. Няма неабходнасці, каб спецыяліст-медык быў разам з тым спецыялістам па фізіцы або батаніцы і наадварот. Але ёсць адна галіна навукі, веданне якой павінна быць абавязковым для большэвікоў усіх галін навукі,—гэта марксісцка-ленінская навука аб грамадстве, аб законах развіцця грамадства, аб законах развіцця пролетарскай рэволюцыі, аб законах развіцця соцыялістычнага будаўніцтва, аб перамозе комунізма. Бо нельга лічыць сапраўдным ленінцам чалавека, які імянуе сябе ленінцам, але які замкнуўся ў сваю спецыяльнасць, замкнуўся, скажам, у матэматыку, батаніку або хімію і не бачыць нічога далей сваёй спецыяльнасці. Ленінец не можа быць толькі спецыялістам аблюбаванай ім галіны навукі,—ён павінен быць разам з тым палітыкам—грамадскім работнікам, які жыва цікавіцца лёсам сваёй краіны, знаём з законамі грамадскага развіцця, умее карыстацца гэтымі законамі і імкнецца

быць актыўным удзельнікам палітычнага кіраўніцтва краінай. Гэта будзе, вядома, дадатковай нагрузкай для большэвікоў-спецыялістаў. Але гэта будзе такая нагрузка, рэзультаты якой акупяцца з ліхвой.

Задача партыйнай прапаганды, задача марксісцка-ленінскага выхавання кадраў заключаецца ў тым, каб дапамагчы нашым кадрам усіх галін работы авалодаць марксісцка-ленінскай навукай аб законах развіцця грамадства.

Пытанне аб мерах палепшання справы прапаганды і марксісцка-ленінскага выхавання кадраў было прадметам неаднаразовага абмеркавання ЦК ВКП(б) з удзелам прапагандыстаў розных абласных партарганізацый. Быў улічан пры гэтым выхад у свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» у верасні 1938 года. Было ўстаноўлена, што выхад у свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» кладзе пачатак новаму размаху марксісцка-ленінскай прапаганды ў нашай краіне. Рэзультаты работ ЦК ВКП(б) апублікаваны ў вядомай яго пастанове «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

Зыходзячы з гэтай пастановы і ўлічваючы вядомыя рашэнні сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) у 1937 г. «Аб недахопах партыйнай работы», ЦК ВКП(б) намеціў наступныя галоўныя мерапрыемствы па ўстраненню недахопаў у галіне партыйнай прапаганды і паляпшэнню справы марксісцка-ленінскага выхавання членаў партыі і партыйных кадраў:

1. Сканцэнтраваць у адным месцы справу партыйнай прапаганды і агітацыі і аб'яднаць аддзелы прапаганды і агітацыі і аддзелы друку ў адзіным Упраўленні прапаганды і агітацыі ў саставе ЦК ВКП(б), з арганізацыяй адпаведнага аддзела прапаганды і агітацыі ў саставе кожнай рэспубліканскай, краявой і абласной партарганізацыі;

2. Прызнаючы няправільным захапленне гуртковай сістэмай прапаганды і лічачы больш мэтазгодным метад індывідуальнага вывучэння членамі партыі асноў марксізма-ленінізма, сканцэнтраваць увагу партыі на прапагандзе ў друку і арганізацыі лекцыйнай сістэмы прапаганды;

3. Арганізаваць у кожным абласным цэнтры аднагадовыя Курсы перападрыхтоўкі для нізавога звяна нашых кадраў;

4. Арганізаваць у радзе цэнтраў нашай краіны двухгадовую Ленінскую школу для сярэдняга звяна нашых кадраў;

5. Арганізаваць Вышэйшую школу марксізма-ленінізма пры ЦК ВКП(б) з трохгадовым курсам для падрыхтоўкі кваліфікаваных тэарэтычных кадраў партыі;

6. Стварыць у радзе цэнтраў нашай краіны аднагадовыя Курсы перападрыхтоўкі прапагандыстаў і газетных работнікаў;

7. Стварыць пры Вышэйшай школе марксізма-ленінізма шасцімесячныя Курсы для перападрыхтоўкі выкладчыкаў марксізма-ленінізма ў ВНУ.

Няма сумнення, што ажыццяўленне гэтых мерапрыемстваў, якія ўжо праводзяцца, але яшчэ не праведзены ў дастатковай меры, зараз-жа дасць свае добрыя рэзультаты.

## 4. Некаторыя пытанні тэорыі.

Да ліку недахопаў нашай прапагандысцкай і ідэалагічнай работы трэба аднесці таксама адсутнасць поўнай яснасці сярод нашых таварышоў у некаторых пытаннях тэорыі, маючых сур'ёзнае практычнае значэнне, наяўнасць некаторай неразбярыхі ў гэтых пытаннях. Я маю на ўвазе пытанне аб дзяржаве наогул, асабліва аб нашай соцыялістычнай дзяржаве і пытанне аб нашай совецкай інтэлігенцыі.

Часам пытаюцца: «эксплуатататарскія класы ў нас знішчаны, варожых класаў няма больш у краіне, падаўляць няма каго, значыць, няма больш патрэбы ў дзяржаве, яна павінна адмерці,—чаму-ж мы не садзейнічаем адміранню нашай соцыялістычнай дзяржавы, чаму мы не стараемся пакончыць з ёю, ці не пара выкінуць вон увесь гэты хлам дзяржаўнасці?»

Або яшчэ: «эксплуатататарскія класы ўжо знішчаны ў нас, соцыялізм у асноўным пабудован, мы ідзем да комунізма, а марксісцкае вучэнне аб дзяржаве гаворыць, што пры комунізме не павінна быць ніякай дзяржавы,—чаму мы не садзейнічаем адміранню нашай соцыялістычнай дзяржавы, ці не пара здаць дзяржаву ў музей старажытнасці?»

Гэтыя пытанні сведчаць аб тым, што іх аўтары добрасумленна завучылі асобныя палажэнні вучэння Маркса і Энгельса аб дзяржаве. Але яны гавораць таксама аб тым, што гэтыя таварышы не зразумелі сутнасці гэтага вучэння, не разабраліся, у якіх гістарычных умовах выпрацоўваліся асобныя палажэнні гэтага вучэння і, асабліва, не зразумелі сучаснай міжнароднай абстаноўкі, прагледзелі факт капіталістычнага акружэння і выцякаючых з яго небяспек для краіны соцыялізма. У гэтых пытаннях сквазіць не толькі недаацэнка факта капіталістычнага акружэння. У іх сквазіць таксама недаацэнка ролі і значэння буржуазных дзяржаў і іх органаў, якія засылаюць у нашу краіну шпіёнаў, забойцаў і шкоднікаў і стараюцца выбраць мінуту для ваеннага нападу на яе, таксама як сквазіць недаацэнка ролі і значэння нашай соцыялістычнай дзяржавы і яе ваенных, карных і разведвальных органаў, неабходных для абароны краіны соцыялізма ад нападу звонку. Трэба прызнаць, што ў гэтай недаацэнцы грэшны не толькі вышэйпамянёныя таварышы. У ёй грэшны таксама ў пэўнай меры ўсе мы, большэвікі, усе без выключэння. Хіба не дзіўна, што аб шпіёнскай і змоўніцкай дзейнасці вярхушкі трацкістаў і бухарынцаў даведаліся мы толькі ў апошні час, у 1937—1938 годах, хоць, як відаць з матэрыялаў, гэтыя паны састаялі ў шпіёнах замежнай разведкі і вялі змоўніцкую дзейнасць ужо ў першыя дні Кастрычніцкай рэволюцыі? Як мы маглі прагледзець гэтую сур'-

ёзную справу? Чым абʼясніць гэты промах? Звычайна адказваюць на гэта пытанне такім чынам: мы не маглі дапусціць, што гэтыя людзі могуць пасці так нізка. Але гэта не абʼясненне і тым больш не апраўданне, бо факт промаху астаецца фактам. Чым абʼясніць такі промах? Абʼясняецца гэты промах недаацэнкай сілы і значэння механізма акружаючых нас буржуазных дзяржаў і іх разведвальных органаў, якія стараюцца скарыстаць слабасці людзей, іх ганарлівасць, іх бесхарактарнасць для таго, каб запутаць іх у свае шпіёнскія сеці і акружыць імі органы Совецкай дзяржавы. Абʼясняецца ён недаацэнкай ролі і значэння механізма нашай соцыялістычнай дзяржавы і яе разведкі, недаацэнкай гэтай разведкі, балбатнёй аб тым, што разведка пры Совецкай дзяржаве—дробязь і глупства, што совецкую разведку, як і самую Совецкую дзяржаву, хутка прыдзецца здаць у музей старажытнасці.

На якой глебе магла ўзнікнуць у нас гэта недаацэнка?

Яна ўзнікла на глебе недапрацаванасці і недастатковасці некаторых агульных палажэнняў вучэння марксізма аб дзяржаве. Яна атрымала пашырэнне ў выніку нашых недазвольна-бесклапотных адносін да пытанняў тэорыі дзяржавы, не гледзячы на тое, што мы маем практычны вопыт дваццацігадовай дзяржаўнай дзейнасці, які дае багаты матэрыял для тэарэтычных абагульненняў, не гледзячы на тое, што ў нас ёсць магчымасць пры жаданні з поспехам папоўніць гэты тэарэтычны прабел. Мы забылі важнейшыя ўказанні Леніна аб тэарэтычных абавязках рускіх марксістаў, закліканых распрацаваць далей тэорыю марксізма. Вось што гаворыць Ленін наконт гэтага:

> «Мы зусім не глядзім на тэорыю Маркса як на нешта закончанае і недатыкальнае; мы пераконаны, наадварот, што яна паклала толькі краевугольныя камені той навукі, якую соцыялісты **павінны** рухаць далей ва ўсіх напрамках, калі яны не хочуць адстаць ад жыцця. Мы думаем, што для рускіх соцыялістаў асабліва неабходна **самастойная** распрацоўка тэорыі Маркса, бо гэтая тэорыя дае толькі агульныя **кіруючыя** палажэнні, якія прымяняюцца **ў прыватнасці** да Англіі інакш, чым да Францыі, да Францыі інакш, чым да Германіі, да Германіі інакш, чым да Расіі» (Ленін, т. II, стар. 492).

Узяць, напрыклад, класічную формулу тэорыі развіцця соцыялістычнай дзяржавы, даную Энгельсам:

> «Калі не будзе грамадскіх класаў, якія трэба трымаць у падпарадкаванні, калі не будзе панавання аднаго класа над другім і барацьбы за існаванне, якая карэніцца ў сучаснай анархіі вытворчасці, калі будуць устаронены выцякаючыя адсюль сутычкі і гвалты, тады ўжо не будзе каго падаўляць і стрымліваць, тады знікне патрэба ў дзяржаўнай уладзе, выконваючай цяпер гэтую функцыю. Першы акт, у якім дзяржава выступіць са-

праўдным прадстаўніком усяго грамадства—ператварэнне сродкаў вытворчасці ў грамадскую ўласнасць,—будзе яе апошнім самастойным дзеяннем у якасці дзяржавы. Умяшанне дзяржаўнай улады ў грамадскія адносіны стане мала-памалу лішнім і спыніцца само сабою. На месца ўпраўлення асобамі становіцца ўпраўленне рэчамі і кіраўніцтва вытворчымі працэсамі. Дзяржава не «адмяняецца», яна адмірае» (Ф. Энгельс, «Антыдзюрынг, 1933 г., выданне Партвыдата, стар. 202).

Ці правільна гэта палажэнне Энгельса?

Так, правільна, але пры адной з двух умоў: а) **калі** весці вывучэнне соцыялістычнай дзяржавы з пункту гледжання аднаго **толькі** ўнутранага развіцця краіны, загадзя адхіляючыся ад міжнароднага фактара, ізаліруючы краіну і дзяржаву для зручнасці даследвання ад міжнароднай абстаноўкі, або б) **калі** дапусціць, што соцыялізм перамог ужо ва ўсіх краінах або ў большасці краін, замест капіталістычнага акружэння ёсць у наяўнасці акружэнне соцыялістычнае, няма больш пагрозы нападу звонку, няма больш патрэбы ва ўзмацненні арміі і дзяржавы.

Ну, а калі соцыялізм перамог толькі ў адной, асобна ўзятай краіне, і адхіляцца, з прычыны гэтага, ад міжнародных умоў ніяк немагчыма,—як быць у такім выпадку? На гэта пытанне формула Энгельса не дае адказу. Энгельс уласна і не ставіць сабе такога пытання, значыцца, у яго не магло быць адказу на гэтае пытанне. Энгельс зыходзіць з таго дапушчэння, што соцыялізм перамог ужо больш ці менш адначасова ва ўсіх краінах або ў большасці краін. Значыцца, Энгельс даследуе тут не тую ці іншую канкрэтную соцыялістычную дзяржаву той ці іншай асобнай краіны, а развіццё соцыялістычнай дзяржавы наогул пры дапушчэнні факта перамогі соцыялізма ў большасці краін—па формуле: «дапусцім, што соцыялізм перамог у большасці краін, паўстае пытанне—якія змяненні павінны адбыцца ў такім выпадку ў пролетарскай, соцыялістычнай дзяржаве». Толькі гэтым агульным і абстрактным характарам праблемы можна аб'ясніць той факт, што пры даследванні пытання аб соцыялістычнай дзяржаве Энгельс зусім адхіляецца ад такога фактара, як міжнародныя ўмовы, міжнародная абстаноўка.

Але з гэтага вынікае, што нельга пашыраць агульную формулу Энгельса аб лёсе соцыялістычнай дзяржавы наогул на прыватны і канкрэтны выпадак перамогі соцыялізма у адной, асобна ўзятай краіне, якая мае вакол сябе капіталістычнае акружэнне, якая падвержана пагрозе ваеннага нападу звонку, якая не можа ў сувязі з гэтым адхіляцца ад міжнароднай абстаноўкі і якая павінна мець у сваім распараджэнні і добра абучаную армію, і добра арганізаваныя карныя органы, і моцную разведку, значыцца павінна мець сваю дастаткова сільную дзяржаву,—для таго, каб мець магчымасць абараняць заваяванні соцыялізма ад нападу звонку.

Нельга патрабаваць ад класікаў марксізма, аддзеленых ад нашага часу перыядам у 45—55 год, каб яны прадбачылі ўсе і ўсякія выпадкі зігзагаў гісторыі ў кожнай асобнай краіне ў далёкім будучым. Было-б смешна патрабаваць, каб класікі марксізма выпрацавалі для нас гатовыя рашэнні на ўсе і ўсякія тэарэтычныя пытанні, якія могуць узнікнуць у кожнай асобнай краіне праз 50—100 год, з тым, каб мы, патомкі класікаў марксізма, мелі магчымасць спакойна ляжаць на печцы і жаваць гатовыя рашэнні. **(Агульны смех.)** Але мы можам і павінны патрабаваць ад марксістаў-ленінцаў нашага часу, каб яны не абмяжоўваліся завучваннем асобных агульных палажэнняў марксізма, каб яны ўваходзілі ў сутнасць марксізма, каб яны навучыліся ўлічваць вопыт дваццацігадовага існавання соцыялістычнай дзяржавы ў нашай краіне, каб яны навучыліся, нарэшце, апіраючыся на гэты вопыт і зыходзячы з сутнасці марксізма, канкрэтызаваць асобныя агульныя палажэнні марксізма, удакладняць і паляпшаць іх. Ленін напісаў сваю выдатную кнігу «Дзяржава і рэволюцыя» у жніўні 1917 года, г. зн. за некалькі месяцаў да Кастрычніцкай рэволюцыі і стварэння Совецкай дзяржавы. Галоўную задачу гэтай кнігі Ленін бачыў у абароне вучэння Маркса і Энгельса аб дзяржаве ад скажэння і апашлення з боку апартуністаў. Ленін збіраўся напісаць другую частку «Дзяржавы і рэволюцыі», дзе ён разлічваў падвесці галоўныя вынікі вопыту рускіх рэволюцый 1905-га і 1917-га года. Не можа быць сумнення, што Ленін меў на ўвазе ў другой частцы сваёй кнігі распрацаваць і развіць далей тэорыю дзяржавы, апіраючыся на вопыт існавання Совецкай улады ў нашай краіне. Але смерць перашкодзіла яму выканаць гэтую задачу. Але чаго не паспеў зрабіць Ленін, павінны зрабіць яго вучні. **(Бурныя апладысменты.)**

Дзяржава ўзнікла на аснове расколу грамадства на варожыя класы, узнікла для таго, каб трымаць у вуздзе эксплуатуемую большасць у інтарэсах эксплуататарскай меншасці. Сродкі ўлады дзяржавы канцэнтраваліся, галоўным чынам, у арміі, у карных органах, у разведцы, у турмах. Дзве асноўныя функцыі характарызуюць дзейнасць дзяржавы: унутраная (галоўная)—трымаць эксплуатуемую большасць у вуздзе і знешняя (не галоўная)—расшыраць тэрыторыю свайго, пануючага класа за кошт тэрыторыі іншых дзяржаў, або абараняць тэрыторыю сваёй дзяржавы ад нападаў з боку іншых дзяржаў. Так была справа пры рабаўладальніцкім ладзе і феадалізме. Так абстаіць справа пры капіталізме.

Каб звергнуць капіталізм, неабходна было не толькі зняць з улады буржуазію, не толькі экспрапрыіраваць капіталістаў, але і разбіць зусім дзяржаўную машыну буржуазіі, яе старую армію, яе бюракратычнае чыноўніцтва, яе паліцыю, і паставіць на яе месца новую пролетарскую дзяржаўнасць, новую соцыялістычную дзяржаву. Большэвікі, як вядома, так іменна і паступілі. Але з гэтага зусім не вынікае, што ў новай пролетарскай дзяржавы не могуць захавацца

некаторыя функцыі старой дзяржавы, змененыя прыстасоўна да патрэбнасцей пролетарскай дзяржавы. З гэтага тым больш не вынікае, што формы нашай соцыялістычнай дзяржавы павінны астацца нязменнымі, што ўсе першапачатковыя функцыі нашай дзяржавы павінны поўнасцю захавацца і ў далейшым. На самай справе формы нашай дзяржавы мяняюцца і будуць мяняцца ў залежнасці ад развіцця нашай краіны і змянення знешняй абстаноўкі.

Ленін зусім праў, калі ён гаворыць:

> «Формы буржуазных дзяржаў надзвычай рознастайны, але сутнасць іх адна: усе гэтыя дзяржавы з'яўляюцца так ці інакш, але ў канчатковым выніку абавязкова **дыктатурай буржуазіі.** Пераход ад капіталізма да комунізма, вядома, не можа не даць велізарнага мноства і рознастайнасці палітычных форм, але сутнасць будзе пры гэтым немінуча адна: **дыктатура пролетарыята»** (Ленін, т. XXI, стар. 393).

З часу Кастрычніцкай рэволюцыі наша соцыялістычная дзяржава прайшла ў сваім развіцці дзве галоўныя фазы.

Першая фаза—гэта перыяд ад Кастрычніцкай рэволюцыі да ліквідацыі эксплуататарскіх класаў. Асноўная задача гэтага перыяда заключалася ў падаўленні супраціўлення звергнутых класаў, у арганізацыі абароны краіны ад нападу інтэрвентаў, у аднаўленні прамысловасці і сельскай гаспадаркі, у падрыхтоўцы ўмоў для ліквідацыі капіталістычных элементаў. Адпаведна з гэтым наша дзяржава ажыццяўляла ў гэты перыяд дзве асноўныя функцыі. Першая функцыя—падаўленне звергнутых класаў унутры краіны. Гэтым наша дзяржава знешнім чынам нагадвала папярэднія дзяржавы, функцыя якіх заключалася ў падаўленні непакорных, з той аднак прынцыповай розніцай, што наша дзяржава падаўляла эксплуататарскую меншасць у імя інтарэсаў працоўнай большасці, тады як папярэднія дзяржавы падаўлялі эксплуатуемую большасць у імя інтарэсаў эксплуататарскай меншасці. Другая функцыя—абарона краіны ад нападу звонку. Гэтым яна таксама нагадвала знешнім чынам папярэднія дзяржавы, якія таксама займаліся ўзброенай абаронай сваіх краін, з той аднак прынцыповай розніцай, што наша дзяржава абараняла ад знешняга нападу заваяванні працоўнай большасці, тады як папярэднія дзяржавы абаранялі ў такіх выпадках багацці і прывілеі эксплуататарскай меншасці. Была тут яшчэ трэцяя функцыя—гэта гаспадарча-арганізатарская і культурна-выхаваўчая работа органаў нашай дзяржавы, меўшая сваёй мэтай развіццё расткоў новай, соцыялістычнай гаспадаркі і перавыхаванне людзей у духу соцыялізма. Але гэта новая функцыя не атрымала ў гэты перыяд сур'ёзнага развіцця.

Другая фаза—гэта перыяд ад ліквідацыі капіталістычных элементаў горада і вёскі да поўнай перамогі соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі і прыняцця новай Канстытуцыі. Асноўная задача гэтага перыяду—арганізацыя соцыялістычнай гаспадаркі па ўсёй краіне і лік-

відацыя апошніх астаткаў капіталістычных элементаў, арганізацыя культурнай рэвалюцыі, арганізацыя ў поўнай меры сучаснай арміі для абароны краіны. Адпаведна з гэтым змяніліся і функцыі нашай социялістычнай дзяржавы. Адпала—адмерла функцыя ваеннага падаўлення ўнутры краіны, бо эксплуатацыя знішчана, эксплуататараў няма больш і падаўляць няма каго. Замест функцыі падаўлення паявілася ў дзяржавы функцыя аховы социялістычнай уласнасці ад зладзеяў і раскрадальнікаў народнага дабра. Захавалася поўнасцю функцыя ваеннай абароны краіны ад нападу звонку, стала быць, захавалася таксама Чырвоная армія, Ваенна-Марскі флот, таксама як карныя органы і разведка, неабходныя для вылаўлівання і пакарання шпіёнаў, забойцаў, шкоднікаў, засылаемых у нашу краіну замежнай разведкай. Захавалася і атрымала поўнае развіццё функцыя гаспадарча-арганізатарскай і культурна-выхаваўчай работы дзяржаўных органаў. Цяпер асноўная задача нашай дзяржавы ўнутры краіны заключаецца ў мірнай гаспадарча-арганізатарскай і культурна-выхаваўчай рабоце. Што датычыць нашай арміі, карных органаў і разведкі, то яны сваім астрыём звернуты ўжо не ва ўнутр краіны, а ў зне яе, супроць знешніх ворагаў.

Як бачыце, мы маем цяпер зусім новую, социялістычную дзяржаву, якая не відана яшчэ ў гісторыі і значна адрозніваецца па сваёй форме і функцыях ад социялістычнай дзяржавы першай фазы.

Але развіццё не можа спыніцца на гэтым. Мы ідзем далей, уперад, да комунізма. Ці захаваецца ў нас дзяржава таксама і ў перыяд комунізма?

Так, захаваецца, калі не будзе ліквідавана капіталістычнае акружэнне, калі не будзе знішчана небяспека ваенных нападаў звонку. Пры гэтым зразумела, што формы нашай дзяржавы зноў будуць зменены, адпаведна са зманеннем унутранай і знешняй абстаноўкі.

Не, не захаваецца і адамрэ, калі капіталістычнае акружэнне будзе ліквідавана, калі яно будзе заменена акружэннем социялістычным.

Так абстаіць справа з пытаннем аб социялістычнай дзяржаве.

Другое пытанне—гэта пытанне аб совецкай інтэлігенцыі.

У гэтым пытанні, таксама як і ў пытанні аб дзяржаве, існуе ў нашай партыі некаторая няяснасць, неразбярыха.

Не гледзячы на поўную яснасць пазіцыі партыі ў пытанні аб совецкай інтэлігенцыі, у нашай партыі ўсё яшчэ маюць пашырэнне погляды, варожыя да совецкай інтэлігенцыі і несумяшчальныя з пазіцыяй партыі. Носьбіты гэтых няправільных поглядаў практыкуюць, як вядома, пагардлівыя, зняважлівыя адносіны да совецкай інтэлігенцыі, разглядаючы яе як сілу чуждую і нават варожую рабочаму класу і сялянству. Праўда, інтэлігенцыя за перыяд совецкага развіцця паспела змяніцца ў корані, як па свайму саставу, так і па свайму становішчу, зближаючыся з народам і чэсна супрацоўнічаючы з ім, чым яна прынцыпова адрозніваецца ад старой, буржуазнай інтэлі-

генцыі. Але гэтым таварышам, відаць, няма справы да гэтага. Яны прадаўжаюць дудзіць у старую дудку, няправільна пераносячы на совецкую інтэлігенцыю тыя погляды і адносіны, якія мелі сваю падставу ў стары час, калі інтэлігенцыя знаходзілася на службе ў памешчыкаў і капіталістаў.

У стары, дарэволюцыйны час, ва ўмовах капіталізма інтэлігенцыя складалася перш за ўсё з людзей маёмных класаў,—дваран, прамыслоўцаў, купцоў, кулакоў і т. п. Былі ў радах інтэлігенцыі таксама выхадцы з мяшчан, дробных чыноўнікаў і нават з сялян і рабочых, але яны не адыгрывалі і не маглі адыгрываць там рашаючай ролі. Інтэлігенцыя ў цэлым кармілася ў маёмных класаў і абслугоўвала іх. Зразумела таму тое недавер'е, пераходзіўшае нярэдка ў нянавісць, якое адчувалі да яе рэволюцыйныя элементы нашай краіны і перш за ўсё рабочыя. Праўда, старая інтэлігенцыя дала асобныя адзінкі і дзесяткі смелых і рэволюцыйных людзей, стаўшых на пункт погляду рабочага класа і звязаўшых да канца свой лёс з лёсам рабочага класа. Але такіх людзей сярод інтэлігенцыі было надта мала, і яны не маглі змяніць фізіяномію інтэлігенцыі ў цэлым.

Справа з інтэлігенцыяй змянілася, аднак, у корані пасля Кастрычніцкай рэволюцыі, пасля разгрому іншакраіннай ваеннай інтэрвенцыі, асабліва пасля перамогі індустрыялізацыі і калектывізацыі, калі знішчэнне эксплуатацыі і ўцвярджэнне соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі стварылі рэальную магчымасць даць краіне і правесці ў жыццё новую Канстытуцыю. Найбольш уплывовая і кваліфікаваная частка старой інтэлігенцыі ўжо ў першыя дні Кастрычніцкай рэволюцыі адкалолася ад астатняй масы інтэлігенцыі, аб'явіла барацьбу Совецкай уладзе і пайшла ў сабатажнікі. Яна панесла за гэта заслужаную кару, была разбіта і рассеяна органамі Совецкай улады. Пазней большасць уцалеўшых з іх завербавалася ворагам нашай краіны ў шкоднікі, у шпіёны, выкрасліўшы сябе тым самым з радоў інтэлігенцыі. Другая частка старой інтэлігенцыі, менш кваліфікаваная, але больш шматлікая, доўга яшчэ прадаўжала таптацца на месцы, чакаючы «лепшых часоў», але потым, відаць, махнула рукой і рашыла пайсці ў службісты, рашыла ўжыцца з Совецкай уладай. Большая частка гэтай групы старой інтэлігенцыі паспела ўжо састарэцца і пачынае выходзіць са строю. Трэцяя частка старой інтэлігенцыі, галоўным чынам радавая яе частка, меўшая яшчэ менш кваліфікацыі, чым папярэдняя частка, далучылася да народа і пайшла за Совецкай уладай. Ёй неабходна было давучвацца, і яна сапраўды стала давучвацца ў нашых ВНУ. Але побач з гэтым мучыцельным працэсам дыферэнцыяцыі і разлому старой інтэлігенцыі ішоў бурны працэс фарміравання, мабілізацыі і збірання сіл новай інтэлігенцыі. Сотні тысяч маладых людзей, выхадцаў з радоў рабочага класа, сялянства, працоўнай інтэлігенцыі пайшлі ў ВНУ і тэхнікумы і, вярнуўшыся са школ, запоўнілі парадзеўшыя рады інтэлігенцыі. Яны ўлілі

ў інтэлігенцыю новую кроў і ажывілі яе па-новаму, па-савецку. Яны ў корані змянілі ўсё аблічча інтэлігенцыі, па вобразу свайму і падабенству. Астаткі старой інтэлігенцыі аказаліся растворанымі ў нетрах новай, савецкай, народнай інтэлігенцыі. Стварылася, такім чынам, новая, савецкая інтэлігенцыя, цесна звязаная з народам і гатовая ў сваёй масе служыць яму верай і праўдай.

У выніку мы маем цяпер шматлікую, новую, народную, сацыялістычную інтэлігенцыю, якая ў корані адрозніваецца ад старой, буржуазнай інтэлігенцыі як па свайму саставу, так і па свайму сацыяльна-палітычнаму абліччу.

Да старой дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі, якая служыла памешчыкам і капіталістам, у поўнай меры падыходзіла старая тэорыя аб інтэлігенцыі, указваўшая на неабходнасць недавер'я да яе і барацьбы з ёю. Цяпер гэтая тэорыя аджыла свой век і яна ўжо не падыходзіць да нашай новай, савецкай інтэлігенцыі. Для новай інтэлігенцыі патрэбна новая тэорыя, указваючая на неабходнасць дружаскіх адносін да яе, клопатаў аб ёй, павагі да яе і супрацоўніцтва з ёю ў імя інтарэсаў рабочага класа і сялянства.

Здаецца, зразумела.

Тым больш дзіўна, што пасля ўсіх гэтых карэнных змяненняў у становішчы інтэлігенцыі ў нас у партыі яшчэ ёсць, аказваецца, людзі, якія прабуюць старую тэорыю, накіраваную супроць буржуазнай інтэлігенцыі, прымяніць да нашай новай, савецкай інтэлігенцыі, якая з'яўляецца ў сваёй аснове сацыялістычнай інтэлігенцыяй. Гэтыя людзі, аказваецца, сцвярджаюць, што рабочыя і сяляне, нядаўна яшчэ працаваўшыя па-стаханаўску на заводах і ў калгасах, а потым накіраваныя ў ВНУ для атрымання асветы, перастаюць быць тым самым сапраўднымі людзьмі, становяцца людзьмі другога сорту. Выходзіць, што асвета—шкодная і небяспечная штука. **(Смех.)** Мы хочам зрабіць усіх рабочых і ўсіх сялян культурнымі і адукаванымі, і мы зробім гэта з цягам часу. Але на погляд гэтых дзіўных таварышоў атрымліваецца, што падобная задея тоіць у сабе вялікую небяспеку, бо пасля таго, як рабочыя і сяляне стануць культурнымі і адукаванымі, яны могуць аказацца перад небяспекай быць залічанымі ў разрад людзей другога сорту. **(Агульны смех.)** Не выключана, што з цягам часу гэтыя дзіўныя таварышы могуць дакаціцца да ўслаўлення адсталасці, невуцтва, цемры, мракабесся. Яно і зразумела. Тэарэтычныя вывіхі ніколі не вялі і не могуць весці к дабру.

Так абстаіць справа з пытаннем аб нашай новай, сацыялістычнай інтэлігенцыі.

* * *

Нашы задачы ў галіне далейшага ўмацавання партыі:

1. Сістэматычна паляпшаць састаў партыі, падымаючы ўзровень свядомасці членаў партыі і прымаючы ў рады партыі ў парадку ін-

дывідуальнага адбору толькі праверaных і адданых справе комунізма таварышоў;

2. Наблізіць кіруючыя органы да нізавой работы з тым, каб зрабіць іх кіруючую работу ўсё больш аператыўнай і канкрэтнай, усё менш засядацельскай і канцылярскай;

3. Цэнтралізаваць справу падбору кадраў, клапатліва вырошчваць кадры, старанна вывучаць дастоінствы і недахопы работнікаў, смялей вылучаць маладых работнікаў, прыстасоўваць справу падбору і расстаноўкі кадраў да патрабаванняў палітычнай лініі партыі;

4. Цэнтралізаваць справу партыйнай прапаганды і агітацыі, расшырыць прапаганду ідэй марксізма-ленінізма, падняць тэарэтычны ўзровень і палітычную загартоўку нашых кадраў.

* * *

Таварышы! Я канчаю свой справаздачны даклад.

Я абрысаваў у агульных рысах шлях, пройдзены нашай партыяй за справаздачны перыяд. Рэзультаты работы партыі і яе ЦК за гэты перыяд вядомы. Былі ў нас недахопы і памылкі. Партыя і яе ЦК не скрывалі іх і стараліся іх выправіць. Ёсць і сур'ёзныя поспехі і вялікія дасягненні, якія не павінны ўскружыць нам галаву.

Галоўны вынік заключаецца ў тым, што рабочы клас нашай краіны, знішчыўшы эксплуатацыю чалавека чалавекам і ўцвярдзіўшы соцыялістычны лад, даказаў усяму свету праватy сваёй справы. У гэтым галоўны вынік, бо ён умацоўвае веру ў сілы рабочага класа і ў немінучасць яго канчатковай перамогі.

Буржуазія ўсіх краін цвярдзіць, што народ не можа абыйсціся без капіталістаў і памешчыкаў, без купцоў і кулакоў. Рабочы клас нашай краіны даказаў на справе, што народ можа з поспехам абыйсціся без эксплуататараў.

Буржуазія усіх краін цвярдзіць, што рабочы клас, разбурыўшы старыя буржуазныя парадкі, не здолен пабудаваць што-небудзь новае, узамен старога. Рабочы клас нашай краіны даказаў на справе, што ён зусім здолен не толькі разбурыць стары лад, але і пабудаваць новы, лепшы, соцыялістычны лад і прытым такі лад, які не ведае ні крызісаў, ні беспрацоўя.

Буржуазія ўсіх краін цвярдзіць, што сялянства не здольна стаць па шлях соцыялізма. Калгаснае сялянства нашай краіны даказала на справе, што яно можа з поспехам стаць на шлях соцыялізма.

Галоўнае, чаго асабліва дабіваюцца буржуазія ўсіх краін і яе рэфармісцкія прыхвасні,—гэта тое, каб выкараніць у рабочым класе веру ў свае сілы, веру ў магчымасць і немінучасць яго перамогі і тым самым увекавечыць капіталістычнае рабства. Бо буржуазія ведае, што калі капіталізм яшчэ не звергнут і ён прадаўжае ўсё яшчэ існаваць, то гэтым ён абавязан не сваім добрым якасцям, а таму, што ў пролетарыята няма яшчэ дастатковай веры ў магчымасць

сваёй перамогі. Нельга сказаць, каб старанні буржуазіі ў гэтым напрамку аставаліся зусім беспаспяховымі. Трэба прызнаць, што буржуазіі і яе агентам у рабочым класе ўдалося ў пэўнай меры атруціць душу рабочага класа ядам сумненняў і нявер'я. Калі поспехі рабочага класа нашай краіны, калі яго барацьба і перамога паслужаць к таму, каб падняць дух рабочага класа капіталістычных краін і ўмацаваць у ім веру ў свае сілы, веру ў сваю перамогу, то наша партыя можа сказаць, што яна працуе недарма. Можна не сумнявацца, што так яно і будзе. **(Бурныя працяглыя апладысменты.)**

Няхай жыве наш пабеданосны рабочы клас! **(апладысменты.)**

Няхай жыве наша пабеданоснае калгаснае сялянства! **(апладысменты.)**

Няхай жыве наша соцыялістычная інтэлігенцыя! **(апладысменты.)**

Няхай жыве вялікая дружба народаў нашай краіны! **(апладысменты.)**

Няхай жыве Усесаюзная комуністычная партыя большэвікоў! **(апладысменты.)**

**(Усе дэлегаты ўстаюць, стоячы вітаюць таварыша Сталіна і наладжваюць яму працяглую авацыю. Воклічы: «Ура! Няхай жыве таварыш Сталін! Вялікаму Сталіну—ура! Нашаму любімаму Сталіну—Ура!».)**

---

# Даклад дэлегацыі ВКП(б) у ВККІ на XVIII з'ездзе ВКП(б).

## *ДАКЛАДЧЫК т. МАНУІЛЬСКІ.*

## І. Змяненні ў міжнародным становішчы.

Таварышы!

За прайшоўшае паміж XVII і XVIII з'ездамі ВКП(б) пяцігоддзе ў жыцці класаў, народаў і дзяржаў адбыліся значныя змяненні, якія сведчаць аб абвастрэнні ўсіх супярэчнасцей капіталістычнай сістэмы і паглыбленні бяздоння паміж светам соцыялізма і светам капіталізма.

У сваім гістарычным дакладзе, якога з нецярпеннем чакалі партыя, працоўныя нашай краіны, усе прыяцелі і ўсе ворагі СССР, тав. Сталін унёс каштоўнейшы ўклад у марксісцка-ленінскае вучэнне аб дзяржаве, даў непераўзыйдзены па глыбіні марксісцкі аналіз міжнароднага становішча, падвёў вычарпальныя вынікі соцыялістычнага развіцця нашай краіны, разгарнуў грандыёзныя перспектывы, якія адкрываюцца перад совецкім народам у рэзультаце яго соцыялістычных перамог. Тав. Сталін паказаў, як гіганцка прасунуўся ўперад СССР, вырашыўшы самую трудную задачу дыктатуры пролетарыята—канчатковую ліквідацыю эксплуататарскіх класаў і ўцягненне мільёнаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак у сістэму соцыялізма. Ён паказаў, як няўхільна расла за гэтыя годы соцыялістычная народная гаспадарка, павышаўся матэрыяльны і культурны ўзровень працоўных, як цэментавалася брацтва народаў, насяляючых СССР, як расцвятала соцыялістычная дэмакратыя ў совецкай краіне, як умацоўвалася маральнае і палітычнае адзінства совецкага народа, расла магутнасць і абароназдольнасць совецкай краіны. **(Апладысменты).**

Тав. Сталін паказаў, як мудрая палітыка міру СССР, якая спалучалася з цвёрдасцю ў справе абароны рубяжоў совецкай краіны, з бязлітасным разгромам трацкісцка-бухарынскай банды шпіёнаў і падпальшчыкаў вайны, адпавядала не толькі інтарэсам совецкага народа, але і інтарэсам усяго міжнароднага пролетарыята, інтарэсам народаў усіх краін.

Даклад тав. Сталіна—гэта гістарычная веха, якая знамянуе сабою ўступленне СССР у новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. І гэтая велізарная перамога СССР, якая з'яўляецца падзеяй сусветна-гістарычнага значэння, узмацняе рэволюцыянізаванне працоўных мас у капіталістычных краінах, выклікае страх сусветнай рэакцыі перад краінай, ажыццяўляючай, наперакор усім козням капіталістычнага акружэння, трэцюю сталінскую пяцігодку, якая азначае новы гіганцкі крок па шляху да поўнага таржаства комунізма.

## Што адбылося за прайшоўшае пяцігоддзе ў капіталістычным свеце?

На XVII партыйным з'ездзе тав. Сталін, аналізуючы стан капіталістычнай гаспадаркі, гаварыў, што дэпрэсія, наступіўшая пасля крызіса 1929—33 гг., будзе не звычайнай дэпрэсіяй, а дэпрэсіяй «асобага роду». Тав. Сталін гаварыў, характарызуючы міжнароднае становішча, што абвастрэнне імперыялістычных супярэчнасцей стварыла ўжо глебу для ваенных сутычак, што справа яўным чынам ідзе да новай імперыялістычнай вайны. Гэты аналіз тав. Сталіна цалкам і поўнасцю пацвердзіўся.

Узровень капіталістычнай вытворчасці, які дасягнуў пасля найбольшага ўпадку 1932 г. свайго найвышэйшага пункту ў сярэдзіне 1937 года—у 1938 г. зноў спусціўся да 91 проц. у параўнанні з узроўнем 1929 г. За перыяд часу з 1929 г. па 1937 г. вытворчасць павялічылася ўсяго на 3,5 проц., у той час як рост вытворчасці на працягу эканамічнага цыкла 1921—29 гг. раўняўся 49,5 проц. Гэта гаворыць аб тым, што дэпрэсія, наступіўшая пасля крызіса 1929—33 гг., была сапраўды дэпрэсіяй асобага роду, за якой не пaследавала ні агульнага ўздыму, ні росквіту прамысловасці.

За прайшоўшае пяцігоддзе значна пагоршылася становішча працоўных мас у капіталістычных краінах. Капітал шалёна наступае на жыццёвы ўзровень працоўных, асабліва ў краінах фашысцкай дыктатуры. Адбываецца рэзкае зніжэнне заработнай платы і падаўжэнне рабочага дня. У Германіі, напрыклад, не гледзячы на тое, што рознічныя цэны на асноўныя прадукты харчавання вельмі павысіліся, забаронена з часу ўстанаўлення фашысцкай дыктатуры ўсякае павелічэнне зарплаты; у той-жа час розныя прымусовыя адлічэнні з зарплаты, правадзімыя фашысцкімі ўладамі, дасягаюць 25—30 проц. Законам устаноўлен 10-гадзінны рабочы дзень, у асабліва-ж важных галінах прамысловасці, гэта значыць ва ўсёй ваеннай індустрыі і на фартыфікацыйных работах—14-гадзінны. У так званых лагерах «працоўнай павіннасці» сотні тысяч моладзі працуюць за нішчымную пахлёбку і 50 пфенінгаў у дзень. У фашысцкай Італіі за час фашысц-

кай дыктатуры адбылося зніжэнне жыццёвага ўзроўню мас амаль на палавіну. З часу абісінскай вайны адбываецца рэзкае скарачэнне спажывання па ўсіх асноўных прадуктах харчавання. У Японіі рабочы дзень дасягае ад 12-ці да 16-ці гадзін, і нават жабрацкія стаўкі 1929 г. былі скарочаны ў сярэднім больш чым на 16 проц., хоць кошт жыцця павысіўся за гэты час на 30—40 проц.

Лік беспрацоўных за прайшоўшае пяцігоддзе ніколі не спускаўся ніжэй 14 мільёнаў і к канцу 1938 г. раўняецца 18 мільёнам, не лічачы ні велізарнай многамільённай арміі беспрацоўных батракоў, ні частковa беспрацоўных, ні беспрацоўных такіх краін, як Індыя, Кітай, дзе жыве палавіна насельніцтва капіталістычнага свету.

Аграрны крызіс, які зноў абвастраецца, у асаблівасці ў ЗША, Польшчы, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі, а таксама ў калоніях, вядзе да яшчэ большага расслаення вёскі, ператварае мільёны сялян у паупераў. Побач з гэтым ідзе ўзмоцнены працэс разарэння дробнай гарадской буржуазіі, асабліва ў фашысцкіх краінах. Тут пушчаны на дно дзесяткі тысяч дробных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў. У Японіі толькі ў адным 1938 г. з прычыны недахваткі сыравіны было закрыта 88.305 дробных прадпрыемстваў.

У рэзультаце эканамічнага крызіса, узмацнення няроўнамернасці развіцця капіталістычных краін і паглыблення агульнага крызіса капіталізма—абвастрыліся да крайнасці ўсе існаваўшыя раней супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі. Абвастрылася барацьба за знешнія рынкі, за сферы ўплыву, за калоніі, за новы перадзел свету. Незвычайную вастрыню набыла гэтая барацьба у басейне Міжземнага мора і Ціхага акіяна, у Лацінскай Амерыцы, у Паўднёва-ўсходняй і Паўднёвай Еўропе, на асноўных сусветных шляхах зносін.

Фашысцкія дзяржавы—Германія, Італія і Японія перайшлі ў наступленне на міжнароднай арэне. Фашысцкія правіцелі думаюць грабяжом чужых народаў паправіць свае справы, ліквідаваць унутраныя затрудненні фашысцкага рэжыма, прадухіліць яго банкроцтва. Фашысцкім заправілам патрэбны войны, таму што яны не ў сілах выканаць свае дэмагагічныя пасулы масам, якія патрабуюць не гармат, а масла, не дрэдноутаў, а хлеба. Вайна для іх—гэта сродак, каб падавіць незадаволенне мас і трымаць іх у пакорлівасці. Ім патрэбны войны для захавання свайго «прэстыжа» ў вачах іх уласных старроннікаў.

Фашысцкія авантурысты спяшаюцца перайсці ў наступленне, таму што баяцца нарастання руху народнага фронта, росту супраціўлення народаў фашысцкай агрэсіі, аб'яднання і згуртавання народаў у міжнародны фронт барацьбы супроць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны. Фашысцкія правіцелі хочуць апярэдзіць згуртаванне народных мас і нанесці ім удар раней, чым яны аб'яднаюцца для адпору фашызму. Яны стараюцца раз'яднаць народы, пасеяць паміж імі рознь, каб тым лягчэй біць іх па частках. Яны лоўка скарыстоўваюць угодніцтва

правячых кругоў Англіі і Францыі, робяць іх саўдзельнікамі сваіх зладзеянняў, тым самым яшчэ больш кампраметыруюць і ганьбяць іх, стараючыся гэтым машэнніцкім манеўрам адвесці ад сябе абурэнне мас.

Фашысцкія правіцелі імкнуцца скарыстаць страх буржуазіі іншых капіталістычных краін перад соцыялізмам і рабочым класам, каб пры яе падтрыманні напасці на яе ўласны народ. Для дасягнення сваіх захватніцкіх мэт яны пускаюць у ход подкуп, абман, шантаж і пагрозы. Перш чым кінуць акупацыйныя арміі на чужыя тэрыторыі, яны кідаюць туды армію сваіх шпіёнаў. Яны шлюць іх усюды— у ЗША, Англію, Францыю і іншыя дзяржавы. Яны падкармліваюць ва Францыі банды кагуляраў і арганізуюць іх рукамі серыю ўзрываў. Яны ствараюць дыверсійныя банды ў Румыніі, якія праводзяць рад тэрарыстычных актаў, яны вядуць шырокую разлагаючую работу ў Польшчы, падрыхтоўваючы яе расчляненне; у Прыбалтыцы, Фінляндыі, Венгрыі, Славакіі, на Балканах яны ствараюць тайныя ўзброеныя атрады. Яны інсцэніруюць унутраныя «мяцежы», як гэта было не толькі ў Аўстрыі, у Судэцкай вобласці, але і ў Мексіцы, Бразіліі і Перу.

Асабліва шырокую падрыўную работу агенты фашысцкага агрэсіўнага блока вядуць у англійскіх і французскіх калоніях. Яны арганізуюць мяцеж у Палестыне, ствараюць поўваенны «нацыянальны корпус валанцёраў» у Індыі, фарміруюць фашысцкія ваенныя групы ў Паўднёвай Афрыцы, снабжаюць зброяй і грашыма феадалаў у арабскіх краінах. Усюды яны сеюць смуту, каб яшчэ да вайны разлажыць і аслабіць сваіх магчымых праціўнікаў.

Зацікаўлены больш за ўсіх другіх у новым насільственым перадзеле свету, агрэсіўны блок фашысцкіх дзяржаў увяргае народы ў новую імперыялістычную вайну. У 1935 г. Італія ўтаргаецца ў Абісінію, у 1936 г. Германія і Італія пачынаюць інтэрвенцыю ў Іспаніі, у 1937 г. японская ваеншчына пераходзіць ад захвату Манчжурыі да вайны, якая мае мэтай аўладанне ўсім Кітаем і выцясненне з Кітая ЗША, Англіі, Францыі; у сакавіку 1938 г. Германія акупіруе Аўстрыю, у верасні 1938 г. яна расчляняе Чэха-Славакію.

Хіба было-б гэта магчыма, калі-б капіталістычныя ўрады іншых буйнейшых дзяржаў не патуралі агрэсіі германскага і італьянскага фашызма і японскай фашысцкай ваеншчыны? Вядома, не. Гэта стала магчыма таму, што блоку фашысцкіх агрэсараў дапамагалі і дапамагаюць сілы сусветнай рэакцыі, рэакцыйныя элементы французскай і асабліва англійскай буржуазіі. Гэтыя элементы пестуюць мысль аб тым, каб скарыстаць германскі фашызм у якасці ўдарнага кулака рэакцыі супроць СССР, скарыстаць германскі фашызм, як жандарма супроць міжнароднага рабочага класа, народнага фронта і нацыянальна-вызваленчага руху заняволеных народаў.

План англійскай рэакцыйнай буржуазіі заключаецца ў тым, каб,

афяраваўшы ва ўгоду германскаму фашызму малымі дзяржавамі паўднёва-ўсходняй Еўропы, накіраваць Германію на ўсход—супроць СССР, папрабаваць такой контррэвалюцыйнай вайной затрымаць далейшыя поспехі соцыялізма і перамогу комунізма ў СССР, адкупіцца ад імперыялістычных дамаганняў Германіі на англійскія калоніі; у той-жа час англійская рэакцыя хацела-б рукамі СССР абламаць зубы германскаму імперыялізму, аслабіць Германію на многія годы, захаваўшы за англійскім імперыялізмам пануючае становішча ў Еўропе; па-другое, англійская рэакцыя імкнецца да таго, каб раздзяліць разам з Італіяй за кошт Францыі Іспанію і сферы ўплыву ў Міжземным моры, дабіцца ў мэтах імперыялістычнай «роўнавагі» ў Еўропе пагаднення з Італіяй, адарваўшы яе ад блока з Германіяй; па-трэцяе, на Далёкім Усходзе англійскія рэакцыянеры мараць аб раздзеле Кітая. Яны зараз дазваляюць Японіі разараць і аслабляць Кітай, але ў той-жа час яны не перашкаджаюць ваеннаму і эканамічнаму знясіленню Японіі, каб пасля выступіць у ролі арбітра для ўстанаўлення «мюнхенскага міру» на Далёкім Усходзе; па-чацвертае, англійская рэакцыя не хоча дапусціць крушэння фашысцкага рэжыма ні ў Германіі, ні ў Італіі, ні ў Японіі, хоча дапамагчы ўрадам гэтых краін выратавацца ад фінансавага банкроцтва шляхам прадастаўлення ім крэдытаў і тым самым паставіць фашысцкія дзяржавы ў пэўную залежнасць ад англійскага імперыялізма.

Яшчэ ў 1927 г. тав. Сталін гаварыў у артыкуле «Заметкі на сучасныя тэмы»:

> **«Англійскі капіталізм заўсёды быў, ёсць і будзе найбольш злосным душыцелем народных рэволюцый. Пачынаючы з Вялікай французскай рэволюцыі канца XVIII века і канчаючы адбываючайся цяпер кітайскай рэволюцыяй, англійская буржуазія заўсёды стаяла і прадаўжае стаяць у першых радах граміцеляў вызваленчага руху чалавецтва... Але англійская буржуазія не любіць ваяваць сваімі ўласнымі рукамі. Яна заўсёды лічыла за лепшае вайну чужымі рукамі».**

Але сваімі разбойніцкімі планамі англійская рэакцыйная буржуазія рые сабе магілу. Тайным падтрыманнем японскай агрэсіі ў Кітаі яна рыхтуе выцясненне Англіі з Далёкага Ўсхода, уступкамі італьянскаму фашызму—страту англійскіх пазіцый у Міжземным моры, прадастаўленнем пазык фашысцкім агрэсарам яна ўзмацняе іх ваенную магутнасць і шансы свайго ўласнага паражэння. Умацаваннем германскага фашызма яна падрыхтоўвае раздзел сваёй уласнай імперыі. Планамі нападу на СССР яна рыхтуе крушэнне не толькі фашызма, але і ўсёй капіталістычнай сістэмы. **(Апладысменты).**

Мюнхенскі згавор з'яўляецца першай сур'ёзнай спробай прымянення на справе гэтага каварнага, але безнадзейнага плана англійскай рэакцыйнай буржуазіі. Не мір прынеслі чалавецтву мюнхенскія рэакцыйныя змоўшчыкі, а нясуць новую сусветную імперыялістыч-

ную вайну. У Мюнхене яны ліквідавалі нават тую худасочную еўрапейскую «роўнавагу», якая ў некаторай ступені стрымлівала захватніцкія планы фашысцкіх агрэсараў. Пад даўленнем Германіі і Італіі французскія рэакцыйныя клікі, якія плятуцца ў хвасце англійскай рэакцыі, ліквідавалі ўласнымі рукамі сістэму саюзаў, створаную імі пасля сусветнай імперыялістычнай вайны 1914—18 гг.; тым самым яны падрыхтоўваюць ператварэнне Францыі ў дзяржаву другога ранга.

Мюнхенскія змоўшчыкі пакончылі з сістэмай калектыўнай бяспеки і канчаткова ўстаранілі створаную імі-ж Лігу нацый ад вырашэння важнейшых пытанняў еўрапейскай і сусветнай палітыкі. Яны развязалі рукі агрэсарам, дазволіўшы італьянскаму фашызму заняць Каталонію, японскай фашысцкай ваеншчыне захваціць Кантон і востраў Хайнань, стварыць пагрозу французскім і англійскім уладанням на Далёкім Усходзе.

Мюнхенскія «міратворцы» ўзмацнілі ліхарадку ўзбраенняў капіталістычных дзяржаў. Пасля Мюнхена адбываецца новы скачок узбраенняў у Германіі, дзе за час фашысцкай дыктатуры ваенныя расходы ўзраслі ўжо ў 32 разы, у Італіі, дзе за час вайны ў Абісініі яны выраслі ў чатыры разы; ваенныя расходы ўзрастаюць у Японіі ў параўнанні з 1936—37 гг. больш чым у $5^1/_2$ раз, у Англіі—у тры разы, ва Францыі больш чым у тры разы.

* * *

Аднак імперыялістычныя дамаганні фашысцкіх драпежнікаў натыкаюцца на процідзеянне некаторых капіталістычных дзяржаў, значнай часткі правячых класаў тых краін, урады якіх капітулююць перад фашысцкімі агрэсарамі. **Буйнейшая капіталістычная** дзяржава свету—ЗША, абараняючы свае інтарэсы ў краінах Лацінскай Амерыкі супроць Германіі, Італіі і Японіі, якія рвуцца і быстра пранікаюць туды, абараняючы свае пазіцыі на Філіпінах, у Кітаі і Ціхім акіяне супроць Японіі, скалачвае з паўднёва-амерыканскімі дзяржавамі блок супраціўлення фашысцкай экспансіі; тым самым ЗША актывізуюць супраціўленне фашысцкім агрэсіўным планам у іншых канцах свету, у тым ліку і ў Еўропе.

**У Англіі**—страх за цэласнасць імперыі, якой пагражае германскі фашызм, штурхае нават частку імперыялістычных кругоў, дзеячоў тыпа Даф Купера, Ідэна, Чэрчыля, у лагер апазіцыі да цяперашняга кансерватыўнага ўрада. Захватніцкія дамаганні германскага і італьянскага фашызма палохаюць частку французскай буржуазіі і ўзмацняюць пазіцыі староннікаў супраціўлення яму. Расце непакой у Польшчы перад пагрозай яе расчлянення Германіяй. Узмацняецца апазіцыя ў Венгрыі супроць закабалення яе германскім фашызмам.

У той-жа час нарастае абурэнне заняволеных фашысцкімі агрэсарамі народных мас Чэха-Славакіі і Аўстрыі, расце трывога народаў,

якія стаяць пад ударам фашысцкай агрэсіі на Балканах. Узмацняецца рух у калоніях, народы якіх не хочуць быць разменнай манетай у здзелках імперыялістычных драпежнікаў. Выспяваюць элементы нацыянальнага фронта ў радзе краін, якім пагражае фашысцкае ўтаржэнне.

* * *

Такім чынам, таварышы, за прайшоўшыя пяць год яшчэ больш паглыбілася бяздонне паміж перамогшым социялізмам і паразітычна гніючым капіталізмам. СССР ідзе ўверх, да вяршынь бяскласавага грамадства, да комунізма. Капіталістычны свет коціцца ўніз, да эканамічных крызісаў, да рэакцыі, да войн. Гэта азначае, што паглыбіўся агульны крызіс капіталістычнай сістэмы. І чым больш заплутваецца капіталізм у сваіх супярэчаннях, да тым больш адчаянных мерапрыемстваў ён звяртаецца, каб пастарацца выпутацца са становішча. Адсюль узмацненне наступлення капітала супроць працоўных, узмацненне фашысцкага тэрора, пераход фашызма ў наступленне на міжнароднай арэне, новая імперыялістычная вайна. Адсюль і абвастрэнне пагрозы іншаземнага ваеннага нападу на краіну соцыялізма, значэнне якой, як **аплоту міру і супраціўлення імперыялістычным захватам і войнам, узрастае ў велізарнай ступені ў сазнанні мільёнаў людзей працы ў капіталістычных краінах.**

## II. Барацьба компартый за адзіны і народны фронт.

Па меры пераходу фашызма ў наступленне ў асобных краінах і на міжнароднай арэне, расце, шырыцца і набывае ўсё больш міжнародны характар антыфашысцкі рух. Пяцігоддзе паміж XVII і XVIII з'ездамі напоўнена вялікімі антыфашысцкімі баямі працоўных. Гэта—магутная барацьба працы супроць капітала, сіл прагрэса супроць цёмных сіл рэакцыі. Гэта—паласа барацьбы компартый за адзінства дзеянняў рабочага класа, за адзінства профруху, за антыфашысцкі народны фронт. Гэта—утварэнне народнага фронта ва Францыі. Гэта—разгортванне дэмакратычнага руху на амерыканскім кантыненце (у Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы). Гэта—перыяд складвання і расшырэння нацыянальнага фронта ў радзе каланіяльных і залежных краін. **Гэта—перш за ўсё нацыянальна-рэволюцыйная вайна гераічнага іспанскага народа, гэта—нацыянальна-вызваленчая вайна вялікага кітайскага народа супроць уторгшыхся імперыялістычных драпежнікаў.**

Вы памятаеце, таварышы, як пасля прыходу да ўлады фашызма ў Германіі ў 1933 г. паднялі галаву фашысты ў іншых капіталістычных краінах, як яны паспяшылі перайсці ў наступленне ў разліку, што народныя масы адступяць перад імі без бою, як у Германіі.

Але вы памятаеце таксама, што іменна перамога германскага фашызма развязала праз год магутны антыфашысцкі рух ва ўсім свеце. У лютым 1934 г. ва Францыі рабочыя адказваюць на наступленне фашызма ўсеагульнай стачкай, ахапіўшай чатыры мільёны чалавек, у Аўстрыі яны біруцца за зброю, у Іспаніі ў кастрычніку гэтага-ж года б'юцца на працягу двух тыдняў астурыйскія гарнякі. Усюды рухаючай сілай гэтага масавага супраціўлення фашызму былі камуністычныя партыі, якія кавалі ў працэсе барацьбы адзінства дзеяння рабочага класа, адзінства дзеяння ўсіх працоўных.

Прымяняючы на практыцы вялікі ленінска-сталінскі стратэгічны план аб'яднання сіл пралетарыята і прыцягнення на старану рабочага класа яго саюзнікаў, Комуністычны Інтэрнацыянал на VII Кангрэсе ў дакладзе тав. Дзімітрава высоўвае для барацьбы з наступленнем капітала, фашызмам і надыходзячай імперыялістычнай вайной тактыку адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронта. Выступленне тав. Дзімітрава, вернага вучня тав. Сталіна, высока трымаўшага сцяг комунізма ў Лейпцыгу, знайшло гарачы водгук сярод працоўных капіталістычных краін.

Якія-ж былі непасрэдныя рэзультаты антыфашысцкага руху, што пачаўся амаль ва ўсіх капіталістычных краінах? **Ва Францыі** працоўныя масы ўсеагульнай стачкай, масавымі дэманстрацыямі, даходзіўшымі да мільёна чалавек толькі ў адным Парыжы, сарвалі фашысцкі путч 6-га лютага 1934 г., дабіліся закона аб роспуску фашысцкіх узброеных ліг, устанавілі ў працэсе антыфашысцкай барацьбы адзіны рабочы і народны фронт; у выніку магутнага стачачнага руху летам 1936 г., які суправаджаўся заняццем прадпрыемстваў, рабочы клас дабіўся 40-гадзіннага рабочага тыдня, павышэння зарплаты да 30 проц., водпускаў, аплачваемых прадпрыемцамі, калектыўных дагавораў і прызнання гаспадарамі профсаюзаў на прадпрыемствах; было дасягнута аб'яднанне профсаюзаў, якое прывяло на працягу некалькіх месяцаў да павелічэння ліку членаў Усеагульнай канфедэрацыі працы з 900 тыс. да 4 мільёнаў; у сем раз вырасла комуністычная партыя, вырас яе ўплыў на шырокія масы працоўных, а, стала быць, працоўныя масы сталі сільней у барацьбе з фашызмам.

**У ЗША** антыфашысцкі рух змятае са шляху фашысцкіх дэмагогаў накшталт пастара Кофліна; з рэакцыйнай Амерыканскай федэрацыі працы выдзяляецца левае крыло, так званы Камітэт вытворчых профсаюзаў, які ўзначальвае пераход большай часткі амерыканскага рабочага руху на пазіцыі класавай барацьбы; скарыстоўваючы палепшанні эканамічнай кан'юнктуры, рабочы клас праводзіць рад вялікіх стачак, якія закончыліся ў большасці выпадкаў перамогай рабочых. Бастуе 1 мільён тэкстыльшчыкаў, 400 тыс. гарнякоў, бастуюць рабочыя іншых галін вытворчасці; аб'яўляюць дэманстратыўную забастоўку супроць надыходзячай вайны паўмільёна навучаючыхся;

расце дэмакратычны рух, які атрымлівае велізарную перамогу на прэзідэнцкіх выбарах. На хвалі гэтага руху расце комуністычная партыя ЗША.

У **Іспаніі** ў рэзультаце астурыйскіх узброеных баёў, выклікаўшых масавыя стачкі і велізарныя дэманстрацыі, падае ўрад Леруса-Хіль Роблеса. Народны фронт атрымлівае 16 лютага 1936 г. буйную перамогу на выбарах.

**У Англіі,** Галандыі, Бельгіі, Румыніі прэтэндэнты ў фашысцкія дыктатары, усе гэтыя Мослі, Мусерты, Дэгрэлі, Кадрэану імкліва коцяцца ўніз.

У Мексіцы, Кубе, Чылі перамагае дэмакратычны рух, стварающца масавыя профсаюзы: каля 800 тыс. рабочых аб'ядноўвае мексіканская Канфедэрацыя працы, 400 тыс. кубінская, 200 тыс. Канфедэрацыя Чылі.

**У Кітаі** бурна нарастае рух народных мас за свабоду, незалежнасць і аб'яднанне Кітая, за ўстанаўленне ў ім дэмакратычных парадкаў, за яго эканамічнае, палітычнае і нацыянальнае адраджэнне.

**У Індыі** развіваецца стачачны рух. Адна толькі трохмесячная стачка джутавых рабочых у Бенгаліі ахапляе 225 тыс., мацнее агульнанацыянальны рух супроць рэакцыйнай канстытуцыі 1935 г.; за два годы 1937—1938 павялічваецца лік членаў нацыянальнага кангрэса з 630 тыс. да 4 мільёнаў.

Ва французскіх калоніях—Індакітаі, Алжыры, Тунісе, Сірыі ў рэзультаце перамогі народнага фронта ва Францыі працоўныя масы гэтых каланіяльных краін дабіваюцца некаторых дэмакратычных свабод. Тут таксама, як і ў Індыі, складваецца агульнанацыянальны фронт барацьбы супроць імперыялістычнага прыгнечання.

Рэакцыйная буржуазія, запалоханая размахам антыфашысцкага руху, аказвае шалёнае супраціўленне развіццю адзінага рабочага і народнага фронта. Ва Францыі сабатажам вытворчасці, вывазам капіталаў і золата за граніцу, штучным уздуваннем цэн, ігрой на абесцаненні франка яна хоча дыскрэдытаваць народны фронт і рыхтуе капітуляцыю ўрада, які карыстаўся падтрыманнем народнага фронта. У Іспаніі памешчыкі, пакідаючы незасеянымі землі, рыхтуюць голад, банкіры і капіталісты арганізуюць гаспадарчую разруху, генералы падрыхтоўваюць мяцеж, каб пакончыць з народным фронтам. У Кітаі японскія агенты стараюцца натравіць Гаміндан на кітайскія советы, распальваюць усімі сродкамі міжусобную вайну, каб узарваць ва што-б то ні стала складваючыйся агульнанацыянальны фронт.

Аднак усё ясней становіцца, што рэакцыя не здольна сваімі ўнутранымі сіламі справіцца ні з народным фронтам Францыі, Іспаніі, ні сарваць нацыянальна-вызваленчы рух кітайскага народа. Ёй на дапамогу прыходзіць сусветная рэакцыя. Рэакцыйныя кругі англійскай буржуазіі аказваюць страшэннае даўленне на ўнутраную і знешнюю палітыку Францыі, каб накіраваць яе па жаданаму для

гэтых кругоў руслу. У Іспаніі германскі і італьянскі фашызм пераходзіць да адкрытай узброенай інтэрвенцыі. На Далёкім Усходзе японская ваеншчына пачынае вялікую вайну супроць кітайскага народа.

Народы, якія падвергліся агрэсіі, даюць узброены адпор. Пачынаецца паласа гераічнай барацьбы іспанскага і кітайскага народаў супроць уторгшыхся іншаземных захватчыкаў. Гэтая барацьба—самая буйная падзея ў жыцці народаў пасля Вялікай Соцыялістычнай Рэволюцыі і яе грандыёзных перамог, пасля рэволюцыйных рухаў 1918—1923 гг. у Еўропе. Значэнне гэтай барацьбы велізарнае. Яна скоўвае сілы агрэсараў, стрымлівае далейшае расшырэнне другой імперыялістычнай вайны, аблягчае барацьбу міжнароднага пралетарыята супроць яго эксплуатататараў, аказвае дапамогу антыфашысцкаму руху ва ўсіх краінах.

Падрыхтоўваючы генеральскі мяцеж у Іспаніі, германскія і італьянскія фашысты разлічвалі на лёгкую і быструю перамогу. Яны думалі, што ў Іспаніі можна паўтарыць аперэтачны паход на Рым 1922 г. Яны думалі, што гэта будзе чарговы ваенны путч, якіх было нямала ў гісторыі Іспаніі, які закончыцца ў адну ноч перамогай генерала, лезучага на п'едэстал фашысцкага дыктатара. Сваёй гераічнай барацьбой іспанскі народ паказаў, што часы лёгкіх для фашызма перамог праходзяць. Інтэрвенцыя ў Іспаніі каштавала германскаму і італьянскаму фашызму каля аднаго мільярда амерыканскіх доллараў, велізарнай траты ваенных матэрыялаў, значных страт людскіх рэзерваў і абучанага кадравага састава іх армій.

Амаль тры годы малаўзброены іспанскі народ, прэданы так званымі буржуазна-дэмакратычнымі дзяржавамі, вядзе няроўную гераічную барацьбу за сваю незалежнасць, за справу ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва. **(Апладысменты).** Ён вёў гэтую барацьбу супроць ваеннай інтэрвенцыі двух буйных імперыялістычных дзяржаў, фашысцкай Італіі і Германіі, і супроць скрытай інтэрвенцыі сусветнай рэакцыі, праводзіўшай блакаду Іспанскай рэспублікі пад крывадушным лозунгам «палітыкі неўмяшання»—у Еўропе, і палітыкі «ізаляцыянізма»—у Амерыцы.

Рэспубліцы прышлося пераадалець за гэты час неймаверныя труднасці. У рэспубліке не было арміі. Пад агнём ворага яна стварыла народную армію, якая ўпісала ў гісторыю нацыянальна-рэволюцыйнай вайны іспанскага народа такія старонкі, як баі ля Мадрыда, ля Гвадалахары, ля Харамы, на Эбро. У рэспубліке не было камандных кадраў. У працэсе барацьбы былі выкаваны тысячы жалезных камандзіраў і слаўных паліткамісараў; падняліся з глыбіні народа такія людзі, як Мадэсто і Лістэр, імёны якіх вымаўляюць з любоўю і павагай кожны чэсны антыфашыст і з нянавісцю ўсе ворагі іспанскага народа. У рэспубліке не было ваеннай прамысловасці. Яна будавала яе нахаду. Старыкі і падросткі, іспанскія мацеры і дзяўчаты ўклалі

ўсю сваю душу ў гэтую справу. У рэспубліці не было фартыфікацый, іспанскі народ браў у рукі кірку і ўмацоўваў фронты рэспубліканскіх армій.

Як сталася цуда, што Іспанская рэспубліка, на адносна невялікім поўвостраве, магла ўтрымацца столькі часу ва ўмовах блакады, велізарнай перавагі праціўніка ва ўзбраенні? Цуда гэтае стала магчымым таму, што было ўстаноўлена адзінства дзеянняў рабочага класа, што быў выкаван цесны саюз рабочага класа з сялянствам, таму, што народныя масы Іспаніі былі аб'яднаны антыфашысцкім народным фронтам, таму, што гэты фронт быў сцэментаваны выраслай у буйную палітычную сілу комуністычнай партыяй, таму, што іспанскі народ карыстаўся міжнародным падтрыманнем працоўных і перш за ўсё палітычным падтрыманнем народаў СССР і бацькі ўсіх працоўных—таварыша Сталіна. **(Бурныя апладысменты).**

На працягу амаль трох год барацьба іспанскага народа стаяла ў цэнтры ўвагі ўсяго свету. Яна выклікала захапленне ўсюды сярод мільёнаў працоўнага люду і лютую злобу ў сусветнай рэакцыі. Сваім прыкладам іспанскі народ клікаў усе іншыя народы да супраціўлення фашысцкім зачыншчыкам вайны, садзейнічаў згуртаванню сіл міру і свабоды ва ўсіх капіталістычных краінах. Вакол рэспубліканскай Іспаніі стварыўся шырокі масавы рух салідарнасці, які ахапляе амаль усе краіны свету. Гэта самы магутны рух салідарнасці працоўных з часу імперыялістычнай інтэрвенцыі супроць Краіны Советаў. Ён набывае match розн разнастайныя формы, пачынаючы ад збору грошай, масавых мітынгаў і дэманстрацый, стварэння камітэтаў абароны Іспаніі аж да палітычных стачак і фарміравання дабравольніцкіх атрадаў. Небывалыя па сваіх размерах дэманстрацыі адбываюцца ў краінах Лацінскай Амерыкі; у далёкай Індыі праводзіцца ўсенародны дзень салідарнасці з рэспубліканскай Іспаніяй.

Рух салідарнасці з іспанскім народам прарываецца ў фашысцкія краіны. У Італіі антыфашысты праводзяць тайныя зборы, выдаюць тысячы лістовак, пішуць па начах антыфашысцкія надпісы на дамах; учашчаюцца выпадкі актаў сабатажа на ваенных заводах, выпадкі адмовы салдат ехаць ваяваць супроць рэспубліканскай Іспаніі.

Ва ўсіх краінах гэты рух салідарнасці перарастае ў барацьбу працоўных супроць фашызма ў іх уласнай краіне, у міжнародную барацьбу антыфашысцкіх сіл супроць сусветнай рэакцыі. Дапамога рэспубліканскай Іспаніі—гэта платформа для стыхійна складваючагася міжнароднага адзінага рабочага фронта.

На другім канцы зямлі найвялікшы ў свеце 450-мільённы народ велізарнай краіны, які заўсёды гнулі да зямлі, білі, грабілі і ўніжалі імперыялістычныя разбойнікі, падняўся на абарону сваёй краіны і сваёй нацыянальнай незалежнасці. Вайна ў Кітаі—гэта самая буйная нацыянальна-вызваленчая вайна поўкаланіяльнай краіны, якую ведае гісторыя. Яна мае тым большае значэнне, што яна вядзецца кітай-

скім народам супроць імперыялістычнай дзяржавы, якая адыгрывае ролю жандарма ўсёй сусветнай рэакцыі на Далёкім Усходзе. У ходзе гэтай барацьбы кітайскі народ пакончыў з раздзіраючай краіну міжусобіцай і выкоўвае агульнанацыянальнае адзінства, чаго больш за ўсё баяліся заўсёды імперыялісты. Вайна Кітая супроць японскага імперыялізма набывае ўсё больш характар усенароднай вайны. Не гледзячы на ваеннатэхнічную перавагу Японіі, кітайскі народ аказвае ўпорнае супраціўленне ворагу, б'е яго з тылу, абвалаквае яго партызанскімі атрадамі, разбурае японскія камунікацыйныя лініі, аслабляе і падрывае сілы ворага **зацяжной вайной.**

Два з палавінай мільярда амерыканскіх долараў абышлася Японіі яе вайна супроць Кітая, але гаспадаром Кітая японская фашысцкая ваеншчына не стала. Японскія войскі трымаюць лінію чыгунак і гарадскія цэнтры, але велізарная тэрыторыя краіны, з насяляючым яе кітайскім народам, прадаўжае знаходзіцца пад уладай нацыянальнага кітайскага ўрада. У тылу ў японскіх акупантаў упраўляе кітайская адміністрацыя, дзейнічаюць кітайскія законы, праводзіцца мабілізацыя ў кітайскую нацыянальную армію. З вуснаў у вусны перадаецца лозунг нацыянальнай вайны: «Падзе ў баі бацька, сын стане на яго месца, брат зменіць загінуўшага брата, жонка зменіць забітага мужа».

Упорнае супраціўленне кітайскага народа ўсё больш рэволюцыянізіруе працоўныя масы Японіі, якія пакутуюць пад гнётам бяспраўя, жудаснай эксплаатацыі, непасільным цяжарам падаткаў. Затрудненні японскай ваеншчыны ўзмацняюць рост апазіцыйных настрояў ва ўсіх слаях народа і абвастраюць супярэчнасці нават у лагеры пануючых класаў. Нарастае стачачны рух, расце нездаволенне японскіх працоўных мас зацягваючайся вайной. Змучаныя бесперапыннымі баямі, пастаўленыя тварам к твару з народам, які абараняе сваю краіну, японскія салдаты пачынаюць траціць цярпенне. Усё часцей праяўляюцца прызнакі бражэння ў арміі японскіх інтэрвентаў. Сваёй гераічнай барацьбой кітайскі народ разлагае не толькі японскую армію і японскі тыл, ён прыводзіць у рух народныя масы Азіі і будзіць усе каланіяльныя народы. Сваім прыкладам стварэння антыяпонскага нацыянальнага фронта ён укладвае ў рукі прыгнечаных каланіяльных народаў магутную зброю іх нацыянальнага вызвалення, зброю, праверaную на вопыце велізарнейшай краіны, на вопыце мільёнаў.

**«Вядома, геройская барацьба кітайскага народа і яго арміі супроць японскіх захватчыкаў, велізарны нацыянальны ўздым у Кітаі, каласальныя рэзервы людзей і тэрыторыі ў Кітаі, нарэшце, рашымасць кітайскага нацыянальнага ўрада давесці вызваленчую барацьбу Кітая да канца, да поўнага выгнання захватчыкаў з межаў Кітая,—усё гэта з бясспрэчнасцю гаворыць за тое, што ў японскіх імперыялістаў**

**няма і не можа быць будучыні ў Кітаі».** (Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс, стар. 318).

Але чым далей зацягвалася інтэрвенцыя ў Іспаніі і вайна ў Кітаі, тым неспакойней станавілася сусветная рэакцыя. Схватка паміж фашызмам і антыфашысцкімі сіламі пагражала скончыцца не ў карысць фашысцкіх агрэсараў. Узнімаўся ропат насельніцтва супроць ваенных авантур фашысцкіх урадаў. Усё часцей і больш адкрыта раздаюцца галасы ў масах: «Куды вядуць яны нас?». Усё больш ускрываецца ўнутраная ізаляцыя фашызма і звужэнне яго соцыяльнай базы. У Германіі расце абурэнне рабочых іх жахлівым матэрыяльным становішчам, увядзеннем 14-гадзіннага рабочага дня, іх бяспраўем, прымацаваннем іх як прыгонных да фабрыкі, расце нездаволенне сялян наглым умяшаннем фашысцкіх улад у іх гаспадарку, аграбленнем іх вялікімі і малымі «фюрэрамі»; нездаволена дробная буржуазія, якую фашысцкія заправілы свядома штурхаюць у бяздонне разарэння, каб атрымаць дзяшовую рабочую сілу, прыходзяць у рух каталіцкія масы, над якімі здзекуецца фашызм, расце апазіцыя ў радах рэйхсвера, які апасаецца паражэння ў падрыхтоўваемай фашызмам вайне, расце абурэнне германскага народа супроць хабарніцтва, раскраданняў, самавольства карумпіраванай фашысцкай бюракратыі. Гестапо адказвае на гэту хвалю нездаволення новымі зверскімі рэпрэсіямі, плахай і сякерай, яўрэйскімі пагромамі, якія ўваскрашаюць змрочныя часы сярэдневякоўя. Начальнік гестапо Гімлер патрабуе ўзмацнення ахранных атрадаў, каб разгарнуць барацьбу на «ўнутраным тэатры ваенных дзеянняў».

Стараючыся дапамагчы германскаму фашызму выйсці з унутраных затрудненняў, умацаваць яго пазіцыі ў барацьбе супроць антыфашысцкіх сіл, англійскія рэакцыянеры прапускаюць яго ў Аўстрыю, услужліва адчыняюць яму дзверы ў Чэха-Славакію. Падрыхтоўваючы Мюнхен, яны давяць разам з французскімі рэакцыянерамі на чэхаславацкі ўрад, патрабуючы, каб ён капітуліраваў і дзейнічаў «па-аўстрыйску». Чэшскі народ, яго армія хочуць дзейнічаць па-іспанску. Частковая мабілізацыя ва Францыі і Англіі, праведзеная з мэтай абману мас, выліваецца ў дэманстрацыю антыфашысцкіх настрояў, у той час як у Германіі мабілізацыя выяўляе наяўнасць у самых шырокіх слаях народа абурэння супроць фашысцкіх правіцеляў, як сапраўдных падпальшчыкаў вайны.

Мюнхенская здзелка, прыносячы ў афяру германскаму фашызму Чэха-Славакію, была змовай рэакцыі супроць міжнароднага рабочага класа, супроць антыфашысцкага руху ўсіх краін, супроць міру і свабоды ўсіх народаў. Яна была змовай супроць Іспанскай рэспублікі. Захват інтэрвентамі Каталоніі—прамы вынік Мюнхена. Гэты захват рыхтавалі не толькі ў Рыме і Берліне, але і ў Лондане і ў Парыжы. Усе ў свеце ведалі, што дабіўшыся капітуляцыі Прагі, мюнхенцы абрушацца на рэспубліканскую Іспанію. Мюнхен ·развязаў

цалкам і поўнасцю рукі германскаму і італьянскаму фашызму ў справе інтэрвенцыі ў Іспаніі.

Пасля захвату італа-германскімі інтэрвентамі Каталоніі англа-французскія рэакцыянеры скінулі маску. Ад скрытай інтэрвенцыі яны перайшлі да інтэрвенцыі адкрытай. Выконваючы заказ Берліна і Рыма, яны паспяшылі прызнаць Франко. Яны арганізавалі здрадніцкую аперацыю з перадачай ваенна-марской базы вострава Мінорка італагерманскім інтэрвентам. Французскія рэакцыянеры, якія сістэматычна адмаўляліся перадаць законнаму рэспубліканскаму ўраду Іспаніі залаты запас, што знаходзіцца ва Францыі, угодліва працягнулі яго стаўленіку сусветнай рэакцыі Франко. Англійскія банкіры са згоды кансерватыўных кругоў Англіі выказалі гатоўнасць прадаставіць іспанскім мяцежнікам пазыку, каб пакрыць расходы германа-італьянскай інтэрвенцыі і выратаваць іспанскіх фашыстаў ад крушэння іх унутранага рэжыма. Мала таго, англа-французская рэакцыя арганізавала пры дапамозе здрадніцкіх элементаў унутры Іспаніі контррэвалюцыйны пераварот у Мадрыдзе і Картахене, каб у самы цяжкі момант барацьбы іспанскага народа сарваць яго супраціўленне інтэрвентам.

Але не ўдасца сусветнай рэакцыі паставіць на калені іспанскі народ. Толькі вар'ят можа думаць, што гэты горды і свабодалюбівы народ памірыцца з каланіяльнай залежнасцю яго краіны, якую рыхтуе яму сусветная рэакцыя, што ён паслухмяна сагне спіну перад здраднікам, авантурыстам і агентам чужаземнага фашызма Франко. На спіне іспанскага народа не ўтрымаліся, не гледзячы на ўсё падтрыманне сусветнай рэакцыі, ні каралі, ні дыктатары, ні Альфонсы, ні Прыма дэ Рывера. Як-жа можа ўтрымацца ізверг, які разбураў германскай артылерыяй іспанскія гарады і паселішчы, забіваў італьянскімі бомбамі тысячы іспанскіх жанчын і дзяцей, кат, які заліў крывёй Іспанію, адвергнуты і пракляты іспанскім народам?

**(Голас з месца: «Правільна». Апладысменты).**

Сусветнай рэакцыі не ўдасца выкрасліць з сазнання іспанскага народа яго амаль трохгадовай гераічнай барацьбы супроць іншаземных заваявальнікаў. Гэты народ ведаў лепшыя дні. Ён трымаў зброю ў сваіх руках. Ён сеяў землі памешчыкаў, ён сам арганізоўваў вытворчасць на фабрыках і заводах, ён пазнаў свабоднае жыццё. Такі народ ніколі не будзе лакароны. **(Бурныя апладысменты).** Яго афяры акупяцца старыцай. У сазнанні працоўных яны лягуць незмываемай, вечнай ганьбай не толькі на фашысцкія ўрады, але і на іх англійскіх і французскіх пасобнікаў, на ўсе эксплуататарскія класы, узнімуць буру нянавісці народаў супроць іх,ператвораць рэвалюцыйнае абурэнне мас у вялікія рэвалюцыйныя справы народаў. Няхай не думаюць французскія рэакцыянеры, што пры дапамозе сваёй здрадніцкай палітыкі ў адносінах рэспубліканскай Іспаніі яны пакончаць з рабочым і антыфашысцкім рухам ва Францыі. Верна, што

гэтай гнуснай палітыкай яны падбадзёрылі ўсіх праціўнікаў народнага фронта. Вылезлі на паверхню агенты буржуазіі, якія прабраліся ў рады народнага фронта, з тым, каб узарваць яго знутры. Паднялі галаву ўсе капітулянцкія элементы, прыгнаныя хваляй рэволюцыйнага руху да антыфашысцкага берагу. Усе гэтыя ворагі народнага фронта распаясаліся. Яны страляюць у комуністаў у Мадрыдзе, яны патрабуюць зрыву адзінага рабочага фронта ва Францыі, яны дабіваюцца ліквідацыі руху народнага фронта ў іншых краінах. Ачышчэнне антыфашысцкага руху ад гэтага здрадніцкага капітулянцкага накіпу толькі ўмацуе яго і зробіць больш боездольным.

Здрадніцкая палітыка мюнхенцаў прыводзіць у рух тыя слаі, якія стаялі да гэтага часу па-за палітычнай барацьбой, служыць выходным пунктам больш шырокай, чым народны фронт, канцэнтрацыі сіл супроць сусветнай рэакцыі, дае штуршок для новага ўздыму антыфашысцкага руху ва ўсім свеце і перш за ўсё ў Англіі, паскарае выспяванне ідэі штурму капіталізма ў масах.

Але ці можна было, таварышы, сарваць змову сусветнай рэакцыі супроць Іспанскай рэспублікі? Несумненна гэта было магчыма. Гэта было-б магчыма, калі-б міжнародны пролетарыят з самага пачатку нацыянальна-рэволюцыйнай вайны іспанскага народа аб'яднаў свае сілы, калі-б кіраўніцтва II Інтэрнацыянала прыняла прапанову Комуністычнага Інтэрнацыянала аб устанаўленні адзінства дзеянняў для барацьбы супроць наступлення капітала, фашызма і імперыялістычных войн.

Сваю прапанову аб адзінстве дзеянняў Выканаўчы Камітэт Комуністычнага Інтэрнацыянала рабіў дзесяць раз за прайшоўшае пяцігоддзе. Што адказвалі нам рэакцыйныя лідэры Соцыялістычнага Інтэрнацыянала? Яны адказвалі, што для міжнароднага адзінства дзеянняў неабходна папярэдняе ажыццяўленне адзінага фронта па асобных краінах. Секцыі Комінтэрна звярталіся да асобных соцыял-дэмакратычных партый, лідэры гэтых партый адказвалі, што спачатку трэба дабіцца пагаднення ў міжнародным маштабе. У разгар астурыйскіх баёў лідэры II Інтэрнацыянала цынічна прапанавалі Комінтэрну пачакаць некалькі месяцаў, калі збярэцца іх Выканком. Выканком сабіраўся, большасць секцый яго галасавала за міжнароднае адзінства дзеянняў, але супроць адзінства дзеянняў былі англійскія лейбарысты. І большасць падпарадкоўвалася волі Сітрыных і Марысонаў, падпарадкоўвалася волі стаяўшай за іх спіной англійскай рэакцыйнай буржуазіі.

А, між тым, аб'яднаўшы свае сілы, міжнародны пролетарыят мог дабіцца адкрыцця граніц рэспубліканскай Іспаніі, не дапусціць яе блакады, дапамагчы атрымаць перамогу іспанскаму народу, тым самым прадухіліць акупацыю Аўстрыі, расчляненне Чэха-Славакіі, сарваць самую магчымасць мюнхенскай змовы. Ён мог дабіцца паражэння італьянскага фашызма ў Абісініі, прымусіць буржуазныя

ўрады правесці на справе дэклярыраваныя Лігай нацый санкцыі. Ён мог падняць сусветную грамадскую думку супроць Японіі, мог сарваць снабжэнне Японіі сыравінай, узбраеннем, загнаць японскую ваеншчыну ў тупік. Але гэтага не хацелі капітулянты з II Інтэрнацыянала, бо яны баяцца больш перамогі народнага фронта, чым перамогі фашызма.

Ці можна яшчэ перашкодзіць далейшаму разгортванню другой імперыялістычнай вайны і нанесці паражэнне фашызму? Можна, хоць гэта цяпер трудней, чым было раней.

Што трэба цяпер для таго, каб нанесці паражэнне фашысцкім агрэсарам?

Па-першае, патрэбна рашучая барацьба супроць капітулянтаў, аж да іх поўнага выкрыцця, іх ізаляцыі і разгрому. Капітулянты не толькі згоднікі з буржуазіяй, гэта згоднікі з найбольш рэакцыйнай часткай буржуазіі, згоднікі з фашызмам. Капітулянты—гэта фашысцкая агентура ў рабочым руху, якая выступае ў мэтах абману мас пад маскай «пацыфізма». Рэакцыйныя лідэры соцыял-дэмакратыі падвялі ў 1933 г. народныя масы Германіі пад сякеру фашысцкай дыктатуры, абманваючы масы тым, што яны выратоўваюць іх ад грамадзянскай вайны. Цяперашнія капітулянты дапамагаюць буржуазіі ўцягнуць народы ў імперыялістычныя войны, запэўніваючы, што яны выратоўваюць справу міру, выратоўваюць народы ад войн. Яны рыхтуюць войны пры дапамозе тых-жа прыёмаў, да якіх звярталіся яны, падрыхтоўваючы ўстанаўленне фашысцкай дыктатуры. У імя захавання «міру» яны клічуць народы да адступлення перад фашысцкімі агрэсарамі. Падобна Отто Бауэру, яны здаюць фашызму адну пазіцыю за другой, пагражаючы пры гэтым, што яны «возьмуцца за зброю тады, калі на іх нападуць». А пакуль яны аддаюць германскаму фашызму Аўстрыю, Судэцкую вобласць, Чэха-Славакію, дазваляюць яму ўмацавацца ў Прыдунайскім басейне і на Балканах, аддаюць на разарванне інтэрвентам Іспанію, здаюць фашысцкім агрэсарам усе падходныя шляхі для нападу на іншыя народы.

Яны прабуюць дэмаралізаваць народныя масы подлым здрадніцкім лозунгам: «Лепш рабства, чым вайна». Але народы ведаюць, што рабоў імперыялістычныя драпежнікі ператвараюць у гарматнае мяса для сваіх грабежніцкіх войн; рабы не пазбягаюць войн, яны ўдзельнічаюць у іх на старане сваіх прыгнятальнікаў, удзельнічаюць як каты незалежнасці іншых народаў.

Англа-французскія капітулянты мараць аб тым, каб павярнуць германскі фашызм на Усход. На мове гэтых паноў гэта называецца таксама захаваннем міру. Але мы ведаем, што германскі фашызм не любіць непраходных дарог з непераадалімымі перашкодамі, ён лічыць за лепшае ісці туды, дзе лягчэй прайсці, дзе капітуліруюць перад фашызмам.

Капітулянты краін нейтральных, як, напрыклад, Скандынавіі, збі-

раюцца адсядзецца ад вайны ў бэсце «нейтральнасці», дапамагаючы сваёй буржуазіі нажывацца, як у 1914—18 гг., на ваенных пастаўках. Але цяпер іншыя часы. Цяпер фашысцкія агрэсары не пакінуць у спакоі ні адну суседнюю дзяржаву, пакуль не ўцягнуць яе ў арбіту сваіх ваенных авантур, пакуль не перакрояць яе граніц у інтарэсах «арыйскай расы».

Капітулянты запалохваюць масы тым, што народны фронт правацыруе фашыстаў на напад. Але ўтварэнне народнага фронта азначае супраціўленне фашысцкім агрэсарам. Не супраціўленне распальвае апетыты фашыстаў, а адсутнасць яго.

Капітулянты нашэптваюць масам: «Глядзіце на велізарныя афяры Іспаніі, ці не лепш здацца без барацьбы, як Чэха-Славакія». Але калі-б народы пайшлі на гэты згубны заклік, фашызм быў-бы цяпер гаспадаром у Еўропе. Калі-б Іспанія пайшла па шляху Чэха-Славакіі, сёння іншыя народы, і перш за ўсё французскі народ, былі-б ужо аб'ектам фашысцкай агрэсіі.

Па-другое, для таго, каб нанесці паражэнне фашысцкім агрэсарам, патрэбны **дзеянні,** падмацаваныя аргументамі **матэрыяльнай сілы,** дзеянні дзяржаў, супроць якіх па сутнасці накіравана фашысцкая агрэсія (Францыя, Англія, ЗША). Сусветная рэакцыя свядома стварае легенду аб магутнасці германскага фашызма, каб аслабіць волю народных мас да супраціўлення. Для вялікай сур'ёзнай вайны фашысцкая Германія не гатова: у яе няма дастаткова сыравіны, прадавольствія, яе фінансавае становішча крытычнае, яе берагі ўязвімы для марской блакады, у яе арміі недахватка каманднага састава, яе тыл—небяспечны для фашызма тыл. Перавагі матэрыяльнай сілы несумненна на старане так званых дэмакратычных дзяржаў. Гэтыя дзяржавы маюць насельніцтва ў **тры** разы больш, чым блок агрэсараў, вытвараюць сталі ў $1^1/_2$—2 разы больш, выпрацоўваюць у **два** разы больш электраэнергіі, выпускаюць у **чатырнаццаць** раз больш аўтамабіляў, здабываюць у **пяцьдзесят пяць** раз больш вадкага паліва, у **дзевяць** раз больш тэкстыльнай сыравіны, у **чатыры** разы больш прадавольствія; яны могуць пакрыць поўнасцю свае сыравінныя патрэбнасці, у той час, як блок агрэсараў мае нават у мірны час дэфіцыт у размеры 50—55%; іх наяўныя залатыя запасы ў **сорак дзевяць** разоў перавышаюць залатыя рэзервы фашысцкіх дзяржаў. Іх вытворчыя магчымасці ў самалётабудаўніцтве, матарызацыі арміі, яе ваенна-тэхнічнай аснашчонасці далёка перавышаюць самыя смелыя разлікі фашысцкага блока; марскі флот Францыі, Англіі і ЗША ў **два** разы сільней, чым флот Германіі, Італіі і Японіі.

Цвёрдая палітыка адпору так званых дэмакратычных дзяржаў фашысцкім агрэсарам, камбініраваная з **эканамічным даўленнем,** была-б дастаткова дзейсным сродкам, каб прымусіць адступіць фашысцкія дзяржавы. Такая палітыка была-б сапраўднай палітыкай міру. Яна была-б падтрымана ўсімі народамі. Яна-б зноў павярнула на старану

Францыі, Англіі і ЗША малыя дзяржавы, павергнутыя зараз мюнхенскім курсам у стан разгубленасці. Гэта была-б палітыка ўмацавання дэмакратычных заваяванняў народаў, якую падтрымаў-бы міжнародны рабочы клас.

Але для таго, каб дабіцца такога павароту ў палітыцы так званых дэмакратычных дзяржаў, неабходна прывядзенне ў дзеянне рабочым класам таксама сілы **матэрыяльнага даўлення** на буржуазныя ўрады. Зброя, якой уладае рабочы клас,—гэта стачкі, масавыя дэманстрацыі, гэта народны рух супроць грабежніцкіх войн. Прымяненне гэтай зброі дасць тым большыя рэзультаты, чым хутчэй рабочы клас установіць міжнароднае адзінства дзеянняў. Для барацьбы з грабежніцкімі войнамі патрэбны сумесныя дзеянні пралетарыяў усіх краін.

# III. Комуністычны рух у капіталістычных краінах.

## А) Некаторыя пытанні тактыкі компартый.

Пераходжу да трэцяй часткі свайго даклада, прысвечанай становішчу міжнароднага комуністычнага руху. Спачатку некалькі заўваг аб некаторых пытаннях тактыкі компартый.

Абстаноўка другой імперыялістычнай вайны не тая, што была ў часе першай імперыялістычнай вайны 1914—18 гг. Цяпер, у адрозненне ад 1914—18 гг., свет расколат на дзве процілеглыя сістэмы: свет капіталізма і свет соцыялізма. Цяпер існуюць не толькі імперыялістычныя дзяржавы, але і імперыялістычныя дзяржавы, якія ўстанавілі ў сябе фашысцкі рэжым, якія імкнуцца навязаць яго сілай зброі іншым народам і выступаюць у якасці зачыншчыкаў грабежніцкіх войн.

**«Адметная рыса другой імперыялістычнай вайны заключаецца пакуль што ў тым, што яе вядуць і разгортваюць агрэсіўныя дзяржавы, у той час як іншыя дзяржавы, «дэмакратычныя» дзяржавы, супроць якіх уласна і накіравана вайна, робяць выгляд, што вайна іх не датычыць, умываюць рукі, пяцяцца назад, усхваляюць сваё міралюб'е, ругаюць фашысцкіх агрэсараў і... здаюць памаленьку свае пазіцыі агрэсарам, запэўніваючы пры гэтым, што яны рыхтуюцца да адпору»** (Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс, стар. 318—319).

Фашысцкія дзяржавы пачалі раздзел Еўропы, пры дапамозе насілля «самавызначаюць» малыя нацыі, ставяць пытанне аб перадзеле калоній.

У гэтай новай абстаноўцы комуністам прыходзіцца вызначыць сваю пазіцыю ў адносінах цяперашніх войн, у адносінах каланіяльных прэтэнзій фашысцкіх дзяржаў і да спроб эксплаатацыі фашысцкімі дэмагогамі лозунга «нацыянальнага самавызначэння».

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», у згодзе з вучэннем марксізма-ленінізма, падзяляе войны на справядлівыя і несправядлівыя:

«а) **вайна справядлівая, незахватніцкая, вызваленчая, якая мае на мэце або абарону народа ад знешняга нападу і спроб яго заняволення, або вызваленне народа ад рабства капіталізма, або, нарэшце, вызваленне калоній і залежных краін ад гнёту імперыялістаў, і**

б) **вайна несправядлівая, захватніцкая, якая мае на мэце захват і заняволенне чужых краін, чужых народаў»** (Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс, стар. 161).

Гэтае ўказанне—пуцяводная ніць для комуністаў **пры вызначэнні пазіцый рабочага класа і працоўных у адносінах да кожнай канкрэтнай вайны.** Гэта значыць, што працоўныя будуць падтрымліваць справядлівую вайну кожнага народа за яго нацыянальную незалежнасць супроць імперыялістычных драпежнікаў. Яны будуць падтрымліваць вайну, якая садзейнічае хутчэйшаму паражэнню сусветнай рэакцыі, яе ўдарнага кулака—Германіі, Японіі і Італіі. Яны будуць падтрымліваць вайну, паскараючую перамогу сусветнага пралетарыята, інтарэсы якога цалкам і поўнасцю супадаюць з інтарэсамі краіны перамогшага соцыялізма, бацькаўшчыны ўсіх працоўных.

Комуністы лічаць сваім пярвейшым абавязкам мабілізаваць працоўных усіх краін для аказання дапамогі народу, які вядзе справядлівую вайну, каб садзейнічаць усімі сродкамі перамозе гэтага народа.

Указанне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» аб справядлівых і несправядлівых войнах дазваляе комуністам намеціць чоткую **ленінска-сталінскую лінію ў адносінах разгараючайся барацьбы сярод імперыялістычных драпежнікаў за панаванне над каланіяльнымі народамі.**

Комуністы вядуць самую паслядоўную барацьбу супроць **усякага** прыгнечання і заняволення каланіяльных народаў імперыялістамі. Не іх справа абараняць існуючыя каланіяльныя імперыі. Тым больш яны непрымірыма варожы да каланіяльных прэтэнзій фашысцкіх дзяржаў, якія нясуць каланіяльным народам яшчэ горшае рабства. Комуністы падтрымліваюць рух у калоніях за стварэнне агульнанацыянальнага фронта барацьбы супроць імперыялістычнага гнёту і дабіваюцца ўстанаўлення адзінства дзеянняў рабочага класа метраполіі з прыгнечанымі народамі калоній. Яны патрабуюць у імперыялістычных урадаў так званых буржуазна-дэмакратычных дзяржаў неадкладнага радыкальнага палепшання матэрыяльнага становішча працоўных мас калоній, прадастаўлення калоніям шырокіх дэмакратычных правоў і свабод.

У той-жа час комуністы выкрываюць цынічны абман фашысцкіх падпальшчыкаў вайны, якія прабуюць скарыстаць нездаволенне ка-

ланіяльных мас у сваіх грабежніцкіх мэтах. Адстойваючы права каланіяльных народаў на самавызначэнне аж да аддзялення, комуністы, у адпаведнасці з вучэннем Леніна—Сталіна, само ажыццяўленне права на аддзяленне падпарадкоўваюць карэнным інтарэсам вызваленчай барацьбы саміх каланіяльных народаў, інтарэсам разгрому фашызма, гэтага злейшага ворага працоўных, і інтарэсам перамогі міжнароднага рабочага класа над яго эксплуататарамі.

Указанне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» дазваляе комуністам заняць таксама **правільную пазіцыю ў адносінах фашысцкай спекуляцыі лозунгам «нацыянальнага самавызначэння».** Фашысцкія падпальшчыкі вайны, падавіўшы свае ўласныя народы і занявольваючы чужыя народы, прабуюць зрабіць з дэмакратычнага лозунга «нацыянальнага самавызначэння» контррэволюцыйную зброю для ажыццяўлення сваіх агрэсіўных планаў. Крывадушна выступаючы ў масцы староннікаў нацыянальнага самавызначэння, яны стараюцца разлажыць многанацыянальныя капіталістычныя дзяржавы, якія ляжаць на шляху фашысцкай экспансіі, ператварыць малыя краіны ў плацдарм для наступлення на іншыя дзяржавы.

Паслядоўна змагаючыся супроць усіх форм нацыянальнага прыгнечання ў капіталістычных краінах, абараняючы права прыгнечаных нацый на самавызначэнне аж да аддзялення, заклікаючы прыгнечаныя нацыі на барацьбу за ўстанаўленне ўзаемаадносін на аснове вялікага вопыту сталінскага садружаства народаў СССР, комуністы ў цяперашняй канкрэтнай гістарычнай абстаноўцы сканцэнтроўваюць асноўны напрамак агню супроць фашысцкага падлога «самавызначэння нацый», як самага цынічнага абману прыгнечаных нацый і горшага злачынства супроць свабоды і незалежнасці народаў. Комуністы высоўваюць на першы план барацьбу за ажыццяўленне права на самавызначэнне народаў, заняволеных фашысцкімі дзяржавамі. Яны патрабуюць свабоднага самавызначэння Аўстрыі, насільственна захвачанай напярэдадні плебісцыта фашысцкай Германіяй, адторжанай ёю ад Чэха-Славакіі Судэцкай вобласці, свабоднага самавызначэння Карэі, Фармозы, Абісініі, ачышчэння Іспаніі і Кітая ад імперыялістычных захватчыкаў.

## Б) Становішча компартый.

Комуністычны Інтэрнацыянал налічваў у капіталістычных краінах к моманту XVII партыйнага з'езда 860.000 комуністаў. Сёння ён налічвае 1.200.000 чал. Лік комсамольцаў і прымыкаючых да КІМ'а маладых рэволюцыянераў вырас са 110.000 да 746.000 чал. У цэлым— гэта армія амаль у **два мільёны чалавек.**

Аднак гэтыя цыфры не даюць карціны сапраўднага арганізацыйнага становішча компартый. Ёсць дзесяткі тысяч комуністаў, працуючых самааддана ў падполлі, не ахопленых ніякім статыстычным учотам. Комуністы Кітая, пакінуўшыя ў 1935 г. совецкі раён

Цзянсі, прайшлі разам з Чырвонай арміяй 12 тыс. кілометраў, вядучы па дарозе вялікую палітычную работу ў масах. Створаныя імі ячэйкі жывуць, дзейнічаюць, змагаюцца, хоць нідзе і не зарэгістраваны.

У нашу статыстыку не ўваходзяць дзесяткі тысяч комуністаў, якія пакутуюць у турмах і канцэнтрацыйных лагерах. Усе секцыі Комуністычнага Інтэрнацыянала акружаны рабочым актывам, які вядзе работу па дырэктывах партыі, колькаснасць якога ў некалькі раз перавышае лік членаў партыі.

Апрача гэтага актыва ў компартыі ёсць больш шырокая перыферыя рабочых, якія адданы компартыі, вераць ёй і падтрымліваюць яе. Бельгійская компартыя невялікая, яна налічвае ўсяго 7 тысяч членаў, але на апошніх муніцыпальных выбарах яна сабрала 160 тыс. галасоў; галандская компартыя налічвае 10 тыс. членаў, але за яе галасавалі 137 тыс. чалавек. Аналізуючы вынікі выбараў і іншыя паказальнікі ўплыву компартый, можна зрабіць вывад, што кожны комуніст вядзе за сабой, па крайняй меры, ад 15 да 20 рабочых і працоўных.

Вырас уплыў комуністаў у профсаюзным руху; у радзе краін комуністы заваявалі сваёй самаадданай работай давер'е членскай масы профсаюзаў, якая вылучыла іх на кіруючыя пасты ў профсаюзным руху.

Аднак компартыі развіваліся ў прайшоўшым пяцігоддзі няроўнамерна ў розных краінах. Выраслі і ўзмацнелі тыя з іх, якія вялі і вядуць узброеную барацьбу супроць зладзейскага нападу на іх краіну, як іспанская і кітайская компартыі. Выраслі компартыі краін, дзе пролетарыят здолеў захаваць моцныя пазіцыі ў барацьбе з рэакцыяй, дзе яго барацьба была падтрымана сялянамі і дробным гарадскім людам, як, напрыклад, ва Францыі; выраслі компартыі, якія дзейнічаюць ва ўмовах больш ці менш легальнага існавання, дзе соцыял-дэмакратыя слаба, як, напрыклад, у ЗША і ва многіх краінах Лацінскай Амерыкі. Значна павольней раслі компартыі там, дзе соцыял-дэмакратыя сільна і дзе яе рэакцыйныя лідэры зрывалі адзінства дзеянняў рабочага класа і працоўных; мы маем на ўвазе Англію і Скандынаўскія краіны. Значна адсталі компартыі ў краінах, дзе рабочы рух задаўлен, у асаблівасці ў краінах таталітарнай фашысцкай дыктатуры.

Сярод комуністычных партый, вырасшых за справаздачны перыяд, адно з першых месц займае гераічная **компартыя Іспаніі,** партыя, якая моцна ўсвоіла мудрае ўказанне тав. Сталіна аб тым, што сапраўдныя большэвікі павінны быць «свабодны ад усякай панікі, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце вырысоўваецца якая-небудзь небяспека». Іспанская компартыя вырасла з 1931 да 1939 года з 800 чалавек у 300-тысячную магутную партыю, якая прайшла школу падполля, рэволюцыі, гра-

мадзянскай вайны, вайны супроць чужаземнай контррэволюцыйнай інтэрвенцыі. Яна з'яўляецца прыкладам сапраўднай народнай партыі, глыбокіх карэнняў якой у рабочых і сялянскіх масах не вырваць ніякім фашысцкім тэрорам.

КП Іспаніі заваявала сабе велізарны аўтарытэт ва ўсіх слаях народа сваёй правільнай палітыкай, якая ставіць у цэнтры ўсіх сваіх клопатаў і помыслаў **інтарэсы перамогі іспанскага народа** над яго ворагамі. Яна заваявала давер'е народа сваім беззаветным гераізмам. Народ бачыў, як яна кідалася ў самыя цяжкія мінуты ў самыя небяспечныя месцы. Яна першай пачынала бой і апошняй канчала яго. Народ палюбіў яе таму, што праверыў яе па яе большэвіцкіх справах. Яна вырасціла такіх выдатных людзей, такіх моцных сталінцаў, як Хозе Дыяс і Даларэс Ібаруры **(апладысменты)**, якімі гардзіцца ўвесь міжнародны комуністычны рух.

Другой секцыяй Комінтэрна, якая адыгрывае буйную ролю ў жыцці сваёй краіны і свайго народа, з'яўляецца **кітайская компартыя.** Яна налічвае зараз 148 тысяч членаў, звязана не толькі з рабочымі, але і з шырокімі сялянскімі масамі і мае таксама значны ўплыў сярод інтэлігенцыі, асабліва студэнцтва.

Компартыя Кітая—гэта ўзброеная частка кітайскага народа. Гэта партыя—загартаваная ў агні шматгадовай грамадзянскай і нацыянальна-вызваленчай вайны; яна накапіла ў мінулым вопыт совецкага руху і пабудовы совецкай улады, мае багаты вопыт арганізацыі шырокага партызанскага руху, такі каштоўны для цяперашняй нацыянальнай вайны ў Кітаі.

Яна ўладае высокім майстэрствам у справе разлажэння сіл ворага, уменнем пранікаць у глыбокі тыл яго і весці шырокую палітычную работу ў арміі праціўніка. Быстрэй за ўсё кітайская компартыя расце ў сучасны момант у раёнах, ахопленых партызанскім рухам, у тылу ў японцаў.

Яна дае прыклад упорства і гібкасці ў справе ўмацавання і развіцця нацыянальнага фронта, гэтай асноўнай умовы перамогі над японскімі імперыялістычнымі захватчыкамі. Сільнай стараной кітайскай компартыі з'яўляецца яе работа па падрыхтоўцы і вылучэнню новых кадраў. Лепшыя людзі кітайскай компартыі Мао Цзе-дун і Чжу-Дэ паспяхова спалучаюць у сабе якасці палітычных кіраўнікоў і таленавітых палкаводцаў. **(Апладысменты).**

**Компартыя Францыі** з'яўлялася застрэльшчыцай у барацьбе за антыфашысцкі народны фронт. Яна вырасла за пяць год з 40 тысяч членаў да 270 тысяч на сёнешні дзень. Тыраж цэнтральнага органа «Юманітэ» павялічыўся за гэты-ж перыяд з 120.000 да 350.000 экземпляраў; «Юманітэ» па велічыні тыража займае трэцяе месца сярод усіх газет Францыі, абагнаўшы дзесяткі буржуазных газет, накшталт «Тан», «Матэн» і інш. Тыраж правінцыяльнай прэсы компартыі дасягае 470 тысяч экземпляраў.

Колькасць галасоў, атрыманых партыяй на апошніх парламенцкіх выбарах у 1936 г., вырасла да паўтара мільёна, г. зн. на 90 проц. больш, чым на папярэдніх выбарах. У Парыжы і яго прыгарадах компартыя заваявала з 60-ці дэпутацкіх мандатаў 33 мандаты—абсалютную большасць. Яна—самая сільная партыя ў Парыжскай вобласці, у асаблівасці на буйнейшых заводах металаапрацоўчай прамысловасці. Сіла французскіх комуністаў заключаецца ў тым, што яны карыстаюцца вялікім давер'ем рабочай масы, якая ўваходзіць у профсаюзы. Гэтае давер'е яны заваявалі тым, што яны беззаветна змагаліся за аб'яднанне профсаюзаў, за іх умацаванне, за непасрэдныя патрабаванні працоўных. Развіваючы антыфашысцкі рух, КП Францыі апіралася на лепшыя рэволюцыйныя традыцыі свайго рабочага класа і свайго народа. Яна прарабіла велізарную работу для аказання дзейснай дапамогі Іспанскай рэспубліцы.

Значны зрух дасягнут **компартыяй ЗША.** Усямерна садзейнічаючы афармленню класавага руху пролетарыята і разрыву яго з буржуазнымі партыямі, яна вырасла з 20 тысяч членаў да 90 тысяч. Яна расла таму, што сваёй работай садзейнічала ўмацаванню вытворчых профсаюзаў, ахапляючых да 4 млн. членаў, таму, што вяла няспынную, цярплівую работу сярод трох з палавінай мільёнаў рабочых, прымыкаючых да рэакцыйнай Амерыканскай Федэрацыі Працы, за аднаўленне профсаюзнага адзінства на аснове класавай барацьбы. Партыя заваявала вялікі аўтарытэт сярод негрыцянскіх працоўных мас, а таксама сярод лепшых прадстаўнікоў амерыканскай інтэлігенцыі. Сваім удзелам у шырокім дэмакратычным руху і крытыкай яго палавінчатасці КП ЗША штурхала гэты рух на шлях больш паслядоўнай антыфашысцкай барацьбы. Адзін з істотных недахопаў партыі заключаецца ў тым, што яна яшчэ слаба звязана з фермерскімі масамі і з фермерскім рухам.

**Компартыя Англіі** дабілася пэўнага колькаснага росту сваіх радоў з 6 тысяч да 18 тысяч членаў; павялічыўся яе ўплыў у профсаюзах і ўнутры лейбарысцкай партыі. Прапанова компартыі Англіі аб уступленні ў лейбарысцкую партыю, хоць і была адвергнута лейбарысцкім кіраўніцтвам, была падтрымана 1.400 профсаюзнымі і лейбарысцкімі арганізацыямі на месцах. Яшчэ большы водгук знаходзіць яе кампанія за ўстанаўленне народнага фронта ў Англіі. Мемарандум Крыпса на карысць народнага фронта сабраў на працягу некалькіх дзён 250 тыс. подпісаў.

Але ўсё-ж, не гледзячы на гэтыя поспехі, англійская компартыя з'яўляецца адной з самых адстаючых секцый Комінтэрна, не здолеўшай праравацца да асноўных слаёў рабочага класа Англіі, які нясе велізарную адказнасць за тое, што палітыка англійскай рэакцыі ў справе блакады Іспанскай рэспублікі не была своечасова сарвана яго рухам.

Прасунуліся ўперад усе **легальныя компартыі** ў рэзультаце па-

лепшання іх работы ў профсаюзах, іх барацьбы за адзіны і народны фронт і іх актыўнасці ў справе дапамогі іспанскаму народу. Так, напрыклад, КП Канады вырасла з 8 тысяч да 18 тысяч, КП Кубы з 3 тыс. да 23 тыс., КП Мексікі з 2 тыс. да 30 тыс., КП Швецыі з 8 тыс. да 19 тыс., КП Даніі з 3 тыс. да 9 тыс. Выраслі некаторыя компартыі ў каланіяльных краінах там, дзе ім удалося актыўна ўключыцца ў рух агульнанацыянальнага антыімперыялістычнага фронта і адваяваць разам з масамі хоць-бы частачку дэмакратычных правоў і свабод. Нелегальнай стала за прайшоўшы перыяд компартыя Чэха-Славакіі, якая налічвала да пераходу ў падполле 60 тыс. членаў. Яна здолела захаваць свой актыў і асноўную членскую масу і ў сучасны момант ва ўмовах падполля.

Цяжкія ўдары нанесены былі комуністычнаму руху краін фашысцкай дыктатуры, асабліва ў Германіі, Японіі і Італіі. Буржуазія кідае дзесяткі тысяч комуністаў у турмы і канцлагеры, карае іх смерцю па суду і без суда, забівае з-за вугла. Яна апутвае рабочых сістэмай сыску ў дамах, дзе яны жывуць, на прадпрыемствах, дзе яны працуюць, у фашысцкіх арганізацыях, куды яна стараецца іх загнаць насільна. Супроць іх яна натраўлівае фашысцкую чэрнь, абвінавачваючы іх у дзяржаўнай «здрадзе».

Як працуюць комуністы ў гэтых краінах? Ва ўмовах таталітарнай фашысцкай дыктатуры ім трудна пабудаваць цэнтралізаваную зверху данізу партыйную арганізацыю. Яны ствараюць разгалінаваную сетку груп, якія складаюцца з людзей, даўно ведаючых адзін другога, звязаных узамі ўзаемнага давер'я. Такіх груп сотні. Яны добра законспіраваныя, рухомыя і гібкія. Іх трудна вылавіць паліцыі. Гэтыя групы развіваюць кіпучую дзейнасць у сваіх дамах, кварталах і раёнах. Комуністы працуюць далей на прадпрыемствах. Дзякуючы іх актыўнай рабоце, фашыстам не ўдалося заваяваць уплыву ні ў Германіі, ні ў Італіі на фабрыках і заводах. Комуністы, нарэшце, скарыстоўваюць для работы сярод працоўных масавыя фашысцкія арганізацыі.

Не гледзячы на тое, што правадыр партыі тав. Тэльман ужо шосты год пакутуе ў фашысцкай турме, не гледзячы на найцяжэйшыя ўмовы падполля, германская компартыя здолела захаваць сваю арганізацыю. Яна з'яўляецца адзінай антыфашысцкай партыяй, якая вядзе масавую палітычную работу ў Германіі. **(Бурныя апладысменты).**

Але, на жаль, партыя вельмі доўга жыла пад гіпнозам сваёй былой масавай сілы, разлічваючы на хуткае і лёгкае крушэнне фашысцкага рэжыма. Потым, калі яна перабудавалася, узяла курс на працяглую крапатлівую работу збірання пролетарскіх сіл і ўмацавання іх арганізацыі, некаторыя германскія комуністы ўпалі ў другую крайнасць. Яны недаўлічылі быстрых тэмпаў нарастання незадавлення мас фашысцкім рэжымам і былі засцігнуты знянацку ростам

антыфашысцкіх настрояў, якія наглядаюцца за апошнія месяцы ў Германіі.

**КП Японіі** мае традыцыю барацьбы супроць захватніцкіх планаў японскай фашысцкай ваеншчыны. Яна змагалася супроць утаржэння японскіх імперыялістаў у Манчжурыю, наладжваючы дэманстрацыі, стачкі супроць вайны, арганізуючы салдат і маракоў. З 1937 года, з моманту новага ўтаржэння японскіх імперыялістаў у Кітай, партыя вяла інтэнсіўную антываенную работу, яна змагалася супроць шавінізма, арганізавала шырокую кампанію дапамогі сем'ям мабілізаваных, выставіла патрабаванні адклікання японскай арміі з Кітая, стала рухаючай сілай руху за народны фронт. Не гледзячы на люты тэрор, партыі ўдалося захаваць сувязь з масамі, хоць колькасны рост партыі далёка адстае ад яе масавага ўплыву.

Варта адзначыць вялікую слабасць **італьянскай компартыі.** За доўгія годы існавання фашысцкай дыктатуры яна не здолела сказаціць моцнай нелегальнай арганізацыі, разгарнуць сур'ёзную работу ў фашысцкіх прафсаюзах і іншых масавых фашысцкіх арганізацыях, вырваць значныя слаі падрастаючага маладога пакалення з-пад уплыву фашызма. Устаноўка некаторых італьянскіх комуністаў аб тым, што фашызм можа пацярпець крушэнне толькі ў выніку паражэння ў вайне, прыкрывае на справе апартуністычную пасіўнасць. Гэтым і аб'ясняецца ў значнай ступені, што партыя не здолела ўзначаліць нездаволенне мас вайной італьянскага фашызма ў Абісініі і Іспаніі, якое знайшло сваё выражэнне ў радзе стыхійных масавых выступленняў.

У процілегласць КП Італіі ёсць рад партый, якія дзейнічаюць у малых краінах, дзе фашысцкая дыктатура была ўстаноўлена значна пазней, чым у Італіі, якія дзякуючы сваёй баявой актыўнасці вышлі на адно з першых месц сярод нелегальных компартый. Мы маем на ўвазе некаторыя партыі, якія працуюць у краінах, што ляжаць на шляхах пранікнення германскага фашызма на Бліжні Ўсход.

Многа шкоды комуністычнаму руху наносіць разлагаючая работа фашысцкіх разведак, якія стараюцца засылаць у яго рады сваіх правакатараў і шпіёнаў. У Японіі за апошнія дзесяць год было арыштавана 60 тысяч комуністаў, было знята з часу 1934 г. чатыры саставы Цэнтральнага Камітэта компартыі. Фашысцкім разведкам дапамагаць Троцкі і трацкісты. У Польшчы, Італіі, Японіі і Германіі ахранкі шырока скарыстоўваюць гнусную літаратурную блявоціну Троцкага ў мэтах разлажэння арыштаваных комуністаў. Па заданнях фашысцкіх разведак трацкісты пралязаюць у арганізацыі народнага фронта і нацыянальна-вызваленчага руху, каб узарваць іх знутры.

У Японіі трацкістаў называюць «мазгавым трэстам ахранкі». Яны абучаюць у спецыяльна арганізаваных паліцыяй школах япон-

скіх шпіёнаў метадам барацьбы супроць комуністычнага і рабочага руху. У Кітаі трацкісты дзейнічаюць у якасці японскіх ваенных шпіёнаў. Аб іх начальнік японскай разведкі ў Бейпіне пісаў у сакрэтным дакладзе:

«Групу трацкістаў трэба падтрымліваць і садзейнічаць яе поспехам, каб яе дзейнасць у розных месцах Кітая прынесла выгаду і карысць імперыі, бо гэтыя кітайцы з'яўляюцца разбуральнікамі аб'яднання краіны. Іх работа адзначаецца высокай тэхнікай і майстэрствам».

У Іспаніі трацкісты—разведчыкі фашысцкай Германіі і Італіі, агенты 5-й калоны, якія ўзнімаюць контррэвалюцыйны мяцеж у тылу змагаючайся народнай арміі. Усюды трацкісты дзейнічаюць як фашысцкія правакатары ў рабочым руху, як шпіёны і дыверсанты, супроць СССР. Буржуазныя разведкі шырока скарыстоўваюць трацкістаў і ўсякую іншую фашысцкую нечысць, засылаючы іх пад выглядам эмігрантаў для шпіёнскай работы ў СССР.

У мэтах разлажэння комуністычнага руху фашысцка-трацкісцкія шпіёны штучна прабавалі насадзіць у некаторых компартыях «фракцыі» і «групіроўкі», распальваць фракцыйную барацьбу. Найбольш засмечанай варожымі элементамі аказалася компартыя Польшчы, у кіраўніцтва якой пранiклі агенты польскага фашызма. Гэтыя прахвосты прабавалі пацягнуць партыю на шлях падтрымання фашысцкага перавароту Пілсудскага ў маі 1926 г. Калі гэта не ўдалося, яны каяліся ў «майскай» памылцы, разыгрывалі перад Комінтэрнам камедыю самакрытыкі, абманвалі яго таксама, як абманвалі Комінтэрн у свой час Лаўстон, паліцэйскія «фракцыянеры» з венгерскай, югаслаўскай партый. І віна работнікаў Комінтэрна заключаецца ў тым, што яны дазволілі сябе абмануць класаваму ворагу, не ўскрылі своечасова яго манеўры, спазніліся з мерапрыемствамі супроць засмечання компартый варожымі элементамі.

Што зроблена компартыямі для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва і падрыўной работы класавага ворага? Компартыі шырока скарысталі ўрокі судовых працэсаў трацкісцка-бухарынскіх зладзеяў у справе завастрэння большэвіцкай пільнасці ў сваіх радах. Яны правялі праверку свайго кіруючага актыва, устараніўшы элементы, якія выклікалі сумненні ў іх палітычнай чэснасці. Яны распусцілі асабліва засмечаныя нелегальныя арганізацыі і прыступілі да іх фарміравання занава. Яны разгортваюць сістэматычную барацьбу супроць трацкізма, як фашысцкай агентуры.

Адным з важнейшых мерапрыемстваў у справе барацьбы з падрыўной работай ворага і разлагаючым уплывам буржуазнай ідэалогіі на слабыя звенні партыі з'яўляецца паднянце ідэйна-палітычнага ўзроўню компартый. Калі компартыі праглядзелі пераратварэнне трацкізма «ў агалцелую і беспрынцыпную банду шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў, дзейнічаючых па заданнях разведваль-

ных органаў замежных дзяржаў», то гэта адбылося паміма іншых прычын таксама ў сілу тэарэтычнага адставання компартый.

Вельмі вялікае значэнне набывае ў справе ліквідацыі гэтага тэарэтычнага адставання компартый пераклад на замежныя мовы класікаў марксізма-ленінізма Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, і ў асаблівасці выданне на многіх мовах «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Паяўленне «Кароткага курса» сустрэта з энтузіязмам комуністамі капіталістычных краін. Яны разумеюць, што гэтая кніга ўзбройвае іх незамянімай тэарэтычнай зброяй, што яна дапаможа ім асмысліць, у святле вопыту партыі Леніна—Сталіна, развіццё рэволюцыйнага руху сваёй краіны, яго асаблівасці, яго перспектывы.

У некаторых компартыях пры правядзенні тактыкі адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронта паявіліся пэўныя тэндэнцыі права-апартуністычнага характару, якія знаходзяць сваё выражэнне ў змазванні барацьбы супроць капітулянцкіх элементаў, у ідэалізацыі ролі так званых дэмакратычных дзяржаў, затушоўванні іх імперыялістычнага характару. Паяўленне такіх тэндэнцый, няхай у зачатачным выглядзе, гаворыць аб неабходнасці завастрэння барацьбы супроць апартунізма

Пры агульным несумненным палепшанні работы комуністаў у профсаюзах і некаторых значных поспехах у гэтай галіне, большасць компартый не здолела яшчэ заваяваць моцныя пазіцыі ў профсаюзах, скалаціць баявы профсаюзны актыў і ліквідаваць уплыў рэакцыйных элементаў у профруху.

Компартыі не навучыліся яшчэ змагацца як след супроць фашысцкай дэмагогіі; не здолелі сарваць спекуляцыю нямецкага фашызма на нацыянальным пытанні ў Саары, Данцыгу, Судэцкай вобласці.

Яны яшчэ слаба аўладалі вялікім сталінскім майстэрствам прадбачыць падзеі, улічваць ролю розных дзяржаў, класаў і партый у іх, бачыць загадзя манеўры ворага і ўмець своечасова разбурыць яго планы.

Комуністы капіталістычных краін недастаткова падрыхтаваны да крутых паваротаў падзей і не аўладалі яшчэ тымі формамі барацьбы, якія дыктуюцца напружанай міжнароднай абстаноўкай. Аднак неабходна адзначыць, што і ў справе ўсваення гэтых форм барацьбы компартыямі праробленa значная работа. Іспанскі народ ніколі не забудзе той дапамогі, якую аказаў яму сусветны комуністычны рух стварэннем інтэрнацыянальных брыгад.

У інтэрнацыянальных брыгадах былі не толькі комуністы, але пачын гэтай справы, арганізацыя яе належыць ім. Французская компартыя вылучыла для гэтай справы сваіх найбольш здольных работнікаў, сваіх лепшых арганізатараў. Гэта была нялёгкая задача

перакінуць некалькі дзесяткаў тысяч людзей цераз закупораныя граніцы, цераз моры і нават Атлантычны акіян.

Буржуазія рабіла аблавы на добраавольцаў, праследвала і судзіла іх, але людзі ішлі наперакор усім перашкодам, прабіраліся ноччу па горных сцежках па пояс у снягу, плылі на рыбацкіх лодках, рыскуючы быць патопленымі кожную мінуту. У добраавольцы ішлі французскія пролетарыі, унукі парыжскіх комунараў, італьянскія эмігранты, германскія антыфашысты, выдатныя снайперы—канадскія лесарубы, ішлі польскія рабочыя, батальён якіх імені Дамброўскага пры наступленні на Эбро, не чакаючы пабудовы пантонных мастоў, пераплыў раку і ўрэзаўся першым у гушчу непрыяцельскіх сіл.

Компартыі пяцідзесяці трох краін паслалі ў рады інтэрнацыянальных брыгад сярод іншых рваўшыхся туды людзей нямала членаў ЦК і кіруючага актыва партыі. Тут былі такія людзі, як пакалечаны ў германскім канцэнтрацыйным лагеры член ЦК германскай компартыі Ганс Баймлер, які паў у Паласэце з воклічам «Рот Фронт!». Тут былі людзі тыпу венгерскага комуніста старыка Хевешы, які на чале батальёна імені Ракошы атакаваў пад Уэскай бетаніраваны форт праціўніка, узяў яго, але загінуў сам геройскай смерцю разам з камісарам батальёна. Тут былі радавыя простыя байцы тыпу англійскага шофера грузавой машыны Джона, які пад ураганным агнём праціўніка даставіў ваду пакутаваўшым ад смагі байцам і смяртэльна ранены гаварыў: «Калі-б гэта бачыў тав. Сталін, ён пахлопаў-бы мяне па плячы і сказаў: Ты добра трымаў сябе, ты—выдатны таварыш, Джон». **(Бурныя апладысменты).**

Што гэта за людзі? Гэта людзі сталінскай эпохі, калі гераізм становіцца неад'емнай часткай аблічча партыйнага і беспартыйнага большэвіка. Гэта людзі той-жа сталінскай загартоўкі, што і тыя, якія ішлі ў атаку ля возера Хасан з клічам:—За радзіму, за комунізм, за Сталіна! **(З'езд стоячы апладыруе. Воклічы: «Няхай жыве вялікі Сталін!» «Ура!» Бурныя апладысменты).**

Стварэнне інтэрнацыянальных брыгад—гэта паказальнік спеласці сусветнага комуністычнага руху, гэта большэвіцкая загартоўка секцый Комінтэрна, гэта праверка ў агні комуністычных кадраў.

Ітак, падвядзем вынікі.

За прайшоўшае пяцігоддзе вырас, узмацнеў і памужнеў комуністычны рух. Выраслі ўсе легальныя компартыі і ўзмацніўся іх уплыў на масы. Перастрайваюць свае рады адстаўшыя нелегальныя партыі, даючы ў сваёй труднай барацьбе ўзоры высокага гераізма і самаадданасці. Некаторыя компартыі ўжо сталі, другія становяцца сур'ёзным палітычным фактарам у жыцці сваёй краіны. Расце збліжэнне паміж комуністычнымі і соцыял-дэмакратычнымі рабочымі і актывам комуністычных і соцыял-дэмакратычных партый. Павялічылася давер'е пролетарыяў да комуністаў. Комуністы лепш навучыліся выражаць нужды і патрабаванні мас, гаварыць мовай свайго

рабочага класа і свайго народа. Узмацнілася ідэйная згуртаванасць компартый. У дні Мюнхена, раскалоўшага народы, буржуазныя і соцыял-дэмакратычныя партыі на капітулянтаў і староннікаў супрацiўлення фашызму, комуністы былі адзінай партыяй, якая захавала сваю палітычную і арганізацыйную маналітнасць.

Але, тым не менш, колькасны рост компартый і рост іх уплыву ў масах не адпавядае патрабаванням, пастаўленым перад секцыямі Комінтэрна абвастрэннем класавай барацьбы і разгортваючайся другой сусветнай імперыялістычнай вайной.

## В) Шлях барацьбы компартый, пролетарыята, працоўных супроць сусветнай рэакцыі.

Інтарэсы паспяховай барацьбы супроць фашызма і грабежніцкіх войн патрабуюць, каб працоўныя ўяснілі сабе, куды вядзе справу сусветная рэакцыя і намецілі **свой** шлях для зрыву яе каварных замыслаў.

Чаго хоча рэакцыя? Яна хоча раздавіць Іспанскую рэспубліку, устанавіць у Іспаніі парадкі, угодныя германа-італьянскім інтэрвентам і англа-французскім банкірам; потым узяцца за Францыю, рукамі радыкалаў ударыць па комуністычнай партыі, запалохаць дробных буржуа казкамі, што комуністы, моў, партыя вайны, прыкончыць з народным фронтам, а затым выкінуць, як выціснуты лімон, у смяццёвую яму і радыкалаў, адкрыць дарогу да ўлады фашысцкім прахадзімцам.

У Англіі рэакцыя хоча ўмацаваць на многія годы ўладу кансерватараў, як «выратавальнікаў міру», сарваць рукамі лейбарысцкіх лідэраў рух народнага фронта, дэмаралізаваць і знясіліць англійскі рабочы клас; у ЗША дапамагчы Фордам, Морганам і Херстам змяць дэмакратычны рух.

Рэакцыя хацела-б разграміць рабочы рух, расправіцца з краінай соцыялізма.

Чаго хочуць рабочы клас і працоўныя? Яны хочуць ва што-б то ні стала дапамагчы **іспанскаму народу** ўстанавіць у сябе дома парадкі, угодныя яму, арганізаваць міжнародную абарону іспанскага народа, разгарнуць такі рух ва ўсім свеце, каб рэакцыі непаўадна было душыць вольны іспанскі народ.

Яны хочуць на **Далёкім Усходзе** не дапусціць раздзелу Кітая, дапамагчы кітайскаму народу выгнаць са сваёй краіны японскіх захватчыкаў; прымусіць рухам мас буржуазныя ўрады спыніць падтрыманне японскай ваеншчыны і забяспечыць Кітай усім неабходным для атрымання перамогі над ворагам.

**Ва Францыі** рабочыя хочуць заваяваць зноў на старану народнага фронта хіснуўшуюся частку сялянства і дробнага гарадского люду, якія ўсё больш пераконваюцца, што мюнхенская палітыка

вядзе да ператварэння французскага народа ў васала германскага фашызма; не толькі адстаяць народны фронт, але расшырыць яго за лік тых слаёў, якія не жадаюць ні ісці, ні весці другіх па згубнаму шляху капітуляцыі перад фашысцкімі агрэсарамі.

**У Англіі** рабочыя хочуць давесці да канца пачатую ўжо барацьбу за стварэнне народнага фронта, нанесці тым самым рашаючы ўдар не толькі англійскай, але і сусветнай рэакцыі; у той-жа час у працэсе барацьбы за народны фронт адцясніць у бок прафашысцкія элементы англійскай буржуазіі, падтрымаць старроннікаў адпору фашысцкім агрэсарам.

**У ЗША** працоўныя хочуць умацаваннем і расшырэннем дэмакратычнага руху перашкодзіць прыходу да ўлады рэакцыйных прафашысцкіх элементаў.

У краінах фашысцкай дыктатуры **Германіі, Японіі, Італіі** працоўныя ўсяго свету дабіваюцца паражэння ўрадаў гэтых краін у вайне, яны хочуць дапамагчы народам гэтых краін выйсці на шырокую дарогу адкрытай масавай барацьбы супроць фашысцкага рэжыма, барацьбы, якая вядзе да звяржэння фашысцкай улады, у чым кроўна зацікаўлен міжнародны рабочы клас і ўсе працоўныя. Яны хочуць перашкодзіць сусветнай рэакцыі кінуць выратавальны круг фашысцкім урадам Германіі, Італіі і Японіі, якія коцяцца ў бяздонне фінансавага банкроцтва. Яны не хочуць дапусціць, каб сусветная рэакцыя прадаставіла фашысцкім урадам крыніцы прадавольствія, сыравіны, руды, нафты і т. д. для разгортвання новых грабежніцкіх войн. Яны хочуць перашкодзіць фашысцкім захватчыкам, якія нападаюць на слабыя народы і баяцца горш агню сур'ёзнага супраціўлення, атрымліваць лёгкія «перамогі».

Яны патрабуюць арганізацыі супраціўлення міжнароднага рабочага класа, антыфашысцкіх сіл усяго свету, супроць фашысцкай экспансіі, супроць эканамічнага і палітычнага закабалення народаў, як прэлюдыі да іх ваеннага заняволення. Яны хочуць дапамагчы барацьбе супроць германскага фашызма, барацьбе заняволенага народа Аўстрыі, закабаленых народаў Чэха-Славакіі, Венгрыі, народаў Румыніі, Югаславіі, якія стаяць пад пагрозай закабалення. Яны хочуць падтрымаць заняволены абісінскі народ супроць італьянскага фашызма. Яны **змагаюцца за стварэнне фронта народаў, фронта міжнароднага супраціўлення блоку фашысцкіх агрэсараў.**

Працоўныя хочуць адзінага фронта міжнароднага рабочага класа, каб пакончыць з капітулянцкай палітыкай рэакцыйных лідэраў соцыял-дэмакратыі. Такі фронт выведзе рабочы рух са стану разгубленасці, дэзарганізаванасці на дарогу пабеданосных баёў супроць фашызма. Ён узніме веру мільёнаў пролетарыяў у свае сілы, заразіць гэтай упэўненасцю найшырэйшыя слаі працоўных, сялянства, дробны гарадскі люд. Ён павысіць сілу супраціўлення народных мас фашысцкай агрэсіі ва ўсіх краінах, падыме народы

Германіі, Італіі і Японіі на звяржэнне фашысцкай дыктатуры. **Устанаўленне адзінага міжнароднага рабочага фронта было-б найцяжэйшым паражэннем фашызма.**

Працоўныя хочуць адзінага фронта рабочага класа капіталістычных краін з совецкім рабочым класам, з узброеным совецкім народам, які мае магутную дзяржаву, матэрыяльную сілу перамогшага соцыялізма. Гэты фронт будзе сапраўднай гарантыяй міру. Аб несакрушымую скалу такога фронта разаб'е сабе лоб сусветная рэакцыя.

Працоўныя капіталістычных краін, даведзеныя да адчаяння крызісамі, беспрацоўем, нішчатой, фашысцкім тэрорам, імперыялістычнымі войнамі, прыведзеныя ў рух велізарнымі соцыялістычнымі перамогамі совецкага народа, хочуць жыць без фашызма, без капіталізма. **Яны хочуць соцыялізма.** І іменна таму шалее здыхаючы капіталістычны свет. Ён хоча выратаваць сябе фашызмам. Але фашызм не выратуе капіталізм ад гібелі, бо фашызм толькі заганяе ўглыб нездаволенне мас, падрыхтоўвае ўзрыў велізарнай разбуральнай сілы. Не выратавацца фашызму імперыялістычнымі войнамі, бо яго імперыялістычныя войны развязваюць рэволюцыі. Не выратавацца капіталізму новым передзелам свету, бо новыя перадзелы свету толькі паглыбляюць капіталістычны хаос.

Не выратуе сябе здыхаючы капіталістычны свет контррэволюцыйнай вайной супроць СССР, а толькі паскорыць сваю ўласную гібель. Узброены адпор вялікага совецкага народа ўскалыхне ўвесь свет працы, усіх тых, чые правы на свабоду, на працу, на лепшае жыццё, на незалежнасць краіны растаптаў фашызм. Ён падыме пролетарыяў і працоўных ва ўсіх канцах зямнога шара, усведамляючых, што настаў час расплаты за іх спрадвечныя пакуты. Ён развяжа ва ўсім свеце магутны рух антыфашысцкіх сіл, падбадзёраных велізарнай сілай адпору совецкага народа фашызму. Ён штурхне на барацьбу народы, якія да таго часу ўхіляліся ад схваткі з фашызмам. Ён паверне супроць фашызма атрымаўшыя ў рукі зброю народы фашысцкіх дзяржаў. Для фашысцкіх урадаў гэта будзе вайна не толькі супроць СССР, але і вайна супроць уласных народаў. Для совецкага народа, для працоўных усяго свету, для ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва гэта будзе самая справядлівая, свяшчэнная вайна, якой не было ніколі ў гісторыі чалавецтва, вайна, якая **«абавязкова развяжа цэлы рад рэволюцыйных вузлоў у тылу ў праціўнікаў, разлагаючы і дэмаралізуючы рады імперыялізма».** (Ленін і Сталін, том III, стар. 10).

## 20 год Комінтэрна па ленінска-сталінскаму шляху.

Таварышы!

XVIII з'езд ВКП(б) засядае ў дні, калі спаўняецца дваццаць год з часу аснавання Комінтэрна.

**«Сусветна-гістарычнае значэнне III, Комуністычнага Інтэрнацы-**

**янала,—пісаў Ленін,—заключаецца ў тым, што ён пачаў ператвараць у жыццё найвялікшы лозунг Маркса, лозунг, які падвёў вынік векавому развіццю соцыялізма і рабочага руху, лозунг, які выражаецца паняццем: дыктатура пролетарыята».** (Ленін, Збор твораў, т. XXIV, стар. 248).

Комуністычны Інтэрнацыянал ішоў па шляху Леніна—Сталіна, калі аб'яднаў пролетарскі авангард, падняты з глыбіні рабочага класа ўсіх краін перамогай Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі. Стварэнне Комінтэрна адпавядала карэнным інтарэсам і гістарычным мэтам сусветнага рабочага руху, расколатага палітыкай класавага супрацоўніцтва соцыял-дэмакратыі з буржуазіяй, яе адкрытай здрадай інтарэсам пролетарскай рэволюцыі ў часе першай сусветнай імперыялістычнай вайны.

Комуністычны Інтэрнацыянал ішоў па ленінска-сталінскаму шляху, калі прыкладаў усе сілы да таго, каб накіраваць рух рэволюцыйных мас у Цэнтральнай Еўропе ў 1918—23 гг. на звяржэнне капіталізма. Ён ішоў па гэтаму шляху, калі змагаўся супроць «рэформ» і буржуазнай дэмакратыі, пры дапамозе якіх буржуазія хацела адкупіцца ад націску рэволюцыйных мас і загарадзіць шлях пролетарскай рэволюцыі.

Комінтэрн ішоў па шляху Леніна—Сталіна, калі ў перыяд частковай і адноснай стабілізацыі капіталізма сканцэнтраваў агонь па соцыял-дэмакратыі, якая дапамагала сваёй палітыкай буржуазнай рэакцыі ўмацавацца і перайсці ў наступленне на рабочы клас і працоўных.

Комінтэрн ішоў па гэтаму шляху, калі ачышчаў свае рады ад спадарожнікаў, прыгнаных выпадкова да комуністычнага берагу хваляй рэволюцыйнага ўздыму 1918—23 гг., калі бязлітасна выкараняў апартуністычную заразу, астаткі ідэалогіі соцыял-дэмакратызма, цэнтрызма, анархасіндыкалізма. Ён ішоў па гэтаму шляху, калі ўзяў курс на большэвізацыю сваіх секцый, павёў барацьбу на два фронты, вытравіў беспрынцыпны фракцыянізм і арыентыраваўся на выкоўванні ў баі маналітных компартый.

Па ленінска-сталінскаму шляху ішоў Комінтэрн, калі ў выніку сусветнага эканамічнага крызіса перад тварам наступаючага фашызма, пачынаючыхся імперыялістычных войн заклікаў масы да ўстанаўлення адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронта супроць фашызма і імперыялістычнай вайны. Тым самым Комінтэрн адказваў спадзяванням мільёнаў працоўных, жадаючых цясней самкнуць свае рады, аб'яднацца, каб агульнымі намаганнямі вырвацца з пакут фашысцкага тэрора, з крывавага пекла грабежніцкіх войн, з ціскоў зверстваў разлагаючагася капіталістычнага ладу.

Дваццацігадовы шлях Комінтэрна, шлях барацьбы за соцыялістычную рэволюцыю, за дыктатуру пролетарыята—гэта не лёгкі

шлях. Ён звязан не толькі з перамогамі, але і велізарнымі труднасцямі і часовымі паражэннямі.

**«...рэволюцыя,—гаворыць тав. Сталін,—развіваецца звычайна не па прамой узыходзячай лініі, у парадку беспeрапыннага нарастання ўздыму, а шляхам зігзагаў, шляхам наступленняў і адступленняў, шляхам прыліваў і адліваў, якія загартоўваюць у ходзе развіцця сілы рэволюцыі і падрыхтоўваюць яе канчатковую перамогу».** (Зборнік: Ленін і Сталін, т. III, стар. 7).

На працягу гэтых дваццаці год сусветная буржуазія рабіла ўсё для таго, каб сцерці з твару зямлі комуністычны рух. Яна арыштоўвала, катавала, забівала комуністаў. Яна гнала іх з прадпрыемстваў, пазбаўляла работы, арганізавала пагромы супроць іх. Яна падпальвала рэйхстагі, фабрыкавала «комінтэрнаўскія» фальшыўкі, заключала міжнародныя паліцэйскія пагадненні. Супроць комуністаў ішлі паходам не раз зброеносцы буржуазіі, рэакцыйныя лідэры соцыял-дэмакратыі і рэфармісцкіх профсаюзаў.

Лютыя ворагі рабочага класа, стаўшыя агентамі фашысцкіх разведак, прабавалі звярнуць комуністычны рух з большэвіцкай дарогі, разлажыць і пагубіць яго. Тав. Сталін дапамог міжнароднаму комуністычнаму руху выкрыць і сарваць контррэволюцыйныя замыслы агентаў класавага ворага. Пад яго кіраўніцтвам ВКП(б) разбіла іх ушчэнт, змяла прэзрэнных фашысцкіх казявак з пабеданоснага шляху будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства, умацавала тым самым пазіцыі сусветнага комунізма.

Тав. Сталін не толькі адстаяў вялікае вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна ад скажэнняў варожых элементаў, але ён развіў яго далей прымяняльна да новых умоў эпохі агульнага крызіса капіталізма і перамогі соцыялізма ў СССР. Ён узброіў гэтым вучэннем міжнародны пролетарыят, расшырыў яшчэ далей яго гарызонты, канкрэтызаваў яшчэ больш перспектывы яго барацьбы, напоўніў рабочых усіх краін яшчэ большай упэўненасцю ў перамозе.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна народы СССР збудавалі магутную соцыялістычную крэпасць, штодзённа ўзмацнялі яе сваімі соцыялістычнымі перамогамі, тым самым яны няспынна ўмацоўвалі пазіцыі міжнароднага пролетарыята і працоўных усяго свету.

Стаўка сусветнай буржуазіі аказалася бітай.

Яна была бітай таму, што комунізм нельга знішчыць, як нельга знішчыць і носьбіта яго, рабочага класа, таму што комунізм—гэта канцэнтрыраванае выражэнне карэнных інтарэсаў рабочага класа, канечных мэт яго руху, якія супадаюць з інтарэсамі ўсіх працоўных. Яна была бітай таму, што ідэя комунізма—гэта ўжо не абстрактная мара лепшых розумаў чалавецтва; гэтая ідэя знайшла сваё матэрыяльнае ўвасабленне ў СССР, які ўказвае верны шлях міжнароднаму рабочаму класу і ўсім працоўным да іх вызвалення.

Стаўка сусветнай буржуазіі была бітай таму, што вялікай сталінскай справай пабудовы социялізма ў СССР узмоцнены і ўмацаваны інтэрнацыянальныя пролетарскія сувязі рабочага класа СССР з рабочым класам буржуазных краін. Яна біта таму, што не па днях, а па гадзінах мацнее магутная Краіна социялізма, таму, што компартыі асвятляюць свой рух уперад факелам бяссмертнага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. **(Бурныя апладысменты).**

Стаўка сусветнай буржуазіі біта і будзе біта таму, што на варце абароны інтарэсаў рабочага класа і працоўных усяго свету стаіць геній працоўнага чалавецтва таварыш Сталін.

**(Бурныя апладысменты, усе ўстаюць, воклічы: «Ура!». «Няхай жыве вялікі правадыр сусветнага комунізма таварыш Сталін!».)**

---

# Трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР.

## Дакладчык таварыш В. М. МОЛАТАЎ.

## I. Вынікі другой пяцігодкі.

Таварышы!

На ваш разгляд прадстаўлен трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР. Гэта—гіганцкая праграма ўздыму народнай гаспадаркі, уздыму культуры, уздыму народнага добрабыту. Фундаментам гэтай праграмы з'яўляецца наша перамога, перамога працоўных Савецкага Саюза ў выкананні першага і другога пяцігадовага плана.

Трэці пяцігадовы план адпавядае таму новаму перыяду, у які мы ўступілі. Ён адпавядае таму, што СССР уступіў ужо ў новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. Трэці пяцігадовы план будзе адным з важнейшых этапаў у вырашэнні гэтай вялікай задачы, задачы пераходу да поўнага комунізма. Узяцца за гэтую справу—значыць паставіць перад сабою складаныя і трудныя задачы.

Нас не палохаюць труднасці прадстаячай барацьбы за трэці пяцігадовы план. Мы поўны ўпэўненасці ў тым, што справімся і з новымі задачамі. Парукай гэтаму—поспехі ў выкананні другой пяцігодкі.

Перамога другой пяцігодкі ва ўсіх перад вачыма. Выканана **асноўная гістарычная задача** другой пяцігодкі—поўнасцю ліквідаваны ўсе эксплуататарскія класы, назаўсёды знішчаны прычыны, якія параджаюць эксплуатацыю чалавека чалавекам і падзел грамадства на эксплуататараў і эксплуатуемых. Усё гэта, перш за ўсё,—рэзультат ліквідацыі прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці. Гэта рэзультат таго, што ў нашай краіне вастаржаствавала дзяржаўная і кааперацыйна-калгасная соцыялістычная ўласнасць. Выключэнні з гэтага

правіла складаюць мізэрную велічыню, ды і тыя хутка зусім знікнуць. У горадзе ўжо не першы год поўнасцю пануе соцыялістычная гаспадарка і рабочы клас, які ўключае ў свой састаў рабочых і служачых. Адсталая ў мінулым вёска пераўтварылася. Калгасны лад умацаваўся і ператварыўся ў магутную сілу комунізма. Соцыялізм—першая фаза комунізма—ужо ў асноўным пабудован у нашай краіне. Гістарычныя заваяванні соцыялістычнага грамадства і дзяржавы законадаўча замацаваны ў вялікай Сталінскай Канстытуцыі.

Усё гэта азначае, што наша грамадства складаецца цяпер з двух дружаственных адзін аднаму класаў, з рабочых і сялян, аб'яднаных агульнай справай, справай будаўніцтва комунізма. Гэтая вялікая справа ўсё больш збліжае і аб'ядноўвае рабочых і сялян СССР на аснове моцнага таварыства і дружбы, як актыўных і свядомых будаўнікоў комуністычнага грамадства. Грані паміж двума класамі працоўных СССР усё больш сціраюцца, як паступова сціраюцца і знікаюць таксама і грані паміж гэтымі класамі і інтэлігенцыяй, занятай разумовай працай на карысць совецкага грамадства.

Паглядзіце, што адбылося з нашай краінай.

Вось што мы мелі ў 1928 годзе.

**Соцыяльны састаў насельніцтва СССР у 1928 годзе.**

| | У %% да ітогу. |
|---|---|
| 1. Рабочыя і служачыя | 17 |
| 2. Калгаснае сялянства (разам з кааперыраванымі саматужнікамі) | 3 |
| 3. Сяляне-аднаасобнікі і некааперыраваныя саматужнікі | 73 |
| 4. Капіталістычныя элементы (нэпманы, кулакі) | 5 |
| 5. Іншае насельніцтва (навучаючыяся, армія, пенсіянеры і інш.) | 2 |
| Разам | 100 |

Так выглядзеў СССР тады, калі стала разгортвацца работа па закладцы фундамента соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

Такім чынам, калі ўзяць тую частку насельніцтва, якая цалкам звязана з соцыялістычнай гаспадаркай, гэта значыць, калі ўзяць рабочых, служачых, калгаснікаў і ўсю ўказаную групу іншага насельніцтва,—усіх разам, то гэтая частка насельніцтва дзесяць год таму назад складала 22 проценты жыхароў СССР, гэта значыць менш, чым адну чверць усяго састава насельніцтва. Тры чверці насельніцтва тады было яшчэ прывязана да прыватнаўласніцкай гаспадаркі, а з іх каля 5 процантаў складаліся з эксплуататарскіх элементаў—нэпманаў і кулакоў.

Цяпер у нас зусім іншая карціна. Мы не дарэмна гаворым аб поспехах першай і другой пяцігодкі. Соцыяльны састаў нашага грамадства карэнным чынам змяніўся.

Вось даныя аб социяльным саставе насельніцтва СССР у 1937 годзе.

Социяльны састаў насельніцтва СССР у 1937 годзе.

| | У %% да ітогу. |
|---|---|
| 1. Рабочыя і служачыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 35 |
| 2. Калгаснае сялянства (разам з кааперыраванымі саматужнікамі) | 55 |
| 3. Сяляне-аднаасобнікі і некааперыраваныя саматужнікі . . . | 6 |
| 4. Іншае насельніцтва (навучаючыяся, армія, пенсіянеры і інш.) | 4 |
| Разам . . . . . . . . . . . | 100 |

Так выглядзіць цяпер СССР, наша социялістычнае грамадства. З гэтага відаць, што к канцу другой пяцігодкі 94 проценты насельніцтва складалася з рабочых, служачых і сялян, занятых у социялістычнай, дзяржаўнай і калгасна-кааперацыйнай гаспадарцы. Сяляне-аднаасобнікі і некааперыраваныя саматужнікі складалі каля 6 процантаў. Эксплуататарскія элементы былі ліквідаваны, зніклі з нашай зямлі.

Пераўтварэнне нашага грамадства, якое адбылося за апошняе дзесяцігоддзе, знайшло сваё яркае выражэнне ў пэратварэнні ранейшага сялянства ў калгаснае сялянства і ў вялікім росце ўдзельнай вагі рабочага класа ў СССР. У 1928 годзе рабочыя і служачыя складалі ў нас толькі 17 процантаў, а ў 1937 годзе складалі ўжо 35 процантаў насельніцтва. Удзельная вага рабочых і служачых павялічылася ў два разы. Разам з далейшым ростам гарадоў і прамысловасці, доля рабочага класа, за лік адпаведнага скарачэння сялянскага насельніцтва, прадаўжае расці.

Дзякуючы чаму адбылося такое пераўтварэнне нашага грамадства і мы дабіліся поўнай ліквідацыі эксплуататарскіх класаў і груп у СССР?

Па-першае, дзякуючы таму, што мы пасняхова выканалі галоўную і рашаючую гаспадарчую задачу другой пяцігодкі—задачу завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і таму стварылі матэрыяльна-тэхнічную базу для калгаснага ладу ў вёсцы.

Па-другое, дзякуючы таму, што мы зрабілі ўсё магчымае і для ўздыму народнага добрабыту і культурнага ўзроўню працоўных.

Аб пасняховым **завяршэнні тэхнічнай рэканструкцыі** народнай гаспадаркі гавораць такія факты.

За другую пяцігодку карэнным чынам абнавіўся вытворча-тэхнічны апарат прамысловасці і сельскай гаспадаркі. У 1937 годзе з новых прадпрыемстваў, пабудаваных або цалкам рэканструіраваных за першую і другую пяцігодкі, атрымана звыш 80 процантаў усёй прадукцыі прамысловасці. Каля 90 процантаў усіх працуючых у сельскай гаспадарцы трактараў і камбайнаў выпушчаны совецкай прамысловасцю ў другой пяцігодцы. Прадукцыя машынабудаўніцтва і металаапрацоўкі павялічылася не ў два з невялікім разы, як намя-

чалася па другой пяцігодцы, а амаль у тры разы. З наяўнага парка станкоў на 1 студзеня 1938 года больш 50 працантаў выпушчана за годы другой пяцігодкі. Узброенасць рабочага электраэнергіяй па прамысловасці ў цэлым вырасла з 2.100 кіловат-гадзін да 4.370 кіловат-гадзін. У асноўным выраршана задача механізацыі такіх працаёмкіх і цяжкіх працэсаў прамысловасці, як зарубка вугалю, здабыча нафты і торфу, механізацыя лову рыбы і т. п.

Па плану другой пяцігодкі прадукцыя **прамысловасці** павінна была павялічыцца з 43 мільярдаў рублёў да **93** мільярдаў рублёў,— у сапраўднасці-ж у 1937 годзе прадукцыя прамысловасці дасягнула **96** мільярдаў рублёў.

Па плану другой пяцігодкі прадукцыя нашай прамысловасці павінна была павялічыцца на **114** працантаў, а на справе яна ўзрасла на **121** працант. Ужо к 1 красавіка 1937 года, г. зн. ужо за 4 годы і 3 месяцы, прамысловасць дасягнула ўзроўню, устаноўленага для апошняга года другой пяцігодкі. Такім чынам, прамысловасць выканала другую пяцігодку датэрмінова.

Па плану другой пяцігодкі сярэднегадовы тэмп быў вызначан у **16,5** працанта, а фактычна мы дабіліся штогодняга прыросту ў **17,1** працанта. Значыць, мы перавысілі заданыя планам тэмпы прыросту прамысловай прадукцыі.

Зразумела, не ўсе галіны прамысловасці працавалі аднолькава паспяхова.

Найбольшыя поспехі мы мелі ў цяжкай прамысловасці—у вытворчасці сродкаў вытворчасці. Тут прадукцыя павялічылася амаль у два з палавінаю раза (240 працантаў) і план значна перавыканан: другая пяцігодка па гэтай вытворчасці выканана на 122 працанты. Аднак па некаторых важных галінах цяжкай індустрыі, як чыгун, вугаль, нафта, план аказаўся значна нявыкананым.

Па вытворчасці прадметаў спажывання мы маем павелічэнне ў два разы (200 працантаў), хоць план поўнасцю не быў выканан. Па вытворчасці прадметаў спажывання, з-за нездавальняючай работы лёгкай прамысловасці, мы дасягнулі толькі 85 працантаў ад плана, але харчовая прамысловасць Наркамхарчпрома СССР дасягнула 113 працантаў, гэта значыць значна перавыканала свой пяцігадовы план.

Мы павінны канстатаваць, што і ў другой пяцігодцы рост цяжкай прамысловасці ішоў значна быстрэй, чым прамысловасці, якая вырабляе прадметы шырокага спажывання. Галоўнай прычынай гэтага з'яўляецца тая акалічнасць, што ў ходзе выканання другой пяцігодкі нам прышлося ўнесці сур'ёзныя папраўкі ў план развіцця прамысловасці. Як і ў першай пяцігодцы, нам, з прычыны міжнароднай абстаноўкі, прышлося падняць намечаны тэмп развіцця абароннай прамысловасці, і зроблена для гэтага,—як вы ведаеце з выступлення тав. Варашылава на з'ездзе,—не мала. **(Апладысменты).**

Гэта патрэбавала значнага ўзмацнення ўздыму цяжкай прамысловасці, прычым, у вядомай меры, за кошт тэмпаў росту лёгкай прамысловасці. Затое мы прымусілі найбольш агрэсіўных імперыялістаў у адносінах да СССР быць пасмірней. **(Апладысменты).** Але трэба прызнаць, што цяпер, побач з клопатамі аб далейшым узмоцненым развіцці цяжкай прамысловасці, мы павінны значна падцягнуць уверх таксама ўвесь фронт прамысловасці, якая вырабляе прадметы шырокага спажывання.

Па **сельскай гаспадарцы** за другую пяцігодку мы маем павелічэнне валавой прадукцыі ў паўтара раза, на 54 проценты. Наша зерневая гаспадарка паспяхова справілася з выкананнем вядомага Сталінскага задання і дала ў 1937 годзе ўраджай звыш 7 мільярдаў пудоў зярна. Па канчатковых падліках ураджай зернавых у 1937 годзе вызначан у 7 мільярдаў 340 мільёнаў пудоў. Заданне другой пяцігодкі па зярну перавыканана. Перавыканана таксама заданне па збору бавоўны: з 78 мільёнаў пудоў збор бавоўны падняўся да 157 мільёнаў пудоў, г. зн. павялічыўся ў два разы. Па цукровых бураках мы маем павелічэнне з 66 мільёнаў цэнтнераў—трэба прызнаць, ад вельмі нізкага ўзроўню, да 219 мільёнаў цэнтнераў,—павелічэнне больш, чым у тры разы. Сур'ёзнае адставанне асталося па ільну, кукурузе, сланечніку. Прадукцыя жывёлагадоўлі павялічылася больш, чым у паўтара раза, на 54 проценты.

У справе механізацыі сельскай гаспадаркі дасягнуты вялікія поспехі. Перавыканан план па снабжэнню сельскай гаспадаркі трактарамі і камбайнамі. Па тэхнічнаму ўзроўню і па магутнасці буйнай вытворчасці наша сельская гаспадарка стаіць цяпер уперадзе сельскай гаспадаркі любой краіны ў свеце. У адносінах механізацыі адстала, аднак, уборка бавоўны, ільну, кукурузы.

Соўгасы дабіліся значных поспехаў, перавыканаўшы план па здачы зярна. Аднак, забеспячэнне высокай рэнтабельнасці соўгасаў яшчэ задача будучага.

Уздым народнай гаспадаркі ва многім абавязан паспяховай рабоце **транспарта,** перш за ўсё, чыгуначнага транспарта, які выканаў і перавыканаў сваю пяцігодку па перавозках за 4 годы. Вельмі адстаў водны транспарт. Ва ўсіх на вачах быстра разгарнуўся аўтамабільны і паветраны транспарт.

Ва ўсіх гэтых гаспадарчых поспехах сказалася тое, што тэхнічная рэканструкцыя народнай гаспадаркі праводзілася няўхільна. Гэта не значыць, што на дасягнутым узроўні можна ўжо супакоіцца. Якраз наадварот. Перад намі стаяць не толькі не меншыя, але значна большыя задачы ў справе далейшага тэхнічнага ўзбраення прамысловасці і ўсёй народнай гаспадаркі.

План другой пяцігодкі па **ўздыму матэрыяльна-культурнага ўзроўню працоўных** з павышэннем узроўню народнага спажывання ў два разы і больш таксама выканан.

За гэта гаворыць, перш за ўсё, той факт, што вытворчасць прадметаў шырокага спажывання за гэтыя годы падвоілася. Па раду важнейшых прамысловых прадуктаў мы мелі не толькі падваенне, але і значна большы рост,—напрыклад, па цукру, маслу жывёльнаму, каўбасных вырабах, трыкатажнай вытворчасці, абутку. Пры росце колькаснасці рабочых і служачых на 18 працантаў фонд заработнай платы па ўсёй народнай гаспадарцы павялічыўся ў два з палавінай раза, а іменна, на 151 працант супроць 55 працантаў па плану другой пяцігодкі. Рэальная заработная плата рабочых павялічылася за другую пяцігодку ўдвая (на 101%).

Дзяржаўныя расходы на культурна-бытавое абслугоўванне рабочых і служачых, гэта значыць на асвету і ахову здароўя, павялічыліся з 4,3 мільярда да 14 мільярдаў рублёў, значыцца, больш, чым у тры разы.

Значна паднялася за годы другой пяцігодкі заможнасць калгаснікаў. Гэта відаць па росту даходаў калгасаў і калгаснікаў. Так, грашовыя даходы калгасаў за годы другой пяцігодкі павялічыліся з 4,6 мільярда рублёў да 14,2 мільярда рублёў, гэта значыць больш, чым у тры разы. Сярэдняя выдача грошай на калгасны двор паднялася за годы другой пяцігодкі ў тры з палавінай раза. Грашовыя даходы, якія размяркоўваюцца сярод калгаснікаў па працаднях, павялічыліся за гэтыя годы ў 4,3 раза, асабліва ў раёнах тэхнічных культур.

Адным з паказальнікаў уздыму дабрабыту насельніцтва можа служыць такі факт, як павелічэнне ўкладаў у ашчадкасах з 1 мільярда да 4,5 мільярда рублёў.

Аб культурным росце насельніцтва гавораць наступныя факты. Колькасць навучаючыхся ў пачатковай і сярэдняй школе павялічылася з 21,3 мільёна да 29,4 мільёна. Асабліва быстра расла сярэдняя школа, дзе колькасць навучаючыхся ў 5—7 класах падвоілася, а ў 8—10 класах павялічылася ў 15 раз. Колькасць навучаючыхся ў вышэйшых навучальных установах дасягнула 550 тысяч. У ВНУ ў нас вучыцца больш, чым у такіх краінах, як Германія, Англія, Францыя, Італія і Японія разам узятых. Вялікі размах палітыка-асветнай работы знайшоў сваё выражэнне ў значным росце выпуску кніг і газет, у развіцці бібліятэк і кіносеткі, асабліва ў вялікім росце сеткі гукавых кіноўстановак. На 100 жыхароў Савецкага Саюза ў нашых бібліятэках ёсць 75 кніг, што ў тры з лішнім раза больш, чым было ў Германіі ў 1934 годзе. Найбольш быстрыя тэмпы росту культурнага будаўніцтва былі ў такіх рэспубліках, як Кіргізія, Казахстан, Туркменістан, Таджыкістан, Узбекістан, гэта значыць у народаў Савецкага Усхода.

Значныя поспехі дасягнуты і ў галіне аховы здароўя. Дастаткова сказаць, што колькасць лячэбных коек павялічылася ў другой пяцігодцы ў паўтара раза.

Новай жылой плошчы ўведзена ў дзеянне 26,8 мільёна квадратных метраў. Трэба прызнаць, што ў гэтых адносінах план другой пяцігодкі значна недавыканан.

У галіне тавараабароту за годы другой пяцігодкі мы дабіліся не малых поспехаў. Дастаткова сказаць, што на працягу 1935 года была адменена картачная сістэма і закрытыя формы гандлю, спачатку на хлеб, а затым і на ўсе іншыя продтавары і промтавары. Гэтага мы маглі дабіцца толькі дзякуючы быстраму росту прамысловай прадукцыі і дзякуючы значнаму ўздыму сельскай гаспадаркі. Абароты ў дзяржаўна-кааперацыйным гандлі выраслі з 40 да 126 мільярдаў рублёў. У рэзультаце гэтага цэны калгасна-базарнага гандлю значна знізіліся. Нам не ўдалося, аднак, выканаць задачу другой пяцігодкі па зніжэнню рознічных цэн на прадметы шырокага спажывання. Але, як вядома, невыкананне гэтага задання другой пяцігодкі было перакрыта значна большым, чым прадугледжана пяцігодкай, павышэннем размераў заработнай платы рабочых і служачых, а таксама быстрым ростам грашовых даходаў калгасаў і калгаснікаў.

Каб правільна ацаніць значэнне работы, выкананай совецкім народам за годы другой пяцігодкі, параўнаем вынікі другой пяцігодкі з вынікамі першай пяцігодкі.

Мы ўправе гардзіцца нашай першай вялікай перамогай у народнай гаспадарцы і ў соцыялістычным пераўтварэнні нашай краіны— выкананнем першай пяцігодкі. Гэтая перамога прагрымела на ўвесь свет, як падзея сусветна-гістарычнага значэння.

Але другая пяцігодка ва многім стаіць вышэй першай пяцігодкі.

Вазьміце хоць-бы такія факты.

Па-першае. Народны даход за другую пяцігодку павялічыўся больш, чым у два разы, дакладней, у 2,1 раза. У гэтым гіганцкім росце народнага дахода дан агульны ітог гаспадарчым поспехам другой пяцігодкі.

Па-другое. У першай пяцігодцы было ўведзена ў дзеянне новых і рэканструіраваных будоўляў—на 39 мільярдаў рублёў, а ў другой пяцігодцы—на 103 мільярды рублёў, што дае павелічэнне супроць першай пяцігодкі ў 2,6 раза. Гэты факт гаворыць за тое, што ў Совецкім Саюзе створаны ў другой пяцігодцы ўмовы для далейшага, і яшчэ значна больш магутнага, уздыму народнай гаспадаркі.

Поспехі другой пяцігодкі прышлі да нас не самацёкам. Мы дабіліся іх ва ўпорнай барацьбе, пераадаляваючы не малыя труднасці.

На нашым шляху стаялі астаткі эксплуататарскіх класаў. Яны чапляліся за свае становішча, але былі начыста змецены. Аднак, разграміўшы класавага ворага ўнутры краіны, мы гэтым яшчэ не знялі пытання аб барацьбе з класавымі ворагамі.

Пакуль у Савецкага Саюза існуе знешняе капіталістычнае акружэнне, мы не можам вызваліцца ад абавязку весці з ім барацьбу, барацьбу з яго новымі і новымі вылазкамі супроць савецкай улады, супроць СССР. Паласа ўзмоцненай барацьбы са шкодніцтвам і шпіянажам, чаму ў апошнія годы мы павінны былі ўдзяліць вялікую ўвагу, гаворыць сама за сябе. Капіталізм і, асабліва, яго фашысцкія сілы ў гэтай барацьбе скарысталі ўсё, і ў тым ліку самыя брудныя, самыя подлыя спосабы барацьбы з СССР. Яны не спыняліся ні перад чым і скарысталі для гэтага ўсіх гэтых трацкісцка-бухарынска-ягодзінска-рыкаўскіх перараджэнцаў і іх саюзнікаў з буржуазных нацыяналістаў, але спыніць рост СССР і нават запаволіць яго рух уперад яны былі не ў сілах. Мы атрымалі новы ўрок класавай барацьбы, барацьбы з капіталістычным акружэннем і, асабліва, з фашысцкімі сіламі капіталізма. Мабыць, мы здолеем скарыстаць гэты ўрок для таго, каб ва многім узмацніць нашу барацьбу з усімі ворагамі савецкай улады, і ўсямерна ўмацуем нашу дзяржаву ў інтарэсах гэтай справы.

Ачысціўшы СССР ад варожых класаў, ад эксплуататараў, мы яшчэ не ліквідавалі класаў наогул. Астаўся рабочы клас, асталося сялянства. Гэта ўжо не ранейшы рабочы клас і не ранейшае сялянства. Змянілася іх роля ў грамадстве і дзяржаве. Ва многім змяніўся іх быт, іх культурнае і маральнае аблічча.

Ліквідаваўшы астаткі эксплуататарскіх класаў, мы стварылі грамадства з двух, дружаственных адзін аднаму, класаў—з рабочага класа і сялянства. У гэтым грамадстве склалася свая інтэлігенцыя, цяпер ужо не буржуазная і не буржуазна-дэмакратычная, а, у асноўным, сацыялістычная інтэлігенцыя. Гэтая інтэлігенцыя, кроўна звязаная з працоўнымі і з сацыялізмам,—адыгрывае вялікую ролю ва ўсёй кіруючай рабоце па развіццю і ўмацаванню новага грамадства і дзяржавы. Былая процілегласць паміж горадам і вёскай падарвана ўжо ў корані, але істотная розніца паміж гэтымі класамі яшчэ існуе. Гэтая розніца ёсць, перш за ўсё, таму, што рабочыя заняты ў прадпрыемствах, якія маюць агульнанародны дзяржаўна-сацыялістычны характар, а сяляне—у калгасах, якія маюць кааперацыйна-сацыялістычны характар. Абодва гэтыя класы—і рабочы клас і калгаснае сялянства—ужо з'яўляюцца класамі сацыялістычнага грамадства. І хоць кіруючая роля астаецца за рабочым класам, як за перадавым і больш падрыхтаваным класам для ўстанаўлення поўнага комунізма, але сялянства, у сваю чаргу, займае не пасіўную пазіцыю, а адыгрывае актыўную ролю ў будаўніцтве новага грамадства, у будаўніцтве комунізма. Гэтае палажэнне і замацавана ў новай Канстытуцыі СССР, вялікае значэнне якой неразрыўна звязана з іменем таварыша Сталіна. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Ці значыць гэта, што ўжо ўсе рабочыя і ўсе сяляне сталі перадавымі людзьмі нашага грамадства? Не, яшчэ не значыць.

І сярод рабочых ёсць перадавыя і ёсць адсталыя, не гаворачы ўжо аб уродах. Таксама і сярод сялян: ёсць і перадавыя, ёсць і адсталыя. Ёсць, вядома, і горш, чым проста адсталыя. Перадавыя людзі нашага часу з'яўляюцца актыўнымі і самаадданымі будаўнікамі комунізма, лепшымі барацьбітамі за ўмацаванне нашай дзяржавы. За гэтымі перадавымі людзьмі нашага грамадства ўжо свядома ідзе пераважная маса рабочых і сялян. Але і сярод рабочых, не гаворачы ўжо аб служачых, вельмі жывучы дробнабуржуазныя прывычкі. Яшчэ не мала такіх, якія гатовы ўрваць для сябе ў дзяржавы пабольш, а там хоць трава не расці. Таму патрэбна барацьба за інтарэсы дзяржавы і за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны ў нашых прадпрыемствах і ўстановах, патрэбна барацьба з лодырамі, разгільдзяямі і летунамі. Сярод сялян таксама не мала яшчэ такіх, якім няма справы не толькі да інтарэсаў дзяржавы, але і да інтарэсаў свайго калгаса, якія думаюць толькі аб тым, каб урваць для сябе пабольш і ў дзяржавы і ў калгаса. І тут патрэбны сур'ёзныя меры ў галіне ўмацавання дысцыпліны і ў галіне выхавання. Без такіх мер, без узмоцненай работы па выхаванню працоўных у духу ўмацавання соцыялістычнай уласнасці і дзяржавы нельга адсталых людзей пераварыць у свядомых і актыўных будаўнікоў комунізма.

Наша сіла ў тым, што ў Совецкім Саюзе ва ўсім задаюць тон перадавыя людзі нашага народа. Хто гэтыя людзі? Свядомыя комуністы, непартыйныя большэвікі, стаханаўцы, калгасныя перадавікі, соцыялістычная інтэлігенцыя,—вось гэтыя людзі, вось тварцы новага жыцця! Іх колькасць і грамадскае значэнне расце з кожным днём.

Адной з самых выдатных з'яў апошняга часу з'яўляецца разгарнуўшаяся ў нас новая форма соцыялістычнага спаборніцтва—рух стаханаўцаў. З гушчы рабочых вышлі людзі, якія паказалі ўзоры аўладання тэхнікай вытворчасці і быстра занялі перадавую, вядучую ролю ва ўсёй прамысловасці. Сваёй высокай прадукцыйнасцю працы, на аснове палепшання яе арганізацыі, стаханаўцы ўказалі дарогу да новых поспехаў прамысловасці. Такі-ж рух усё больш разгортваецца і ў калгасах. Стаханаўцы-рабочыя пераклікаюцца ў сваіх слаўных справах з перадавікамі-калгаснікамі і вядуць за сабой усё большую масу працоўных. Нічога падобнага стаханаўскаму руху пры капіталізме не бывала і быць не можа.

Стаханаўскі рух—адзін з самых выдатных вынікаў другой пяцігодкі. У ім мы бачым сведчанне росту нашых сіл, росту іх комуністычнай свядомасці і гарантыю новых, яшчэ больш слаўных поспехаў СССР.

Такія вынікі другой сталінскай пяцігодкі.

# II. Асноўная эканамічная задача СССР.

Вы ведаеце, таварышы, што поспехі маюць і ценявы бок. Яны выклікаюць часам і залішняе захапленне. Нельга адмаўляць, што ў некаторых выпадках мы і цяпер мелі некрытычную пераацэнку гэтых поспехаў. Таму трэба разабрацца ў сапраўдных фактах.

Мы сапраўды дагналі і перагналі капіталістычныя краіны па тэмпах росту нашай прамысловасці. Мы сапраўды дагналі і перагналі гэтыя краіны і па тэхніцы вытворчасці. Абодва гэтыя дасягненні маюць велізарнае значэнне, але гэта яшчэ не ўсё, што трэба. Яшчэ на XVI з'ездзе партыі ў 1930 годзе таварыш Сталін папярэджваў, што **«нельга змешваць** тэмп развіцця прамысловасці з узроўнем яе развіцця», што гэта рэчы зусім розныя; што «мы д'явальска **адсталі** ў сэнсе ўзроўню развіцця нашай прамысловасці ад перадавых капіталістычных краін»; што нам неабходны высокія тэмпы развіцця прамысловасці, каб «дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны».

Тым не менш, сям-там сталі забываць аб тым, што ў эканамічных адносінах, г. зн. у сэнсе размераў прамысловай вытворчасці на душу насельніцтва, мы ўсё яшчэ адстаем ад некаторых капіталістычных краін. Сталі забываць аб тым, што, уласна, толькі якія-небудзь 10—12 год, як мы змаглі пачаць падымаць краіну з ранейшага нізкага ўзроўню яе развіцця. Сталі забываць аб тым, што справа ідзе аб ліквідацыі такога адставання ад іншых краін, якое з'яўляецца рэзультатам больш чым векавой адсталасці дарэвалюцыйнай Расіі. Забываць-жа аб гэтым ніяк нельга, і заспакойвацца на дасягнутым мы ніяк не можам.

У СССР пабудован соцыялізм, але пабудован толькі ў асноўным. Нам яшчэ многа, вельмі многа трэба папрацаваць, каб па-сапраўднаму забяспечыць СССР усім неабходным, каб у нас дастаткова выдаралася ўсіх тавараў, каб у нас было багацце ўсіх прадуктаў, каб не толькі тэхнічна, але і эканамічна падняць нашу краіну на такі ўзровень, які не толькі не ўступае самай перадавой капіталістычнай краіне, але стаіць значна вышэй.

Мы ўступілі ў новую паласу развіцця, у паласу паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. Але гэты пераход да комунізма азначае багацце ўсіх прадуктаў, ад якога мы яшчэ далёкі. Гэты пераход да комунізма азначае такі высокі тэхніка-эканамічны ўзровень краіны, які намнога перавышае сучасны ўзровень любой эканамічна самай развітай капіталістычнай краіны. З гэтага выцякае, што мы стаім перад новымі, велізарнай важнасці задачамі ў эканамічным развіцці СССР.

Гэтыя задачы выцякаюць перш за ўсё з таго, што ў сэнсе эканамічнага развіцця, гэта значыць у сэнсе размеру прамысловай вытворчасці на душу насельніцтва, мы яшчэ стаім ззаду найбольш развітых капіталістычных краін. Пры гэтым нельга ўпускаць, што колькаснасць насельніцтва СССР значна перавышае колькаснасць насельніцтва ЗША, больш чым у два разы перавышае насельніцтва Германіі і прыкладна ў чатыры разы перавышае насельніцтва як Англіі, так і Францыі.

У дадатак да тэзісаў прывяду некаторыя цыфры. Вось адпаведная табліца.

**Аб вытворчасці галоўнейшых відаў прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва ў СССР і капіталістычных краінах**

(СССР—за 1937 г., іншыя краіны—па апошніх апублікаваных даных).

| | | СССР | ЗША | Германія | Англія | Францыя | Японія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Электраэнергія | квт. г. | 215 | 1160 | 735 | 608 | 490 | 421 |
| Чыгун . . . . | клгр. | 86 | 292 | 234 | 183 | 189 | 30 |
| Сталь . . . . | „ | 105 | 397 | 291 | 279 | 188 | 62 |
| Вугаль . . . . | „ | 757 | 3429 | 3313 | 5165 | 1065 | 643 |
| Цэмент . . . . | „ | 32 | 156 | 173 | 154 | 86 | 60 |

З гэтых цыфр відаць, што ў разліку на душу насельніцтва мы сур'ёзна адсталі ў вытворчасці электраэнергіі, чыгуну, сталі, каменнага вугалю, цэменту. Між тым, без высокага ўзроўню развіцця гэтых вытворчасцей нельга забяспечыць поўны росквіт машынабудаўніцтва, абароннай прамысловасці, транспарта, будаўніцтва новых заводаў і фабрык. З гэтых цыфр таксама відаць, як многа ў нас яшчэ работы ў справе развіцця цяжкай прамысловасці, хоць мы многа клапаціліся аб гэтай справе ўсе гэтыя годы. Трэба, аднак, сказаць, што ёсць і такія буйнейшыя галіны цяжкай прамысловасці, як нафтавая, па якой СССР, хоць і значна адстае ад Злучаных Штатаў Амерыкі, але ва многа раз перавышае Германію, Францыю, Італію і Японію, дзе амаль няма здабычы нафты.

Возьмем цяпер пытанне аб узроўні развіцця прамысловасці, якая вытварае прадметы шырокага спажывання. І тут мы ўбачым, што СССР адстаў па размерах вытворчасці на душу насельніцтва такіх прамысловых тавараў, як баваўняныя і шарсцяныя тканіны, скураны абутак, цукар, папера, мыла і некаторыя іншыя.

Вось яшчэ адна табліца:

**Аб вытворчасці галоўнейшых відаў прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва ў СССР і капіталістычных краінах**

(СССР—за 1937 г., іншыя краіны—па апошніх апублікаваных даных).

| | | СССР | ЗША | Германія | Англія | Францыя | Японія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Баваўн.-пап. тканіны | кв. метр. | 16 | 58 | зв. няма. | 60 | 31 | 57 |
| Шарсцяныя тканіны. | метр. | 0,6 | 2,8 | зв. няма. | 7,4 | зв. няма. | зв. няма. |
| Абутак скураны . . | пар | 1 | 2,6 | 1,1 | 2,2 | зв. няма. | зв. няма. |
| Папера . . . . . . | клгр. | 5 | 48 | 42 | 42 | 23 | 8 |
| Цукар . . . . . . . | „ | 14 | 12 | 29 | 8 | 21 | 17 |
| Мыла . . . . . . . | „ | 3 | 12 | 7 | 11 | 10 | зв. няма. |

Чаму-ж, не гледзячы на ўсю праробленую работу і не гледзячы на велізарны тэмп росту нашай прамысловасці, мы ўсё яшчэ эканамічна адстаем ад найбольш развітых капіталістычных краін?

Адказ на гэтае пытанне ясны. Таму, што наша краіна яшчэ нядаўна была страшна адсталай у прамысловых адносінах і з прычыны вялікай колькасці насельніцтва краіны мела вельмі нізкія нормы вытворчасці прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва. За прайшоўшы кароткі тэрмін яна не магла паспець поўнасцю навярстаць упушчаны раней час.

Успомніце, што пісаў Ленін яшчэ ў 1913 годзе ў тагочаснай «Правде» у артыкуле «Як павялічыць размеры душавога спажывання ў Расіі?» Бічуючы наёмных пісак буржуазнай прэсы, Ленін гаварыў:

«Расія астаецца неймаверна, нябачана адсталай краінай, нішчай і поўдзікай, абсталяванай сучаснымі прыладамі вытворчасці ўчэцвера горш Англіі, упяцера горш Германіі, удзесяцера горш Амерыкі».

Указваючы на гэта, Ленін граміў стаяўшых ва ўладзе капіталістаў і памешчыкаў Расіі за тое, што яны «сваім гнётам асуджаюць 5/6 насельніцтва на нішчату, а ўсю краіну на застой і гніенне».

Ленін зноў і зноў вяртаўся да гэтага пытання. У тым-жа 1913 годзе, у артыкуле «Жалеза ў сялянскай гаспадарцы», ён параўноўваў тагочасную Расію з Венгрыяй. Ён прыводзіў тады павучальныя факты аб эканоміцы ў Венгрыі, дзе ва ўладзе таксама стаялі памешчыкі-рэакцыянеры, як і ў Расіі. Ленін устанавіў тады наступнае: з 2,8 мільёна сялянскіх гаспадарак Венгрыі ў 2,5 мільёна гаспадарак «безумоўна пераважаюць плугі з драўляным дышлам, бораны з драўлянай рамай і амаль напалавіну пашыраны цялегі на драўляным хаду». І тут-жа Ленін дадаваў: «Нішчата, прымітыўнасць і закінутасць велізарнейшай большасці нашых сялянскіх гаспадарак яшчэ непараўнана мацнейшая, чым у Венгрыі».

Так у сапраўднасці і было.

На якім узроўні знаходзілася тады прамысловасць у Расіі?

Вытворчасць **электраэнергіі** на душу насельніцтва ў 1913 годзе была ў 17 раз менш, чым у ЗША, у 5 раз менш, чым у Германіі.

Выплаўка **чыгуну** на душу насельніцтва ў 1913 годзе была менш у 11 раз, чым у ЗША, у 8 раз менш, чым у Англіі, у 8 раз менш, чым у Германіі, і ў 4 разы менш, чым ва Францыі.

Выплаўка **сталі** на душу насельніцтва ў 1913 годзе была менш у 11 раз, чым у ЗША, у 8 раз менш, чым у Германіі, у 6 раз менш, чым у Англіі, і ў 4 разы менш, чым ва Францыі.

Здабыча каменнага і бурага **вугалю** (у пераводзе на каменны вугаль) на душу насельніцтва ў нашай краіне ў 1913 годзе была менш у 26 раз, чым у Амерыцы, у 31 раз менш, чым у Англіі, у 15 раз менш, чым у Германіі, у 5 раз менш, чым ва Францыі.

Вось на якім нізкім узроўні стаяла Расія да рэволюцыі. Стаяўшыя ва ўладзе памешчыкі і капіталісты рукою царызма скоўвалі магутныя сілы нашага народа, не давалі ім разгарнуцца.

Заслугоўвае асаблівай увагі той факт, што Расія тады не толькі не даганяла найбольш развітых капіталістычных краін, а, наадварот, усё больш **адставала** ад іх па раду важнейшых вытворчасцей.

Вось цыфры па вытворчасці чыгуну за 1900 і за 1913 гг.

Вытворчасць чыгуну на душу насельніцтва ў царскай Расіі ў 1900 годзе стаяла ніжэй, чым у Злучаных Штатах Амерыкі ў **8** раз, а ў 1913 годзе яна стаяла ніжэй ужо ў **11** раз. У параўнанні з Германіяй вытворчасць чыгуну ў Расіі ў 1900 годзе стаяла ніжэй, прыкладна, у **6** раз, а ў 1913 годзе ўжо стаяла ніжэй у **8** раз. У параўнанні з Францыяй у 1900 годзе яна стаяла ніжэй у **3** разы, а ў 1913 годзе стаяла ніжэй у **4** разы.

Тое-ж самае адносіцца і да сталі.

Зразумела, што Ленін з трывогай і абурэннем пісаў тады ў першым з указаных вышэй артыкулаў аб «павялічваючайся адсталасці» Расіі, аб тым, што «мы адстаем усё больш і больш».

Вось чаму перад самай Кастрычніцкай рэволюцыяй, калі Расія была даведзена імперыялістычнай вайной да крайнасці, Ленін у артыкуле «Пагражаючая катастрофа і як з ёю змагацца» паставіў пытанне рубам:

> «Вайна стварыла такі неабсяжны крызіс, так напружыла матэрыяльныя і маральныя сілы народа, нанесла такія ўдары ўсёй сучаснай грамадскай арганізацыі, што чалавецтва аказалася перад выбарам: або загінуць, або ўручыць свой лёс самаму рэволюцыйнаму класу для быстрэйшага і радыкальнейшага пераходу да больш высокага спосабу вытворчасці.

> У сілу раду гістарычных прычын: большай адсталасці Расіі, асаблівых труднасцей вайны для яе, найбольшай гніласці царызма, надзвычайнай жывасці традыцый 1905 года, у Расіі раней іншых краін успыхнула рэволюцыя. Рэволюцыя зрабіла тое, што ў некалькі месяцаў Расія па свайму **палітычнаму** ладу дагнала перадавыя краіны.
>
> Але гэтага мала. Вайна няўмольна, яна ставіць пытанне з бязлітаснай рэзкасцю: альбо загінуць, альбо дагнаць перадавыя краіны і перагнаць іх таксама **і эканамічна».**

Ленін крута паставіў пытанне: «альбо загінуць, альбо дагнаць перадавыя краіны і перагнаць іх таксама **і эканамічна».**

Задача, як бачыце, стаяла перад большэвікамі не маленькая і не лёгкая, але большэвікі не спалохаліся труднасцей. Стаўшы ва ўладзе, большэвіцкая партыя ўзялася за вырашэнне гэтай задачы з найвялікшым энтузіязмам. Зроблена ўжо к цяперашняму часу не мала. Замест меўшагася да рэволюцыі ганебнага адставання ад іншых краін, Совецкі Саюз паспяхова з кожным годам падцягвае ўзровень развіцця сваёй прамысловасці да ўзроўню найбольш развітых капіталістычных краін. Большэвіцкая рэволюцыя выратавала Расію ад ганебнага адставання ў адносінах да іншых краін. Яна падняла нашу прамысловасць на высокі ўзровень. Аднак задача яшчэ не вырашана. Мы і цяпер павінны прызнаць, што мы яшчэ адсталі ў эканамічных адносінах, але мірыцца з гэтым мы не хочам і не будзем.

Пара паставіць ва ўвесь рост тую асноўную эканамічную задачу нашай краіны, аб якой Ленін гаварыў перад Кастрычнікам. Прышоў час практычна ўзяцца за вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР: **дагнаць і перагнаць таксама і ў эканамічных адносінах найбольш развітыя капіталістычныя краіны Еўропы і Злучаныя Штаты Амерыкі,** вырашыць гэтую задачу канчаткова на працягу бліжэйшага перыяду часу. Вырашыўшы гэтую задачу, мы зробім СССР самай перадавой краінай у свеце ва ўсіх адносінах. Не толькі ў палітычных адносінах, чаго мы дасягнулі ўжо даўно, не толькі па ўзроўню тэхнікі вытворчасці, чаго мы таксама ўжо дасягнулі. Мы паставім гэтым СССР на першае месца ў свеце і ў эканамічных адносінах. Тады, і толькі тады, па-сапраўднаму раскрыецца значэнне новай эпохі ў развіцці СССР, эпохі пераходу ад грамадства соцыялістычнага да грамадства комуністычнага.

Чаго трэба практычна дабіцца, каб эканамічна дагнаць і перагнаць рашаючыя капіталістычныя краіны?

Таварыш Сталін ужо сказаў у сваім дакладзе, што для гэтага неабходна, напрыклад, па вытворчасці чыгуну. Я паўтару гэтыя цыфры.

Каб у вытворчасці чыгуну перагнаць Англію, мы павінны давесці штогоднюю выплаўку чыгуну да 25 мільёнаў тон. Гэта, дарэчы сказаць, не так ужо моцна адстае ад заданняў трэцяй пяцігодкі, па якой мы павінны дабіцца ў 1942 годзе 22 мільёнаў тон чыгуну. Каб перагнаць Германію па вытворчасці чыгуну, нам трэба давесці штогоднюю выплаўку чыгуну да 40—45 мільёнаў тон. Гэта, як бачыце, задача ўжо значна большага маштаба. Каб эканамічна перагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі, нам трэба штогоднюю выплаўку чыгуну давесці да 50—60 мільёнаў тон. Як бачыце, задача гіганцкага маштаба,—задача, якая значна выходзіць за межы трэцяй пяцігодкі.

Прывяду яшчэ прыклад—з электраэнергіяй.

Па спажыванню электраэнергіі на душу насельніцтва ў канцы трэцяй пяцігодкі СССР павінен перагнаць ужо сучасны ўзровень Францыі, але ён яшчэ будзе ў паўтара раза ніжэй узроўню Германіі і амаль у тры разы ніжэй сучаснага ўзроўню спажывання электраэнергіі ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Ці трэба аб'ясняць, чаму іменна зараз мы павінны паставіць ва ўвесь рост задачу «дагнаць і перагнаць?» Гэта ясна і без абшырных аб'ясненняў.

Цяпер у нас у прамысловасці накоплена велізарная тэхніка і ёсць магчымасць далейшага быстрага яе развіцця. У нас ёсць ужо шматлікія кадры, якія аўладалі тэхнікай і гатовы да новых, яшчэ больш сур'ёзных баёў за эканамічную магутнасць СССР. У нас, апрача таго, ужо канчаткова склалася соцыялістычнае грамадства, якое не хоча і не будзе мірыцца з фактам эканамічнага адставання ад капіталістычных краін, хоць гэта і ёсць рэзультат векавога гістарычнага адставання нашай краіны. Вось чаму партыя большэвікоў павінна паставіць вырашэнне гэтай задачы на чаргу дня. Пры гэтым мы будзем лічыць сваім абавязкам актыўна скарыстаць і шырока прыманіць у нашай краіне ўсё, што ёсць лепшага ў сучаснай тэхніцы і тэхналогіі вытворчасці, а таксама ў навуковых метадах арганізацыі працы. Мы павінны для гэтага ва ўсіх адносінах скарыстаць, скарыстаць па-большэвіцку, вопыт іншых краін. Усё, што толькі можа дапамагчы паскарэнню вырашэння асноўнай эканамічнай задачы СССР, павінна быць прынята ў наш разлік.

Пытанне пастаўлена так, каб распаліць імкненне да паскарэння тэмпаў росту прамысловасці, асабліва цяжкай прамысловасці, якая, у канчатковым выніку, вызначае ўздым усёй народнай гаспадаркі. Пытанне пастаўлена так, каб распаліць у большэвікоў і ва ўсіх чэсных людзей нашай краіны імкненне ў найкарацейшы тэрмін пакончыць з фактам недастатковасці эканамічнага ўзроўню СССР. Пастаўлена пытанне аб разгортванні эканамічнага спаборніцтва СССР з рашаючымі капіталістычнымі краінамі. Пытанне перанесена на міжна-

родную глебу. Тым мацней павінна быць наша імкненне з чэсцю вырашыць гэтую новую задачу.

Як гаварыў таварыш Сталін у сваім дакладзе, для вырашэння гэтай задачы патрэбен час, патрэбна, па крайняй меры, яшчэ 10—15 год, яшчэ дзве—тры пяцігодкі. Выкананне трэцяга пяцігадовага плана ва многім павінна прадрашыць вырашэнне гэтай задачы. Няхай-жа трэцяя пяцігодка стане нашым пабедным сцягам на арэне міжнароднага эканамічнага спаборніцтва СССР з капіталістычнымі краінамі! **(Апладысменты).**

## III. План далейшага ўздыму народнай гаспадаркі.

Трэці пяцігадовы план з'яўляецца працягам другой і першай пяцігодкі. У яго аснове ляжыць далейшае развіццё той-жа генеральнай большэвіцкай лініі. У ім паслядоўна праводзіцца лінія на далейшую індустрыялізацыю СССР, якая з'яўляецца асновай нашых ранейшых гаспадарчых поспехаў і залогам далейшага, яшчэ больш магутнага ўздыму народнай гаспадаркі.

План трэцяй пяцігодкі забяспечвае велізарны ўздым усіх галін народнай гаспадаркі. Асабліва быстра ідзе ўверх наша індустрыя і, перш за ўсё, цяжкая і абаронная індустрыя. Ён забяспечвае далейшы ўздым усіх эканамічных раёнаў нацыянальных рэспублік з належным учотам рашаючых агульнадзяржаўных задач. У гэтым плане даецца выцякаючая з асноўнай лініі ўвязка развіцця асобных частак народнай гаспадаркі і прадугледжваецца стварэнне неабходных гаспадарчых запасаў і рэзерваў. Пры велізарных маштабах вырасшай совецкай гаспадаркі нельга нармальна працаваць і ісці па шляху планамернага ўздыму без таго, каб у адпаведных прамысловых прадпрыемствах і чыгунак не былі дастатковыя запасы. скажам, паліва. Але нам патрэбны не толькі бягучыя запасы. Нам патрэбны, апрача таго, дзяржаўныя рэзервы паліва, электраэнергіі, прамысловых тавараў і прадавольствія, не гаворачы ўжо аб адпаведным развіцці чыгуначнага і іншых відаў транспарта. Неабходнасць гэтага няма чаго даказваць, асабліва ў сувязі з нашым абавязкам забяспечыць патрэбы абароны СССР.

У перадз'ездаўскай дыскусіі па тэзісах аб трэцім пяцігадовым плане было зроблена не мала істотных заўваг і быў унесен рад паправак і дадаткаў. Гэтыя заўвагі ў пэўнай частцы можна будзе ўлічыць пры канчатковым прыняцці тэзісаў аб трэцім пяцігадовым плане. Па пытанню-ж аб калгасах яўна неабходна прыняць некаторыя дадаткі да тэзісаў, аб чым я яшчэ скажу далей.

Трэці пяцігадовы план павінен спецыяльна ўлічыць некаторыя недахопы ў выкананні плана другой пяцігодкі. Для прыкладу можна спаслацца на становішча спраў у электрагаспадарцы.

Як вядома, план па вытворчасці электраэнергіі за другую пяцігодку амаль выканан,—выканан на 96 працантаў. Але, з другога боку, вядома таксама, што план па будаўніцтву электрастанцый выканан толькі напалавіну,—толькі на 55 працантаў. Значыцца, рост у вытворчасці электраэнергіі ў другой пяцігодцы адбываўся за кошт некаторага перанапружання электрастанцый. Ненармальнасць такога становішча відавочна. Яна магла мець месца толькі пры сур'ёзных дэфектах у самым планаванні развіцця народнай гаспадаркі, для якой забяспечанасць электраэнергіяй мае прама-такі рашаючае значэнне.

Могуць сказаць, што ў даным выпадку справа не столькі ў недахопах планавання, колькі ў недахопах работы па выкананню плана, гэта значыць у недахопах самога электрабудаўніцтва і ў адставанні вытворчасці энергаабсталявання. Але такое разважанне нельга прызнаць правільным. Нельга лічыць планаванне добрым, калі яно не лічыцца з ходам выканання плана. Такое кабінетнае, адарванае ад жыцця планаванне дзёшава каштуе. Планаванне не зводзіцца да складання груды табліц з цыфрамі незалежна ад ходу выканання плана. Самім табліцам, вядома, усёроўна, ці выконваюцца нашы планы, але нам, вядучым планавую гаспадарку, гэта далёка не ўсёроўна. Планы нам патрэбны для таго, каб мець правільную лінію ў гаспадарчай рабоце. Планы нам патрэбны па галінах і па раёнах, па годах і па больш кароткіх перыядах, з правільнай увязкай асобных частак і тэрмінаў выканання плана. У адпаведнасці з рэзультатамі фактычнага выканання плана неабходна ўносіць карэктывы па асобных галінах, раёнах і тэрмінах выканання плана. Планы нам патрэбны для таго, каб праўяраць, як вядзецца наша гаспадарчая работа. Калі-ж план не звязан з праверкай выканання, то ён ператвараецца ў паперку, у пустышку. Гэта датычыць усіх нашых гаспадарчых арганізацый, усёй нашай гаспадарчай работы. Паставіўшы сур'ёзна праверку выканання планаў, мы палепшым і гаспадарчую работу і складанне саміх планаў.

У нас не звярталася на праверку выканання планаў належнай увагі. Гэтым нярэдка карысталіся ў шкодніцкіх мэтах нашы ворагі. Трэба пакончыць з гэтымі парадкамі, і тады нашы планы будуць адыгрываць яшчэ большую ролю ў гаспадарчым жыцці краіны. Некаторае палепшанне работы ў галіне планавання мы ўжо маем, але і Дзяржплану, і наркаматам трэба яшчэ многа папрацаваць у гэтым напрамку.

Пераходжу да асобных пытанняў трэцяй пяцігодкі.

Па плану трэцяй пяцігодкі **народны даход** краіны ўзрастае (у цэнах 1926—1927 гадоў) з 96 мільярдаў да 174 мільярдаў рублёў, гэта значыць у 1,8 раза. Гэта ў агульным адпавядае **тэмпам** росту народнага даходу за першыя дзве пяцігодкі. Народны даход у першай пяцігодцы ўзрос таксама ў 1,8 раза; у другой пяцігодцы ён узрос у 2,1 раза. Але па сваіх сапраўдных **размерах** рост народнага даходу ў трэцяй пяцігодцы будзе намнога вышэй, чым за папярэднія годы. Так, у першай пяцігодцы прырост народнага даходу склаў 20,5 мільярда рублёў, у другой пяцігодцы—50,5 мільярда рублёў. Такім чынам, за дзве пяцігодкі, разам узятыя, народны даход нашай краіны павялічыўся на 71 мільярд рублёў. Гэта, як бачыце, не мала. Але па плану трэцяй пяцігодкі прырост народнага даходу павінен скласці 78 мільярдаў рублёў, гэта значыць больш чым за абедзве першыя пяцігодкі, разам узятыя.

Цяпер перайду да асобных галін народнай гаспадаркі.

## 1. Прамысловасць.

Аб'ём прадукцыі па прамысловасці СССР на 1942 год, на апошні год трэцяй пяцігодкі, устанаўляецца ў 180 мільярдаў рублёў (у цэнах 1926—1927 гадоў) супроць 95,5 мільярда рублёў у 1937 годзе, гэта значыць рост на 88 процантаў. Такім чынам, прырост прамысловай прадукцыі за трэцюю пяцігодку складзе 84,5 мільярда рублёў, што значна перавышае прырост прадукцыі двух першых пяцігодак, разам узятых. Пры выкананні гэтага плана ў нас будзе вырабляцца прамысловай прадукцыі, прыкладна, у 15 раз больш, чым у даваенны час.

Сярэдне-гадовы тэмп росту прамысловай прадукцыі ўстанаўляецца ў 13,5 процанта, гэта значыць некалькі меншы, чым у другую пяцігодку. Трэба, аднак, улічыць, што кожны процант прыросту прамысловай прадукцыі к канцу трэцяй пяцігодкі будзе складаць 1,8 мільярда рублёў супроць 950 мільёнаў рублёў у канцы другой пяцігодкі.

План прадугледжвае сярэдне-гадовы прырост па вытворчасці прадметаў шырокага спажывання ў 11 процантаў, а па вытворчасці сродкаў вытворчасці—15 процантаў. У рэзультаце гэтага, вытворчасць прадметаў спажывання павінна павялічыцца к канцу пяцігодкі ў 1,7 раза, а вытворчасць сродкаў вытворчасці павінна ўзрасці ў два разы, што павышае яе ўдзельную вагу ў прадукцыі ўсёй прамысловасці з 58 процантаў у канцы другой пяцігодкі да 62 процантаў у канцы трэцяй пяцігодкі. Як відаць з гэтага, план прадугледжвае вялікі тэмп росту прамысловасці, якая вырабляе прадметы шырокага спажывання, і, разам з тым, яшчэ больш быстры тэмп росту цяжкай прамысловасці.

Вось асноўныя заданні па важнейшых галінах прамысловасці, якія вытвараюць **сродкі вытворчасці:**

**Рост прадукцыі прамысловасці, вытвараючай сродкі вытворчасці**

| | 1937 г. | 1942 г. | 1942 г. у %% да 1937 г. |
|---|---|---|---|
| Вытворчасць сродкаў вытворчасці (у млрд. руб. у цэнах 1926/27 г.) | 55,2 | 112,0 | 203 |
| У тым ліку: | | | |
| 1. Машынабудаўніцтва і металаапрацоўка (у млрд. руб.) | 27,5 | 62,0 | 225 |
| У тым ліку: | | | |
| а) Станкі металарэжучыя (у тыс. шт.) | 36,0 | 70,0 | 194 |
| б) Паравозы магістральныя (у пераводзе на ўмоўныя „Э" і „СУ" у шт.) | 1581 | 2090 | 132 |
| в) Вагоны таварныя ў 2-осным вылічэнні (у тыс. шт.) | 58,8 | 90,0 | 153 |
| г) Аўтамабілі (у тыс. шт.) | 200,0 | 400,0 | 200 |
| 2. Электраэнергія (у млрд. квт. г.) | 36,4 | 75,0 | 206 |
| 3. Каменны вугаль (у млн. тн.) | 127,3 | 230,0 | 181 |
| 4. Нафта з газам (у млн. тн.) | 30,5 | 54,0 | 177 |
| 5. Торф (у млн. тн.) | 23,8 | 49,0 | 206 |
| 6. Чыгун (у млн. тн.) | 14,5 | 22,0 | 152 |
| 7. Сталь (у млн. тн.) | 17,7 | 28,0 | 158 |
| 8. Пракат з трубамі і пакоўкамі са зліткаў (у млн. тн.) | 13,0 | 21,0 | 162 |
| 9. Хімія (у млрд. р.) | 5,9 | 13,4 | 227 |
| 10. Цэмент (у млн. тн.) | 5,5 | 10,0 | 183 |
| 11. Вывазка дзелавой драўніны (у млн. кубічных метраў) | 111,3 | 200,0 | 180 |
| 12. Піламатэрыялы (у млн. кубічных метраў) | 28,8 | 45,0 | 156 |

Прывяду таксама асноўныя заданні па прамысловасці, якая вытварае **прадметы спажывання:**

**Рост прадукцыі прамысловасці, вытвараючай прадметы шырокага спажывання**

| | 1937 г. | 1942 г. | 1942 г. у %% да 1937 |
|---|---|---|---|
| Вытворчасць прадметаў спажывання (у млрд. руб. у цэнах 1926/27 г.) | 40,3 | 68,0 | 169 |
| 1. НКТэкстыльпром | 8,5 | 13,4 | 157 |
| 2. НКЛегпром | 6,7 | 9,8 | 147 |
| 3. НК Рыбнай прамысловасці | 0,8 | 1,4 | 169 |
| 4. НК Мясной і малочнай прамысловасці | 2,9 | 6,1 | 206 |
| 5. НКХарчпром | 9,1 | 15,0 | 164 |
| 6. НКЗаг | 1,9 | 2,8 | 142 |
| 7. Промкааперацыя (у цэнах 1932 г.) | 13,2 | 26,4 | 200 |
| **Па асобных відах вытворчасці.** | | | |
| а) папера (у тыс. тн.) | 831,6 | 1300,0 | 156 |
| б) баваўняна-папяровыя тканіны з таварным сураўём (у млн. м.), усяго | 3.442,4 | 4900,0 | 142 |
| в) шарсцяныя тканіны (у млн. метраў), усяго | 105,1 | 175,0 | 167 |
| г) абутак скураны (у млн. пар), усяго | 164,2 | 235,0 | 143 |
| д) цукар-пясок (у тыс. тн.) | 2,421,0 | 3500,0 | 144 |
| е) кансервы (у млн. умоўных банак) | 873,0 | 1800,0 | 206 |

Вышэй сярэдняга тэмпу ўздыму прамысловасці павінны расці ў трэцяй пяцігодцы такія галіны, як машынабудаўніцтва, электраэнергія, хімічная прамысловасць, якасныя сталі і некаторыя іншыя.

Асноўныя задачы работнікаў прамысловасці ў справе забеспячэння выканання трэцяй пяцігодкі заключаюцца ў наступным:

**а) Па машынабудаўніцтву, чорнай і каляровай металургіі.** Задача заключаецца ў тым, каб фарсіраваць развіццё машынабудаўніцтва і забяспечыць, тым самым, далейшае магутнае павелічэнне тэхнічнага ўзбраення самой прамысловасці, іншых галін народнай гаспадаркі і абароны краіны. Фарсіраванае развіццё машынабудаўніцтва неразрыўна звязана з новым яшчэ больш магутным уздымам, па-першае, чорнай металургіі: чыгун, сталь, пракат, якасныя сталі; па-другое, каляровай металургіі: медзь, алюміній, цынк, свінец, нікель і іншыя каляровыя металы. Ад поспехаў у вырашэнні гэтай групы задач больш за ўсё залежыць вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР, задачы дагнаць і перагнаць найбольш развітыя капіталістычныя краіны таксама і ў эканамічных адносінах.

У сувязі з задачамі далейшага развіцця машынабудаўніцтва, трэба падкрэсліць выключную важнасць пытанняў **тэхнічнай палітыкі.** Нам патрэбна не ўсякае машынабудаўніцтва, нам патрэбна развіццё перадавога машынабудаўніцтва, якое стаіць у поўнай меры на ўзроўні галоўных дасягненняў сусветнай тэхнікі. Нам, напрыклад, трэба не проста павялічваць вытворчасць станкоў, нам неабходна забяспечыць у станкабудаўніцтве рашучае павышэнне ўдзельнай вагі высокапрадукцыйных і спецыяльных станкоў, асабліва аўтаматаў і поўаўтаматаў. Гэта адносіцца і да ўсіх астатніх відаў машынабудаўніцтва. Мы не павінны дапускаць адставання нашай машынабудаўнічай прамысловасці ад узроўню сучаснай тэхнікі, ад сучасных тэхнічных дасягненняў, да чаго немінуча вядзе самазаспакоенасць і зазнайства ў гэтай справе. Трэба, каб тэхнічная палітыка ў савецкім машынабудаўніцтве была ў поўнай меры на ўзроўні сучаснай сусветнай тэхнікі.

**б) Па паліву і па энергетычнай базе СССР.** Задача заключаецца ў тым, каб бальшэвіцкімі тэмпамі рушыць уперад адстаўшае ў апошнія годы паліва, асабліва здабычу вугалю і нафты, і быстра разгарнуць электрабудаўніцтва і вытворчасць энергаабсталявання. Неабходна, каб развіццё паліўнай і энергетычнай базы не толькі не адставала ад уздыму прамысловасці і народнай гаспадаркі, а ішло ўперадзе іх і стварала моцную базу для далейшага іх развіцця. Трэба ліквідаваць меўшаеся адставанне ў будаўніцтве вугальных шахт і нафтапромыслаў, а таксама ў здабычы торфу і сланцаў. Без рашучага і хутчэйшага ўздыму электрабудаўніцтва, вугальна-нафтавай і наогул паліўнай базы ва ўсіх асноўных эканамічных раёнах краіны нельга вырашыць другіх буйных задач ва ўздыме народнай гаспадаркі. Без гэтага нельга забяспечыць здаровую аснову выканання

трэцяй пяцігодкі. Каб не дапускаць загрузкі транспарта велізарнымі перакідкамі паліва, трэба забяспечыць максімальна высокія тэмпы здабычы вугаляў у Падмаскоўным басейне, у раёнах Урала, на Далёкім Усходзе і ў Сярэдняй Азіі. Справу стварэння ў раёне паміж Волгай і Уралам новай нафтавай базы—«Другога Баку» лічыць першаступеннай і неадкладнай дзяржаўнай задачай. Трэба пакончыць з адставаннем у галіне газіфікацыі, шырока разгарнуць скарыстанне прыродных і прамысловых газаў, а таксама падземную газіфікацыю вугаляў; у электрабудаўніцтве трымаць цвёрды курс на невялікія і сярэднія электрастанцыі, цэпластанцыі і гідрастанцыі і даць вялікі ход дробным гідрастанцыям.

**в) Па хімічнай прамысловасці.** Задача заключаецца ў тым, каб паскорана рушыць уперад хімічную прамысловасць і хімізацыю народнай гаспадаркі, для чаго ў нас ёсць неабмежаваныя магчымасці і самыя лепшыя перспектывы. Тут асабліва важна сабраць і нацэліць кадры. Добрая арганізацыя кадраў хімікаў, інжынераў, тэхнікаў і рабочых, і шырокае прыцягненне людзей навукі да справы развіцця хімічнай прамысловасці і ўнядрэння ўдасканаленых працэсаў павінны забяспечыць выкананне лозунга «трэцяя пяцігодка—пяцігодка хіміі».

**г) Па вытворчасці тавараў шырокага спажывання.** Задача заключаецца ў тым, каб усямерна расшырыць вытворчасць тавараў шырокага спажывання, развіваючы ўсе галіны лёгкай, харчовай і мясцовай прамысловасці. Трэба ўсяляк паскорыць уздым тэкстыльнай прамысловасці, у якой сыравіна—бавоўна ідзе многа ўперадзе прамысловай перапрацоўкі. Максімальны ўдзел у гэтай рабоце мясцовых партыйных, савецкіх, прафсаюзных арганізацый ва многім павінен паскорыць уздым вытворчасці тавараў шырокага спажывання.

**д) Па такіх галінах прамысловасці,** якія асабліва адсталі, як лясная прамысловасць, вытворчасць будматэрыялаў, рыбная прамысловасць і некаторыя іншыя, патрэбны сур'ёзныя і тэрміновыя меры. Унядрэнне перадавой тэхнікі і забеспячэнне правільнай арганізацыі працы з добра арганізаваным заахвочваннем перадавых, лепшых работнікаў забяспечыць паспяховае вырашэнне задачы ліквідацыі адставання гэтых галін.

**е) Па ўсіх галінах прамысловасці** трэба:

па-першае, падняць адказнасць кіраўнікоў—камуністаў і беспартыйных, за даручаную ім справу, за сапраўдную бальшэвіцкую дзелавітасць у рабоце, пры якой падбор кадраў і фактычная праверка выканання стаяць заўсёды ў цэнтры ўвагі кіраўнікоў;

па-другое, узмацніць барацьбу за павышэнне прадукцыйнасці працы, за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны, за развіццё сацыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху;

па-трэцяе, дабівацца зніжэння сабекошту прамысловай прадукцыі

і ўсямерна дабівацца павышэння якасці прадукцыі ва ўсіх галінах прамысловасці.

Праведзеная за апошні перыяд рэарганізацыя прамысловых наркаматаў, у сэнсе іх разбуйнення, набліжае кіраўніцтва наркаматаў да прадпрыемстваў і павінна адыграць станоўчую ролю ў далейшым уздыме нашай прамысловасці.

## 2. Па сельскай гаспадарцы

Трэці пяцігадовы план устанаўляе рост прадукцыі па ўсёй сельскай гаспадарцы з 20,1 мільярда рублёў (у цэнах 1926—1927 гадоў) у канцы другой пяцігодкі да 30,5 мільярда рублёў у канцы трэцяй пяцігодкі, гэта значыць рост на 52 проценты.

Як растуць асобныя галіны сельскай гаспадаркі?

Па **зернавых** культурах план намячае павелічэнне ўраджайнасці на 27 процантаў. Гэта значыць, што к канцу трэцяй пяцігодкі мы павінны збіраць ураджай зернавых, прыкладна, у 8 мільярдаў пудоў. Ці пасільна гэта задача? Так, пасільна. Гэта відаць хоць-бы з таго, што ўжо ў 1937 годзе мы атрымалі, як паказваюць апошнія падлікі, ураджай зярна ў 7 мільярдаў 340 мільёнаў пудоў. Тым самым мы ў асноўным выканалі Сталінскае заданне—забяспечыць ураджай зернавых у 7—8 мільярдаў пудоў. Калі добра папрацуем, напэўна выканаем поўнасцю і заданне на збор 8 мільярдаў пудоў зярна. Каб ацаніць прыведзеныя вышэй цыфры аб ураджаі зернавых, трэба прыпомніць, што ў перадваенныя годы сярэдні ўраджай за пяцігоддзе склаў крыху больш 4 мільярдаў пудоў.

Па **тэхнічных** культурах трэцяя пяцігодка намячае наступныя заданні на 1942 год: па бавоўне-сырцу—32,9 мільёна цэнтнераў, пры ўраджайнасці паліўной бавоўны ў 19 цэнтнераў з гектара, што азначае рост прадукцыі на 28 процантаў; па цукровых бураках збор у 300 мільёнаў цэнтнераў, пры ўраджайнасці ў 250 цэнтнераў з гектара, што азначае павелічэнне прадукцыі на 37,2 проданта; па ільнувалакну—8,5 мільёна цэнтнераў, пры ўраджайнасці ў 4,6 цэнтнера з гектара, што азначае павелічэнне прадукцыі на 49 процантаў. Трэба падняць такія культуры, як сланечнік, каноплі, кукуруза, каучуканосы, новалубяныя. Садаводства і вінаградарства павінны моцна пайсці ў гару. Субтрапічным культурам, чаю, цытрусавым, шоўкаводству неабходна забяспечыць далейшы вялікі ўздым. Трэба стварыць вакол вялікіх гарадоў бульбяна-гароднінныя і жывёлагадоўчыя базы, якія-б забяспечвалі поўнасцю снабжэнне гэтых гарадоў гароднінай, бульбай, а, па-магчымасці, таксама малаком і мясам.

У нашай сельскай гаспадарцы стварыліся выключна спрыяльныя магчымасці для ўздыму калгаснай працы. У гэтых адносінах выключную цікавасць прадстаўляе прыклад з нашым бавоўнаводствам. Варта было дзяржаве, па ініцыятыве таварыша Сталіна, устанавіць у

1935 годзе спецыяльныя прэміі за павелічэнне здачы бавоўны і за кароткі час мы дабіліся велізарнага поспеху. Сапраўды, яшчэ ў 1934 годзе збор бавоўны па СССР складаў усяго 12 мільёнаў цэнтнераў, а ў 1936 годзе ён складаў ужо 24 мільёны цэнтнераў. За два годы збор бавоўны падвоіўся. Што гэта не выпадковы ўздым, відаць з таго, што і ў наступныя годы ўраджайнасць і валавы збор бавоўны прадаўжалі няспынна расці.

Вось больш падрабязныя цыфры за апошнія пяць год па Узбекскай ССР, якая з'яўляецца асноўным вытворцам бавоўны ў СССР.

**Ураджайнасць і валавы збор бавоўны-сырцу па Узбекскай ССР.**

| Годы | Ураджайнасць у цэнтн. з га | Валавы збор (тыс. цнт.) |
|---|---|---|
| 1934 . . . . | 7,9 | 7380 |
| 1935 . . . . | 11,6 | 10828 |
| 1936 . . . . | 16,2 | 15161 |
| 1937 . . . . | 16,1 | 15279 |
| 1938 . . . . | 16,4 | 15042 |

З гэтых даных відаць, як ва Узбекістане расла ўраджайнасць бавоўны за гэтыя пяць год. У 1934 годзе ўраджай бавоўны з аднаго гектара ва Узбекістане складаў 7,9 цэнтнера, у 1935 годзе—11,6 цэнтнера, у 1936 годзе—16,2 цэнтнера, у 1937 годзе—16,1 цэнтнера, у 1938 годзе—16,4 цэнтнера. Гэта поспех ужо не асобных людзей або груп работнікаў. Гэта перамога узбекскага народа, які на справе паказаў, якія велізарныя сілы тояцца ў нашых калгасах. **(Апладысменты).**

Дзякуючы такім-жа поспехам па бавоўне таксама ў Азербайджане, Туркменістане, Таджыкістане, а апрача таго і на Украіне, у нашай краіне цяпер вырашана бавоўнавая праблема. Тэкстыльная прамысловасць СССР не толькі поўнасцю забяспечана бавоўнай, але ўжо не паспявае за яе перапрацоўкай. Калі-б не было калгасаў, не магло-б адбывацца такіх цудаў. **(Апладысменты).** Але калгасны лад, які апіраецца на дапамогу дзяржавы сельскагаспадарчымі машынамі, трактарамі і мінеральнымі ўгнаеннямі, павярнуў справу на зусім новыя рэльсы.

Прыклад з бавоўнай павінен прымусіць задумацца ўсіх работнікаў сельскай гаспадаркі. Ён паказвае, што для росту прадукцыйнасці працы ў сельскай гаспадарцы, зразумела, не толькі на бавоўнавых палях, у нас стварыліся выключна спрыяльныя магчымасці, якіх раней не было. З таго часу, як калгасы ўмацаваліся, яны пачалі паказваць сапраўдную сваю сілу ва ўздыме сельскай гаспадаркі. Усё

гэта гаворыць за тое, што вялікія заданні трэцяй пяцігодкі па сельскай гаспадарцы могуць і павінны быць забяспечаны.

Базай для далейшага ўздыму нашай сельскай гаспадаркі з'яўляецца:

па-першае, далейшая механізацыя сельскай гаспадаркі, яе комплекснасць, абавязковая і поўная забяспечанасць трактараў трактарна-прыцэпным інвентаром, падцягванне справы механізацыі тэхнічных культур;

па-другое, узмацненне работы па правядзенню агратэхнічных мерапрыемстваў і асобыя клопаты аб палепшанні насеннай справы;

па-трэцяе, увядзенне правільнай сістэмы ўгнаенняў у сельскай гаспадарцы, паднясце справы снабжэння мінеральнымі ўгнаеннямі і наогул развіццё хімізацыі сельскай гаспадаркі;

па-чацвертае, пераход на правільныя севаабароты, а, значыць, навядзенне належнага парадку ў землеўпарадчых справах.

У параўнанні з сельскагаспадарчымі культурамі, план трэцяй пяцігодкі па **жывёлагадоўлі** адзначаецца больш высокім ростам тэмпа прадукцыі. Пагалоўе коней за годы трэцяй пяцігодкі павінна павялічыцца на 35 працантаў, буйнай рагатай жывёлы—на 40 працантаў, свіней—на 100 працантаў, авечак—на 110 працантаў. Асноўнай прадпасылкай такога быстрага росту жывёлагадоўлі з'яўляецца запраектаваны ў плане вялікі рост кармавой базы. Плошчы пад кармавымі культурамі павялічваюцца з 10,6 мільёна гектараў да 23,6 мільёна гектараў к канцу трэцяй пяцігодкі, што дае прырост на 123 працанты. Паколькі зернавая праблема ўжо вырашана, то ў трэцяй пяцігодцы СССР павінен канчаткова вырашыць і жывёлагадоўчую праблему.

Нашы **соўгасы** ў трэцяй пяцігодцы павінны канчаткова ператварыцца ў высокапрадукцыйныя і высокарэнтабельныя гаспадаркі. Яны павінны стаць на справе прыкладам узорнай сельскай гаспадаркі.

Вялікую арганізуючую ролю ва ўздыме сельскай гаспадаркі павінна адыграць **Усесаюзная Сельска-Гаспадарчая Выстаўка,** якая адкрываецца ў гэтым годзе. У гэтай выстаўцы прымуць удзел перадавікі ўсіх галін сельскай гаспадаркі. Але не толькі ў гэтым справа. Для атрымання права на ўдзел ва Ўсесаюзнай Сельска-Гаспадарчай Выстаўцы ўстаноўлены пэўныя паказальнікі для калгасаў, МТС і соўгасаў, а таксама для асобных катэгорый работнікаў сельскай гаспадаркі, з дыферэнцыяцыяй гэтых паказальнікаў па культурах, галінах і сельскагаспадарчых зонах. Гэтыя паказальнікі ўстаноўлены такім чынам, што пры выкананні іх усёй масай калгасаў і соўгасаў у нас будзе забяспечана не толькі выкананне, але і перавыкананне заданняў трэцяга пяцігадовага плана па сельскай гаспадарцы. Такім чынам, Усесаюзная Сельска-Гаспадарчая Выстаўка дае цэлую праграму для ўздыму сельскай гаспадаркі. Яна паслужыць справе ўсесаюзнай папулярызацыі перадавікоў сельскай гаспадаркі, папулярызацыі і

пашырэнню лепшых прыкладаў іх работы. Гэта выстаўка павінна выклікаць спаборніцтва паміж калгасамі, МТС і соўгасамі, паміж раёнамі, абласцямі і рэспублікамі. Яна можа і павінна адыграць буйную ролю ў арганізацыі далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі і ў выкананні заданняў трэцяй пяцігодкі.

Скажу ўсяго два словы яшчэ аб адным вялікім пытанні—**аб калгасах.**

У нас ва многіх выпадках сур'ёзна запушчаны арганізацыйныя справы калгаснага кіраўніцтва. Не выпадкова, што ў апошні час прышлося правесці рад мер па барацьбе з нарушэннямі Статута сельскагаспадарчай арцелі. Не без уплыву чуждых і прама шкодніцкіх элементаў інтарэсы падсобнай гаспадаркі калгаснікаў у некаторых выпадках сталі проціпастаўляць інтарэсам калгаса. Між тым, у сялян ёсць толькі адзін верны шлях да далейшага палепшання свайго жыцця—большэвіцкі шлях **умацавання калгасаў. (Апладысменты).** Трэба ліквідаваць нарушэнні Статута сельскагаспадарчай арцелі, увесці ў норму прысядзібныя землі і індывідуальную жывёлу калгаснікаў, паставіць на першае месца клопаты аб калгаснай уласнасці, аб умацаванні калгаса. Тады будзе правільна развівацца і падсобная гаспадарка калгаснікаў. У гэтым шлях да далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі, да багацця прадуктаў у нашай краіне, да заможнага і культурнага жыцця ўсіх калгаснікаў. Пытанні калгаснай дысцыпліны і прадукцыйнасці працы таксама часта зусім закінуты. Ці не трэба паставіць такое пытанне: наколькі нармальна такое становішча, калі ў калгасах не мала такіх калгаснікаў,—«калгаснікаў» па назве,—у якіх за ўвесь год не набіраецца ні аднаго працадня або якіх-небудзь 20—30 працадзён, так сказаць, «для блізіру»? Ці сапраўдныя гэта калгаснікі і ці павінны яны карыстацца ўсімі перавагамі, устаноўленымі дзяржавай для калгасаў і калгаснікаў? І яшчэ адно пытанне. У падняцці прадукцыйнасці працы і ва ўздыме сельскай гаспадаркі ўжо буйную ролю адыграла стварэнне звенняў у калгасах. Пакуль звеннявая арганізацыя пашырана ў невялікай частцы калгасаў. Між тым, гэтая справа апраўдана вопытам і патрабуе шырокага распаўсюджання ў калгасах. У адпаведнасці з гэтымі заўвагамі, мне здаецца, прыдзецца ўнесці дадаткі ў тэзісы аб трэцяй пяцігодцы.

## 3. Транспарт і сувязь.

Агульны велізарны рост народнай гаспадаркі Совецкага Саюза і шырокае ўключэнне ў эканамічнае жыццё краіны аддаленых раёнаў прад'яўляюць новыя вялікія патрабаванні да транспарта, асабліва да чыгуначнага транспарта. Дастаткова сказаць, што, напрыклад, у 1937 годзе 90 проц. грузаабароту выконвалася чыгуначным транс-

партам, 8 проц.—рачным транспартам і толькі 2 проц.—аўтатранспартам.

Па плану трэцяй пяцігодкі размер грузаабароту на чыгунках павялічваецца з 355 мільярдаў да 510 мільярдаў тона-кілометраў, гэта значыць расце на 44 проц., а ўвесь грузаабарот расце на 52 проц. У той-жа час валавая прадукцыя прамысловасці і сельскай гаспадаркі за гэты перыяд павялічваецца на 82 проц. З гэтага вынікае, што мы павінны прыняць рашучыя меры к таму, каб разгрузіць чыгуначны транспарт і палепшыць скарыстанне воднага і аўтамабільнага транспарта. З гэтага выцякае таксама неабходнасць рашучага скарачэння сустрэчных і некаторых дальніх перавозак. Пры правільным планаванні прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці і будаўніцтва мы можам дабіцца скарачэння многіх перавозак шляхам арганізацыі адпаведных вытворчасцей на месцы. Сюды адносіцца развіццё здабычы мясцовых вугаляў, спыненне перавозак лесу з Сібіры ў Еўрапейскую частку краіны, забарона перавозак бульбы і гародніны з адной вобласці ў другую і інш.

З другога боку, неабходна далейшае значнае ўзмацненне тэхнічнай базы чыгуначнага транспарта. Нагрузка на адзін кілометр пуці на чыгунках у нас адносна высокая. Так, на чыгунках ЗША на адзін кілометр пуці гадовая нагрузка складае 1,9 мільёна тон грузаў, а ў нас ужо ў канцы другой пяцігодкі яна складала 4,2 мільёна тон. Значыцца, у нас кілометр пуці, ды і рухомы састаў скарыстоўваюцца значна інтэнсіўней. З гэтым трэба лічыцца ў плане ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы чыгунак. Разгортванне чыгуначнага будаўніцтва павінна забяспечыць увод у дзеянне каля 11 тысяч кілометраў новых чыгунак, супроць 3 тысяч кілометраў у другой пяцігодцы. Укладка другіх пуцей прадугледжана на працяжэнні 8 тысяч кілометраў, электрыфікацыя—1.840 кілометраў. Парк лакаматываў павінен быць павялічан на 7.370 адзінак, прычым, галоўным чынам, за кошт магутных паравозаў і, асабліва, за кошт кандэнсацыйных паравозаў. Вагонны парк павінен павялічыцца на 178 тысяч чатырохосных грузавых і на 12 тысяч пасажырскіх вагонаў. Аўтасцэпкай неабходна абсталяваць 300 тысяч вагонаў і аўтатармазамі—200 тысяч вагонаў таварнага парка.

Неадкладнай справай з'яўляецца ліквідацыя адставання воднага транспарта і павелічэнне яго ролі ў абслугоўванні народнай гаспадаркі, асабліва ў перавозках масавых грузаў: лес, хлеб, вугаль і нафта.

Паўночны Марскі Шлях павінен ператварыцца ў трэцяй пяцігодцы ў нармальна дзеючую марскую магістраль, якая забяспечвала-б планамерную сувязь з Далёкім Усходам.

Быстра павышаецца значэнне аўтамабільнага транспарта. Аўтамабільны парк павялічваецца з 570 тысяч да 1.700 тысяч к канцу трэцяй пяцігодкі. За трэцюю пяцігодку трэба падрыхтаваць да

2 мільёнаў шофераў. Неабходна значна палепшыць скарыстанне аўтамабільнага парка.

Наша грамадзянская авіяцыя таксама быстра расце, але, бадай, церпіць ад пэўнай раскіданасці ў сваёй рабоце. Ёй неабходна сканцэнтравацца на асноўных дзяржаўных лініях і падняць на належную вышыню тэхнічнае абсталяванне трасы.

Справа развіцця сувязі ў нашых умовах мае велізарнае дзяржаўнае значэнне. Між тым, у гэтай галіне вельмі запушчана вытворча-тэхнічная база і недастаткова прадумана тэхнічная палітыка. Арганізацыі і палепшанню сувязі неабходна ўдзяліць сур'ёзную ўвагу.

У трэцяй пяцігодцы на работніках транспарта і сувязі ляжыць вялікая адказнасць за далейшы ўздым гэтых галін, за паднятце іх тэхнічнага ўзбраення ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі і за палепшанне арганізацыі ўсёй справы.

## 4. Капітальнае будаўніцтва.

Гіганцкі план уздыму народнай гаспадаркі ў трэцяй пяцігодцы патрабуе адпаведнага размаху новага будаўніцтва.

Агульны размер капіталаўкладанняў у трэцяй пяцігодцы вызначан у 181 мільярд рублёў, супроць 115 мільярдаў рублёў, укладзеных у другой пяцігодцы, і супроць 51 мільярда рублёў—у першай пяцігодцы. Такім чынам, размер капіталаўкладанняў у трэцяй пяцігодцы перавышае суму капіталаўкладанняў за першую і другую пяцігодкі, разам узятыя.

Які **напрамак капіталаўкладанняў?**

Больш палавіны, а іменна 103,6 мільярда рублёў накіроўваецца на развіццё прамысловасці, што дае павелічэнне на 76 працантаў супроць другой пяцігодкі. З указанай сумы ў прамысловасць, якая вытварае сродкі вытворчасці, укладваецца 87,2 мільярда рублёў, а ў прамысловасць, якая вытварае сродкі спажывання,—16,4 мільярда рублёў, што складае амаль падваенне супроць другой пяцігодкі.

У сельскую гаспадарку дзяржаўныя ўкладанні дасягаюць 10,7 мільярда рублёў, у тым ліку ў МТС—звыш 5 мільярдаў рублёў. Апрача таго, трэба лічыць грашовыя і натуральныя ўкладанні саміх калгасаў.

Капіталаўкладанні ў транспарт дасягаюць 35,8 мільярда рублёў супроць 20,7 мільярда рублёў у другой пяцігодцы, або рост на 73 проц. Пры гэтым, капіталаўкладанні ў чыгуначны транспарт растуць на 82 проданты.

Цяпер паглядзім, што ўвойдзе ў дзеянне ў рэзультаце гэтых капіталаўкладанняў?

План прадугледжвае **ўвод у дзеянне** новых і рэканструіраваных прадпрыемстваў у трэцяй пяцігодцы коштам у 182 мільярды рублёў супроць 103 мільярдаў рублёў у другой пяцігодцы і 39 мільярдаў

рублёў у першай пяцігодцы. З гэтага відаць, што, і з улікам быўшага ў апошнія годы падаражання будаўніцтва, у трэцяй пяцігодцы будзе ўведзена ў дзеянне вытворчых магутнасцей больш, чым за дзве папярэднія пяцігодкі, разам узятыя. **(Апладысменты).**

Гэта праграма капітальных работ і план уводу ў дзеянне новых і рэканструіраваных прадпрыемстваў забяспечвае далейшы вялікі рост вытворча-тэхнічнай базы СССР і ўтварэнне пэўных рэзерваў магутнасцей у важнейшых галінах народнай гаспадаркі. Дастаткова сказаць, што асноўныя фонды прамысловасці падвойваюцца.

Па асобных-жа галінах прамысловасці мы маем такі рост вытворчых магутнасцей: па электрастанцыях—з 8,1 мільёна кіловат да 17,2 мільёна кіловат, гэта значыць больш, чым падваенне; па вугальнай прамысловасці—у 1,7 раза, з давядзеннем к канцу трэцяй пяцігодкі магутнасці шахт да 285 мільёнаў тон вугалю па Наркамтопу; па перапрацоўцы нафты—у паўтара раза; па чыгуну—да 25 мільёнаў тон; па сталі—у паўтара раза; па медзі—у 2,4 раза; па алюмінію—у 3,5 раза; па цэменту—у паўтара раза; па аўтамабільнай прамысловасці—у 2,4 раза; па баваўняна-папяровай прамысловасці (верацёны)—у 1,5 раза; па вырабу ткацкіх станкоў—у 5,5 раза; па паперы—у паўтара раза; па аўтапакрышках—амаль у 3 разы.

З асобных, найбольш буйных прамысловых будоўляў, укажу на наступныя. У раёне паміж Волгай і Уралам будуецца «Другое Баку», прычым за трэцюю пяцігодку тут павінны быць створаны вытворчыя магутнасці па здабычы 7 мільёнаў тон нафты. Напомню, што Баку ў 1913 годзе даў 7,7 мільёна тон нафты. У раёне Куйбышэва будуецца найвялікшае ў свеце збудаванне—дзве гідрастанцыі агульнай магутнасцю ў 3,4 мільёна кіловат. Гэтыя гідрастанцыі вырашаць праблему абваднення засушлівых зямель Заваложжа і забеспячэння ўстойлівых, высокіх ураджаяў на гэтых землях, а таксама падымуць справу суднаходства па Волзе і Каме. Цяпер мы вырашаем буйную дзяржаўную задачу па стварэнню марскога і акіянскага флота, што таксама патрабуе стварэння новай магутнай вытворчай базы па суднабудаўніцтву. У трэцяй пяцігодцы заканчваецца будаўніцтва Маскоўскага і Горкаўскага аўтазаводаў, заканчваецца будаўніцтва Магнітагорскага металургічнага камбіната. У трэцяй пяцігодцы па ўсёй краіне ўвойдуць у строй не сотні, а тысячы новых буйных, сярэдніх і невялікіх прамысловых прадпрыемстваў, будаўніцтва якіх шырока разгортваецца па ўсіх галінах прамысловасці.

У галіне сельскай гаспадаркі ажыццяўляецца будаўніцтва 1.500 МТС. Сільна падымаецца рамонтная база для трактараў, камбайнаў і іншых сельскагаспадарчых машын. У соўгасах асабліва ўзмоцнена павінна разгортвацца будаўніцтва жывёлагадоўчых пабудоў з адпаведнымі мерапрыемствамі па механізацыі водаснабжэння, каб поўнасцю забяспечыць культурнае ўтрыманне жывёлы.

Па ірыгацыі і меліярацыі заканчваюцца такія буйныя работы, як Вахш, Калхіда, Невіннамыскі канал, Мургабскі аазіс.

Як вядома, вялікай адмоўнай з'явай у будаўніцтве з'яўляецца нявхватка будматэрыялаў. План прадугледжвае значнае палепшанне справы ў гэтых адносінах. Новы наркамат—Наркамат Будаўнічых Матэрыялаў—павінен будзе разгарнуць вялікую работу, асабліва па развіццю вытворчасці стандартных буддэталей і канструкцый.

Вялікая ўвага ў плане будаўніцтва ўдзелена пытанню аб **размяшчэнні** будоўляў па эканамічных раёнах краіны.

План зыходзіць з наступнай установкі: у адпаведнасці з асноўнымі дзяржаўнымі інтарэсамі, наблізіць прамысловасць да крыніц сыравіны і раёнаў спажывання і тым садзейнічаць ліквідацыі нерацыянальных і празмерна дальніх перавозак, а таксама садзейнічаць далейшаму ўздыму эканамічна адсталых раёнаў СССР.

**У асноўных эканамічных раёнах** Саюза неабходна забяспечыць комплекснае развіццё гаспадаркі, для чаго ў кожным з гэтых раёнаў—арганізаваць здабычу паліва і вытворчасць такіх відаў прадуктаў, як цэмент, алебастр, хімічныя ўгнаенні, шкло, масавыя вырабы лёгкай і харчовай прамысловасці ў размерах, якія забяспечвалі-б патрэбнасць гэтых раёнаў. У кожнай рэспубліцы, у кожным краі і вобласці павінны вырабляцца такія прадукты харчавання, спажываемыя ўсюды ў вялікай колькасці, як бульба, гародніна, малочныя прадукты, мука, кандзіцерскія вырабы, піва, а таксама такія прамысловыя вырабы, як галантарэя, вырабы швейнай прамысловасці, мэбля, цэгла, вапна і т. д. З другога боку, у адносінах Масквы, Ленінграда і раду іншых буйнейшых прамысловых цэнтраў краіны неабходна строга праводзіць забарону будаўніцтва новых прадпрыемстваў. Нарэшце, нельга дапускаць у будаўніцтве новых заводаў такой вузкай спецыялізацыі, пры якой мяркуецца з аднаго спецыяльнага завода снабжаць тым ці іншым відам прадукцыі ўсе раёны краіны. Гэты грэх пакуль яшчэ не поўнасцю ліквідаван у плане. З такім недарэчным схематызмам у планах будаўніцтва трэба рашуча пакончыць.

У асобым становішчы знаходзяцца раёны Усходняй часткі СССР і, у першую чаргу, Далёкі Усход, а таксама раёны, размешчаныя ў глыбіні краіны. Ім у плане будаўніцтва ў трэцяй пяцігодцы ўдзяляецца асабліва вялікая ўвага.

На прыкладзе **Далёкага Усхода** асабліва відаць, што без комплекснага развіцця асноўных эканамічных ачагоў краіны нельга забяспечыць самых важных дзяржаўных інтарэсаў. Далёкі Усход павінен мець у сябе на месцы ўсё неабходнае па паліву, а, па магчымасці, таксама па металу і машынабудаўніцтву, па цэменту, лесу і наогул па будаўнічых матэрыялах, таксама і па большасці грамоздкіх для перавозкі прадуктаў харчовай і лёгкай прамысловасці. Зразумела, Далёкі Усход павінен цалкам забяспечваць сябе гароднінай

і бульбай, ды і наогул рашуча ўзяцца за ўздым сельскай гаспадаркі, за поўную ліквідацыю сваіх прарываў у сельскай гаспадарцы. На Далёкім Усходзе разгортваецца буйнае прамысловае будаўніцтва і ўзмоцнена праводзяцца чыгуначныя пуці. У трэцяй пяцігодцы будзе ўжо часткова дзейнічаць Байкала-Амурская чыгуначная магістраль, якая дае новую магутную сувязь ДВК з Сібір'ю. Далёка-Усходні Край мы разглядаем як магутны фарпост совецкай улады на Усходзе, які патрабуе ўсямернага далейшага ўмацавання. **(Бурныя апладысменты).**

Трэці пяцігадовы план значна падымае эканамічную ролю Паваложжа. Стварэнне нафтавай базы, падобнай «Другому Баку», будаўніцтва магутнейшых гідрастанцый, разам з перспектывамі шырокага абваднення Заваложжа і значнага падняцця транспартнай ролі Волжска-Камскага рачнога басейна, ператварае гэты раён у магутны эканамічны ачаг, дзе разгорнецца вялікае новае прамысловае будаўніцтва і будзе забяспечан вялікі ўздым усёй сельскай гаспадаркі.

План забяспечвае далейшы гаспадарчы і культурны ўздым **нацыянальных рэспублік і абласцей.** З асобных прыкладаў можна ўказаць на наступныя буйныя будоўлі ў саюзных рэспубліках. Ва Украінскай ССР канчаюцца будаўніцтвам Крываражскі і Запарожскі металургічныя заводы. У Беларускай ССР—Белдрэс, другая чарга, і разгортваецца вялікае будаўніцтва па здабычы торфу. У Азербайджанскай ССР пачынае будавацца Мінгічаурская ГЭС, будзе дабудоўвацца чыгунка Мінджэвань—Джульфа і другая чарга Бакінскага вадаправода. У Грузінскай ССР—сканчэнне будаўніцтва па асушэнню Калхідскай нізменасці, сканчэнне будаўніцтва Чорнаморскай чыгункі, а таксама Тбіліскага трыкатажнага камбіната. У Армянскай ССР канчаецца будаўніцтвам Канакірская ГЭС, завод СК «Совпрен». Ва Узбекскай ССР канчаецца будаўніцтвам Чырчыкская ГЭС і Ташкенцкі паркале-саціравы камбінат, пачынаецца будаўніцтвам Зераўшанскае водасховішча. У Таджыкскай ССР канчаецца будаўніцтвам Вахшская абваднянльная сістэма і Сталінабадскі плацельна-бялізнавы камбінат. У Туркменскай ССР канчаецца будаўніцтвам Ашхабадская электрастанцыя. У Казахскай ССР заканчваецца будаўніцтва Балхашскага меднага камбіната, нафтаправода Гур'еў—Макат—Косчагыл, будуецца чыгунка Акмолінск—Карталы. У Кіргізскай ССР заканчваецца будаўніцтва чыгункі Кант—Рыбач'е і Чуйскай абваднянльнай сістэмы. Пры гэтым, ажыццяўленне асноўнай установкі—установкі на комплекснае развіццё асноўных эканамічных ачагоў краіны—будзе ва многім садзейнічаць усебаковаму ўмацаванню эканамічнай базы нацыянальных рэспублік, краёў і абласцей.

План патрабуе рашучага адмаўлення ад **гігантаманіі** ў будаўніцтве, якая стала проста балячкай некаторых гаспадарнікаў, патрабуе паслядоўнага пераходу да пабудовы сярэдніх і невялікіх прадпрыемстваў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, пачынаючы з элек-

трастанцый. Гэта неабходна ў мэтах паскарэння тэрмінаў будаўніцтва і паскарэння ўводу ў дзеянне новых вытворчых магутнасцей, а таксама ў мэтах расканцэнтравання новых прадпрыемстваў па асноўных эканамічных раёнах краіны. Тон у гэтай справе павінна даць будаўніцтва невялікіх і сярэдніх электрастанцый. У нас многа прыкладаў таго, што, увязаўшыся ў будаўніцтва гігантаў, мы ўбухалі вялікія сродкі, але недазвольна зацягвалі сканчэнне будоўляў. Як прыклад таго, да чаго вядзе гігантаманія, можна прывесці Фрунзенскую цеплаэлектрацэнтраль у Маскве. Станцыя была запраектавана, як гігант—магутнасцю ў 200 тысяч кіловат, а першая чарга—у 100 тысяч кіловат. Будуецца яна з 1932 года і ўсё-ж да гэтага часу недабудавана. Калі-б мы ўзяліся за гэту справу паскрамней, пачалі будаваць не адну, а некалькі невялікіх цеплацэнтралей, скажам, па 20—25 тысяч кіловат, і мы-б цяпер ужо мелі ў Маскве 2 або 3 цеплАстанцыі закончанымі. Такіх урокаў у нас не мала.

З другога боку, шкоднікі, якія нямала нарабілі нам бед у будаўніцтве, нярэдка прыбягалі да такіх прыёмаў: яны зрывалі будаўніцтва новых прадпрыемстваў, распыляючы сродкі паміж многімі, адразу пачынаемымі будоўлямі; амяртвлялі капіталаўкладанні, не заканчваючы ні адной з пачатых будоўляў; адначасова пачыналі рэканструкцыю раду вельмі патрэбных заводаў.

Цяпер перад намі стаіць задача рашучага ўнядрэння ў практыку **скарасных метадаў** будаўніцтва. У гэтых адносінах у нас ёсць ужо вельмі павучальныя прыклады, калі ажыццяўлялася паралельнасць вядзення раду будаўнічых работ і самага мантажа абсталявання, калі работа строга ішла па загадзя прадуманаму, чоткаму графіку. Гэта магчыма, калі механізацыя ў будаўніцтве прымяняецца культурна, па загадзя складзенаму плану, калі тэхналагічны працэс будаўніцтва загадзя прадуман да канца, калі загадзя загатоўлены на адпаведных заводах будматэрыялы, дэталі і канструкцыі, калі работа калектыва будаўнікоў арганізавана не сяк-так і не як-небудзь, а зладжана, як у добрым механізме. Пры скарасных метадах мы паскорым і падзешавім будаўніцтва, а рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі будуць зарабляць значна больш. Хутка толькі такая работа будзе лічыцца сапраўднай большэвіцкай работай на будоўлях.

## 5. Нашы рэзервы і магчымасці.

Цяпер аб нашых рэзервах і магчымасцях.

1. Нашым гаспадарчым кіраўнікам трэба ўзмацніць увагу да эканомікі вытворчасці, рашуча **ўзмацніць барацьбу з безгаспадарчасцю.**

Яшчэ ў прамове на нарадзе гаспадарнікаў у 1931 годзе таварыш Сталін гаварыў:

«Дзякуючы безгаспадарчаму вядзенню справы прынцыпы гаспадарчага разліку аказаліся зусім падарванымі ў цэлым ра-

дзе нашых прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый. Гэта факт, што ў радзе прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый ужо даўно перасталі лічыць, калькуліраваць, складаць абгрунтаваныя балансы даходаў і расходаў. Гэта факт, што ў радзе прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый паняцці: «рэжым эканоміі», «скарачэнне непрадукцыйных расходаў», «рацыяналізацыя вытворчасці»—даўно ўжо вышлі з моды».

Таварыш Сталін пытаўся тады, што патрабуецца для павелічэння нашых накапленняў, каб забяспечыць рост капіталаўкладанняў, умацаванне абароны і іншыя расходы дзяржавы? Таварыш Сталін адказваў, што для гэтага патрабуецца:

«Знішчэнне безгаспадарчасці, мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў прамысловасці, унядрэнне і ўмацаванне гаспадарчага разліку ва ўсіх нашых прадпрыемствах, сістэматычнае зніжэнне сабекошту, узмацненне ўнутрыпрамысловага накаплення ва ўсіх без выключэння галінах прамысловасці».

Гэтыя ўказанні таварыша Сталіна і зараз маюць сілу ў поўнай меры. У нас да гэтага часу многа безгаспадарчасці, многа перарасходаў, агідна вялікія страты сыравіны, растрачваецца дарэмна многа паліва і электраэнергіі, агідна вялікія прастоі абсталявання, а, значыць, ва многіх выпадках няма сапраўднай барацьбы за зніжэнне сабекошту прамысловай прадукцыі, няма сапраўднай барацьбы і за зніжэнне кошту будаўніцтва.

З гэтым трэба пакончыць, узмацніўшы па ўсяму фронту барацьбу з безгаспадарчасцю і ўсякімі стратамі. Трэба на справе забяспечыць увагу да эканомікі, да кошту вытвараемых прадуктаў. Трэба добра ведаць, ва што абыходзіцца дзяржаве работа кожнага прадпрыемства, кожнай арганізацыі. Між тым, у нас і цяпер знойдуцца такія гаспадарчыя кіраўнікі, якія лічаць ніжэй свайго дастоінства заглядваць у баланс, вывучаць справаздачнасць, клапаціцца аб гаспадарчым разліку. З гэтай бесклапотнасцю і эканамічнай бязграматнасцю трэба рашуча пакончыць, як з антыдзяржаўнай і антыбальшэвіцкай практыкай. Тады ў нас знікнуць многія факты безгаспадарчасці.

Ці можна, напрыклад, мірыцца з такімі ганебнымі з'явамі, як велізарныя прастоі на водным транспарце? У 1937 годзе, калі шкоднікі яшчэ не былі выгнаны з Наркамвода, гэтыя прастоі дасягалі зусім абураючых размераў. Вось факты. У часе эксплуатацыйнага перыяда работы воднага транспарта, гэта значыць не лічачы зімняй стаянкі і суднарамонту, буксіры сухагрузныя прастойвалі 35 процантаў свайго рабочага часу; буксіры нафтагрузавыя—33 проценты рабочага часу; буксіры плытавыя—33 проценты рабочага часу; сухагрузавыя баржы—71 процант рабочага часу; нафтаналіўныя баржы—56 процантаў рабочага часу; марскі наліўны флот—29 процантаў ра-

бочага часу. Гэта-ж значыць, што водны транспарт прастойваў ледзь не палавіну свайго рабочага часу. Але і ў 1938 годзе справа яшчэ не палепшылася. Таварышы-воднікі павінны зняць з сябе гэтую ганебную пляму, ліквідаваць прастоі і даць прыклад лепшай работы на транспарце.

Але прыклад з водным транспартам адносіцца не толькі да транспартных арганізацый, ён у такой-жа меры адносіцца да многіх прадпрыемстваў прамысловасці, да соўгасаў, да МТС. Мы павінны дабіцца таго, каб усе нашы работнікі, ад малых да вялікіх, заўсёды памяталі аб сваёй адказнасці перад дзяржавай і народам, заўсёды памяталі аб сваім абавязку берагчы народнае дабро і абыходзіцца з ім па-гаспадарску, праводзіць эканомію ў расходах і на справе берагчы народную капеечку! **(Працяглыя апладысменты).**

Не менш гэтага мы павінны берагчы паліва, эканоміць расход сыравіны, берагчы абсталяванне, даглядаць машыны, не раскідваць лес і будматэрыялы.

2. Трэба яшчэ больш **налегчы на асваенне і на скарыстанне тэхнікі,** якой у нас стала вельмі многа. Праўда, у радзе галін прамысловасці мы ў гэтых адносінах паказалі ўжо выдатныя перавагі соцыялістычнай гаспадаркі перад капіталістычнай. Вазьміце факты. Першы прыклад. Нашы электрастанцыі працуюць намнога прадукцыйней, са значна большым вытворчым эфектам, чым электрастанцыі любой іншай краіны. Мы скарыстоўваем магутнасць электрастанцый у СССР у два разы інтэнсіўней, чым у буржуазных краінах. Можна толькі радавацца таму, што ў такой краіне, як СССР, электрасвятло ўжо вырвалася з акоўваўшых яго рабскіх пут капіталізма і шчодра адпускае нам свае даброты. Гэта, з другога боку, не знімае з нас абавязку не дапускаць перанапружання і рыску. Другі прыклад. Кілометр чыгуначнага пуці скарыстоўваецца ў нас у два з лішнім раза інтэнсіўней, чым, скажам, у Злучаных Штатах Амерыкі. І тут нельга напружанне павялічваць бясконца, але няхай і рэльсы папрацуюць для справы соцыялізма інтэнсіўней і лепш, чым для капіталізма. **(Шумныя, працяглыя апладысменты).** Вядома таксама, што трактары ў сельскай гаспадарцы скарыстоўваюцца ў СССР у тры разы прадукцыйней, чым у Злучаных Штатах Амерыкі і ў Еўропе. І гэта пры цяперашняй далёка не ўзорнай рабоце многіх МТС і соўгасаў. Але, калі трактары ўжо цяпер працуюць у нас лепш, чым у Еўропе і Амерыцы, скажам ім за гэта дзякуй і пажадаем: няхай працуюць яшчэ лепш! **(Шумныя апладысменты).**

Але колькі ў нас яшчэ нескарыстанай тэхнікі, колькі яшчэ найлепшага абсталявання прастойвае многа часу марна, без карысці для дзяржавы! Аб гэтым ніяк нельга забываць, як нельга забываць і вялікіх рэзерваў ад лепшага скарыстання вынаходстваў і рацыяналізатарскіх мер. У нас адкрыюцца новыя велізарныя рэзервы, як толькі праявім сапраўдныя клопаты аб нашых шматлікіх вынаходцах, ра-

цыяналізатарах і іх памочніках. Трэба актыўна, матэрыяльнымі і грамадскімі мерамі, заахвочваць і прасоўваць гэту справу, як вучыць гэтаму таварыш Сталін. **(Апладысменты).**

3. Трэба ўзмацніць барацьбу **за далейшае павышэнне прадукцыйнасці працы.**

Усе мы добра ведаем, як Ленін гаварыў аб тым, што «прадукцыйнасць працы, гэта, у канчатковым выніку, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу». Мы ведаем і аб тым, што гэтую мысль вялікага Леніна вельмі добра зразумелі ўдарнікі і стаханаўцы нашай прамысловасці і транспарта, што яна глыбока зразумела і ўсім перадавікам калгаснай гаспадаркі. Але ці можна сказаць, што ў нас па-бальшэвіцку арганізавана барацьба за высокую прадукцыйнасць працы ў нашых прадпрыемствах і ўстановах, ва ўсіх калгасах? Ніхто гэтага не скажа.

Цікавы наступны факт. Як у першай, так і ў другой пяцігодцы вытворчы план па прамысловасці быў перавыканан. І першая і другая пяцігодкі па прамысловасці былі перавыкананы, не гледзячы на тое, што па будаўніцтву ў абодвух выпадках план быў недавыканан. Як гэта магло здарыцца? Гэта магло выйсці толькі ў рэзультаце таго, што на справе прадукцыйнасць працы ў абодвух пяцігодках была вышэй, чым было ў гэтых планах запраектавана. Значыцца, не гледзячы на ўсе недахопы арганізацыі працы, рабочыя дабіліся перавыканання планаў па прадукцыйнасці працы і ўсім нам даказалі, што мы яшчэ дрэнна ведаем сапраўдныя рэзервы ўздыму соцыялістычнай прамысловасці. Паглядзіце і на наступныя факты. Другая пяцігодка намеціла ўздым прадукцыйнасці працы ў прамысловасці на 63 процанты, а фактычна яна павялічылася на 82 процанты. Вядома таксама, што рост прадукцыйнасці працы ў галіне будаўніцтва ў другой пяцігодцы быў намечан у 75 процантаў, а фактычна прадукцыйнасць працы ў будаўніцтве павялічылася за другую пяцігодку на 83 процанты. Ударнікі і стаханаўцы не палічыліся з гэтымі намёткамі пяцігодак. За іх добрую работу, за перавыкананне імі планаў па прадукцыйнасці працы—чэсць ім і слава! **(Апладысменты).**

Нашы планы па ўздыму прадукцыйнасці працы ў другой пяцігодцы таму аказаліся перавыкананымі, што ні ў якім плане нельга было прадугледзець паяўлення стаханаўскага руху. А ён не толькі паявіўся, але і разліўся па твару зямлі совецкай, перакінуўшыся з горада ў вёску. Мы ведаем і аб тым, што перадавікі калгасаў нярэдка не ўступаюць рабочым у поспехах па падняццю прадукцыйнасці працы. Хіба мала прыкладаў, што перадавікі ў калгасах, выдатныя трактарысты, камбайнеры і звеннявыя, давалі такія тэмпы росту прадукцыйнасці працы, аб якіх раней ніхто і не думаў. Хіба не ведае ўся краіна імёны выдатных людзей другой пяцігодкі, якім належыць роля застрэльшчыкаў у падняцці прадукцыйнасці працы і ў разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва? Хіба не ведае ўся

краіна імёны такіх людзей, як Стаханаў і Дзюканаў, ткачыхі Вінаградавы, Нікіта Ізотаў, каваль Бусыгін, скараходавец Сметанін, машыністы Крыванос, Огнёў, металург Чайкоўскі, архангелец Мусінскі, шахцёры Шашацкі і Гваздыркоў, станкабудаўнік Гудаў і многія іншыя? Хіба не ведае ўвесь наш народ імёны такіх перадавых людзей сельскай гаспадаркі, як Марыя Дземчэнка, камбайнеры Коласаў, Борын, браты Оськіны, трактарысткі Паша Ангеліна і Паша Ковардак і многія іншыя?

Мы будзем кіравацца ў справе ўзмацнення барацьбы за павелічэнне прадукцыйнасці працы ўказаннямі таварыша Сталіна на нарадзе стаханаўцаў:

«Чаму капіталізм разбіў і пераадалеў феадалізм? Таму, што ён стварыў больш высокія нормы прадукцыйнасці працы, ён даў магчымасць грамадству атрымліваць непараўнальна больш прадуктаў, чым гэта мела месца пры феадальных парадках. Таму, што ён зрабіў грамадства больш багатым. Чаму можа, павінен і абавязкова пераможа соцыялізм капіталістычную сістэму гаспадаркі? Таму, што ён можа даць больш высокія ўзоры працы, больш высокую прадукцыйнасць працы, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі. Таму, што ён можа даць грамадству больш прадуктаў і можа зрабіць грамадства больш багатым, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі».

Усё гэта азначае, што калі мы будзем па-сапраўднаму выяваць з безгаспадарнасцю, па-бальшэвіцку падымем скарыстанне тэхнікі, будзем далей развіваць стаханаўскі рух і ўзмацнім барацьбу за павышэнне прадукцыйнасці працы і за ўнядрэнне не на словах, а на справе навукова-тэхнічных дасягненняў ва ўсе галіны народнай гаспадаркі,—мы атрымаем такі ўздым народнай гаспадаркі, уздым прамысловасці, уздым сельскай гаспадаркі, уздым транспарта і ўсіх іншых гаспадарчых галін, якога мы яшчэ не бачылі, які магчым толькі на базе ўзмацнеўшага соцыялістычнага грамадства.

4. Для гэтага мы павінны **не аслабляць, а ўзмацняць крытыку недахопаў** у рабоце асобных нашых арганізацый і работнікаў. Трэба высмейваць дробна-буржуазную пахвальбу, ад якой мы яшчэ церпім. Тады нашы кіраўнікі не будуць траціць у бягучых справах кіруючай бальшэвіцкай ніці ў рабоце і, з другога боку, не будуць запускаць так званых «дробных» пытанняў, забыццё якіх часта моцна б'е па поспехах усёй работы. Без бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі не можа быць бальшэвіцкіх кіраўнікоў. Калі крытыка і самакрытыка зыходзяць з жадання лепш і быстрэй вырашыць задачу, зламіць бюракратычныя перашкоды і дробна-буржуазныя перажыткі адсталых людзей,—тады адбываецца не аслабленне, а мабілізацыя сіл для перамогі. Трэба ажывіць нашы гаспадарчыя актывы, падняць іх работу ўсямерна.

Мільёны людзей у нашай краіне заразіліся жаданнем ісці ўперад і паскорыць вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР—на працягу бліжэйшага перыяду дагнаць і перагнаць найбольш развітыя капіталістычныя краіны таксама і ў эканамічных адносінах. План трэцяй пяцігодкі дае чарговыя заданні для вырашэння гэтай задачы ў кароткі тэрмін. Чым больш свядома ўсе мы аднясемся да сваіх абавязкаў, чым больш патрабавальны да сябе будуць нашы арганізатары, нашы кіраўнікі—тым пабеданосней будуць нашы поспехі. **(Апладысменты).**

## IV. План далейшага ўздыму матэрыяльна-культурнага ўзроўню працоўных.

У нас даўно мінулі часы беспрацоўя, ад якога так пакутуюць многія мільёны рабочых пры сучасным капіталізме. Даўно мінулі часы, калі ў нашых сельскіх мясцовасцях было столькі вёсак, не выпадкова празваных Неўраджайкамі і Няелаўкамі. Добрая трэць сялян, а то і больш, пастаянна, з года ў год, недаядала, і не магла пры старым ладзе разлічваць на палепшанне свайго матэрыяльнага становішча. Калі-б захаваўся капіталізм у нас да цяперашняга часу, тады і ў нашай краіне, як гэта мае месца ў іншых краінах капіталізма, быў-бы зараз не адзін мільён беспрацоўных у гарадах, быў-бы зараз не адзін дзесятак мільёнаў галодных і поўжабракоў у вёсках. А цяпер мы канчаткова вышлі з такога становішча і будуем планы такога далейшага ўздыму народнага добрабыту, аб якім ні адна, нават самая багатая і самая капіталістычна развітая краіна, не можа марыць, і якія ў поўнай меры ідуць насустрач быстра растучым запросам працоўных горада і вёскі.

Трэці пяцігадовы план ставіць задачу **павысіць народнае спажыванне ў паўтара—два разы.** Ці чулі пра што-небудзь падобнае ў капіталістычных краінах? Няхай-бы хоць адна капіталістычная краіна ўзялася за выкананне задачы ўздыму добрабыту свайго народа, ну, скажам, у палавінным размеры супроць нашага плана. Няхай тыя, якія выхваляюцца буржуазным прагрэсам, багаццем капітала і іншым, папрабуюць узяцца за такую справу. Цікава-б паглядзець на гэтых людзей. Але іх, як вы ведаеце, не відаць. Пануючыя класы ў краінах капітала не родзяць такіх смельчакоў.

У чым заключаецца наш план?

Пачну з рабочага класа.

План намячае павелічэнне колькаснасці рабочых і служачых з 27 да 32 мільёнаў чалавек, гэта значыць на 5 мільёнаў чалавек. Сярэдняя зарплата рабочых і служачых павінна павялічыцца за трэцюю пяцігодку на 35 працантаў. Агульны фонд зарплаты рабочых і служачых павінен узрасці больш, чым у 1,6 раза. Вядома, у адных

катэгорый рабочых і служачых зарплата будзе расці больш, у другіх менш. Тым, хто будзе працаваць лепш, забяспечана павелічэнне заработнай платы значна вышэй сярэдняга ўзроўню. Большэвікі заўсёды адвяргалі ўраўніцельскі падыход да зарплаты, як чуждую, дробна-буржуазную тэндэнцыю. Мы павінны яшчэ паслядоўней, чым да гэтага часу, праводзіць лінію на матэрыяльнае заахвочванне за высокую прадукцыйнасць працы лепшых работнікаў з рабочых, майстраў, інжынераў і спецыялістаў усіх іншых галін.

Цяпер—аб сялянстве.

План намячае значнае павелічэнне даходаў калгаснікаў у трэцяй пяцігодцы. У рэзультаце прымаемых мер к уздыму сельскай гаспадаркі, грашовыя даходы, якія атрымліваюць калгаснікі па працаднях і ад рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі, павінны павялічыцца больш, чым у 1,7 раза. Улічваючы, апрача таго, павелічэнне даходаў сялянства ад далейшага росту саматужных промыслаў і іншых прыработкаў, можна ўпэўнена сказаць, што рост даходаў у вёсцы будзе яшчэ вышэй.

З гэтага відаць, што даходы рабочых, сялян і інтэлігенцыі за годы трэцяй пяцігодкі вырастуць значна больш, чым у паўтара раза. Справа, значыцца, за тым, у якой меры рост тавараў на рынку будзе адказваць гэтым растучым даходам.

Адказ на гэтае пытанне даюць наступныя дзве табліцы.

План трэцяй пяцігодкі намячае павелічэнне рознічнага тавараабароту па прамысловых таварах на 72,5 процанта. Па асобных таварах гэта выглядае так:

**Рост рынкачных фондаў па асноўных прамысловых таварах.**

| Найменаванне тавараў. | 1942 г. у %% да 1937 г. |
|---|---|
| Бавоўняна-папяровыя тканіны | 160 |
| Шарсцяныя тканіны | 236 |
| Трыкатаж | 182 |
| Швейныя тавары | 163 |
| Абутак розны | 160 |
| Мэбля | 275 |

З прыведзенай табліцы відаць, што па раду самых важных тавараў шырспажыву рост рынкачных фондаў ідзе не толькі на ўзроўні росту даходаў працоўных, але і вышэй гэтага ўзроўню.

Па прадавольственных таварах план трэцяй пяцігодкі намячае

павелічэнне тавараабароту на 53 процанты. Па асобных прадавольственных таварах справа выглядае наступным чынам:

**Рост рыначных фондаў па асноўных прадавольственных таварах.**

| Найменаванне тавараў. | 1942 г. у %% да 1937 г. |
|---|---|
| Крупы | 194 |
| Макароны | 185 |
| Мяса | 202 |
| Птушка | 263 |
| Калбасныя вырабы | 203 |
| Рыба і сельдзь | 161 |
| Масла жывёльнае | 173 |
| Цукар | 149 |
| Кансервы | 305 |
| Яйкі | 250 |
| Сыр | 197 |

З гэтай табліцы відаць, што рост рыначных фондаў па раду важнейшых прадавольственных тавараў, у тым ліку па мясу, тлушчах, яйках, ідзе яшчэ быстрэй, чым па прамысловых таварах. Але паколькі спажыванне такіх прадуктаў, як, скажам, мука, хлеб, соль, хлебнае віно, не можа, па зразумелых прычынах, расці такімі-ж быстрымі тэмпамі, то ў цэлым рост рыначных фондаў прадавольственных тавараў атрымліваецца некалькі меншы, чым рост рыначных фондаў прамысловых тавараў. Кожнаму зразумела, што гэта поўнасцю адпавядае інтарэсам шырокіх мас спажыўцоў.

Трэба яшчэ дадаць, што грамадскае харчаванне па плану павінна падвоіцца. Нарэшце, рост тавараабароту на калгасным рынку вызначаецца больш, чым у два разы.

У адпаведнасці з гэтым павінен быць забяспечан рост рознічнай дзяржаўна-кааперацыйнай гандлёвай сеткі і павышэнне культурнага ўзроўню ўсёй гандлёвай справы. Для гэтага патрэбна, нарэшце, Наркамгандлю скарыстаць яго права на ўстройства гандлёвых памяшканняў у ніжніх паверхах новых дамоў. Неабходна таксама разгарнуць будаўніцтва гандлёвых баз і складаў, халадзільную гаспадарку, правільна арганізаваць дастаўку і завоз тавараў. У быстра растучых сельскагаспадарчых раёнах неабходна ўзмоцнена развіваць сетку крам і магазінаў з таварамі, якія павінны абслугоўваць насеўшыя бытавыя, рамонтныя і будаўнічыя патрэбы сялян.

Планам прадугледжваецца, як па тэмпах росту дахода, так і па тэмпах росту тавараабароту, што вёска пойдзе некалькі ўперадзе

горада. Гэта знаходзіцца ў адпаведнасці з правадзімай совецкай уладай лініяй на паступовае збліжэнне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця гарадскога і сельскага насельніцтва. Гэта адпавядае задачы ажыццяўлення дапамогі з боку рабочага класа, як перадавога класа нашага грамадства, сялянству, якое на працягу многіх вякоў знаходзілася на больш нізкім матэрыяльным узроўні жыцця.

Побач з гэтым значна павялічваюцца дзяржаўныя расходы на **культурна-бытавое абслугоўванне** працоўных горада і вёскі.

Расходы па соцыяльнаму страхаванню і затратах дзяржавы на асвету, ахову здароўя, дапамогі многадзетным мацерам і іншыя віды культурна-бытавога абслугоўвання рабочых і служачых падымаюцца да 53 мільярдаў рублёў, што азначае рост за трэцюю пяцігодку больш, чым у 1,7 раза. На мерапрыемствы, якія непасрэдна адносяцца да галіны палепшання аховы здароўя працоўных, дзяржаўныя затраты ўзрастаюць з 10,3 мільярда рублёў у 1937 годзе да 16,5 мільярда рублёў у 1942 годзе. За кошт павелічэння гэтых дзяржаўных сродкаў паляпшаецца бальнічная дапамога насельніцтву, расшыраюцца санітарна-прафілактычныя мерапрыемствы, падымаецца справа аказання дапамогі рожаніцам і будаўніцтва дзіцячых бальніц, падымаецца ахова працы і арганізацыя рабочага адпачынку і фізкультуры. Лік бальнічных коек па гарадах СССР павялічваецца на 30 процантаў. Лік бальнічных коек у вёсцы павялічваецца: па РСФСР на 35 процантаў, па УССР на 43 проценты, па Узбекскай, Таджыкскай, Казахскай, Кіргізскай рэспубліках—амаль у два разы, па Беларускай, Азербайджанскай і Грузінскай рэспубліках—больш, чым у два разы, па Армянскай—больш, чым у тры разы, па Туркменскай—больш, чым у пяць раз. Лік месц у пастаянных яслях і дзіцячых садах павялічваецца за трэцюю пяцігодку да 4,0 мільёна супроць 1,8 мільёна ў канцы другой пяцігодкі. Лік месц у сезонных яслях і дзіцячых садах павялічваецца з 5,7 мільёна да 13,6 мільёна.

У мэтах барацьбы з жыллёвай цеснатой, узмацняецца жыллёвае будаўніцтва ў гарадах і рабочых пасёлках. За трэцюю пяцігодку ўводзіцца ў дзеянне 35 мільёнаў квадратных метраў новай жылой плошчы. Апрача таго, прадугледжваецца развіццё індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў размеры 10 мільёнаў квадратных метраў. Мы павінны прасачыць за тым, каб гэты план быў безумоўна забяспечан выкананнем. Нельга не сказаць аб адным пачынанні Моссовета. Па ініцыятыве архітэктара Мардвінава, Маскоўскім советам, звыш звычайнага плана жылбудаўніцтва, прынят асобы план пабудовы на працягу гэтага года 23 дамоў з колькасцю 1.610 кватэр. Гэтае будаўніцтва будзе праведзена з прымяненнем скарасных метадаў работы і з шырокім прымяненнем стандартных буддэталей, што трэба ўсяляк падтрымаць. Поспехі гэтага вопыту ў Маскве павінны быць перанесены ў другія гарады.

Па плану гарадскога будаўніцтва павінна быць разгорнута вялі-

кая работа па ўпарадкаванню гарадоў і прамысловых цэнтраў. Прадугледжваецца пабудова новых вадаправодаў у 50 гарадах, правядзенне каналізацыі ў 45 гарадах, трамвая—у 8 гарадах. Неабходна значна падняць недапушчальна запушчаную справу з будаўніцтвам новых лазняў. Газіфікацыя гарадской гаспадаркі павінна па-сапраўднаму рушыць уперад, а астаўшуюся ад мінулага практыку велізарнага завозу дроў у галоўныя гарады краіны трэба рашуча звесці да мінімума, а затым і зусім развітацца з ёю, як з вельмі шкодным перажыткам.

Трэці пяцігадовы план намячае вялікую праграму **культурнага будаўніцтва.**

Пастаўлена задача ажыццявіць усеагульнае сярэдняе навучанне ў горадзе і завяршыць усеагульнае сямігадовае навучанне ў вёсцы і ва ўсіх нацыянальных рэспубліках. Колькасць навучаючыхся ў пачатковай і сярэдняй школе ў гарадах і рабочых пасёлках павінна павялічыцца з 8,6 да 12,4 мільёна, а ў сельскіх мясцовасцях з 20,8 да 27,7 мільёна. Такім чынам, к канцу трэцяй пяцігодкі ў нашых пачатковых і сярэдніх школах будзе навучацца звыш 40 мільёнаў навучаючыхся супроць 8 мільёнаў навучаючыхся ў дарэвалюцыйнай Расіі. Што-ж датычыць 8—10 класаў сярэдняй школы, то ў іх ужо цяпер навучаецца ў 12 раз больш, чым у стары час, а ў 1942 годзе будзе навучацца ў 34 разы больш, чым да рэвалюцыі. **(Апладысменты)**. Цяпер ужо амаль няма рабочай сям'і, дзе не было-б дзяцей з сярэдняй асветай. І ўсё больш становіцца такіх сем'яў рабочых, служачых, а таксама і сялян, у якіх дзеці атрымліваюць вышэйшую асвету.

Цікава, як расце колькасць навучаючыхся ў пачатковай і сярэдняй школе па рэспубліках. Па РСФСР, Украінскай і Грузінскай ССР—на 25—35 працантаў, па Беларускай, Кіргізскай і Казахскай ССР—на 40—50 працантаў, па Азербайджанскай, Узбекскай і Армянскай ССР—на 55—70 працантаў, па Туркменскай і Таджыкскай ССР—на 90 працантаў. І тут мы бачым, што ў тых рэспубліках, дзе ў мінулым школа была амаль недаступна для працоўных, становішча крута змянілася. Пры вялікім уздыме народнай асветы ва ўсіх рэспубліках без выключэння, асаблівую дапамогу ва ўздыме школ атрымліваюць найбольш адстаўшыя нацыянальныя раёны.

Пры велізарнай колькасці юнакоў і дзяўчат, якія канчаюць сярэднюю школу і ідуць у большасці выпадкаў на тую ці іншую практычную работу, узнікае пытанне аб тым, каб перад сканчэннем сярэдняй школы яны ўжо атрымлівалі хоць-бы некаторую падрыхтоўку да будучай практычнай работы. Гэта вельмі важнае пытанне, якім павінны заняцца наркаматы асветы, ды і не толькі наркаматы асветы.

Кантынгент навучаючыхся ў ВНУ і ВТНУ ў трэцяй пяцігодцы дойдзе да 650 тысяч. Пры гэтым галоўная ўвага павінна быць звер-

нута на павышэнне якасці вышэйшай асветы і, у сувязі з гэтым, на забеспячэнне студэнцтва ўзорнымі падручнікамі.

Падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў рабочых па асноўных прафесіях—у школах ФЗВ, на курсах трактарыстаў, шофераў і т. п., таксама прадаўжае расці. Гэтая падрыхтоўка павінна даць за трэцюю пяцігодку звыш 8 мільёнаў кваліфікаваных рабочых розных спецыяльнасцей.

Колькасць спецыялістаў з сярэдняй асветай к канцу пяцігодкі павялічваецца на 90 процантаў. Колькасць спецыялістаў з закончанай вышэйшай асветай павялічваецца з 750 тысяч да 1.290 тысяч, гэта значыць расце на 72 проценты.

Расце сетка агульных тэатраў і кінотэатраў, клубаў, бібліятэк, чытальняў, дамоў культуры. Радыёфікацыя і кінофікацыя, асабліва гукавое кіно,ператварыліся ў велізарную культурную справу, якая мае вялікае палітычнае значэнне.

Расце сетка навуковых устаноў. У трэцяй пяцігодцы для перадавой совецкай навукі адкрываюцца выключна спрыяючыя магчымасці.

Мы не дарэмна гаворым, што ў нас за апошнія годы адбылася цэлая культурная рэволюцыя. Сапраўды, створаны вялікія кадры інтэлігенцыі, якіх яшчэ нядаўна так нехапала.

У нас сотні тысяч прадпрыемстваў і ўстаноў, апрача таго 240 тысяч калгасаў. Для ўсіх гэтых арганізацый патрэбны шматлікія кіруючыя кадры. Вось прадстаўленыя мне начальнікам ЦУНГУ Дзяржплана СССР тав. Сауціным даныя аб колькаснасці кіруючых кадраў нашых устаноў, прадпрыемстваў і калгасаў:

**Колькаснасць кіруючых кадраў устаноў і прадпрыемстваў на студзень 1937 г.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Кіраўнікі адміністратыўных устаноў, устаноў аховы здароўя і культуры | 450 тыс. чал. |
| 2. | Дырэктары і кіраўнікі дзяржпромпрадпрыемстваў, цэхаў і аддзелаў і іх намеснікі | 350 " " |
| 3. | Старшыні і нам. старшынь калгасаў, заг. таварных ферм калгасаў | 582 " " |
| 4. | Дырэктары МТС, соўгасаў, заг. ферм соўгасаў | 19 " " |
| 5. | Кіраўнікі промкаапэратыўных арганізацый | 40 " " |
| 6. | Дырэктары і загадчыкі магазінаў | 250 " " |
| 7. | Дырэктары і загадчыкі сталовых і інш. прадпрыемстваў грамадскага харчавання | 60 " " |
| | РАЗАМ... | 1.751 тыс. чал. |

Такім чынам, можна лічыць, што колькаснасць кіруючых кадраў у нашай краіне вызначаецца не менш, чым у 1.750 тысяч. Фактычна значна больш, бо да кіруючых кадраў, несумненна, трэба аднесці майстраў, кіраўнікоў брыгад, звеннявых і іншых, а яны ў названы лік не ўваходзяць. Правільней сказаць, што гэтая цыфра 1.750 тысяч—гэта толькі вышэйшы і сярэдні кіруючы састаў у нашай краіне.

Паглядзіце цяпер на кадры совецкай інтэлігенцыі ў цэлым. Вось яе састаў па даных ЦУНГУ Дзяржплана СССР:

**Састаў совецкай інтэлігенцыі на студзень 1937 г.**
(па спецыяльнасцях).

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў, цэхаў, соўгасаў, калгасаў і інш. | 1.751 тыс. чал. |
| 2. | Інжынеры і архітэктары (без кіраўнікоў прадпрыемстваў і цэхаў) | 250 " " |
| 3. | Сярэдні тэхнічны персанал (тэхнікі, прарабы, ляснічыя, начальнікі чыгуначных станцый і інш.) | 810 " " |
| 4. | Аграномы | 80 " " |
| 5. | Іншы агратэхнічны персанал (землемеры, землеўпарадчыкі, агратэхнікі, зоатэхнікі) | 96 " " |
| 6. | Работнікі навукі (прафесары, выкладчыкі ВНУ і інш.). | 80 " " |
| 7. | Настаўнікі | 969 " " |
| 8. | Культурна-асветныя работнікі (журналісты, бібліятэкары, заг. клубаў і інш.) | 297 " " |
| 9. | Работнікі мастацтваў | 159 " " |
| 10. | Урачы | 132 " " |
| 11. | Сярэдні медыцынскі персанал (фельчары, акушэркі, медсёстры) | 382 " " |
| 12. | Эканамісты, статыстыкі | 822 " " |
| 13. | Бухгалтары, рахункаводы | 1.617 " " |
| 14. | Судова-пракурорскія работнікі (суддзі, пракуроры, следчыя і інш.) | 46 " " |
| 15. | Студэнцтва ВНУ | 550 " " |
| 16. | Іншыя групы інтэлігенцыі (уключаючы ваенную інтэлігенцыю) | 1.550 " " |
| | РАЗАМ | 9.591 тыс. чал. |

Вы бачыце, што кадры нашай інтэлігенцыі вымяраюцца ўжо салідпай велічынёй у 9,6 мільёна чалавек. Калі прыняць пад увагу, што на нашых прадпрыемствах многія кваліфікаваныя рабочыя маюць ужо сярэднюю асвету, то мы павінны цыфру 9,6 мільёна значна падняць. Але і 9,6 мільёна інтэлігентаў і блізкіх да іх груп работнікаў нашай совецкай дзяржавы,—гэта цыфра ўнушальная. З учотам членаў сем'яў наша інтэлігенцыя складзе цяпер прыкладна 13—14 процантаў насельніцтва СССР. **(Громкія апладысменты).** Яна пакажа сябе асабліва тады, калі яе культурна-тэхнічны ўзровень і комуністычная свядомасць падымецца так, як мы гэтага хочам дабіцца ўжо ў бліжэйшы час.

Як далёка адышоў СССР ад старой, дарэволюцыйнай Расіі—нятрудна здагадацца. Я прывяду толькі адзін прыклад. Вось некаторыя даныя аб саставе і колькасці інтэлігенцыі па Курскай губерніі ў 1913 годзе і ў 1937 годзе—па Курскай вобласці, якая размерамі мала адрозніваецца ад былой Курскай губерніі.

У 1913 годзе настаўнікаў пачатковых і сярэдніх школ у Курскай губерніі было 3 тысячы, а ў 1937 годзе ў Курскай вобласці—24 тысячы; урачоў было 274, цяпер—941; сярэдняга медыцынскага перса-

налу—фельчараў і акушэрак было 636, а цяпер—2.357; аграномаў было 70, а цяпер—2.279. Затое служыцеляў культу ўсіх веравызнанняў было 3.189, а цяпер—859. Па гэтай частцы вялікае скарачэнне. (**Агульны смех**). З другога боку, у цяперашняй Курскай вобласці многа інтэлігенцыі працуе ў партыйных, совецкіх, профсаюзных арганізацыях, якіх раней не было. Гэтыя факты не патрабуюць каментарыяў.

У святле гэтых фактаў мы павінны разглядаць план трэцяй пяцігодкі ў галіне культурнага будаўніцтва. Гэты план мае адну асноўную задачу—ажыццявіць вялікі крок уперад у гістарычнай справе **падняцця культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы.** Каб асвятліць значэнне гэтай справы, я напомню вам аб тым, што гаварыў таварыш Сталін на нарадзе стаханаўцаў. Таварыш Сталін гаварыў:

«Знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай можна дабіцца толькі на базе ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы. Было-б смешна думаць, што такі ўздым неажыццявім. Ён у поўнай меры ажыццявім ва ўмовах совецкага ладу, дзе прадукцыйныя сілы краіны вызвалены ад акоў капіталізма, дзе праца вызвалена ад гнёту эксплуатацыі, дзе ва ўладзе стаіць рабочы клас і дзе маладое пакаленне рабочага класа мае ўсе магчымасці забяспечыць сабе дастатковую тэхнічную асвету. Няма ніякіх падстаў сумнявацца ў тым, што толькі такі культурна-тэхнічны ўздым рабочага класа можа падарваць асновы процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай, што толькі ён можа забяспечыць тую высокую прадукцыйнасць працы і тое багацце прадметаў спажывання, якія неабходны для таго, каб пачаць пераход ад соцыялізма да комунізма.

Стаханаўскі рух знамянальны ў гэтай сувязі ў тых адносінах, што ён змяшчае ў сабе першыя пачаткі, праўда, яшчэ слабыя, але ўсё-ж пачаткі такога іменна культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа нашай краіны».

Для ажыццяўлення гэтай гіганцкай задачы, задачы знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай, недастаткова, вядома, адной або двух пяцігодак. Поўнае вырашэнне гэтай задачы патрэбуе некалькіх дзесяцігоддзяў, але мы паспяхова ідзем па гэтаму шляху. План трэцяй пяцігодкі падымае нас яшчэ на адну ступеньку ў вырашэнні гэтай вялікай задачы.

Вы бачыце, што намечаныя трэцяй пяцігодкай задачы далейшага быстрага ўздыму матэрыяльна-культурнага ўзроўню працоўных, з задавальненнем растучых рознабаковых патрэбнасцей народаў СССР, адпавядаюць новай эпохе, эпохе паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, у якую ўступіў СССР.

Смешнымі і жалкімі выглядаюць апалагеты буржуазнага ладу. Спісаны горы паперы ў доказ таго, што соцыялізм нясе з сабой нішчату і беднасць, што соцыялізм—справа, недастойная культурных людзей, а толькі варвараў. Да гэтага часу яшчэ выдаюцца груды кніг і мільёны тон газетнай паперы трацяцца на тое, каб распаўсюджваць хлусню аб комунізме, што комунізм нясе з сабой ураўніцельнасць у беднасці і бескультур'і, што комунізм—гэта вялікі крок назад ад сучаснага капіталістычнага грамадства. Усе гэтыя жалкія пабасенкі буржуазных пісак разбіты ростам Совецкага Саюза. Дарэмна буржуазія і ўся яе чэлядзь,—усе гэтыя трацкісты, фашысты, меншавікі і эсэры, растрачваюць каштоўную паперу на гэтую прапашчую справу. Гэта-ж ні што іншае, як злачынная, глыбока антынародная растрата сродкаў і каштоўнага дабра—паперы, такой неабходнай для справы сапраўднай культуры. Цяпер, пасля ўсяго, што адбылося ў нашай краіне ў справе ўздыму народнага добрабыту і культурнага росту працоўных, цяпер, калі намячаюцца новыя гіганцкія планы вытворчасці ўсіх тавараў і прадуктаў і адкрыліся шырокія перспектывы стварэння сапраўднага багацця ў СССР,—траціць паперу і труд на ўсе гэтыя росказні аб Совецкім Саюзе могуць толькі тыя, якія на сваіх плошчах паляць кнігі класікаў літаратуры і навукі, мозг якіх прапітаўся чорным дымам ад гэтых кніжных кастроў, або тыя, хто ўжо не верыць, што чэснымі сродкамі можна абараняць гніючы капіталізм.

Для нас ясны вывады з усіх гэтых фактаў.

Мы добра ведаем, што наш совецкі лад стварыў ужо ўсе прадпасылкі для далейшага быстрага росту матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных, для стварэння багацця тавараў і прадуктаў і для задавальнення быстра растучых культурных запросаў працоўных, што цяпер справа толькі ў росце комуністычнай свядомасці рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Ад поспехаў комуністычнага выхавання, у шырокім значэнні гэтага слова, комуністычнага выхавання, якое ахапляе ўсю масу працоўных і ўсю совецкую інтэлігенцыю,—перш за ўсё, ад нашых поспехаў у гэтай галіне, залежыць вырашэнне ўсіх астатніх задач.

## V. Значэнне трэцяй пяцігодкі.

Трэцяя пяцігодка істотна адрозніваецца ад першай і другой. Тады гутарка ішла аб задачах пабудовы асноў соцыялістычнага грамадства,—цяпер соцыялістычнае грамадства ў асноўным пабудавана ўжо. Совецкі Саюз уступіў у новую паласу, у паласу завяршэння пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. У гэтым галоўнае адрозненне ад ранейшага перыяду.

Новая паласа—новыя абавязкі, новыя труднасці. Вядома, што

няма такой справы, хоць-бы самай маленькай, дзе не было-б сваіх труднасцей. Ёсць свае труднасці і ў вялікім росце сіл нашай краіны. У нашым становішчы прыходзіцца гаварыць не толькі аб пытаннях чыста ўнутранага парадку, але і аб такіх пытаннях, якія выцякаюць з наяўнасці варожага імперыялістычнага акружэння. Але паглядзіце ў твары працоўных нашай краіны, і вы ўбачыце, што яны ніколі не былі так шчаслівы, як цяпер, калі бяруцца за складаныя і трудныя задачы паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. **(Апладысменты).** Гэта можна аб'ясніць толькі адным: яны ведаюць, што пераможуць, яны непахісна вераць у сваю перамогу!

Працоўныя СССР ведаюць, што іменна стаіць на чарзе, якая асноўная задача моманту. Гэтая задача пастаўлена так: пачаць па ўсёй лініі эканамічнае спаборніцтва з капіталізмам, з найбольш эканамічна развітымі капіталістычнымі краінамі Еўропы і Злучанымі Штатамі Амерыкі. Гэта і азначае—весці барацьбу, каб эканамічна перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны.

Нам могуць сказаць, што вы яшчэ не паспелі дагнаць, а ўжо ўступаеце ў спаборніцтва. Але гэта нас не бянтэжыць. Верна, што ў СССР на душу насельніцтва выпрабляецца менш такіх важнейшых прамысловых прадуктаў, як, скажам, чыгун і электраэнергія, чым у Злучаных Штатах Амерыкі і ў Германіі. Але, з другога боку, бясспрэчна і тое, што тэхнічны ўзровень нашай прамысловасці ўжо вышэй, чым у любой краіне Еўропы, а аб сельскай гаспадарцы і гаварыць няма чаго—тэхнічны ўзровень нашай сельскай гаспадаркі не ніжэй і самой Амерыкі. А самае галоўнае, што ў нас канчаткова ўмацавалася маладая совецкая дзяржава, поўная сіл, здароўя і несакрушальнага адзінства. **(Бура апладысментаў).** Вось мы і думаем—пара і на арэне міжнароднага эканамічнага спаборніцтва даць дарогу маладым, але ўжо ўзмацнеўшым совецкім сілам. **(Апладысменты).**

Зразумела, гэта не пагроза і нікому такое мірнае спаборніцтва на шкоду пайсці не можа. Але гэта ўсё-ж пытанне аб пробе сіл у вялікім маштабе.

Трэба прызнаць, што нас на спаборніцтва ніхто не выклікае. **(Агульны смех, апладысменты).** Можна нават сказаць, што мы наогул няпрошанымі на свет з'явіліся. Але, з'явіўшыся на свет, мы хочам пастаяць і пастаім за справу Кастрычніка. **(Апладысменты).**

Нам могуць сказаць: «Нам не да вашага спаборніцтва. У нас і без таго клопатаў не мала». **(Агульны смех, апладысменты).** Няхай скажуць! У падыходзячых выпадках мы ішлі і лічым зусім мэтазгодным супрацоўніцтва з буржуазнымі краінамі. Не збіраемся ад гэтага адмаўляцца і надалей, а будзем імкнуцца да магчымага расшырэння гэтага супрацоўніцтва з нашымі суседзямі і з усімі іншымі дзяржавамі. Але мы ідзем сваёй дарогай, капіталізм—сваёй. Гісторыя паставіла перад СССР не толькі пытанне аб супрацоўніцтве з капіталістычнымі краінамі, але і пытанне аб спаборніцтве эканамічных

сістэм—новай і старой, аб спаборніцтве СССР і галоўных капіталістычных краін у эканамічных адносінах.

Мы ідзем у гэтае спаборніцтва, упэўненыя ў сваіх унутраных сілах, упэўненыя ў нашай перамозе. У лагеры капіталізма карціна зусім іншая. Там ужо даўно страчана вера ва ўнутраныя сілы развіцця, там страсці гараць вакол пытанняў аб новым перадзеле свету. Там, адны—з нажом за пазухай, другія—з мечам у руках, вядуць барацьбу вакол калоній і вакол перакройкі дзяржаў на карысць сільных дзяржаў. Там льюцца прамовы аб тым, хто каго абдзяліў пасля першай імперыялістычнай вайны пры дзялёжцы каланіяльных зямель, хто аграбіў і хто аграблен у гэтай дзялёжцы пры апошніх перакройках калоній і пры пасляваенным дзеляжы зямель у Еўропе. Там ужо справа не абмяжоўваецца простымі пагрозамі вайны. Імперыялістычная вайна, якая захватвае рад краін Еўропы і Азіі, ужо вядзецца і набыла велізарныя размеры. Небяспека новай сусветна-гістарычнай бойні нарастае, асабліва з боку фашыстаў і іх заступнікаў.

Але нашы людзі могуць-жа мець сваю думку па поваду такога роду спраў. Яны будуць зыходзіць, перш за ўсё, са свайго вопыту, з таго, як у нас не шляхам захвату калоній і атрымання чыёй-небудзь дапамогі звонку, а выключна на аснове росту ўнутраных сіл краіны, народы Савецкага Саюза вырашаюць задачы гаспадарчага росту і ідуць няўхільна ўперад па шляху ўздыму. У нашай краіне знойдзен шлях да ўздыму народнай гаспадаркі, да росквіту нацыянальных культур без насілля народа над народам, а ў дружнай рабоце многіх народаў на сваю агульную справу. І ў нас не ўсе рэспублікі аднолькава развіты ў прамысловых і сельскагаспадарчых адносінах. Адны развіты больш у адных адносінах, другія—у другіх. Але мы знайшлі вельмі добры сродак аб'ядноўваць у адно цэлае намаганні рабочых і сялян усяго многанацыянальнага Савецкага Саюза, аб'ядноўваць намаганні розных народаў, наладжваць дапамогу аднаго народа другому і весці справу да адной агульнай мэты. Звяртаючыся, скажам, на Захад, нашы людзі маглі-б сказаць: «Чаму-б і вам не скарыстаць гэты нядрэнны вопыт. Усе-ж гэтыя «осі» пры першай саліднай ямцы затрашчаць і могуць разляцецца. А вось добры Саюз народаў, гэта не якая-небудзь «ось», а гэта—вялікая справа!». Гэтага голасу там многія не захочуць, вядома, слухаць, але ён усё-такі даходчывы, і, пранікаючы далёка ў народную тоўшчу, ён яшчэ вернецца да нас у свой час магутным пралетарскім эхам.

На што мы хочам абаперціся ў вырашэнні задачы «дагнаць і перагнаць»? На гэта можна даць просты адказ. На план, і, перш за ўсё, на трэцюю пяцігодку. Але гэтага мала. У нас ёсць маральнае і палітычнае адзінства народа, у нас ёсць вялікая дружба народаў Савецкага Саюза,—планы-ж даюць нам адзінства волі і адзінства мэты ва ўсёй народнай працы, ва ўсёй нашай рабоце. Вось чаму наш план, наш большэвіцкі план, наш Сталінскі план—гэта вялікая сіла.

**(Апладысменты).** Працаваць па плану—значыць ведаць, што трэба рабіць і для якой мэты. Планы пе'ратварыліся ў нашай краіне ў незамянімую арганізуючую сілу. Таму выконваць прыняты план стаяла справай чэсці працоўных СССР.

Дзякуючы бліскучым поспехам першай і другой пяцігодкі, «план» атрымаў міжнародную папулярнасць, і было ўжо не мала патуг у капіталістычных краінах аб'явіць і прашумець аб сваіх гаспадарчых планах. Чаго варта, напрыклад, шуміха германскіх фашыстаў наконт іх двух дамарошчаных «Чатырохгодак»! Некаторыя дэмагогі сталі ўжо прадстаўляць справу так, што яны, нібыта, пераадалелі анархію пануючай у іх капіталістычнай гаспадаркі і ўжо вядуць работу па плану. Аднак, ніякіх планаў ні першай, ні другой чатырохгодкі яны апублікаваць не адважваліся. Ды іх, відаць, і не было. Усё, што ў іх было ў гэтых «чатырохгодках», зводзілася да некаторых мерапрыемстваў па накапленню рэсурсаў для падрыхтоўкі новай вайны. Сутнасць-жа іх «чаты'рохгодак» пры правядзенні ў жыццё звялася да ўстанаўлення парадкаў бессаромнай эксплуатацыі рабочых і ўсёй масы працоўных у імя падтрымання панавання капітала, асабліва ў імя ўмацавання адной, з дазволу сказаць «расы», так блізкай сэрцу фашыстаў «расы» фінансавага капітала. Затое «расе» працоўных жывецца дрэнна пры фашысцкіх «чатырохгодках». Фашысцкія чатырохгодкі зваліліся на рабочых, як няшчасце, як новая кабала. Уведзена прымусовая праца на фабрыках і заводах, павялічан рабочы дзень да 10—12 гадзін і больш, забаронена павышаць зарплату, не спынен рост цэн на тавары. Паны фашысты не пакінулі ў спакоі і іншыя слаі працоўных: многія тысячы сялянскіх гаспадарак прададзены з малатка, разароны сотні тысяч рамеснікаў, дробных гандляроў і т. п. Так выглядаюць фашысцкія «чатырохгодкі» на справе.

Не гледзячы на ўсё гэта, мы цвёрда ўпэўнены ў тым, што фашыстам не ўдасца дыскрэдытаваць самую ідэю гаспадарчага плана. Перамогі нашых слаўных Сталінскіх пяцігодак знойдуць доступ да сэрцаў многіх мільёнаў рабочых і працоўных далёка за межамі СССР, і ў іх загарыцца жаданне мець не кабальныя фашысцкія чатырохгодкі, а свае, большэвіцкія пяцігодкі. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Капіталізм, і ў тым ліку фашысцкі капіталізм, бяссільны процістаўвіць нашай планавай гаспадарцы што-небудзь роўнацэннае. Капіталізм з яго прыватнай уласнасцю, у тым ліку і капіталізм у фашысцкім абліччы, у аснове сваёй несумяшчальны з устанаўленнем гаспадарчага плана. Таму, калі план у народнай гаспадарцы паказаў ужо сваю цудоўную сілу, капіталізм канчаткова ператварыўся ў перажытак гісторыі, у яе тормаз, у рэакцыйную з'яву нашага часу.

Што проціпаставіш такім фактам, такім поспехам планавай, сацыялістычнай гаспадаркі СССР? Была першая пяцігодка. Яна дала павелічэнне прамысловай прадукцыі за чатыры годы ў два разы, дала

202 проц. Прышла другая пяцігодка. Намецілі павелічэнне прамысловай прадукцыі яшчэ ў 2,1 раза, а на справе другая пяцігодка дала павелічэнне ў 2,2 раза, дакладней 221 проц. І вось новая, трэцяя пяцігодка. Мы зноў намецілі павелічэнне прамысловай прадукцыі за пяцігодку амаль у два разы, дакладней у 1,9 раза. Гэта-ж тое самае і ёсць, што называецца ў большэвікоў—усёперамагаючая сіла комунізма. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).** А тым, хто не верыць у комунізм, мы можам сказаць, пацярпіце яшчэ трохі, і гісторыя скажа сваё апошняе слова за ўсіх такіх малавераў, разам узятых і складзеных у адну агульную кучу. **(Смех, апладысменты).**

Аб усім гэтым прыходзіцца гаварыць, каб ахарактарызаваць знешнюю абстаноўку, у якой цяпер разгортваецца наша мірнае эканамічнае спаборніцтва з краінамі капіталізма.

З гэтага відаць таксама, што гэтае эканамічнае спаборніцтва ператворыцца ў спаборніцтва вышэйшага тыпу, у гістарычнае спаборніцтва двух грамадскіх сістэм—капіталізма і комунізма.

Капіталізм накапіў нямала матэрыяльных і культурных каштоўнасцей, але ён не можа ўжо скарыстаць гэтага нават у сваіх інтарэсах. Ён ператварыўся ўжо ва многіх выпадках у душыцеля прагрэса навукі, мастацтва, культуры. Гэта сапраўды так, але тым горш для капіталізма. Цяпер ужо ёсць каму ўспрыняць спадчыну капіталізма. Комунізм расце з таго, што створана капіталізмам, з яго лепшых і шматлікіх дасягненняў у галіне гаспадаркі, матэрыяльнага быту і культуры. Комунізм па-свойму перапрацоўвае ўсе гэтыя каштоўнасці і дасягненні,—але не ў інтарэсах вярхушкі грамадства, а ў інтарэсах усяго народа і чалавецтва. Трэба, не шкадуючы сіл, вывучаць культурную спадчыну. Трэба ведаць яе ўсур'ёз і глыбока. Трэба скарыстаць усё, што даў капіталізм і папярэдняя гісторыя чалавецтва, і з цаглін, створаных працай людзей на працягу многіх вякоў, будаваць новы будынак,—выгодны для жыцця народа, прасторны, поўны святла і сонца. **(Шумныя апладысменты ўсяго зала).** Каб пабудаваць гэты велічны будынак комунізма, трэба ўкласці ў гэтую справу многа новай энергіі і многа народных здольнасцей, многа працы і гераізма, многа смеласці, ініцыятывы і энтузіязма. Совецкі Саюз—вось прыклад таго, як гэтаму кладуць пачатак! Большэвіцкую сілу гэтай слаўнай справе дае наша партыя, партыя Леніна—Сталіна. **(Працяглая шумная авацыя).** Аб чым гаворыць нам даклад таварыша Сталіна на гэтым з'ездзе? Аб тым, што большэвіцкую душу нашай справе дае праца, мысль, слова нашага Сталіна! **(Узрыў апладысментаў, прывітальныя воклічы ў чэсць таварыша Сталіна).**

Нашай інтэлігенцыі належыць у гэтай гістарычнай справе выключна адказнае месца. Людзі культуры, людзі тэхнікі і навукі, старая і новая інтэлігенцыя, наша студэнцтва і папаўняемыя моладдзю кадры кваліфікаваных рабочых—усе патрэбны совецкаму народу, каб справіцца з новымі вялікімі задачамі, каб ажыццявіць пастаўленую

на чаргу асноўную эканамічную задачу, каб пабеданосна выканаць трэці пяцігадовы план. Ад іх здольнасці арганізаваць працу рабочых і сялян, ад іх умення ўнесці свае навуковыя веды ў справу скарыстання тэхнікі і ўсямернага павышэння прадукцыйнасці працы, будзе залежаць поспех нашай справы, поспех разгортваемага СССР эканамічнага спаборніцтва з іншымі краінамі і поспех гістарычнага спаборніцтва комунізма з капіталізмам. Іх творчая работа будзе тым пладатворней, іх поспехі будуць тым выдатней, чым паслядоўней і глыбей яны пранікнуць у сутнасць асноўнай сучаснай навукі аб грамадстве і дзяржаве,—у сутнасць вялікага вучэння марксізма-ленінізма, на аснове якога расце і мацнее ўсё соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР. У нас створана столькі прадпасылак, столькі магчымасцей для далейшага ўздыму і поўнага росквіту нашага грамадства, што цяпер галоўнае ў нас заключаецца ў комуністычна-свядомых адносінах да сваёй працы і, асабліва, у паспяховасці нашай большэвіцкай работы па ідэйнаму выхаванню разросшыхся кадраў совецкай інтэлігенцыі.

Прышоў час, калі наперад высоўваюцца задачы выхавайчага характару, задачы комуністычнага выхавання працоўных. Такая ацэнка ролі комуністычнага выхавання ў даны момант зусім не ўмаляе таго нашага абавязку, аб якім гаварыў таварыш Сталін—нашага абавязку трымаць народ у стане мабілізацыйнай гатоўнасці на выпадак усякіх нечаканасцей. Наадварот, толькі такое выхаванне можна назваць комуністычным, якое падыме нашу мабілізацыйную гатоўнасць і ўсе нашы здольнасці да беззаветнай барацьбы і да новых баёў за перамогу комунізма. **(Працяглыя апладысменты).**

Не так ужо далёка той час, калі Совецкі Саюз зможа сказаць другім: не адставай ад СССР таксама і ў **эканамічных** адносінах, калі хочаш па **ўсёй** лініі і ва **ўсіх** адносінах стаяць у перадавых радах чалавецтва.

Сцяг трэцяй пяцігодкі бяруць у свае рукі мільёны рабочых, многія мільёны працоўных. Генеральную лінію нашага руху ўперад да комунізма ўказвае нам партыя Леніна—Сталіна, наш большэвіцкі з'езд, наш Сталін! **(Бурныя, працяглыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць, воклічы «ура». Прывітальныя воклічы тт. Сталіну і Молатаву).**

---

# *Заключнае слова таварыша*
# *В. М. МОЛАТАВА.*

Таварышы, спрэчкі на з'ездзе паказалі, што тэзісы аб трэцім пяцігадовым плане сустракаюць поўнае падтрыманне дэлегатаў. **(Апладысменты).**

На некаторых пытаннях, пастаўленых выступаўшымі тут таварышамі, спынюся асобна. У заключным слове я хачу выправіць зробленае мною ў дакладзе ўпушчэнне. Для гэтага мне неабходна спыніцца на перадз'ездаўскай дыскусіі, на яе характары і выніках.

Перад з'ездам, як вы ведаеце, тэзісы падвергліся вельмі актыўнаму абмеркаванню ў друку, на партыйных сходах, у шырокіх масах. Гэтая высокая актыўнасць з'яўляецца адлюстраваннем таго палітычнага ўздыму ў краіне, які створан усёй работай нашай партыі, яе поспехамі ў галіне палітычнай, гаспадарчай і культурнай. У дыскусійны лісток «Правды» было прыслана некалькі тысяч пісем па пытаннях трэцяга пяцігадовага плана. Не малая частка гэтых пісем была апублікавана ў дыскусійным лістку. Апрача таго. па пытаннях трэцяй пяцігодкі друкавалася многа артыкулаў у іншых органах як цэнтральнага, так і мясцовага друку.

У перадз'ездаўскай дыскусіі выяснілася, што тэзісы аб трэцім пяцігадовым плане сустракаюць поўнае падтрыманне ў партыйных арганізацыях і ў шырокіх масах. Усе партыйныя канферэнцыі, якія адбываліся перад з'ездам, адобрылі тэзісы. Разам з тым, у гэтай дыскусіі было паднята многа пытанняў living рознастайнага характару, было ўнесена не мала дапаўненняў і канкрэтных папраўак да тэзісаў. У гэтых прапановах многа правільнага, карыснага. Трэба прызнаць, што ўключэнне большасці гэтых прапаноў у тэзісы павяло-б да таго, што тэзісы раздуліся-б да надзвычайна вялікіх размераў, і тады ўтанулі-б галоўныя пытанні. На гэта, вядома, пайсці нельга. Але, з другога боку, у перадз'ездаўскай дыскусіі зроблена было не мала такіх заўваг, якія павінны быць улічаны ў плане пяцігодкі.

Тэзісы—гэта яшчэ не план. Тэзісы даюць толькі аснову плана. Сам план—вельмі абшырны дакумент. Трэці пяцігадовы план складаецца з некалькіх тамоў табліц з цыфрамі. У гэтым плане асвятляецца многа самых рознастайных пытанняў, пры канчатко-

вым прыняцці і фармуліроўцы якіх вельмі важна і неабходна ўлічыць тыя прапановы і папраўкі, якія былі ўнесены ў перадз'ездаўскай дыскусіі. Вялікая актыўнасць партыйных і непартыйных таварышаў, прымаўшых удзел у перадз'ездаўскай дыскусіі, адыграе вялікую станоўчую ролю ў выпрацоўцы канчатковага плана трэцяй пяцігодкі, а некаторыя з гэтых прапаноў мы павінны ўлічыць пры канчатковай фармуліроўцы саміх тэзісаў.

З'езду, калі ён прыме ў аснову прадстаўленыя тэзісы, прыдзецца, відавочна, выбраць камісію, якая абмеркавала-б, якія папраўкі і дапаўненні трэба ўнесці ў тэзісы. Апрача таго, Цэнтральнаму Камітэту і Соўнаркому прыдзецца ўлічыць рад указаных прапаноў і паправак пры канчатковым зацвярджэнні самога пяцігадовага плана па асобных галінах народнай гаспадаркі, па асобных краях і рэспубліках.

Пастаўленыя ў перадз'ездаўскай дыскусіі і на самім нашым з'ездзе пытанні можна было-б разбіць на такія групы:

па-першае, пытанні арганізацыйнага характару, звязаныя з забеспячэннем выканання плана;

па-другое, некаторыя буйныя гаспадарчыя праблемы;

па-трэцяе, пытанні, якія датычаць асобных галін народнай гаспадаркі;

па-чацвертае, пытанні больш агульнага, прынцыпіяльнага характару.

Большэвікі вельмі добра ведаюць значэнне **арганізацыйных пытанняў** для вырашэння гаспадарчых спраў. Таму зразумела, што пры абмеркаванні плана трэцяй пяцігодкі арганізацыйным пытанням была ўдзелена вялікая ўвага. У перадз'ездаўскай дыскусіі быў пастаўлен рад буйных арганізацыйных пытанняў, у тым ліку рад пытанняў аб новых наркаматах і камітэтах пры Соўнаркоме. Было, напрыклад, пастаўлена пытанне аб стварэнні Наркамата па Будаўніцтву, было таксама пастаўлена пытанне аб выдзяленні з Наркамзема другога наркамата—спецыяльнага Наркамата па Упраўленню МТС; было таксама пастаўлена пытанне аб раздзяленні Наркомсоўгасаў на два наркаматы—Жывёлагадоўчых соўгасаў і Соўгасаў сельскагаспадарчых культур, аб выдзяленні новага наркамата па аўтамабільнай гаспадарцы або па аўтадарожнай справе і так далей. Рад такога роду пытанняў заслугоўвае сур'ёзнай увагі і можа быць вырашан пасля дадатковай адпаведнай прапрацоўкі.

Сярод гэтых прапаноў былі і такія, як прапанова аб стварэнні спецыяльнага наркамата па конегадоўлі. Мне здаецца, што гэтая прапанова нямэтазгодна. Але, з другога боку, заслугоўвае поўнай увагі прапанова таварыша Будзённага аб тым, каб Наркамзем і зямельныя органы мелі асобага намесніка Наркома і начальніка КрайЗУ па пытаннях конегадоўлі. Справа палепшання конегадоўлі мае

настолькі буйнае значэнне, што без раду новых арганізацыйных мер тут не абыйсціся.

У перадз'ездаўскай дыскусіі, ды і тут на з'ездзе, было таксама пастаўлена пытанне аб больш правільнай і больш моцнай узаемнай увязцы бягучай работы наркаматаў. У сувязі з разбуйненнем прамысловых наркаматаў гэта вельмі актуальнае пытанне. Народны Камісар Цяжкага машынабудаўніцтва таварыш Малышэў, які выступіў на з'ездзе, правільна ўказаў на тое, што і Эканомсовет і Дзяржплан павінны лічыцца з неабходнасцю больш моцнай узаемнай увязкі работы гаспадарчых наркаматаў, чым гэта мае месца ў цяперашні час. На гэта-ж правільна ўказваў у сваім выступленні і таварыш М. М. Кагановіч. Стварэнне больш спецыялізаваных прамысловых наркаматаў набліжае іх да прадпрыемстваў і гэта мае вялікае станоўчае значэнне. Але, з другога боку, цяпер узнікае многа такіх пытанняў, якія не могуць быць вырашаны ў нетрах аднаго толькі наркамата. Эканамічнаму Совету пры Соўнаркоме ў сувязі з гэтым, безумоўна, неабходна ўзмацніць свой апарат і праяўляць значна больш актыўнасці ў справе ўвязкі работы наркаматаў. Гэта не значыць, што самі наркаматы не павінны імкнуцца да гэтай увязкі сваёй работы з работай іншых наркаматаў. Яны абавязаны гэта рабіць і не павінны адгароджвацца адзін ад другога вузка-ведамственнымі інтарэсамі. Такая вузкая ведамственасць нярэдка ў нас сустракаецца, але з вузкаведамственным духам у рабоце трэба весці настойлівую барацьбу, як з праяўленнем бюракратызма. Пры ўсім гэтым, значнае павелічэнне колькасці гаспадарчых наркаматаў азначае немінучае ўскладненне структуры ўпраўлення народнай гаспадаркай наверсе і патрабуе адпаведнага ўзмацнення апарата Дзяржплана і Эканомсовета. З гэтага трэба зрабіць адпаведныя практычныя вывады.

З **асобных гаспадарчых праблем** спынюся на наступных: перасяленне на Далёкі Усход, Курская магнітная анамалія, Волга-Донскі канал, нафта ў Башкірыі.

Вы ведаеце, што гаспадарчыя пытанні Далёкага Усходу высунуліся ў нас моцна ўперад. У сувязі з гэтым вялікае значэнне набылі задачы арганізацыі перасялення на Далёкі Усход. Таварыш Данской правільна паставіў у перадз'ездаўскім артыкуле гэтае пытанне, як буйную дзяржаўную праблему. Сапраўды, неабходна, каб абодва Далёка-Усходнія краі гэтым пытаннем заняліся ўсур'ёз і стварылі на месцы адпаведныя буйныя перасяленчыя арганізацыі. Пара ў гэтай справе перайсці ад слоў да справы, ад агульных прапаноў да канкрэтных праектаў і рашэнняў.

У дыскусіі аб трэцяй пяцігодцы сур'ёзна пастаўлена пытанне аб Курскай магнітнай анамаліі і аб стварэнні ў яе раёне прамысловай металургічнай базы. Шкоднікі не мала зрабілі для таго, каб затармазіць гэтую справу. Пара кончыць і з гэтымі вынікамі шкодніцтва, прыступіць да сур'ёзных распрацовак жалезнай руды і да стварэння

металургічнай базы ў раёне Курскай магнітнай анамаліі. Гэтая справа мае вялікія перспектывы ў сувязі з задачамі развіцця металургіі ў СССР. Выступаўшы на з'ездзе тав. Даронін быў праў, патрабуючы сур'ёзнай увагі да гэтай справы ў трэцяй пяцігодцы. Аб гэтым трэба сказаць і ў тэзісах.

На з'ездзе было пастаўлена пытанне аб будаўніцтве Волга-Донскага канала. Гэта таксама адна з буйных гаспадарчых праблем, да вырашэння якой мы павінны прыступіць у трэцяй пяцігодцы. Вырашэнне Волга-Донскай праблемы затармазілася з-за таго, што ў свой час да гэтай праблемы быў прыпутан рад іншых праблем, напрыклад, пабудаванне гіганцкіх гідрастанцый. У цяперашні час у Дзяржплане Саюза гэтае пытанне заканчваецца распрацоўкай і ў недалёкім часе мы вернемся да канкрэтнага разгляду гэтага пытання. Выступаўшы тут таварыш Дзвінскі своечасова паставіў гэтае пытанне, як і своечасова яго прапанова аб узмацненні здабычы вугалю ў Растоўскай вобласці, дзе залежы каменнага вугалю вельмі значны.

Неабходна спыніцца таксама на пытанні аб нафтавай прамысловасці ў Прыуральскім раёне. Таварыш Шагімарданаў з Башкірыі быў зусім праў, патрабуючы ўзмацнення ўвагі да нафтавай прамысловасці ў Башкірыі. Яшчэ на XVII з'ездзе партыі таварыш Сталін гаварыў аб тым, што неабходна «ўзяцца сур'ёзна за арганізацыю нафтавай базы ў раёнах заходніх і паўднёвых схілаў Уральскага хрыбта». У першую чаргу, меліся на ўвазе раёны Башкірыі.

Як у сапраўднасці развівалася справа па здабычы нафты ў гэтым раёне, відаць з наступнага. Першая прамысловая нафта паявілася ў Башкірыі ў 1934 годзе, калі было здабыта каля 63 тысяч тон. Аб нафтавым багацці гэтага раёна гаворыць той факт, што ўжо ў наступным годзе, у 1935 годзе, было здабыта 406 тысяч тон, гэта значыць здабыча нафты за адзін год павялічылася больш, чым у 6 раз. У 1936 годзе здабыча нафты дасягнула тут 968 тысяч тон, гэта значыць павялічылася за год яшчэ амаль у два з палавінай раза. Але ўжо ў 1937 годзе здабыча нафты не стала павялічвацца, было здабыта ўсяго 957 тысяч тон нафты, а ў 1938 годзе—1.145 тысяч тон, гэта значыць павелічэнне здабычы нафты было не асабліва значным. Супастаўце гэтыя факты з наступнымі данымі аб капіталаўкладаннях па трэсту Башнафта. Капітальныя затраты па гэтаму трэсту былі наступныя: у 1935 годзе—45 мільёнаў, у 1936 годзе—59 мільёнаў, у 1937 годзе—49 мільёнаў, у 1938 годзе—45 мільёнаў. Гэта гаворыць аб нязначнасці капіталаўкладанняў у такую буйную прамысловую справу. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што замест павелічэння капіталаўкладанняў за апошнія два годы адбылося змяншэнне капіталаўкладанняў, і гэта, не гледзячы на тое, што партыя ўказвала на вялікае народнагаспадарчае значэнне данага нафтавага раёна.

Ва ўсім гэтым нельга не бачыць вялікага ўпушчэння ў нашым

гаспадарчым планаванні. Калі-б у даным выпадку была звернута больш сур'ёзная ўвага на планы развіцця нафтаздабычы, то і план капіталаўкладанняў быў-бы іншы—ён быў-бы больш значным. Шкоднікі, якія прыклалі да гэтай справы сваю антысовецкую руку, былі злоўлены са спазненнем, і дзяржаве была нанесена шкода тым, што справа з развіццём нафтаздабычы ў Башкірыі па крайняй меры на два годы была затармажана. Няхай гэта паслужыць нам яшчэ адным урокам для таго, каб мы палепшылі планаванне развіцця прамысловасці і не дапускалі стварэння тормазаў у развіцці такіх важных галін народнай гаспадаркі.

Пераходжу да асобных галін народнай гаспадаркі.

Пачну з **прамысловасці.**

У перадз'ездаўскай дыскусіі, ды і тут на з'ездзе, падкрэслівалася неабходнасць некалькі большага развіцця некаторых галін прамысловасці, чым гэта прадугледжана ў тэзісах. Да такіх галін адносяцца, напрыклад, папяровая і цэментная прамысловасць. Сапраўды, патрэбнасць у паперы настолькі вялікая, што мы павінны яшчэ раз абмеркаваць магчымасць павелічэння плана развіцця папяровай прамысловасці ў трэцяй пяцігодцы. Гэта-ж адносіцца і да вытворчасці цэменту. У трэцяй пяцігодцы намечан такі рост будаўніцтва, што мы павінны яшчэ раз абмеркаваць пытанне аб магчымасці павелічэння праграмы і па цэментнай прамысловасці.

Найбольшай увагай і перад з'ездам і на з'ездзе карысталіся пытанні паліва, і гэта зусім зразумела. Ва ўсёй народнай гаспадарцы ўжо моцна сказалася недастача размераў цяперашняй здабычы паліва, недастача вугалю, недастача нафты, а таксама недастатковая ўвага да такіх відаў паліва, як торф, сланцы, сапрапеліты. Усім гэтым пытанням у трэцяй пяцігодцы неабходна ўдзяліць самую сур'ёзную ўвагу. Да сказанага ў дакладзе я дабаўлю нямногае.

Вы ведаеце, што мы намячаем вялікае развіццё прамысловасці ў раёне Волгі, але да апошняга часу развіццё прамысловасці затрымлівалася тут недахватам паліва. Таварыш Сталін спецыяльна звярнуў увагу на неабходнасць прыняць меры для здабычы вугаляў у раёнах, блізкіх да Волгі. Заняўшыся гэтай справай, Наркамтоп нядаўна ўнёс прапанову аб развіцці вуглездабычы ў Дамбараўскім месцараджэнні Чкалаўскай вобласці. Таварыш Кагановіч распрацаваў адпаведныя прапановы і гэтымі днямі яны былі зацверджаны Цэнтральным Камітэтам і Соўнаркомам. У гэтым рашэнні на Наркамтоп ускладзены наступныя задачы: у Дамбараўскім месцараджэнні ў 1939 годзе закласці 10 шахт, агульнай магутнасцю 1 мільён тон, з тым, каб 6 шахт былі закончаны і зданы ў эксплаатацыю ўжо ў гэтым годзе; апрача таго, у Палтава-Брэдзінскім і Барадзінаўскім раёнах рашано ў гэтым годзе закласці 4 шахты—на агульную магутнасць 400 тысяч тон; у Берчагурскім месцараджэнні рашано закласці ў гэтым годзе 3 шахты—на агульную магутнасць 300 тысяч тон. Ва ўсіх гэтых раёнах магут-

насць новых шахт к канцу 1942 года павінна складці 7.700 тысяч тон. Гэта створыць сур'ёзную базу для палепшання паліваснабжэння Орскага прамысловага раёна і Прываложскіх абласцей, а таксама адпаведных чыгунак, якія ў цяперашні час карыстаюцца далёкапрывознымі кузнецкім і данецкім вугалямі.

Гэта толькі адзін з прыкладаў таго, як настойліва трэба падыйсці да вырашэння задачы аб забеспячэнні ўсіх эканамічных раёнаў палівам, вытвараемым на месцы. Трэба ва ўсіх асноўных эканамічных раёнах прыняць меры для забеспячэння вытворчасці паліва на месцы, для поўнага вызвалення транспарта ад прывозу вугалю з дальніх раёнаў.

Трэба таксама ліквідаваць адзін з перажыткаў у снабжэнні гарадоў палівам. Да гэтага часу Масква, Ленінград і іншыя буйныя гарады снабжаюцца дровамі ў значнай меры па чыгунках. Пры цяперашніх размерах прамысловай вытворчасці ў буйных гарадах загрузка чыгунак вялікімі перавозкамі дроў з дальніх раёнаў зусім недапушчальна. Выступаўшы тут таварыш Багданаў быў зусім праў, калі ён патрабаваў спыніць такую агідную справу, як дастаўка дроў у Ленінград па чыгунцы з раёнаў, якія знаходзяцца на тысячу і больш кіламетраў ад Ленінграда. З такім становішчам нельга мірыцца. Гэта недапушчальны перажытак ад таго часу, калі маштабы гэтых перавозак былі значна меншымі. Шырокі пераход да газіфікацыі ў буйных гарадах дасць магчымасць вызваліцца ад такіх эканамічна не апраўдваючых сябе рэчаў, як перавозкі дроў па чыгунках на вялікія адлегласці. Чым хутчэй мы гэта зробім, тым лепш.

Пераходжу да пытання аб **электрагаспадарцы.** Гэтай справе і на з'ездзе і ў перадз'ездаўскай дыскусіі ўдзялялася велізарная ўвага. Яна набыла вялікую вастрыню з прычыны таго, што запросы на электраэнергію далёка апярэдзілі меўшыйся ў нас рост магутнасцей электрастанцый. Неабходна, каб мы ўзмоцнена развілі будаўніцтва сярэдніх і невялікіх электрастанцый, а апрача таго, далі поўны ход будаўніцтву дробных электрастанцый, у прыватнасці дробных гідрастанцый. Зусім правільна пры гэтым указваюць на тое, што будаўніцтва гэтых электрастанцый патрабуе значнага павелічэння вытворчасці турбін, асабліва дробных гідратурбін. Мы абавязаны ў плане трэцяй пяцігодкі прадугледзець гэтыя патрэбнасці ў дастатковай меры.

У плане трэцяй пяцігодкі важнае месца займае будаўніцтва Куйбышэўскай гідрастанцыі. Гэтае будаўніцтва ўжо атрымала вялікі размах. Нам неабходна прадугледзець у плане трэцяй пяцігодкі правільнае скарыстанне будучай велізарнай колькасці электраэнергіі, якую мы атрымаем ад куйбышэўскіх гідрастанцый. Неабходна прадугледзець адпаведнае будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў, будаўніцтва абвадняльнай сістэмы, снабжэнне электраэнергіяй гарадоў.

Побач з гэтым гіганцкім гідрабудаўніцтвам, важнае значэнне мае будаўніцтва новых гідрастанцый меншага маштаба. Нядаўна таварыш Сталін спецыяльна паставіў пытанне перад Наркамэлектра тав. Пярвухіным аб будаўніцтве раду гідрастанцый у Данбасе і на Урале. Данбас адчувае крайнюю патрэбу ў дадатковай электраэнергіі. Чаму-б не скарыстаць для гэтай мэты раку Данец, пабудаваўшы на ёй адну або дзве гідрастанцыі не гіганцкага маштабу, але такіх, якія могуць даць не мала электраэнергіі? Не хапае электраэнергіі ў Свярдлоўску і Чэлябінску. Чаму-б не скарыстаць рэкі Ісець, Чусавую, Міас, збудаваўшы і тут гідрастанцыі? Гэтым была-б аказана значная дапамога Уралу ў электраснабжэнні. Такога роду заданні павінны знайсці сваё адлюстраванне ў трэцім пяцігадовым плане.

Па пытанню аб **машынабудаўніцтве.** Гэтым пытанням нельга не ўдзяляць самай сур'ёзнай увагі. Мы ідзем па лініі далейшага і ўсё больш шырокага ўнядрэння перадавой тэхнікі ва ўсе галіны народнай гаспадаркі. Без далейшага вялікага павелічэння тэхнікі, без пастаяннага павышэння тэхнічнага ўзроўню, без усямернага скарыстання апошніх дасягненняў сусветнай тэхнікі,—нельга забяспечыць патрэбны Совецкаму Саюзу далейшы вялікі ўздым народнай гаспадаркі. Аб усім гэтым многа гаварылася ў перадз'ездаўскай дыскусіі і тут на з'ездзе. Нам трэба паставіць вытворчасць многіх новых відаў машын і абсталявання для розных галін народнай гаспадаркі. Асабліва неабходна падняць на належную вышыню станкабудаўніцтва. Трэба наладзіць вытворчасць апаратуры для аўтаматычнага ўпраўлення тых-жа гідрастанцый, для тэкстыльнай прамысловасці і інш. Трэба арганізаваць вытворчасць механізаванага інструмента, які нярэдка можа замяніць больш складанае абсталяванне на заводах, у МТМ і т. д. Патрэбнасць у далейшым развіцці машынабудаўніцтва вельмі вялікая ва ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Але пры гэтым трэба лічыцца і з наступным. Напрыклад, для сельскай гаспадаркі трэба вырашыць асноўную праблему механізацыі: забеспячэнне ўсіх трактараў адпаведным трактарным прычэпным інвентаром. Мы гэтага далёка яшчэ не дабіліся, а павінны дабіцца, як можна хутчэй. Але правільна гаварыў тут тав. Бенедзіктаў, што не трэба забываць і аб конным інвентары. На жаль, аб ім у апошнія годы мала клапаціліся, і гэтая справа аказалася недапушчальна закінутай.

У перадз'ездаўскай дыскусіі не мала гаварылі наконт далейшага развіцця аўтамабільнай вытворчасці, у прыватнасці, наконт вытворчасці малалітражных аўтамабіляў. Адпаведнае рашэнне Цэнтральным Камітэтам і Соўнаркомам ужо прынята. Народнаму Камісарыяту сярэдняга машынабудаўніцтва і яго кіраўніку т. Ліхачову прыдзецца сур'ёзна папрацаваць, каб выканаць пастаўленую перад Наркаматам задачу аб пачатку выпуску малалітражных совецкіх аўтамабіляў ужо ў гэтым годзе. **(Апладысменты).**

Наконт металургіі мне не прыдзецца многага дадаваць да сказанага ў дакладзе. У перадз'ездаўскай дыскусіі падкрэслівалася неабходнасць вялікай эканоміі ў расходванні чорных і каляровых металаў, і гэта зусім правільна. Мы павінны навесці парадак і рашучую эканомію ў расходаванні чыгуну, у расходаванні сталі, у расходаванні якасных сталей, у асаблівасці-ж, у расходаванні медзі і іншых каляровых металаў. У нас яшчэ многа тут безгаспадарчасці, якую трэба ліквідаваць. У сувязі з гэтым, а таксама ў сувязі з агульным пытаннем аб барацьбе са стратамі, па-мойму, неабходны некаторыя дадатковыя ўказанні ў тэзісах.

Па **хіміі.** У тэзісах указана важнасць справы газіфікацыі. Трэба асобна ўказаць у тэзісах на неабходнасць усямернага развіцця газіфікацыі ў гарадах. Апрача таго, трэба прыцягнуць увагу да пытання аб мінеральных угнаеннях. Вельмі неабходна дабіцца лепшага абыходжання з мінеральнымі ўгнаеннямі. Нецярпімы маючыя цяпер месца шматлікія факты велізарных страт мінеральных угнаенняў пры перавозках і пры захоўванні. Трэба арганізаваць рашучую барацьбу з гэтай безгаспадарчасцю, а, разам з тым, неабходна паставіць вытворчасць машын для ўнясення ўгнаенняў у глебу. З асобных галін хімічнай прамысловасці я зараз укажу толькі на азбеставую прамысловасць, на неабходнасць хутчэйшага развіцця якой зусім справядліва ўказваў у друку тав. Цальковіч.

Па **вытворчасці тавараў шырокага спажывання.** Выступаўшы на з'ездзе Народны Камісар Тэкстыльнай Прамысловасці тав. Касыгін быў праў, прад'яўляючы рад патрабаванняў аб дапамозе тэкстыльнай прамысловасці з боку іншых галін народнай гаспадаркі. Мы абавязаны аказаць усямернае падтрыманне хутчэйшаму ўздыму баваўняна-папяровай прамысловасці. Але таварышы-тэкстыльшчыкі павінны памятаць аб тым, што галоўнае тут залежыць ад іх саміх, ад таго, каб яны ўзмацнілі сваю работу, каб яны замацавалі і развілі ўздым вытворчасці, які пачаўся ўжо на тэкстыльных фабрыках. Таварышам-тэкстыльшчыкам пара канчаткова кінуць старыя дрэнныя прывычкі не выконваць план і стаць у рады тых, хто ўмее змагацца за выкананне і перавыкананне ўстаноўленых планаў. Нельга забываць і аб такіх рэчах, як вытворчасць чулкоў і наскоў, на што ўказвалася ў друку. Сапраўды, неабходна разгарнуць гэтую вытворчасць і на месцах, на справе пакончыць з недахватам такіх простых рэчаў у нашай гаспадарцы. Нарэшце, аб рыбнай гаспадарцы. Можна толькі дадаць да сказанага на з'ездзе, што пры ўсёй неабходнасці самай сур'ёзнай увагі да справы хутчэйшага і большага ўздыму асноўных рыбных баз у Мурманску і наогул на поўначы, на Каспіі, у Азоўскім моры і на Далёкім Усходзе,—мясцовыя вадаёмы трэба ўсякімі спосабамі развіваць і паставіць гэтую справу пад уважлівы кантроль мясцовых арганізацый. Па пытаннях рыбнай прамысловасці трэба некалькі развіць указанні, даныя ў тэзісах.

Аб **сельскай гаспадарцы.**

У перадз'ездаўскай дыскусіі вялікай увагай карысталіся пытанні далейшай механізацыі сельскай гаспадаркі і, у прыватнасці, пытанні ўнядрэння газагенератарных трактараў і аўтамабіляў. Апрача таго, справядліва ставілася пытанне аб сур'ёзным палепшанні работы машынна-трактарных майстэрань—МТМ. Пара ператварыць МТМ у сапраўдныя, нармальна дзеючыя прадпрыемствы, не зводзячы іх работу выключна да сезонных заданняў. Справядліва ўказвалася перад з'ездам і ў выступленні Народнага Камісара Земляробства тав. Бенедзіктава на з'ездзе на неабходнасць палепшання арганізацыі землеўпарадкавання. У інтарэсах хутчэйшага ўнядрэння правільных севаабаротаў неабходна ўзяць справу землеўпарадкавання ў моцныя рукі дзяржавы і фінансіраваць яе з дзяржбюджэта.

Нарэшце, па пытанню аб **калгасах.**

У перадз'ездаўскай дыскусіі была выказана думка, што цяпер трэба ўзяцца за стварэнне ўзорных комун. Аўтару гэтай прапановы быў дан адпаведны адказ і было ўказана, што ён гне не ў той бок. У нас і ў трэцяй пяцігодцы асноўнай формай калгаснай гаспадаркі будзе сельскагаспадарчая арцель. Мы яшчэ далёка не скарысталі ўсіх магчымасцей гэтай калгаснай формы для ўздыму сельскай гаспадаркі, для ўздыму добрабыту калгаснага сялянства. Таму цягнуць цяпер у бок комун, а тым больш, пераносіць цэнтр цяжару з сельскагаспадарчай арцелі на комуну,—значыць заняць няправільную пазіцыю і збіцца са шляху. Каб не было ў гэтым пытанні блытаніны ў некаторых галовах па выпадку таго, што, моў, пачалася новая паласа, паласа паступовага пераходу ад социялізма да комунізма,—трэба цвёрда сказаць аб тым, што і цяпер асновай калгаснага руху астаецца арцель. Іншая справа, што трэба і ў рабоце арцелі высунуць рад новых задач. Да ліку гэтых задач адносяцца такія: далейшае ўмацаванне калгаса і калгаснай уласнасці і ліквідацыя дапушчаных скажэнняў і нарушэнняў Статута сельскагаспадарчай арцелі па прысядзібнай гаспадарцы калгаснікаў. Трэба дабіцца, каб клопаты аб падсобнай гаспадарцы калгасніка не процістаўляліся асноўнай задачы—задачы ўмацавання калгаса і калгаснай уласнасці. Трэба на практыцы праводзіць устаноўленыя абмежаванні ў адносінах прысядзібных зямель і індывідуальнай жывёлы асобных калгаснікаў і ўсямерна падтрымаць далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, таму што толькі на гэтай аснове—толькі на аснове далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў—можа ісці сапраўдны ўздым сельскай гаспадаркі і быстра павышацца добрабыт і культурны ўзровень калгаснага сялянства. Неабходна таксама ўзмацніць барацьбу за ўмацаванне калгаснай дысцыпліны і падняць адпаведную выхаваўчую работу сярод калгаснікаў. Неабходна, нарэшце, шырэй

скарыстаць звеннявую форму арганізацыі працы калгаснікаў. Аб гэтых пытаннях я гаварыў ужо ў дакладзе. Неабходна ўнесці адпаведныя дапаўненні і ў тэзісы аб трэцяй пяцігодцы.

Што датычыць **транспарта,** то мне астаецца сказаць вельмі нямногае. У выступленні таварыша Кагановіча дастаткова было сказана аб задачах чыгуначнага транспарта і, у прыватнасці, аб неабходнасці далейшага значнага ўмацавання яго матэрыяльна-тэхнічнай базы. У плане трэцяй пяцігодкі гэтыя задачы павінны знайсці сваё поўнае адлюстраванне. Адказваючы на атрыманую запіску, я павінен сказаць, што для трэцяй пяцігодкі нельга лічыць актуальнай задачу пабудовы новай чыгункі цераз Каўказскі хрыбет. Зараз задача заключаецца ў тым, каб хутчэй закончыць пабудову Чорнаморскай чыгункі, якая аблегчыць і паскорыць сувязь Закаўказзя з Паўночным Каўказам і з цэнтрам. У адносінах Кіраўскай чыгункі я павінен пацвердзіць, што на гэтай чыгунцы будуць пракладзены другія пуці ад Мурманска да станцыі Сарока. Апрача таго, праводзіцца таксама папярэчная чыгунка па лініі Сарока—Плесецкая, якая злучае дзве паўночныя чыгункі—Кіраўскую і Паўночную. Гэта ўзмоцніць сувязь поўначы з цэнтрам, а таксама дапаможа лепшаму скарыстанню лясных і іншых багаццяў Еўрапейскай Поўначы.

Наконт **аўтадарожнага транспарта.** Па ўсёй лініі ідуць прапановы звярнуць сур'ёзную ўвагу на аўтагаспадарку, і гэта зусім правільна. Цяпер, калі аўтамабіляў становіцца ў нас даволі многа, а к канцу трэцяй пяцігодкі іх будзе ўжо 1.700 тысяч, пытанне аб скарыстанні аўтатранспарта набывае вялікае значэнне. І тут, пры лепшай арганізацыі справы і пры ліквідацыі шматлікіх фактаў безгаспадарчасці ў скарыстанні аўтатранспарта, мы зробім добрую справу ў інтарэсах народнай гаспадаркі. У бліжэйшы час пытанні ўзмацнення дзяржаўнага кантролю ў галіне аўтагаспадаркі павінны быць спецыяльна разгледжаны ў Эканомсовеце.

Па **будаўніцтву.**

Многія гавораць аб неабходнасці падняць справу вытворчасці будматэрыялаў. Для гэтага, як вы ведаеце, створан спецыяльны наркамат. З другога боку, указваецца і на неабходнасць другой структуры будаўнічых арганізацый. Пастаўленае на з'ездзе тав. Папковым з Ленінграда пытанне аб перадачы ўсіх будаўнічых арганізацый па жыллёвай гаспадарцы Ленінградскаму Савету наўрад ці можна вырашыць так проста. Але ў гэтай прапанове ёсць правільнае зерне, якое заключаецца ў абароне неабходнасці стварэння магутных тэрытарыяльных арганізацый па жыллёваму будаўніцтву за кошт ліквідацыі паралельна існуючых маламоцных ведамственных трэстаў. Калі мы створым Наркамат па справах будаўніцтва,—а да гэтага мы цяпер ідзем,—тады ў гэтай галіне, напэўна, у поўнай меры ажыццёвіцца пераход на салідныя тэрытарыяльныя будаўнічыя арганізацыі.

Пытанням **падрыхтоўкі кадраў** для народнай гаспадаркі, падрыхтоўкі новых спецыялістаў, рабоце навукова-даследчых інстытутаў, уздыму **тэхнічнай мыслі і навуковай работы** ўдзялялася сур'ёзная ўвага ў передз'ездаўскай дыскусіі. Пастаўленыя цяпер партыяй задачы ў адносінах нашай соцыялістычнай інтэлігенцыі павінны падняць усе гэтыя пытанні на значна больш высокі ўзровень, чым гэта было да гэтага часу. Нельга закрываць вочы на тое, што і ў галіне навукі, дзе Акадэмія Навук СССР павінна-б адыгрываць вядучую ролю і павінна-б даваць правільны тон як у тэарэтычнай рабоце па развіццю перадавой совецкай навукі, так і ў дзелавой увязцы творчай работы вучоных з усім планавым развіццём нашай народнай гаспадаркі ў трэцяй пяцігодцы,—у нас яшчэ не мала нявырашаных пытанняў. Але цяпер больш, чым раней можна спадзявацца на лепшыя рэзультаты ў гэтай галіне, а гэта для народнай гаспадаркі мае вельмі сур'ёзнае значэнне.

З пытанняў, якія маюць больш **агульны, прынцыпіяльны характар**, аб якіх гаварылася ў перадз'ездаўскай дыскусіі, у дакладзе я спыняўся, напрыклад, на наступных: на пытанні аб устараненні процілегласці паміж горадам і вёскай, на перспектывах зжывання процілегласці паміж разумовай працай і фізічнай працай, а таксама, у кароткай форме, і на пытаннях аб далейшым развіцці калгасаў, аб чым зараз я зрабіў дадатковыя заўвагі.

У перадз'ездаўскай дыскусіі выказвалася таксама думка аб тым, што ўказанне тэзісаў на наяўнасць маючагася эканамічнага адставання СССР ад перадавых капіталістычных краін можа выклікаць няправільнае ўяўленне аб Совецкім Саюзе. Пры гэтым гаварылася, што ўказанне тэзісаў на недастатковасць эканамічнага ўзроўню СССР не вяжацца быццам-бы з фактам няўхільнага палепшання становішча працоўных мас у СССР, тым больш, што і ў самых развітых эканамічна капіталістычных краінах становішча шырокіх мас пад уплывам крызісаў, беспрацоўя і нішчаты ў вёсцы ўсё больш пагаршаецца. На гэта трэба сказаць, што ў тэзісах дастаткова ясна ўказана, якім быстрым тэмпам ідзе рост народнага добрабыту ў Совецкім Саюзе, і які далейшы вялікі рост народнага добрабыту намячае трэці пяцігадовы план, асабліва ў сувязі з намечанымі ў ім мерамі па далейшаму павышэнню эканамічнага ўзроўню нашай краіны. Але ўсім нам павінна быць ясна, што, указваючы на гэтыя станоўчыя моманты, мы ні ў якім разе не павінны закрываць вачэй на недастатковасць ужо дасягнутага эканамічнага ўзроўню СССР. Мы не павінны закрываць вачэй на тое, што, перагнаўшы капіталістычныя краіны і па тэмпах уздыму прамысловасці, і па дасягнутаму ўжо ўзроўню тэхнікі вытворчасці, мы яшчэ не дагналі найбольш развітых перадавых капіталістычных краін па размерах вытворчасці раду важнейшых прамысловых прадуктаў, калі браць гэтую вытворчасць у разліку на душу

насельніцтва. З прычыны велізарных размераў нашага насельніцтва, для гэтага патрабуецца не малы час, для гэтага мы павінны яшчэ многа папрацаваць. Але і з гэтай задачай мы справімся ў кароткі тэрмін, калі не будзем закрываць вачэй на нашы недахопы, калі здолеем па-большэвіцку распаліць імкненне большэвікоў і ўсіх чэсных грамадзян нашай краіны да хутчэйшага вырашэння асноўнай эканамічнай задачы СССР.

Пасля справаздачнага даклада таварыша Сталіна, які глыбока навукова асвятліў пытанні аб дзяржаве і аб інтэлігенцыі СССР з пункту погляду далейшага развіцця марксісцка-ленінскай тэорыі, няма неабходнасці спыняцца на якіх-небудзь іншых агульных прынцыпіяльных пытаннях. Партыя мае цяпер ясную, большэвіцкую перспектыву ва ўсёй рабоце, у вырашэнні ўсіх чарговых задач.

Усе выступаўшыя тут таварышы гаварылі аб уздыме тых ці іншых галін народнай гаспадаркі, тых ці іншых эканамічных раёнаў і рэспублік СССР, і аб уздыме народнай гаспадаркі Савецкага Саюза ў цэлым. Сапраўды, у нашай краіне ўстанавіўся няўхільны гаспадарчы, культурны і палітычны ўздым **усіх** галін і **ўсіх** эканамічных раёнаў, які знаходзіць сваё выражэнне ў палітычным, гаспадарчым і культурным уздыме ўсіх нашых рэспублік і ўсяго СССР у цэлым. Трэці пяцігадовы план павінен адыграць велізарную арганізуючую ролю ў гэтым уздыме і ў далейшым росце эканамічнай магутнасці ўсяго многанацыянальнага Савецкага Саюза.

Наша задача заключаецца ў тым, каб па-большэвіцку мабілізаваць сілы **на выкананне плана трэцяй пяцігодкі.** Адзін год, першы год трэцяй пяцігодкі, ужо прайшоў. У мінулым годзе мы дабіліся нямалага ўздыму нашай прамысловасці. Рост прамысловасці за мінулы год дасягнуў 11 процантаў супроць папярэдняга года. Але нам трэба забяспечыць больш высокія тэмпы росту нашай прамысловасці для выканання плана трэцяй пяцігодкі. На 1939 год у нас прыняты план росту прамысловасці на 20 процантаў. Задача, як бачыце, сур'ёзная, не лёгкая. Значыць, час траціць нельга. XVIII З'езд партыі выклікаў вялікі ўздым у рабочых масах. У сувязі з гэтым падняліся тэмпы вытворчасці нашай прамысловасці. Яшчэ не ва ўсіх галінах прамысловасці мы поўнасцю выконваем план гэтага года, але ўжо рад галін, рад гарадоў і раёнаў паспяхова спраўляецца са сваімі задачамі. Перадз'ездаўскі ўздым у рабочых масах, які ўжо даў свае прыкметныя рэзультаты ў лютым месяцы, мы павінны замацаваць. Мы павінны зрабіць усё для таго, каб добрае выкананне народна-гаспадарчага плана 1939 года паслужыла справе выканання ўсяго трэцяга пяцігадовага плана. **(Апладысменты).**

Мы павінны працаваць так, каб пасля першай Сталінскай пяцігодкі, якая праславілася датэрміновым выкананнем плана, і пасля

другой Сталінскай пяцігодкі, якую мы закончылі з такім-жа поспехам, мы маглі-б з гордасцю сказаць: мы па-большэвіцку біліся за выкананне і перавыкананне трэцяй Сталінскай пяцігодкі, мы забяспечылі новую большэвіцкую перамогу і тады трэцяя пяцігодка на справе будзе тым, чым яна павінна быць—новай пабеданоснай Сталінскай пяцігодкай магутнага ўздыму сіл СССР. **(Бурныя, працяглыя апладысменты, усе ўстаюць, у зале раздаюцца крыкі «ура!»).**

---

# ЗМЯНЕННІ Ў СТАТУЦЕ ВКП(б).

*Дакладчык тав. ЖДАНАЎ.*

## УСТУП.

Таварышы!

У сваім дакладзе на XVIII з'ездзе таварыш Сталін падвёў вынік грандыёзных перамог социялізма, якіх дабілася наша партыя ў другой пяцігодцы. Таварыш Сталін даў выключны па глыбіні і мудрасці аналіз умоў нашых перамог і начэртаў грандыёзную праграму работ, звязаных з задачамі паступовага пераходу Саюза ССР ад соцыялізма да комунізма.

Перамога соцыялізма—трыумф нашай партыі, трыумф яе Ленінска-Сталінскага кіраўніцтва.

Перамагла палітыка партыі, перамагла яе тэорыя, яе ідэалогія, перамаглі яе арганізацыйныя прынцыпы.

Вакол нашай партыі згуртаваліся многамільённыя масы працоўных нашай краіны. Яе ідэі, ідэі комунізма сталі сцягам совецкага народа.

Вырашэнне сусветна-гістарычных задач будаўніцтва соцыялізма і аховы заваяванняў перамогшага соцыялізма ад капіталістычнага акружэння і яго агентуры ўнутры СССР патрэбавала ад партыі карэннай перабудовы партыйна-палітычнай і арганізацыйнай работы.

Ачысціўшыся ад варожай мразі, умацаваўшы тым самым большэвіцкае адзінства і моцнасць сваіх радоў, перабудаваўшы партыйна-палітычную і арганізацыйную работу, партыя нязмерна ўмацавала сваю сілу і магутнасць, сваё ідэйнае і арганізацыйнае ўзбраенне.

Партыя стала моцнай, як ніколі!

Гэтым мы абавязаны кіраўніцтву таварыша Сталіна! **(Бурныя апладысменты, усе ўстаюць, воклічы «ура»).**

Крыніца сілы нашай партыі, крыніца яе сусветна-гістарычных перамог заключаецца ў тым, што яна з'яўляецца партыяй новага, ленінска-сталінскага тыпу, непрымірымай у адносінах апартуністаў, усіх ворагаў рабочага класа. Наша партыя—гэта партыя соцыяльнай рэволюцыі, вырасшая на моцнай базе тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Яе праграма і тактыка, арганізацыйныя прынцыпы базіруюцца на гранітнай аснове марксізма-ленінізма. У яе радах леп-

шыя прадстаўнікі рабочага класа, самыя адданыя яго сыны, найбольш свядомыя, рэволюцыйныя, смелыя, дысцыплінаваныя. Дзякуючы гэтаму большэвіцкая партыя стала баявым штабам рабочага класа, яго рэволюцыйным авангардам, партыяй,

> «... дастаткова смелай для таго, каб павесці пролетарыяў на барацьбу за ўладу, дастаткова вопытнай для таго, каб разабрацца ў складаных умовах рэволюцыйнай абстаноўкі, і дастаткова гібкай для таго, каб абыйсці ўсе і ўсякія падводныя каменні на шляху да мэты». (Сталін, «Аб асновах ленінізма»).

Ролю авангарда рабочага класа партыя большэвікоў выконвае не толькі сваёй паслядоўна рэволюцыйнай, навуковай праграмай і тактыкай, але і арганізацыяй. Характэрная асаблівасць нашай партыі заключаецца ў тым, што яна на ўсіх этапах сваёй рэволюцыйнай дзейнасці надавала выключнае значэнне арганізацыі. Яна граміла апартунізм у арганізацыйных пытаннях, высоўваючы кожны раз такія арганізацыйныя формы, такія правілы і законы свайго ўнутранога жыцця, якія адпавядалі гістарычным умовам дзейнасці партыі і забяспечвалі выкананне яе палітычных задач.

Арганізацыйныя прынцыпы большэвізма з'яўляюцца сродкам ажыццяўлення паслядоўнай рэволюцыйнай праграмы і тактыкі, бо рэволюцыйная праграма не можа быць ажыццёўлена без жалезнай, цэнтралізаванай арганізацыі. Ленінска-сталінскія арганізацыйныя прынцыпы будаўніцтва партыі знайшлі сваё ўвасабленне ў статуце партыі, які вызначае способы практычнай дзейнасці партыйных арганізацый, формы пабудовы партыі і правілы яе ўнутранога жыцця. Сусветна-гістарычная місія нашай партыі, як арганізатара і кіраўніка социялістычнай рэволюцыі і ажыццяўлення дыктатуры рабочага класа, вызначыла сабой і асноўныя арганізацыйныя прынцыпы будаўніцтва нашай партыі: найстражэйшы цэнтралізм у дзейнасці партыйных арганізацый, унутраную свядомую дысцыпліну, адзінства волі і адзінства дзеянняў, недапушчальнасць фракцый і груціровак, старанны адбор уступаючых у партыю, ахаванне партыі ад апартуністычных дробна-буржуазных элементаў, пастаянныя клопаты аб узняцці актыўнасці членаў партыі і развіцці ўнутрыпартыйнай дэмакратыі. Гэтыя прынцыпы, увасобленыя ў статуце партыі, складаюць непахісную аснову партыі.

Партыя заўсёды лічыла статут непарушнай асновай партыйнага жыцця і партыйнага будаўніцтва. Яна заўсёды змагалася за дакладнае выкананне ўсіх палажэнняў статута. Ведаючы вялікую магутнасць, закладзеную ў большэвіцкіх арганізацыйных прынцыпах і ў канцэнтраваным выражэнні іх—у статуце ВКП(б), усякія прыхвасні буржуазіі і двурушнікі, прыкрываючыся вялікім званнем члена партыі, не раз прабавалі падарваць статут партыі, нарушыць адзінства

партыі, аслабіць партыю ў мэтах падрыхтоўкі рэстаўрацыі капіталізма ў СССР. Факты апошніх год паказалі, як шырока скарысталі подлыя ворагі народа—трацкісцка-бухарынскія, буржуазна-нацыяналістычныя агенты фашызма, шпіёны, дыверсанты, нарушэнні статута партыі ў сваіх падрыўных мэтах. Гэтыя нарушэнні,—адступленні ад прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізма, агульны прыём у партыю, учыненне хаоса ў партыйнай гаспадарцы і т. д.,—з'явіліся вынікам прытуплення бальшэвіцкай пільнасці і забыцця арганізацыйных асноў нашай партыі. Вось чаму адступленні ад статута партыі, нарушэнні статутных правіл і законаў з'яўляюцца нарушэннем вучэння Леніна—Сталіна аб партыі, наносяць партыі шкоду.

Партыя рэвалюцыйнага марксізма вызначае арганізацыйныя формы і метады сваёй работы ў залежнасці ад канкрэтнай абстаноўкі. Выходзячы з гэтага, партыя бальшэвікоў ніколі не ператварала раз устаноўленыя формы партыйнага будаўніцтва ў догму, у мёртвую схему. У арганізацыйных формах статута, як і ў развіцці марксісцкай тэорыі, наша партыя стаіць на глебе творчага марксізма, узбагачаючы формы арганізацыйнага статута новым вопытам, у залежнасці ад развіваючыхся ўмоў класавай барацьбы і новых палітычных задач.

Дазвольце напомніць вам наступныя ўказанні, якія наконт гэтага даў X партыйны з'езд у сваёй рэзалюцыі «Аб партыйным будаўніцтве»:

> «1. Партыя рэвалюцыйнага марксізма ў корані адмаўляе пошукі абсалютна правільнай, годнай для ўсіх ступеней рэвалюцыйнага працэса, формы партыйнай арганізацыі, а таксама і метадаў яе работы. Наадварот, форма арганізацыі і метады работы цалкам вызначаюцца асаблівасцямі данай канкрэтнай гістарычнай абстаноўкі і тымі задачамі, якія з гэтай абстаноўкі непасрэдна выцякаюць.
>
> 2. З гэтага пункту гледжання зразумела, што ўсякая арганізацыйная форма і адпаведныя метады работы могуць са змяненнем аб'ектыўных умоў развіцця рэвалюцыі ператварыцца з форм развіцця партыйнай арганізацыі ў аковы гэтага развіцця; і наадварот, арганізацыйная форма, якая зрабілася нягоднай, можа зноў стаць неабходнай і адзіна мэтазгоднай пры адраджэнні адпаведных аб'ектыўных умоў.
>
> 3. Супярэчнасці паміж патрэбнасцямі новага складваючагася становішча, з аднаго боку, і ўстанавіўшайся формай арганізацыі і метадамі яе работы—з другога, намячаюцца ўвогуле раней, чым канчаткова скажацца неабходнасць змянення курса. Гэты апошні павінен мяняцца толькі тады, калі ў агульным, у галоўным і асноўным, выканана задача, высунуўшая папярэдні тып арганізацыі і адпаведны яму метад работы».

Гісторыя нашай партыі ведае шматлікія прыклады змянення форм і метадаў арганізацыйнай дзейнасці. Пакідаючы непахіснымі асноўныя, карэнныя арганізацыйныя прынцыпы, партыя заўсёды ўстанаўлівала такія арганізацыйныя формы, якія садзейнічаюць развіццю зместу яе работы, забяспечваюць выкананне палітычных задач, забяспечваюць адзінства слова і справы. Выходзячы з гэтага, партыя неаднаразова мяняла свой статут, улічваючы змяненні ў абстаноўцы, новыя задачы і вопыт сваёй работы. Не выпадкова, што вялікія змяненні і павароты ў палітычным жыцці краіны і новыя палітычныя задачы нашай партыі суправаджаліся змяненнямі ў статуце партыі. Я напомню, што асноўныя змяненні статута партыі адносяцца да 1922 г.—перыяду развіцця новай эканамічнай палітыкі, да 1925 г., калі на XIV з'ездзе партыі перад партыяй сталі задачы соцыялістычнай індустрыялізацыі, да 1934 г.—перыяда XVII з'езда партыі, калі партыя прыступіла да вырашэння гістарычных задач другой пяцігодкі.

Пытанні партыйнай работы і партыйнага будаўніцтва набылі асобае значэнне за апошнія годы. Грандыёзны размах соцыялістычных пераўтварэнняў, высокія тэмпы партыйнага і дзяржаўнага будаўніцтва, уцягненне ў соцыялістычнае будаўніцтва многамільённых мас совецкага народа павышаюць патрабаванні да партыі і яе кіраўніцтва.

Павышэнне значэння арганізацыйнага пытання азначае павышэнне ролі авангарда рабочага класа, якім з'яўляецца наша партыя.

На XVII з'ездзе партыі арганізацыйныя пытанні, пытанні аб падцягванні оргработы да патрабаванняў палітычнай лініі былі пастаўлены ў дакладзе таварыша Сталіна і ў дакладзе таварыша Кагановіча і ў рэзалюцыях XVII з'езда ва ўсю шыр.

Яшчэ больш павышаецца роля авангарда рабочага класа, роля перадавога атрада працоўных, якім з'яўляецца наша партыя, ва ўмовах перамогі соцыялізма, ва ўмовах, калі СССР уступіў у новую паласу развіцця—у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Прайшоўшыя годы былі гадамі бесперапыннага ўзбраення партыі, адточвання яе арганізацыйнай зброі. Калі Ленін у сваёй выдатнай рабоце «Крок наперад, два крокі назад» развіў арганізацыйныя палажэнні, стаўшыя затым арганізацыйнымі асновамі партыі новага тыпу, партыі большэвікоў, то таварыш Сталін як у галіне тэорыі, ідэалогіі і тактыкі, так і ў пытаннях пастаноўкі ўсёй нашай арганізацыйнай работы на навуковыя рэльсы, развіў далей асновы арганізацыйнага вучэння аб партыі, даныя Леніным, папоўніў арганізацыйнае вучэнне аб партыі новымі палажэннямі, новымі законамі, рушыў арганізацыйную навуку большэвізма ўперад і тым самым

узброіў партыю і рабочы клас на ажыццяўленне сусветна-гістарычных задач пабудовы социялізма ў нашай краіне. **(Апладысменты)**.

Тут я хачу толькі падкрэсліць, якое велізарнае значэнне меў перыяд ад XVII да XVIII з'езда партыі з пункту гледжання ўзбагачэння яе арганізацыйнага вопыту.

Таварыш Сталін даў партыі бліскучыя ўзоры творчага марксізма ў пытаннях арганізацыйнага будаўніцтва партыі. Я маю на ўвазе вучэнне аб суадносінах паміж палітычнай лініяй і арганізацыйнай работай, аб навуковай арганізацыі падбору, выхавання, вылучэння і размеркавання кадраў; аб большэвіцкай арганізацыі праверкі выканання; аб спосабах барацьбы партыі з ворагамі, якія пранікаюць у яе рады, барацьбы партыі за ачышчэнне яе радоў ад перараджэнцаў і двурушнікаў; аб пільнасці, аб аўладанні большэвізмам.

Па ўсіх гэтых пытаннях таварыш Сталін узброіў партыю мудрымі і празорлівымі ўказаннямі, якія прадстаўляюць сабой багацейшы ўклад у скарбніцу большэвіцкай тэорыі арганізацыі і кіраўніцтва для дзеяння.

**Чаму неабходны змяненні ў статуце ВКП(б)?**

XVIII партыйны з'езд сабраўся ва ўмовах, калі ў эканоміцы і класавай структуры СССР адбыліся карэнныя змяненні.

Мне няма неабходнасці падрабязна спыняцца на гэтых пытаннях, паколькі яны з вычарпальнай яснасцю і паўнатой былі асветлены ў дакладах таварыша Сталіна і таварыша Молатава.

Перамога соцыялізма ў СССР забяспечыла панаванне соцыялістычнай эканомікі. Адпаведна з карэннымі змяненнямі ў галіне эканомікі, змяніўся класавы састаў Саюза ССР. За годы соцыялістычнага будаўніцтва былі ліквідаваны ўсе эксплаататарскія элементы—капіталісты, купцы, кулакі, спекулянты. Працоўныя СССР—рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя—глыбока змяніліся за годы соцыялістычнага будаўніцтва.

Класавыя грані паміж працоўнымі СССР сціраюцца, падаюць,—сціраюцца эканамічныя і палітычныя супярэчнасці паміж рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй. Іменна на гэтай аснове вырасла маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства. Гэтае маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства атрымала сваё бліскучае пацвярджэнне ў стварэнні і поўнай перамозе блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР і ў Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік.

Вакол партыі выраслі шматлікія кадры непартыйных большэвікоў з перадавых рабочых, сялян і інтэлігенцыі, актыўных і свядомых барацьбітоў за справу партыі, праваднікоў яе лініі ў масах.

У сувязі з гэтымі карэннымі змяненнямі ў эканоміцы і класавай структуры СССР наспела неабходнасць змяненняў прадугледжаных статутам ВКП(б) умоў прыёму ў партыю новых членаў.

# Аб адмене катэгорый па прыёму ў партыю.

Дзеючы цяпер, згодна статута партыі, парадак прыёму ў партыю новых членаў па чатырох розных катэгорыях, у залежнасці ад сацыяльнага становішча прымаемага ў партыю, яўна не адпавядае класавай структуры савецкага грамадства, якая змянілася ў рэзультаце перамогі сацыялізма ў СССР. Патрэба ва ўстанаўленні розных катэгорый пры прыёме ў партыю і рознага кандыдацкага стажа адпадае.

Розныя катэгорыі пры прыёме ў залежнасці ад сацыяльнага становішча прымаемага ў партыю былі ўстаноўлены, як вядома, на XI-м з'ездзе партыі ў 1922 годзе, у пачатку нэпа, з мэтай затрудніць доступ у нашу партыю непралетарскім элементам. Абстаноўка тады ў корані адрознівалася ад цяперашняй абстаноўкі. Тады пралетарыят быў часткова дэкласіраван. Сялянства было аднаасобным. Эксплаатататарскія класы не былі яшчэ поўнасцю ліквідаваны. Нэп аказваў разлагаючы ўплыў на частку членаў партыі, асабліва на непралетарскія яе элементы. У тых умовах, для таго, каб партыя з поспехам магла ажыццяўляць сваю авангардную ролю, такі бар'ер супроць пранікнення ў партыю няўстойлівых, дробна-буржуазных элементаў як устанаўленне розных катэгорый па прыёму быў неабходзен. Ён адыграў выключную ролю ў справе ўмацавання партыі і выканання ёю сваёй гістарычнай місіі.

Аднак, патрэба ў гэтых абмежаваннях, у рэзультаце перамогі сацыялізма ў нашай краіне, адпала. Яны—гэтыя абмежаванні—перашкаджаюць ужо і тармозяць папаўненне радоў партыі за лік адданых справе рабочага класа перадавых рабочых, сялян, інтэлігентаў.

Партыя не можа ўжо аставацца пры старых рамках, пры старых нормах. Патрэба ў існаванні розных катэгорый па прыёму адпадае.

Да якіх практычных недарэчнасцей і неадпаведнасцей прыводзіць існуючы парадак прыёму ў партыю, могуць ілюстраваць шматлікія прыклады, якія ёсць у любой партыйнай арганізацыі.

Лепшыя стаханаўцы, якія сталі майстрамі або дырэктарамі, гэта значыць, якія вылучыліся ў сілу сваіх талентаў і заслуг на кіруючыя пасты, пры прыёме ў партыю пападаюць у становішча людзей другога сорту.

Рабочы або сын рабочага, які атрымаў асвету, пападае ў чацвертую катэгорыю пры прыёме ў партыю.

Вось, напрыклад, адзін з лепшых стаханаўцаў Ленінграда тав. Сметанін, цяпер нам. наркома лёгкай прамысловасці СССР, былы рабочы-зацяжчык на фабрыцы «Скороход». Як лепшы стаханавец ён быў вылучан начальнікам цэха. Прымалі яго ў кандыдаты партыі, як начальніка цэха, па другой катэгорыі. Затым, у сілу сваіх заслуг і здольнасцей, ён быў вылучан дырэктарам фабрыкі, і калі ў лютым месяцы 1939 года ўстала пытанне аб пераводзе яго з кандыдатаў у

члены партыі, яму прышлося ўступаць у партыю па чацвертай ужо катэгорыі.

Чалавек ідзе ўперад, расце, а ўмовы яго прыёму ў партыю ўскладняюцца і затрудняюцца. Для такіх таварышаў, як Сметанін, і для ўсіх, якія пападаюць у такое становішча, незразумела, чаму ўмовы іх прыёму ў партыю павінны пагоршыцца пры вылучэнні. Тав. Сметанін пратэставаў і зусім справядліва: «Чым я горшы стаў,—пытаў ён,—калі з рабочых вылучыўся ў начальнікі цэха? Чым я горшы стаў, калі зрабілі мяне дырэктарам фабрыкі? Чаму я павінен шукаць большую колькасць «рэкамендацеляў», з большым партыйным стажам, чым раней, калі я быў радавым рабочым?»

Або вось узяць тав. Карташова, які тут выступаў з прывітаннем з'езду ад Ленінграда. Як-быццам не дрэнны работнік і не дрэнна выступаў. Ён вылучыўся ў якасці беспартыйнага агітатара на выбарах у Вярхоўны Совет Саюза ССР. Па прафесіі тав. Карташоў—слесар, быў стаханаўцам, а зараз вылучан па лініі арганізацыі ІТР. Калі ўстала пытанне аб прыняцці яго ў партыю, ён быў прынят па другой ужо катэгорыі. Які ў гэтым сэнс? Выходзіць, што ад Карташовых трэба «агараджаць» партыю.

Яшчэ прыклад, прыведзены на канферэнцыі Сталінскага раёна, Сталінградскай вобласці, калі перадавік-рабочы тав. Мусін, будучы вылучан на кіруючую работу—пайшоў назад на работу ў цэх, каб быць прынятым па першай катэгорыі.

Такіх прыкладаў можна прывесці тысячы. Яны параджаюць законнае пачуццё недаўмення і крыўды ў таварышоў, адзіная «віна» якіх заключаецца ў тым, што яны пайшлі ўверх. Усё гэта сведчыць аб тым, што існуючыя нормы па прыёму ўстарэлі і сталі адыгрываць ролю тормаза пры прыёме ў партыю сапраўды перадавых рабочых, сялян, інтэлігентаў.

Вы ведаеце, да чаго прывяла практыка прыёму па розных катэгорыях, калі ламалі галаву над тым, каб вызначыць, да якой катэгорыі аднесці манцёра, майстра і т. д. Стваралі цэлыя «тарыфныя даведачнікі» па пытанню аб аднясенні розных прафесій да той ці іншай катэгорыі. Але як тут ні мудры, які «даведачнік» ні выдумвай, адно ясна, што нормы ўстарэлі, што яны перасталі служыць той справе, у імя якой былі ўстаноўлены. Гэтыя статутныя нормы сталі зжытай формай, выражаючыся на мове металургаў—выбітай апокай. **(Смех).**

За ўстарэўшыя нормы чапляюцца адсталыя элементы, якія не хочуць, каб вылучаліся новыя, маладыя сілы.

Устарэўшыя нормы даюць повад для культывіравання адсталых, па сутнасці справы антымарксісцкіх, антыленінскіх тэндэнцый у адносінах да новай совецкай інтэлігенцыі, у адносінах да перадавых людзей рабочага класа і сялянства, для культывіравання пагардлі-

васці ў адносінах перадавых людзей, якія ў сілу сваёй асветы або заслуг вылучыліся на перадавыя пасты.

Усё гэта гаворыць аб тым, што калісьці неабходная форма зжыла сябе, стала формай без зместу і дастоінства, ператварылася ў сваю ўласную процілегласць, у недахоп. Арганізацыйная форма павінна адпавядаць зместу, а змест будзе ісці ў нас па лініі зблі-жэння класаў і ліквідацыі класавых адрозненняў.

Таму тэзісамі, унесенымі на абмеркаванне з'езда, прапануецца змяніць існуючы парадак прыёму ў партыю па розных катэгорыях і ўстанавіць адзіныя ўмовы прыёму і аднолькавы кандыдацкі стаж, незалежна ад прыналежнасці да рабочага класа, сялянства або інтэлігенцыі.

Прапануемыя тэзісамі змяненні ўмоў прыёму ў партыю—прамы рэзультат перамогі соцыялізма.

Тэзісамі прадугледжваецца ўстанаўленне для ўступаючых у партыю гадовага кандыдацкага стажа. Такі стаж зусім дастатковы для таго, каб за гэты тэрмін кандыдат мог атрымаць грунтоўнае азнаямленне са статутам, праграмай і тактыкай партыі і каб партыйная арганізацыя магла праверыць асабістыя якасці кандыдата.

Нельга забываць, што зараз у нашу партыю ідуць людзі перадавыя, правераныя на розных участках барацьбы за соцыялізм.

Як вы ведаеце, прыём у партыю быў у свой час спынен. Адноўлен ён быў толькі 1 лістапада 1936 года. Актыў, які вырас вакол партыі за час, калі не было прыёму ў партыю, якраз і прадстаўляе сабою асноўную крыніцу, з якой ідзе зараз прыток новых членаў партыі.

Існуючая цяпер практыка праходжання кандыдацкага стажа мае вельмі буйныя недахопы. Найбольш буйным недахопам з'яўляецца зусім нездавальняючая ва многіх партарганізацыях работа з кандыдатамі, якая прыводзіць да стварэння так званых «вечных» кандыдатаў, якія знаходзяцца ў кандыдатах па 6—7—8 і больш год. **(Ажыўленне ў зале, смех).** Замест таго, каб кадр кандыдатаў быў жывым рэзервам, з якога партыя штодзённа чэрпае свежыя папаўненні, ён ператварыўся ў радзе арганізацый у свайго роду «недатыкальны фонд».

За апошні час, перад з'ездам, партыйныя арганізацыі некалькі палепшылі работу па пераводу з кандыдатаў у члены партыі. Але ўсё-ж яшчэ і зараз нямалая колькасць кандыдатаў налічваюць свой кандыдацкі стаж многімі гадамі. А калі прыняць пад увагу, што і ў групах спачуваючых людзі сядзяць без руху гадамі, чакаючы прыёму ў кандыдаты, то ўстае пытанне, калі-ж яны будуць прыняты ў партыю? Годы чатыры ў спачуваючых, год 7—8 у кандыдатах,— калі-ж яны могуць стаць членамі партыі? **(Агульнае ажыўленне ў зале).** Няма патрэбы даказваць, што такая шкодная практыка зыхо-

дзіць з асуджаных партыяй фармальна-бюракратычных адносін да работнікаў, да членаў партыі.

Устанаўленне кандыдацкага стажа тэрмінам у адзін год мае мэтай ліквідаваць гэтую шкодную практыку і прымусіць партыйныя арганізацыі падцягнуцца, падняць выхаваўчую і арганізацыйную работу сярод кандыдатаў, зрабіць праходжанне кандыдацкага стажа не фармальнай справай.

Згодна тэзісам, усе ўступаючыя ў партыю абавязаны прадставіць рэкамендацыі трох членаў партыі з трохгадовым партыйным стажам, якія ведаюць іх па сумеснай рабоце не менш аднаго года.

Гэтая прапанова выходзіць з указання таварыша Леніна, дадзенага ім у запісцы таварышу Молатаву ад 15 верасня 1921 года, калі таварыш Ленін прапанаваў:

> «Рэкамендацыі дазваляецца даваць толькі тым, хто не менш года асабіста наглядаў работу рэкамендуемага, працуючы з ім разам у той ці іншай партарганізацыі».

Такая прапанова ўзмацняе адказнасць рэкамендуючых за рэкамендуемага.

Што датычыць колькасці рэкамендуючых і іх партыйнага стажа, то прапанаваная ў тэзісах фармуліроўка выходзіць з таго, каб прадаставіць магчымасць дачы рэкамендацый членам партыі, уступіўшым у партыю за апошнія годы. Гэтая прапанова з'яўляецца, несумненна, своечасовай і мэтазгоднай.

Партыя папоўнілася актыўнымі перадавымі людзьмі, якія прайшлі вялікую школу палітычнага выхавання. Пазбавіць гэтых новых членаў партыі права дачы рэкамендацый было-б няправільным.

Таварышы, існуючая сістэма дачы рэкамендацый па розных катэгорыях стварала, як вядома, лішнія труднасці і празмерныя рагаткі.

Вам вядома, што знайсці рэкамендацыі—справа не лёгкая, асабліва для таварышаў, якія ўступаюць у партыю па чацвертай катэгорыі. Іншы раз чалавек вымушан з сіл выбіцца, каб знайсці дастатковую колькасць рэкамендацый. **(Ажыўленне ў зале).**

Прапануемы тэзісамі новы парадак дачы рэкамендацый дасць магчымасць зняць гэтыя сцяснялыныя і непатрэбныя рагаткі.

Новыя ўмовы прыёму ў партыю прадугледжваюць, што райкомы і гаркомы ў гарадах, дзе няма раённага дзялення, з'яўляюцца апошняй інстанцыяй, якая зацвярджае рашэнне пярвічнай партарганізацыі аб прыёме ў партыю. Гэта накладвае на нашы райкомы і гаркомы асаблівую адказнасць за прыём, за адбор у партыю сапраўды лепшых людзей з рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі.

Новы парадак аблягчае адбор лепшых людзей у партыю, аблягчае стварэнне поўнакроўных партыйных арганізацый, у прыватнасці ў вёсцы, дзе сетка партыйных арганізацый асабліва недастаткова.

ў значнай частцы калгасаў мы не маем пярвічных партыйных арганізацый. Стварэнне моцных партыйных арганізацый у вёсцы будзе мець вялікае значэнне для ўмацавання партыйнай работы ў калгасах і соўгасах.

## Аб правах членаў партыі.

Наступная прапанова ў адносінах змяненняў статута заключаецца ў дапаўненні статутнага палажэння аб членах партыі і іх абавязках палажэннем аб тых правах членаў партыі, якія лічацца само сабой зразумелымі, але не адзначаны ў статуце.

Тэзісы прадугледжваюць, што ў статуце павінны быць агавораны наступныя правы членаў партыі:

а) права членаў партыі крытыкаваць на партыйных сходах любога работніка партыі;

б) права членаў партыі выбіраць і быць выбранымі ў партыйныя органы;

в) права членаў партыі патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі выносіцца рашэнне аб іх дзейнасці або паводзінах;

г) права членаў партыі звяртацца з любым пытаннем і заявай у любую партыйную інстанцыю аж да ЦК ВКП(б).

Унясенне ў статут гэтых дапаўненняў аб правах членаў партыі будзе адыгрываць велізарнае значэнне для далейшага ўздыму актыўнасці членаў партыі, для павышэння адказнасці членаў партыі за справу партыі, для агараджэння членаў партыі ад праяўленняў бюракратызма.

Вопыт паказвае, што ў практыцы правы членаў партыі часта парушаліся. Нярэдкі выпадкі праследвання і ганення за крытыку і самакрытыку з боку бюракратычных і варожых элементаў. Нярэдкі выпадкі, калі рашэнне, якое датычыць дзейнасці або паводзін таго ці іншага члена партыі, выносіцца ў яго адсутнасці.

Вядома нямала фактаў, калі варожыя і бюракратычныя элементы забаранялі членам партыі звяртацца з той ці іншай заявай у партыйныя інстанцыі. Варожыя элементы шырока культывіравалі практыку проціпастаўлення службовай дысцыпліны, як вышэйшай, дысцыпліне партыйнай, разлагаючы тым самым чэсных работнікаў.

Тэзісы зыходзяць з таго, што няма больш высокай дысцыпліны, чым дысцыпліна партыйная.

Мелі месца таксама факты ўшчамлення правоў членаў партыі ў адносінах магчымасці выбіраць і быць выбранымі.

Усім вам памятна раз'ясненне ЦК перад выбарамі партыйных органаў у мінулым годзе, выправіўшае няправільную практыку, калі пераведзеныя ўжо ў члены партыі з кандыдатаў, але не атрымаўшыя яшчэ партыйных білетаў, таварышы не дапускаліся да ўдзелу ў выбарах парторганаў.

Для таго, каб праілюстраваць фактамі нарушэнні правоў членаў партыі, маючыя месца ў практыцы, спынюся на некалькіх прыкладах.

Тав. Седзенкоў—член ВКП(б) з 1924 года, рабочы завода «Барыкады» ў Сталінградзе, з 28-гадовым вытворчым стажам. Ён неаднаразова ўказваў на недахопы работы ў цэху, але кіраўніцтва цэха і грамадскія арганізацыі не прыслухоўваліся да яго голасу. Тады тав. Седзенкоў рашыў напісаць заяву ў ЦК, у якой апісаў некаторыя недахопы ў рабоце цэха. Гэтую заяву ён перадаў сакратару цэхавай партарганізацыі для накіравання ў ЦК ВКП(б). Замест таго, каб выканаць патрабаванне члена партыі і накіраваць пісьмо па назначэнню, бюро цэхавай ячэйкі стала абмяркоўваць «праступак» тав. Седзенкова і прымусіла яго прызнаць памылкай напісанне заявы ў ЦК і даць абяцанне, што ён падобных «памылак» у далейшым не дапусціць. Пісьмо так і не было накіравана ў ЦК. Пры праверцы партдакументаў аб гэтым пісьме тав. Седзенкова ўспомнілі, і заводская партарганізацыя выключыла тав. Седзенкова з партыі за «няўстойлівасць». **(Ажыўленне ў зале).**

9 студзеня 1936 года Сталінградскі абком пацвердзіў выключэнне тав. Седзенкова з партыі. Мясцовыя партыйныя арганізацыі настолькі запалохалі тав. Седзенкова, што ён, апеліруючы ў 1937 годзе ў КПК, у сваёй апеляцыі зноў раскайваўся ў дапушчаных ім «памылках»,—вось да чаго «пераканалі» чалавека. Парткалегія КПК аднавіла тав. Седзенкова ў партыі.

Падобны-ж факт меў месца і з тав. Толсцікавым—дырэктарам Ікорэцкай МТС, Лiскінскага раёна, Варонежскай вобласці. Тав. Толсцікаў на імя таварышоў Сталіна і Молатава прыслаў пісьмо аб тым, што яго несправядліва травяць сакратары райкома, якія самі дапускаюць скажэнні ў хлебапастаўках.

Пры выясненні на месцы работнікам КПК, заява тав. Толсцікава поўнасцю пацвердзілася і сакратары райкома былі выкрыты як ворагі народа. Аднак, і пасля іх арышту ў раёне прадаўжалі травіць тав. Толсцікава, дабіліся выключэння яго з партыі і нават арышту.

Шматлікія яго скаргі ў Варонежскі абком партыі аставаліся неразгледжанымі абкомам на працягу трох месяцаў, не гледзячы на неаднаразовыя напамінанні з сакратарыята ЦК ВКП(б). Толькі паўторным умяшаннем КПК у жніўні 1938 года тав. Толсцікаў быў поўнасцю рэабілітован, а на віноўных у траўлі і праізволе накладзены спагнанні.

Вельмі часта нарушаецца права членаў партыі патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі разбіраецца пытанне аб іх дзейнасці або паводзінах. Завочнае выключэнне, на жаль, не рэдкасць ва многіх партыйных арганізацыях.

Упамінанне ў статуце аб правах членаў партыі мае таксама выключнае значэнне з пункту гледжання ажыццяўлення аднаго з важ-

нейшых палажэнняў ленінізма: не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас.

Таварыш Сталін на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК у 1937 годзе ўказваў, што

> «аднаго толькі нашага вопыту, вопыту кіраўнікоў, далёка яшчэ недастаткова. Для таго, каб правільна кіраваць, неабходна вопыт кіраўнікоў дапоўніць вопытам партыйнай масы, вопытам рабочага класа, вопытам працоўных, вопытам так званых «маленькіх людзей».

Гэта значыць—ні на мінуту не аслабляць, а тым больш не разрываць нашых сувязей з масамі.

Адсюль выцякае неабходнасць спецыяльнага пункта статута, які-б прадугледжваў права членаў партыі звяртацца з любым пытаннем і заявай у любую партыйную інстанцыю, аж да ЦК ВКП(б). Вялікай важнасці дзяржаўныя і партыйныя пытанні, факты, маючыя выключнае значэнне для ўскрыцця непарадкаў у той ці іншай партыйнай або совецкай арганізацыі, часта ўсплываюць на свет іменна ў сувязі з заявамі «маленькіх» людзей.

Ленін і Сталін неаднаразова ўказваюць на тое, што бюракрат з партыйным білетам—гэта самы небяспечны і горшы від бюракрата, таму што, маючы партыйны білет, ён ваабражае, што можа не лічыцца з партыйнымі і совецкімі законамі, з патрэбамі і інтарэсамі працоўных.

Статутнае замацаванне правоў членаў партыі дае ў рукі партыі мацнейшую зброю для барацьбы з зазнайствам, з бюракратычным самамненнем і чванствам, для палепшання сувязей кіраўнікоў з кіруемымі, а, значыцца, для палепшання ўсёй партыйнай і дзяржаўнай работы.

## Аб адмене масавых чыстак.

Тэзісамі прадугледжваецца, далей, адмена масавых чыстак партыі. Вопыт паказаў, што ад іх зараз можна і трэба адмовіцца па наступных матывах:

Метад масавых чыстак, уведзены ў пачатку нэпа, у перыяд ажыўлення капіталістычных элементаў, каб аградзіць партыю ад пранікнення ў яе рады людзей, якія разлагаліся ў сувязі з нэпам, страціў глебу для цяперашняй абстаноўкі, калі капіталістычныя элементы ліквідаваны.

Неабходна падкрэсліць тут, што масавыя чысткі адыгралі велізарную ролю для ўмацавання партыі. Калі наша партыя прадстаўляе зараз значна больш арганізаваную сілу, чым калі-небудзь, калі партыя ўмацавала сваю магутнасць, ачысціўшы свае рады ад усякай мразі, то ў гэтай справе масавыя чысткі мелі вялікае значэнне.

Аднак, метад масавых чыстак ва ўмовах, калі капіталістычныя элементы ліквідаваны, калі ў партыйнай гаспадарцы наведзен бальшэвіцкі парадак, калі партыя пазбавілася ўжо ад ненадзейных і сумніцельных элементаў, яўна не адпавядае змяніўшымся ўмовам, не дасягае мэты.

Партыя можа ў звычайным парадку ачышчаць свае рады ад людзей, якія нарушаюць праграму і статут партыі.

Адмоўныя стораны масавых чыстак заключаюцца ў тым, што кампанейскі характар масавых чыстак цягне за сабой многа памылак, у першую чаргу па лініі нарушэння ленінскага прынцыпа аб індывідуальным падыходзе да людзей.

Метад масавых чыстак, уводзячы пэўны стандарт, падганяючы людзей пад пэўную мерку, спрыяе фармальнаму падыходу, не дае магчымасці ў поўнай меры ажыццяўляць партыйную ўстаноўку аб уважлівых адносінах да членаў партыі, да работнікаў, і на практыцы часта вядзе да ўшчамлення правоў членаў партыі.

У сувязі з гэтым пры масавых чыстках мелі месца шматлікія неабгрунтаваныя выключэнні з партыі, а варожыя элементы, якія прабраліся ў партыю, скарыстоўвалі чысткі для траўлі і збівання чэсных работнікаў.

Стала быць, ва ўмовах, калі партыя правяла ўжо вялікую ачышчальную работу, метад масавых чыстак не выклікаецца неабходнасцю. Аб гэтым гаворыць той факт, што найбольш сур'ёзная работа па ачышчэнню партыі ад ворагаў народа, здраднікаў, прэдацеляў і агентаў фашызма разгарнулася пасля масавых чыстак. Гэта не выпадкова. Новыя метады падрыўной дзейнасці варожых элементаў, прабраўшыхся ў партыю, заключаліся ў двурушніцтве, у прыкрыцці сваёй падрыўной дзейнасці знешняй згодай з лініяй партыі, знешняй гатоўнасцю змагацца за яе рашэнні. Вядома, што стварэннем шуміхі, паказной актыўнасці, падхалімства, стварэннем атмасферы ліслівасці, урачыстых прамоў, прывітанняў і т. д., варожыя элементы шырока карысталіся для таго, каб абмануць і ўсыпіць пільнасць некаторых нашых кіраўнікоў.

Значыцца, у адносінах да варожых элементаў, прабраўшыхся ў партыю, маскіруючых свой варожы твар сродкамі двурушніцтва і абману партыі, метад масавых чыстак аказаўся мала дзейсным і не дасягаючым мэты.

Метад масавых чыстак аказаўся звернутым сваім астрыём, галоўным чынам, супроць так званых пасіўных членаў партыі і прывводзіў да выключэння з партыі чэсных і добрасумленных членаў партыі па матывах іх, нібы, пасіўнасці.

У часе чысткі 1933 года так званыя пасіўныя складалі найбольшую групу сярод выключаных з радоў партыі. Найбольшая колькасць памылак была дапушчана партыйнымі арганізацыямі іменна ў адносінах так званых пасіўных. У пасіўныя часта аказваліся заліча-

нымі чэсныя, адданыя работнікі, перадавыя рабочыя- вытворчасці. У рады пасіўных залічалі таварышоў, не меўшых той ці іншай, часта пустапарожняй нагрузкі, звязаных вялікай сям'ёй, не наведаўшых некалькі раз гурток, не адказаўшых на якое-небудзь галаваломнае або галавацяпскае пытанне пры палітэкзаменах.

Няма патрэбы прыводзіць прыклады неабгрунтаваных выключэнняў за пасіўнасць. У любой арганізацыі іх знойдзецца нямала.

Такім чынам, у сувязі з умацаваннем партыі патрэбнасць у масавых чыстках адпадае.

Партыя на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК 1937 г. і студзеньскім пленуме ЦК 1938 г. асудзіла практыку фармальных і бяздушна-бюракратычных адносін да пытання аб лёсе членаў партыі, аб выключэнні з партыі і аб аднаўленні выключаных з партыі. Гэтая практыка, як вядома, была шырока скарыстана пранікшымі ў партыю кар'ерысцкімі элементамі, якія імкнуліся адзначыцца і высунуцца на выключэннях з партыі, а таксама замаскіраванымі ворагамі ўнутры партыі, якія імкнуліся шляхам шырокага прымянення мер рэпрэсій перабіць чэсных членаў партыі і пасеяць залішнюю падазронасць у партыйных радах. Вораг, змяніўшы тактыку, учапіўся за пільнасць і спекуліраваў на гэтым, імкнучыся пад прыкрыццём фальшывых прамоў аб пільнасці перабіць як можна больш чэсных камуністаў, маючы на ўвазе пасеяць узаемнае недавер'е і дэзарганізаваць нашы рады.

Паклёп на чэсных работнікаў пад сцягам «пільнасці» з'яўляецца ў цяперашні час найбольш пашыраным спосабам прыкрыцця, маскіроўкі варожай дзейнасці. Нявыкрытыя асіныя гнёзды ворагаў шукайце перш за ўсё сярод паклёпнікаў.

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) 1938 года прыняў рад мер, якія забяспечваюць ліквідацыю практыкі агульных выключэнняў з партыі і ўстанаўленне на справе дыферэнцыраванага падыходу пры вырашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі або аб аднаўленнях выключаных.

ЦК зыходзіў з вядомага ўказання таварыша Сталіна на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК 1937 г.:

> «...некаторыя нашы партыйныя кіраўнікі хварэюць адсутнасцю ўвагі да людзей, да членаў партыі, да работнікаў. Больш таго, яны не вывучаюць членаў партыі, не ведаюць чым яны жывуць і як яны растуць, не ведаюць наогул работнікаў. Таму ў іх няма індывідуальнага падыходу да членаў партыі, да работнікаў партыі. І іменна таму, што ў іх няма індывідуальнага падыходу пры ацэнцы членаў партыі і партыйных работнікаў, яны звычайна дзейнічаюць наабум: альбо хваляць іх агулам, без меры, альбо збіваюць іх таксама агулам і без меры, выключаюць з партыі тысячамі і дзесяткамі тысяч. Такія кіраў-

нікі наогул стараюцца мысліць дзесяткамі тысяч, не клапоцячыся аб «адзінках», аб асобных членах партыі, аб іх лёсе. Выключыць з партыі тысячы і дзесяткі тысяч людзей яны лічаць пусцяковай справай, уцяшаючы сябе тым, што партыя ў нас двухмільённая і дзесяткі тысяч выключаных не могуць штонебудзь змяніць у становішчы партыі. Але так могуць падыходзіць да членаў партыі толькі людзі, па сутнасці справы, глыбока антыпартыйныя.

У рэзультаце такіх бяздушных адносін да людзей, да членаў партыі і партыйных работнікаў штучна ствараецца незадаволенне і азлабленне ў адной частцы партыі, а трацкісцкія двурушнікі лоўка падчапляюць такіх азлобленых таварышоў і ўмела цягнуць іх за сабой у балота трацкісцкага шкодніцтва».

Таварышы, вы відавочна звярнулі ўвагу на тое, што ў часе дыскусіі па тэзісах аб змяненнях у статуце ВКП(б) пытанне аб мерах барацьбы супроць ганьбавання чэсных членаў партыі займала не апошняе месца. У ЦК і ў рэдакцыю «Праўды» паступіла таксама вялікая колькасць пісем на гэтую тэму.

Прывяду некалькі прыкладаў варожай дзейнасці пад флагам «пільнасці».

Сакратаром Ісінскага райкома ВКП(б) Тамбоўскай вобласці быў нейкі Калякайкін. На працягу кароткага тэрміну з агульнага ліку партарганізацыі у 175 чалавек ён выключыў з партыі 58 чалавек. Калякайкін рабіў такім чынам: як толькі ён выключаў каго-небудзь з партыі, то зараз-жа ставіў пытанне аб прыцягненні да партыйнай адказнасці ўсіх комуністаў, якія мелі якія-небудзь адносіны да выключанага. Ён дзейнічаў па своеасабліваму «канвееру». Напрыклад, па настаянню Калякайкіна быў выключан з партыі Назараў, які затым па трэбаванню райкома быў арыштован. Прабыў ён пад арыштам каля 7 месяцаў і за недаказанасцю прад'яўленых яму абвінавачанняў быў вызвален следчымі органамі. Але за час знаходжання Назарава пад арыштам, за сувязь з ім былі выключаны з партыі яго жонка і 7 комуністаў, а таксама былі выключаны з комсамола 28 комсамольцаў, а 10 беспартыйных настаўнікаў былі зняты з работы. Калякайкін быў, урэшце, як належыць, выкрыт, як вораг народа, выключан з партыі і арыштован.

У Архангельскай партыйнай арганізацыі быў, напрыклад, выкрыт такі злосны паклёпнік, як Прылучны, які напісаў 142 заявы на комуністаў і ні адна з іх не пацвердзілася.

У Ленінградзе на працягу доўгага часу арудавала антыпартыйная група Напольскай, якая старанна «арганізоўвала» кампраметуючыя матэрыялы на чэсных комуністаў, пісала на іх заявы ў НКВД і дабівалася збівання чэсных людзей. Гэтай групай былі ўзведзены паклёпы на некалькі дзесяткаў чэсных людзей.

Гладкіх, былы сакратар Роўдзінскага РК ВКП(б), Архангельскай вобласці, даваў заданні кожнаму комуністу **знайсці ворага** народа і папярэджваў загадзя, што «перагібаў ад гэтага ніякіх не будзе».

У Ключавым раёне Акцюбінскай вобласці ворагам народа Пяскоўскай было арганізавана выключэнне з партыі 156 комуністаў, што складала 64 проц. усёй арганізацыі. У калгасе «Прогресс» гэтага раёна была выключана з партыі ўся партыйная арганізацыя ў саставе 13 чалавек.

Галоўныя свае намаганні ворагі накіроўвалі на тое, каб перабіць чэсныя большэвіцкія кадры. Вораг народа Кудраўцэў, які да свайго выкрыцця знаходзіўся на кіруючай рабоце ў адной з украінскіх партыйных арганізацый, у сваіх паказаннях гаварыў наступнае:

> «Мы імкнуліся выключаць магчыма большую колькасць людзей з партыі. Выключалі і тых, каго не было за што выключаць. Разлік быў адзін—павялічыць колькасць азлобленых людзей і тым самым павялічыць колькасць нашых саюзнікаў».

Разгром партыйнага апарата таксама ўваходзіў у план падрыўной дзейнасці ворагаў народа. Вось што паказаў другі вораг народа, які прабраўся абманным шляхам у адзін з абкомаў партыі на Украіне:

> «На працягу 5—6 дзён я разагнаў апарат абкома, зняў амаль усіх загадчыкаў аддзелаў абкома, разагнаў 12—15 інструктараў і замяніў нават тэхнічны апарат абкома.
>
> Усё гэта рабіў пад флагам барацьбы з ворагамі і расчысткі абкома КП(б)У ад страціўшых пільнасць людзей. Пасля «расчысткі» апарата абкома пад тым-жа флагам я прыступіў да разгону гаркомаў і райкомаў. За кароткі час зняў з работы 15 сакратароў і цэлы рад работнікаў, на якіх ніякіх кампраметуючых матэрыялаў я не меў. Я ствараў відзімасць барацьбы з ворагамі, азлабляючы супроць партыі рад комуністаў, зусім незаслужана знятых мною з работы. Апрача таго, я зняў з работы і рад удзельнікаў нашай контррэволюцыйнай арганізацыі, перавёўшы іх на меншую работу і выратоўваючы іх ад правалу».

У некаторых арганізацыях паклёпнікі настолькі распаясаліся, што кладуць ногі на стол.

Вось, напрыклад, у адным з раёнаў Кіеўскай вобласці быў выкрыт паклёпнік Ханеўскі. Ні адна са шматлікіх заяў, паданых Ханеўскім на комуністаў, не пацвердзілася. Аднак, гэты паклёпнік не страціў прысутнасці духу і ў адной са сваіх выкрывальных заяў у абком КП(б)У звярнуўся з такой просьбай: «Я выбіўся з сіл у барацьбе з ворагамі, а таму прашу пуцёўку на курорт». **(Громкі смех).**

Характэрным з'яўляецца выступленне на сходзе Іркуцкага актыва сакратара парткома аблза Нефедава. Членаў партыі ён разбівае на

тры групы: «Першая фігура,—заяўляе ён,—калі сільна актыўнічае, значыць яго правяраць трэба, напэўна дарожка вядзе да ворага. Другая фігура, калі ёсць у яго «багаж», цяжкая гіра, то ясна, ён будзе адставаць, гіра яму перашкаджае, улічыць таксама трэба, праверыць, і дарога, відаць, таксама павядзе да ворага. І трэцяя фігура, калі знойдзем чалавека, які працуе не за сумленне, а за страх, то напэўна не прагадаеш—вораг». **(Громкі смех).**

Як бачыце, цэлая «тэорыя».

«Дзейнасць» некаторых паклёпнікаў набыла настолькі шырокі размах, што яны пачалі ўводзіць у яе нейкую «рацыяналізацыю».

Вось, напрыклад, Алексееў—член партыі з 1925 года, загадчык Ірбейскага раённага партыйнага кабінета (Краснаярскі край). Працаваў ён дрэнна, увесь свой час аддаючы пісанню паклёпніцкіх заяў на чэсных комуністаў і беспартыйных настаўнікаў. Тут «спраў» было ў яго многа і ён завёў сабе спісак са спецыяльнымі графамі: «вялікі вораг», «маленькі вораг», «варажок», «варажонак». **(Агульны смех).** Няма чаго і гаварыць, што ён стварaў у раёне зусім немагчымую абстаноўку. Урэшце, ён быў выключан з партыі як паклёпнік.

У сувязі з Алексеевым я думаў, каго нагадвае такі тып, і мне ўспомніўся Сабакевіч з аповесці Гогаля «Мёртвыя душы». Сабакевіч, як вядома, усіх лічыў машэннікамі і разбойнікамі. Калі Чычыкаў прызнаўся Сабакевічу, што яму больш за ўсіх у губернскім горадзе падабаецца паліцмейстэр за прамату і простасардэчнасць, Сабакевіч хладнакроўна адказаў:

> «Машэннік! Прадасць, ашукае, яшчэ і паабедае з вамі! Я іх ведаю ўсіх: гэта ўсё машэннікі, увесь горад там такі: машэннік на машэнніку сядзіць і машэннікам паганяе. Усе хрыстапрадаўцы. Адзін там толькі і ёсць парадачны чалавек: пракурор; ды і той, калі сказаць праўду, свіння». **(Хохат у зале).**

Відавочна, прапраўнукі Сабакевіча дажылі і да нашых часоў, сям-там нават прабраліся ў партыю. Трэба ўзяць мятлу памацней і вымесці з нашага партыйнага дома падобнае смецце. **(Дружныя апладысменты).**

Імкненне адмахнуцца ад жывога чалавека, нежаданне разабрацца ў прад'яўленых яму абвінавачаннях па сутнасці, прадаўжае яшчэ аставацца хваробай вельмі многіх партыйных кіраўнікоў. Страхоўшчыкаў і перастрахоўшчыкаў у нас у партыйных арганізацыях яшчэ нямала.

Асабліва вялікія размеры набыло ў свой час, ды і зараз яшчэ мае месца, выключэнне з партыі па матывах «сувязі» з ворагамі.

На гэтай падставе была агульна выключана з партыі немалая колькасць чэсных работнікаў, уся віна якіх заключалася ў тым, што ім прыходзілася па ўмовах работы сустракацца і бачыцца з ворагамі народа,—«праходзіць па адной вуліцы».

Гэтая ходкая формула—«сувязь з ворагамі народа» шырока скарыстоўвалася антыпартыйнымі элементамі для збівання чэсных камуністаў. Яна, гэтая формула, ужывалася ў такім шырокім і расплыўчатым тлумачэнні, калі пад яе падводзіліся самыя рознастайныя рэчы—і звычайнае знаёмства, і сумесная па абавязку работа з ворагамі, і сапраўдная сувязь з ворагамі, і ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце—без якіх-бы то ні было градацый, усё танула за агульнай формулай.

На гэтай падставе была дапушчана, ды і зараз яшчэ дапускаецца, вялікая колькасць памылак.

Пры такім агульным асуджэнні людзей па фармальных повадах, сапраўдныя мацёрыя ворагі народа, першастацейныя жулікі ўскальзалі ад кары правасуддзя.

Паклёпнікі арудуюць там, дзе ім дапамагаюць самастрахоўшчыкі.

Вось адзін з прыкладаў такой самастрахоўкі. На адной з шахт трэста «Свердлоўвугаль» заг. шахты і галоўны інжынер напісалі такога сорту характарыстыку начальніку ўчастка:

> «Працаваць умее. П'янствуе сістэматычна. Здолен п'янстваваць з падначаленымі. Апошні час праграму выконвае. Арганізацыйныя здольнасці мае. Работы ўчастка забяспечыць. Не любіць размаху работ. Вялікі кансерватар і апартуніст у пытанні здабычы. Імкнецца атрымаць меншае заданне, лягчэй працаваць і больш зарабіць». **(Смех).**

Некаторыя члены партыі, для таго, каб перастрахавацца, прыбягалі к дапамозе лячэбных устаноў. Вось даведка, выданая аднаму грамадзяніну:

> «Тав. (імя рэк) па стану свайго здароўя і сазнання не можа быць скарыстан ніякім класавым ворагам для сваіх мэт.
> Райпсіх Окц. р-на г. Кіева (подпіс)». **(Громкі смех).**

Даволі шырока ў нас укаранілася тэорыя своеасаблівага «біялагічнага» падыходу да людзей, да членаў партыі, калі аб комуністу судзяць не па яго справах, а па справах яго сваякоў, блізкіх і далёкіх, калі недастатковая ідэалагічная вытрыманасць і социяльная накіраванасць якой-небудзь прабабкі можа сапсаваць кар'еру патомкаў на цэлы рад пакаленняў. **(Смех).**

Падобны падыход нічога агульнага з марксізмам не мае. Мы павінны зыходзіць з таго палажэння, якое неаднаразова развівалася і падкрэслівалася таварышам Сталіным, што сын за бацьку не адказчык, што трэба судзіць аб члене партыі па **яго** справах. У нас-жа на практыцы, на жаль, пашыранай з'явай з'яўляецца вызначэнне дзелавога і палітычнага твару работніка не па яго ўласнай рабоце, а па фізіяноміі яго сваякоў і продкаў—блізкіх і далёкіх.

Нельга сказаць, каб прадстаўнікі гэтай «тэорыі» выступалі адкрыта. А ў той-жа час яны паціхеньку сваю работу вядуць ды вядуць і судзяць аб чалавеку не па яго рабоце, а па яго радаслоўнай.

З гэтым «біялагічным» падыходам трэба канчаць. **(Шумныя апладысменты).**

Не мала развялося ў нас людзей, я іх назваў-бы псеўдамаралістамі, якія бачаць у членаў партыі толькі адмоўныя стораны, не жадаюць бачыць і ацаніць увесь жыццёвы шлях работніка, ведаць яго дастоінствы і недахопы. Гэтыя людзі расцэньваюць чалавека як аднойчы склаўшуюся, нерухомую мёртвую схему.

Гэтыя людзі з'яўляюцца вынаходцамі «эталонаў» і схем, якія затым прыкладаюцца да асобных работнікаў, каб судзіць—добры ён ці дрэнны, укладваецца ў схему ці не. **(Смех).**

Гэтыя людзі забываюць, што ўся наша работа па будаўніцтву соцыялізма, уся наша выхаваўчая работа накіравана да перааробкі сазнання людзей. На тое і існуе наша партыя, на тое мы і дабіліся перамог соцыялізма, на тое мы і ставім задачы комуністычнага будаўніцтва, каб перарабляць людзей, іх сазнанне. Калі некаторыя думаюць, што пераробка сазнання людзей не датычыць членаў партыі, што комуністы ад нараджэння свабодны ад усякіх прадрассудкаў і абсалютна не маюць патрэбы ні ў якім перавыхаванні, то гэта не што іншае, як ідэалістычны, схематычны погляд на людзей. Такі падыход да чалавека, калі аб ім судзяць абстрактна, па загадзя загатоўленай мерцы, і не вывучаюць яго ва ўсіх сувязях і апасрэдстваваннях,—асуджае на пасіўнасць, на песімістычную ацэнку людзей. Такі песімістычны падыход звернут да мінулага. Такі падыход да ацэнкі людзей нічога агульнага з большэвізмам не мае. Па сваёй метадалогіі ён глыбока варожы большэвізму.

Мне здаецца, што ўсё гэта ёсць рэцыдыў меншавізма, своеасаблівая форма апартунізма ў адносінах да жывых людзей, калі зыходзяць не з таго, каб весці чалавека ўперад, выпраўляць яго недахопы і перавыхоўваць, а гіпертрафіруюць, раздуваюць недахопы людзей і не распазнаюць у людзях тое каштоўнае, што неабходна развіваць, усяляк падтрымаць. А калі паскрэбсці гэтых псеўдамаралістаў, то ханжэй і крывадушнікаў сярод іх не абярэшся. З такога роду гробакапацелямі, вядома, ніякай кашы не зварыш. **(Бурныя апладысменты).**

Разам з гэтым, неабходна пакончыць з практыкай палавінчатай рэабілітацыі аднаўляемых членаў партыі. На практыцы ў нас даволі шырока распаўсюджан тып партыйнага работніка, які дзеля перастрахоўкі, «на ўсякі выпадак», пакідае хвост або хвосцік у рэабілітуемага члена або кандыдата партыі: калі чалавек быў выключан, а цяпер яго прыходзіцца рэабілітаваць, то запісваюць яму вымову, хоць і невядома за што; калі ў яго была вымова—ставяць яму на від,—так, дзеля астрасткі. **(Смех).**

З такой практыкай палавінчатай рэабілітацыі неабходна рашуча пакончыць і калі чалавек заслугоўвае поўнай рэабілітацыі—знімаць з яго спагнанне начыста.

З гэтых фактаў ясна, што рашэнне студзеньскага Пленума ЦК, указаўшага на неабходнасць выкрыць і да канца знішчыць замаскіраваных ворагаў, якія прабраліся ў нашы рады і стараюцца фальшывымі крыкамі аб пільнасці скрыць сваю варожасць ад партыі, праводзіцца ў радзе арганізацый яшчэ недастаткова рашуча.

Метад індывідуальнага падыходу да членаў партыі яшчэ не адноўлен поўнасцю. Агульныя, беспадстаўныя выключэнні з партыі ўсё яшчэ маюць месца.

Рашэнне студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) мела на ўвазе стварыць максімум гарантыі для барацьбы супроць неабгрунтаваных выключэнняў, аднавіць поўнасцю індывідуальны падыход, праяўляць выключную ўважлівасць да пытанняў аб лёсе членаў партыі.

З прычыны выключнага значэння гэтых пытанняў неабходна дапоўніць статут радам палажэнняў, якія павінны забяспечыць уважлівы падыход і старанны разбор абгрунтаванасці абвінавачанняў, прад'яўленых члену партыі; аградзіць правы членаў партыі ад усякага праізволу і із'яць з практыкі прымяненне выключэння з партыі, якое з'яўляецца вышэйшай мерай партыйнага пакарання, у адносінах да членаў партыі, зрабіўшых малаважныя праступкі.

Неабходна памятаць указанні таварыша Сталіна:

> «Партыя стала для члена партыі вельмі вялікай і сур'ёзнай справай і членства ў партыі або выключэнне з партыі—гэта вялікі пералом у жыцці чалавека».

> «Для радавых членаў партыі прабыванне ў партыі або выключэнне з партыі,—гэта пытанне жыцця і смерці».

Таварыш Сталін у другім месцы ўказваў, што вышэйшая мера партыйнага пакарання—гэта выключэнне з партыі, таксама як вышэйшай мерай пакарання ў арміі з'яўляецца расстрэл. (Гл. Сталін, зборнік «Аб апазіцыі», стар. 34).

Рашэнні лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) 1937 года і студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) 1938 года па пытанню аб выключэнні з партыі зводзяцца іменна да таго, што **выключэнні з партыі трэба звесці да мінімума.** Калі выключэнне з партыі роўназначна вышэйшай меры пакарання ў арміі, г. зн. расстрэлу, то яго нельга прымяняць направа і налева.

Неабходна аднавіць ролю мер партыйнага спагнання, прадугледжаных статутам партыі ў адносінах да рознага роду праступкаў. Нельга судзіць аб усіх праступках аднолькава, не разбіраючы: важны ці малаважны гэты праступак. Выключэнні з партыі сталі адзін час у практыцы многіх партыйных арганізацый дробнай разменнай манетай, а такія меры партыйнага спагнання, як пастаноўка на від,

аб'яўленне парыцання, указанне на праступак, вымова, строгая вымова, строгая вымова з папярэджаннем, г. зн. уся дастаткова гібкая шкала мер партыйнага ўздзеяння, якая прадугледжана нашым статутам і адпавядае рознаму роду і розным ступеням партыйных праступкаў,—аказалася забытай.

Неабходна аднавіць ролю мер партыйнага выхавання і ўздзеяння, прадугледжаных статутам.

Трэба сказаць і аб старых, знятых спагнаннях. Аб гэтым таксама нямала гаварылі на партыйных сходах перад з'ездам. Калі чалавек выправіўся і спагнанне з яго знята,—няма чаго аб ім пастаянна напамінаць, няма чаго помсціць за старыя, выпраўленыя памылкі і ўшчамляць маральна члена партыі.

Не мала ў нас фактаў, калі чалавек год 10 таму назад зрабіў праступак і атрымаў за гэта спагнанне. Пасля чалавек выправіўся, спагнанне з яго было знята. Аднак, аб гэтым спагнанні абавязкова напамінаюць, калі заходзіць гутарка аб гэтым чалавеку. Гэта прыносіць многа шкоды з пункту гледжання, напрыклад, ажыццяўлення права быць выбраным у парторганы. Вядома, што пры абмеркаванні кандыдатур пры выбарах у партыйныя органы такога таварыша часта адводзяць. А гэта няправільна: калі чалавек выправіў свой праступак, чаму ён павінен несці ўсё жыццё маральную пляму? За старое помсціць не трэба. **(Галасы: правільна)**.

## Аб усваенні і прызнанні праграмы партыі.

У тэзісах высунута неабходнасць адмяніць статутнае патрабаванне да кандыдатаў, уступаючых у партыю, згодна якому ўмовай іх прыёму ставіцца, апрача **прызнання** праграмы і статута партыі і праходжання статутнага кандыдацкага стажа, таксама **ўсваенне** праграмы.

Таварыш Сталін у дакладзе на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) у 1937 г. указваў:

> «Каб усвоіць праграму партыі, трэба быць сапраўдным марксістам, правераным і тэарэтычна падрыхтаваным марксістам. Я не ведаю, ці многа знойдзецца ў нас членаў партыі, якія ўжо ўсвоілі нашу праграму, сталі сапраўднымі марксістамі, тэарэтычна падрыхтаванымі і праверанымі. Калі ісці далей па гэтаму шляху, то нам прышлося-б пакінуць у партыі толькі інтэлігентаў і наогул людзей вучоных. Каму патрэбна такая партыя? У нас ёсць правераная і вытрымаўшая ўсе выпрабаванні ленінская формула аб членстве ў партыі. Па гэтай формуле членам партыі лічыцца той, хто **прызнае** праграму партыі, плаціць членскія ўзносы і працуе ў адной з яе арганізацый. Звярніце ўвагу: у ленінскай формуле гаворыцца не аб **усваенні** праграмы, а аб **прызнанні** праграмы. Гэта дзве зусім розныя рэчы.

Няма чаго і даказваць, што праў тут Ленін, а не нашы партыйныя таварышы, якія дарэмна балбочуць аб усваенні праграмы. Яно і зразумела. Калі-б партыя выходзіла з таго, што членамі партыі могуць быць толькі такія таварышы, якія ўжо ўсвоілі праграму і сталі тэарэтычна падрыхтаванымі марксістамі, то яна не стварала-б у партыі тысячы партыйных гурткоў, сотні партыйных школ, дзе членаў партыі абучаюць марксізму і дапамагаюць ім усвоіць нашу праграму. Зусім ясна, што калі партыя арганізуе такія школы і гурткі сярод членаў партыі, то гэта таму, што яна ведае, што члены партыі не паспелі яшчэ ўсвоіць партыйную праграму, не паспелі яшчэ стаць тэарэтычна падрыхтаванымі марксістамі».

Усвоіць праграму—гэта значыць умець яе абгрунтаваць. Прызнаваць праграму—гэта значыць раздзяляць яе палажэнні, быць згодным з ёю і быць гатовым яе абараняць. Ясна, што патрабаваць ад кандыдата **ўсваення** праграмы, г. зн. **абгрунтавання**—гэта значыць адпужваць людзей ад партыі. Гэтыя патрабаванні, тэарэтычна няправільныя і на практыцы вялі да няправільнага падыходу да прымаемых. Многія кандыдаты апасаліся падаваць заявы аб пераводзе ў члены партыі з-за боязні падвергнуцца палітычнаму экзамену, праводзімаму к таму-ж, нярэдка, людзьмі невуцкімі. На практыцы гэтыя неабгрунтаваныя патрабаванні вялі да нарушэння асноўных прынцыпаў партыі і стваралі няпэўнасць і няўстойлівасць у становішчы ў многіх членаў партыі.

Вядома, таварышы, гэта не значыць, што кандыдату забараняецца ўсвайваць праграму за той перыяд, калі ён праходзіць кандыдацкі стаж. Але гутарка ідзе **аб статутным** патрабаванні да кандыдата. Ясна, што патрабаваць ад кандыдата ўсваення праграмы, гэта значыць адпужваць людзей ад партыі.

Прызнанне праграмы і статута партыі, уплата членскіх узносаў, работа ў адной з партыйных арганізацый—вось што патрабуецца ад члена партыі па статуту. Выпрабаваная ленінска-сталінская формула аб членстве ў партыі не патрабуе ніякіх палепшанняў. Вось чаму неабходна адмяніць патрабаванне аб **усваенні** праграмы, якое ёсць у цяпер дзеючым статуце партыі.

## Аб унутры партыйнай дэмакратыі.

Таварышы! У сувязі з паваротам у палітычным жыцці краіны, абумоўленым прыняццем новай Канстытуцыі СССР, перад партыяй узніклі новыя задачы. Паварот у палітычным жыцці краіны заключаўся ў правядзенні поўнай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы, у пераходзе ад абмежавальных выбараў да ўсеагульных, ад не зусім роўных выбараў—да роўных, ад многаступенных выбараў—да прамых, ад адкрытых выбараў—да закрытых.

Новая выбарчая сістэма павінна была прывесці і сапраўды прывяла да ўзмацнення палітычнай актыўнасці мас, да ўзмацнення кантролю мас у адносінах органаў совецкай улады, да ўзмацнення адказнасці органаў совецкай улады перад народам.

Каб сустрэць паварот у палітычным жыцці краіны ва ўсеўзброенні, партыя павінна была стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць поўнасцю сваю кіруючую ролю ў прадстаяўшых выбарах Вярхоўнага Совета СССР і Вярхоўных Советаў Саюзных рэспублік. Але для гэтага неабходна было, каб партыйныя арганізацыі самі сталі ў сваёй практычнай рабоце да канца дэмакратычнымі, каб яны праводзілі поўнасцю ў сваім унутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут партыі, каб усе органы партыі з'яўляліся выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка развіваліся ў партыі ў поўнай меры, каб адказнасць партыйных арганізацый перад партыйнай масай была поўная і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана.

На лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК было выяснена, што цэлы рад партыйных арганізацый у сваёй практычнай рабоце скрозь і ўсюды нарушаюць статут партыі і асновы дэмакратычнага цэнтралізма, падмяняючы выбарнасць—кааптацыяй, галасаванне па асобных кандыдатурах—галасаваннем па спіску і т. д. Неабходна было, таму, перш за ўсё ліквідаваць антыдэмакратычную практыку партыйных арганізацый і перабудаваць партыйную работу на аснове разгорнутай унутрыпартыйнай дэмакратыі.

У чым сутнасць большэвіцкай унутрыпартыйнай дэмакратыі? Сутнасць большэвіцкай унутрыпартыйнай дэмакратыі, як неаднаразова аб гэтым вучыў таварыш Сталін, зводзіцца да пытання аб самадзейнасці, аб актыўным удзеле членаў партыі ў партыйным кіраўніцтве. «Унутрыпартыйная дэмакратыя ёсць падняцце актыўнасці партыйных мас і ўмацаванне адзінства партыі, умацаванне свядомай пролетарскай дысцыпліны ў партыі»—так вучыць таварыш Сталін.

Іменна ў гэтых мэтах партыя ліквідавала меўшыя месца ў практыцы партыйнай работы нарушэнні асноў дэмакратычнага цэнтралізма і аднавіла, у адпаведнасці са статутам партыі, выбарнасць кіруючых органаў партыйных арганізацый.

Партыя правяла таксама рад дадатковых мер, якія забяспечваюць правядзенне паслядоўнай дэмакратычнай практыкі, а іменна: адмена практыкі кааптацыі, забарона пры выбарах партыйных органаў галасавання спіскам, пераход да галасавання па асобных кандыдатурах, забеспячэнне за ўсімі членамі партыі неабмежаванага права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх, устанаўленне пры выбарах партыйных органаў закрытага (тайнага) галасавання кандыдатаў, устанаўленне абавязковасці перыядычнага склікання гарадскіх партыйных актываў, а ў вялікіх гарадах—таксама і раённых актываў.

Статут павінен адлюстраваць гэтыя новыя мерапрыемствы партыі, правераныя практыкай, забяспечыўшыя далейшае развіццё крытыкі і самакрытыкі, уздым адказнасці партыйных органаў перад партыйнай масай, рост актыўнасці партыйнай масы і тым самым спрыяўшыя ўзбраенню партыі для паспяховага вырашэння новых задач палітычнага кіраўніцтва.

Вядома, што выбары ў Вярхоўныя Советы Саюза ССР і Саюзных рэспублік паказалі, што партыя дабілася поўнай перамогі блока комуністаў і беспартыйных іменна ў рэзультаце перабудовы практыкі партыйнай работы на аснове правядзення ў жыццё пачаткаў унутрыпартыйнага дэмакратызма.

Паслядоўнае правядзенне ў жыццё дэмакратычнай практыкі аказала пладатворны ўплыў на ўсё жыццё партыйных арганізацый. Вынікам росту актыўнасці і свядомасці членаў партыі, іх адказнасці за справу партыі, з'яўляецца перадз'ездаўская дыскусія і рэзультаты выбараў партыйных органаў, якія прадэманстравалі росквіт партыйнага дэмакратызма. **(Апладысменты).** На гэтай аснове да ўдзелу ў жыцці партыі падняліся велізарныя новыя слаі членаў партыі.

У часе выбараў парторганаў у 1938 годзе шырока разгарнулася крытыка дзейнасці слаба працаваўшых партыйных органаў. У рэзультаце гэтай крытыкі была прызнана нездавальняючай работа вялікай колькасці партыйных камітэтаў і парторгаў пярвічных партарганізацый, райкомаў партыі, гаркомаў, абкомаў і крайкомаў.

У часе выбараў 1938 года ў кіруючыя партыйныя органы было вылучана многа новых работнікаў, прычым большая частка работнікаў упершыню была выбрана ў кіруючыя партыйныя органы. Гэта—маладняк. Усяго ўпершыню было выбрана 35 проц. членаў партыйных камітэтаў пярвічных партарганізацый, 41 проц. састава райкомаў, 46 проц. састава гаркомаў, 60 проц.—састава абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый.

Справаздачныя матэрыялы мясцовых партыйных арганізацый паказваюць, што ў абмеркаванні тэзісаў к XVIII партыйнаму з'езду на партыйных сходах прымала ўдзел звыш 2-х мільёнаў членаў і кандыдатаў партыі. Каля аднаго мільёна комуністаў выступіла ў спрэчках на гэтых сходах. **(Апладысменты).**

Таварышы, такой дыскусіі, якая была перад XVIII з'ездам, наша партыя яшчэ не мела ніколі. Гэтая дыскусія праходзіла ў абстаноўцы небывалага згуртавання і адзінства нашай партыі, у абстаноўцы выключнага росту актыўнасці членаў партыі.

Кожны прымаўшы ўдзел у дыскусіі ўносіў свае папраўкі і прапановы з пункту гледжання дапамогі партыі, з пункту гледжання ўмацавання агульнапартыйнай справы.

Рэзультаты дыскусіі пацвярджаюць, што мы перажываем зараз росквіт унутрыпартыйнай дэмакратыі, небывалы ўздым актыўнасці і самадзейнасці членаў партыі.

Работа, праробленая партыяй на аснове вядомых рашэнняў лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК 1937 г. і ўказанняў, даных партыі на гэтым пленуме таварышом Сталіным, дала свае добрыя рэзультаты. Паднялося і ўмацавалася пачуцце сувязі кожнага члена партыі з партыяй і яе работай: кожны член партыі стаў адчуваць сябе поўнацэннай адзінкай, звязанай з агульным калектывам партыі і адказнай за агульнае, за цэлае. Гэта ёсць найважнейшы і найкаштоўнейшы рэзультат развіцця ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

І другое, што не менш важна і што таксама павінна быць намі адзначана як вынік развіцця партыі за апошнія годы,—гэта тое, што ўмацаваліся новыя адносіны паміж кіраўнікамі і масамі: нязмерна вырасла давер'е мас да кіраўнікоў і іх узаемная сувязь і блізасць. Маса прывыкла разглядаць кіраўнікоў як сваіх пасланцоў, родных і блізкіх ёй, якія, разам з тым, адказны перад партыяй, перад масай, перад народам. Гэта ёсць другі найкаштоўнейшы вынік работы партыі за апошнія годы. **(Бурныя апладысменты).**

**Вывад:** перабудова партыйна-палітычнай работы на аснове паслядоўнага правядзення ў жыццё пачаткаў бальшэвіцкай унутрыпартыйнай дэмакратыі ўмацавала магутнасць нашай партыі. Партыя знаходзіцца на шляху да поўнай актывізацыі партыйнай масы, а гэта ёсць найважнейшая ўмова для ажыццяўлення партыяй у цэлым і кожным комуністам у паасобку сваёй авангарднай ролі ў масах, а значыцца і для далейшых перамог соцыялістычнага будаўніцтва.

Партыя будзе і надалей развіваць і забяспечваць унутрыпартыйную дэмакратыю, як сродак падняцця актыўнасці і самадзейнасці членаў партыі, як сродак ачышчэння партыі ад варожай мразі і атрэб'я. **(Працяглыя апладысменты).**

## Аб падборы кадраў, праверцы выканання, вылучэнні новых кадраў партыйных работнікаў.

Пераходжу да пытанняў перабудовы партыйнага апарата, падбору кадраў і праверкі выканання.

Таварыш Сталін у сваім справаздачным дакладзе на нашым з'ездзе даў вычарпальныя вызначэнні значэння кадраў і правільнага іх падбору.

> «Правільна падбіраць кадры гэта значыць:
>
> Па-першае, цаніць кадры, як залаты фонд партыі і дзяржавы, даражыць імі, мець да іх павагу.
>
> Па-другое, ведаць кадры, старанна вывучаць дастоінствы і недахопы кожнага кадравага работніка, ведаць, на якім пасту могуць лягчэй за ўсё разгарнуцца здольнасці работніка.
>
> Па-трэцяе, клапатліва вырошчваць кадры, дапамагаць кожнаму растучаму работніку падняцца ўверх, не шкадаваць часу для

таго, каб цярпліва «павазіцца» з такімі работнікамі і паскорыць іх рост.

Па-чацвертае, своечасова і смела вылучаць новыя, маладыя кадры, не даючы ім перастаяцца на старым месцы, не даючы ім закіснуць.

Па-пятае, расставіць работнікаў па пастах такім чынам, каб кожны работнік адчуваў сябе на месцы, каб кожны работнік мог даць нашай агульнай справе максімум таго, што наогул здолен ён даць па сваіх асабістых якасцях, каб агульны напрамак работы па расстаноўцы кадраў поўнасцю адпавядаў патрабаванням той палітычнай лініі, у імя правядзення якой робіцца гэтая расстаноўка».

Далей таварыш Сталін указваў, у чым заключаецца цяпер задача партыі ў адносінах правільнага падбору кадраў.

«Задача заключаецца ў тым, каб узяць поўнасцю ў адны рукі справу падбору кадраў знізу даверху і падняць яе на належную, навуковую, большэвіцкую вышыню.

Для гэтага неабходна пакончыць з расшчапленнем справы вывучэння, вылучэння і падбору кадраў па розных аддзелах і сектарах, сканцэнтраваўшы яе ў адным месцы.

Такім месцам павінна быць Упраўленне кадраў у саставе ЦК ВКП(б) і адпаведны аддзел кадраў у саставе кожнай рэспубліканскай, краявой і абласной партарганізацыі».

З гэтага пункту гледжання існуючая арганізацыя партыйнага апарата аказалася недастатковай.

Згодна статута партыі для практычнай работы па ажыццяўленню партыйных рашэнняў і пастаноў і праверкі іх выканання совецка-гаспадарчымі органамі і ніжэйстаячымі партарганізацыямі, у абкомах, крайкомах, ЦК нацкомпартый і ў ЦК ВКП(б) былі арганізаваны вытворча-галінныя аддзелы. Мелася на ўвазе, што ў вытворча-галінных аддзелах будзе сканцэнтравана ўся работа ў цэлым па данай галіне, г. зн. арганізацыйна-партыйная работа, падрыхтоўка і размеркаванне кадраў, агітацыйна-масавая работа, вытворчая прапаганда, нагляд за выкананнем партыйных рашэнняў адпаведнымі совецкімі, гаспадарчымі органамі і партыйнымі арганізацыямі.

Недахопы існуючай арганізацыі справы зводзіліся да таго, што падбор кадраў, які патрабуе накіравання з аднаго цэнтра,—бо справа падбору кадраў звязана з неабходнасцю сканцэнтраваць у адным месцы ўвесь вопыт і ўсё веданне кадраў,—у гэтым і заключаецца майстэрства большэвіцкага кіраўніцтва,—справа падбору кадраў аказалася распыленай паміж шматлікімі вытворча-галіннымі аддзеламі. Гэта прывяло да няправільнага скарыстання кадраў, адсутнасці адзіных метадаў вывучэння кадраў, а, значыцца, да прарываў па лініі падбору людзей. Распыленне падбору кадраў паміж роз-

нымі вытворча-галіннымі аддзеламі прывяло таксама да штучнага разгароджвання кадраў па асобных полачках і ведамствах, у той час, як правільны падбор кадраў патрабуе ўмелага і гібкага манеўрыравання.

Многія з вас, таварышы, ведаюць са сваёй практыкі, як распылена і расшчэплена ў нас справа падбору кадраў. У абкомах і крайкомах існуюць прамысловыя аддзелы, совецка-гандлёвыя аддзелы, культурна-асветныя і інш. Паміж гэтымі аддзеламі ідзе барацьба і цяжба за таго ці іншага работніка. Гэта шкодна адбіваецца на справе вывучэння, падбору і вылучэння кадраў.

Мэтазгоднае скарыстанне работнікаў у адпаведнасці з патрэбнасцямі работы і са здольнасцямі людзей немагчыма ў рамках функцыянальнага раздраблення справы падбору кадраў.

Вопыт паказвае, што такая арганізацыя партыйнага апарата нас задаволіць не можа.

У сувязі з гэтым і ўзнікла неабходнасць стварыць у ЦК магутны апарат па кадрах—Упраўленне кадраў, здольны правільна, па-навуковаму, як гаворыць тав. Сталін, вырашаць задачы падбору і размеркавання кадраў, выдзеліўшы пытанні партыйна-арганізацыйнага кіраўніцтва ў спецыяльны арганізацыйна-інструктарскі аддзел.

Цэнтральным Камітэтам за апошнія два годы быў ужо прадпрынят у гэтым напрамку рад мер, якія заключаліся ў тым, што справа падбору і вылучэння кіруючых кадраў не толькі па лініі парторганаў, але і па лініі совецка-гаспадарчага апарата, па ўсіх наркаматах, усё больш і больш цэнтралізавалася ў сучасным АКПО ЦК.

Гэтую перабудову справы падбору, вывучэння і размеркавання кадраў неабходна правесці ў духу ўказанняў, даных таварышом Сталіным у справаздачным дакладзе аб рабоце ЦК ВКП(б) на XVIII з'ездзе партыі.

Далей, я хацеў-бы спыніцца яшчэ на адным змяненні ў статуце, якое ўносіцца Цэнтральным Камітэтам на абмеркаванне XVIII партыйнага з'езда. Я маю на ўвазе прапанову аб зніжэнні партыйнага стажа, які патрабуецца ад таварышаў, вылучаемых на кіруючую партыйную работу—сакратарамі абкомаў, гаркомаў, райкомаў і т. д. ЦК прапануе змяніць гэты пункт статута партыі з тым, каб знізіць патрабуемы партыйны стаж, зыходзячы пры гэтым з неабходнасці стварыць неабходныя ўмовы для вылучэння на кіруючую партыйную работу новых кадраў партыйных работнікаў.

Гэтая прапанова мае вялікае прынцыпіяльнае і практычнае значэнне. Таварыш Сталін у сваім дакладзе на нашым з'ездзе з геніяльнай яснасцю сфармуліраваў задачу вылучэння новых кадраў.

> «Задача,—як гаварыў таварыш Сталін,—заключаецца не ў тым, каб арыентавацца альбо на старыя, альбо на новыя кадры, а ў тым, каб трымаць курс на спалучэнне, на з'еднанне старых і маладых кадраў у адным агульным аркестры кіруючай работы партыі і дзяржавы».

Вось чаму неабходна своечасова і смела вылучаць маладыя кадры на кіруючыя пасты.

Іменна своечасова і смела вылучаючы маладыя кадры на кіруючыя пасты, наша партыя здолела дабіцца аднаго з сур'ёзнейшых дасягненняў—вылучыць на кіруючую дзяржаўную і партыйную работу больш поўмільёна маладых большэвікоў—партыйных і прымыкаючых да партыі.

Неабходна ўказаць на палепшанне якаснага састава нашых кіруючых кадраў. У стаставе партыйных кадраў паявілася цяпер нямала людзей з вышэйшай асветай, людзей культурных, ведаючых, адукаваных.

**Некаторыя даныя аб кіруючых партыйных кадрах.**

| | Усяго | Маюць вышэйшую, незакончаную вышэйшую і сярэднюю асвету. | Рабочых па соцстановішчу да вылучэння. | Людзі ва ўзросце да 40 год. | Людзі ва ўзросце ад 31 да 35 год | Па партстажу з 1924 г. і пазней. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Састаў сакратароў абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый . . . . | 333 | 196 / 58,9 | 175 / 52,6 | 303 / 91 | 177 / 53,2 | 268 / 80,5 |
| Састаў сакратароў райкомаў, гаркомаў і акругкомаў партыі . . | 10902 | 3115 / 28,6 | 5248 / 48,1 | 10020 / 92 | 5649 / 52,7 | 10193 / 93,5 |
| Састаў загадчыкаў аддзелаў абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый . . . . . . | 510 | 327 / 64,1 | 231 / 45,3 | 469 / 92 | 263 / 51,6 | 431 / 84,5 |

Увага: 1. Назоўнік паказвае процанты.
2. Галоўная маса атрымаўшых вышэйшую асвету падае на скончыўшых ВНУ і ВТНУ ў 1934—36 г.г. і ў 1937—38 г.г.

Калі некалькі год таму назад чураліся вылучаць на кіруючую партыйную работу людзей адукаваных і моладзь, а шкоднікі прама душылі маладыя кадры, не даючы ім падымацца ўверх, то самай буйнай перамогай партыі з'яўляецца тое, што партыі ўдалося, збавіўшыся ад шкоднікаў, расчысціць дарогу для вылучэння вырасшых за апошні перыяд кадраў і паставіць іх на кіруючую работу. У гэтым залог сілы і непераможнасці нашай партыі. **(Бурныя апладысменты).**

* * *

Недастатковай аказалася таксама практыка праверкі выканання партыйных дырэктыў, якая распылена паміж рознымі вытворчагаліннымі аддзеламі. Гэтую работу неабходна таксама цэнтраліза-

ваць у адным месцы, змяніўшы ў адпаведнасці з гэтым характар дзейнасці КПК. Партыйны кантроль павінен быць дзейсным, павінен своечасова папярэджваць памылкі.

Правільны кантроль прадугледжвае не толькі праверку выканання дырэктыў, але і праверку правільнасці тых ці іншых дырэктыў, неабходнасць замены іх другімі.

Таварыш Сталін многа раз, настойліва нам раз'ясняў і раз'ясняе, што

«Кіраваць—гэта яшчэ не значыць пісаць рэзалюцыі і рассылаць дырэктывы. Кіраваць—гэта значыць правяраць выкананне дырэктыў, і не толькі выкананне дырэктыў, але і самі дырэктывы, іх правільнасць або іх памылковасць. Смешна было-б думаць, што ўсе нашы дырэктывы правільны на ўсе 100 проц. Гэтага не бывае і не можа быць, таварышы. **Праверка выканання ў тым іменна і заключаецца, каб нашы работнікі правяралі ў агні практычнага вопыту не толькі выкананне нашых дырэктыў, але і правільнасць саміх дырэктыў.** (Падкр. мною—А. Жд.). Таму, прарэхі ў гэтай галіне азначаюць прарэхі ва ўсім нашым кіраўніцтве».

(Сталін. «Аб работах красавіцкага Аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК», 1928 г.).

Праверка выканання—важнейшы сродак супроць застою ў рабоце, супроць плесні. Гэта важнейшы сродак для папярэджання шкодніцтва. Там, дзе правільна наладжана праверка выканання—шкоднік паралізован.

Задача ўзмацнення кантролю за выкананнем партыйных дырэктыў становіцца цэнтральнай задачай Камісіі Партыйнага Кантролю.

Зыходзячы з гэтага, неабходна ўстанавіць, што КПК працуе пры ЦК ВКП(б). У сувязі з гэтым, адпадае неабходнасць выбараў КПК непасрэдна на з'ездзе партыі. КПК павінна выбірацца пленумам Цэнтральнага Камітэта і працаваць пад кіраўніцтвам і па дырэктывах ЦК ВКП(б).

## Аб ліквідацыі тэарэтычнай і палітычнай адсталасці кадраў.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе з усёй вастрынёй і чоткасцю паставіў задачы ў галіне партыйнай прапаганды, у галіне марксісцка-ленінскага выхавання кадраў.

Ён сказаў:

«Можна здавальняюча паставіць справу рэгуліравання састава партыі і набліжэння кіруючых органаў да нізавой работы; можна здавальняюча паставіць справу вылучэння кадраў, іх падбору, іх расстаноўкі; але калі пры ўсім гэтым пачынае чаму-

небудзь кульгаць наша партыйная прапаганда, калі пачынае занепадаць справа марксісцка-ленінскага выхавання нашых кадраў, калі аслабявае наша работа па павышэнню палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню гэтых кадраў, а самі кадры перастаюць у сувязі з гэтым цікавіцца перспектывай нашага руху ўперад, перастаюць разумець праваты нашай справы і ператвараюцца ў бесперспектыўных дзяляг, слепа і механічна выконваючых указанні зверху,—то павінна абавязкова заняпасці ўся наша дзяржаўная і партыйная работа. Трэба прызнаць, як аксіому, што чым вышэй палітычны ўзровень і марксісцка-ленінская свядомасць работнікаў любой галіны дзяржаўнай і партыйнай работы, тым вышэй і пладатворней сама работа, тым эфектыўней рэзультаты работы, і наадварот,—чым ніжэй палітычны ўзровень і марксісцка-ленінская свядомасць работнікаў, тым больш магчымы зрывы і правалы ў рабоце, тым больш магчыма здрабненне і выраджэнне саміх работнікаў у дзяляг-крахабораў, тым больш магчыма іх перараджэнне».

Таварыш Сталін указаў, што ў нас ёсць усе сродкі і магчымасці, неабходныя для таго, каб падрыхтаваць нашы кадры ідэалагічна і загартаваць іх палітычна і што ад гэтага залежыць на дзевяць дзесятых вырашэнне ўсіх нашых практычных задач.

Задача ліквідацыі тэарэтычнага і палітычнага адставання партыйных кадраў, задача ўзбраення членаў партыі марксісцка-ленінскай тэорыяй і аўладання большэвізмам патрабуе падняцця на належны ўзровень справы партыйнай прапаганды і агітацыі, у адпаведнасці з рашэннем ЦК «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», а таксама з тымі ўказаннямі, якія даў на нашым з'ездзе па гэтаму пытанню ў сваім дакладзе таварыш Сталін.

Задача аўладання большэвізмам прама выцякае з задач сучаснага этапа соцыялістычнага будаўніцтва.

Для таго, каб паспяхова ажыццявіць асноўную задачу трэцяй пяцігодкі, задачу комуністычнага выхавання працоўных, задачу пераадалення перажыткаў капіталізма ў сазнанні людзей, для таго, каб паспяхова вырашаць практычныя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва, для таго, каб быць падкаваным у барацьбе супроць капіталістычнага акружэння і яго агентуры, нашы кадры павінны быць узброены тэорыяй, г. зн. веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы.

Карэнныя недахопы партыйнай прапаганды ізложаны ў вядомым рашэнні ЦК. У гэтым рашэнні ўказаны і спосабы перабудовы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

Зараз пачалася перабудова прапагандысцкай работы. Першыя крокі гэтай перабудовы паказваюць, што выхад «Кароткага курса

гісторыі ВКП(б)» і рашэнне ЦК далі магутны штуршок для падняцця ўсёй ідэйна-палітычнай работы на новую ступень. За вывучэнне марксізма-ленінізма, за вывучэнне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» узяліся мільёны людзей. Гэта ёсць найвялікшая перамога нашай партыі. «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» на рускай мове разышоўся тыражом каля 12 мільёнаў экземпляраў **(шумныя апладысменты)**, ды на іншых мовах народаў СССР каля 2 мільёнаў экземпляраў. «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» перакладзен на 28 замежных моваў і выдаецца ўжо ў ліку звыш 673 тыс. экземпляраў. Трэба прама сказаць, што за час існавання марксізма гэта першая марксісцкая кніга, якая атрымала такое шырокае распаўсюджанне **(апладысменты)**.

Партыйныя кадры ўзяліся за самастойную вучобу. Попыт на марксісцка-ленінскую літаратуру каласальна ўзрос. Да прапаганды марксізма-ленінізма прыкавана зараз увага ўсіх партыйных арганізацый.

Накапіўся ўжо некаторы вопыт новых форм работы.

Пасля рашэння ЦК да вуснай і друкаванай прапаганды марксізма-ленінізма прыцягнуты лепшыя тэарэтычныя і прапагандысцкія сілы партыі. Ствараецца кадр вопытных прапагандыстаў-прафесіяналаў.

Да перабудовы партыйнай прапаганды ў нас у партыі налічвалася звыш 112 тысяч прапагандыстаў. Само сабой зразумела, што сярод іх было нямала слаба падрыхтаваных людзей. Зараз гэтая колькасць значна скарацілася. У лік прапагандыстаў партыйныя арганізацыі адбіраюць людзей, сапраўды падрыхтаваных для прапаганды.

Скарацілася і колькасць гурткоў. Калі, напрыклад, у Маскве да рашэння ЦК налічвалася больш 9 тысяч гурткоў, а ў Ленінградзе больш 5 тысяч гурткоў, то зараз у Маскве нямногім больш 500 гурткоў, а ў Ленінградзе каля 300.

Асноўным метадам работы кадраў становіцца самастойная работа над кнігай.

Расшыраецца друкаваная прапаганда, якая мае рашаючае значэнне ў пастаноўцы прапагандысцкай работы.

Усё гэта, аднак, толькі пачатак таго развароту прапагандысцкай работы, якога дабіваецца наша партыя. У гэтым уздыме рашаючую ролю будзе адыгрываць наш большэвіцкі друк. Попыт на друкаванае слова каласальна ўзрос і будзе расці.

Мы стаім напярэдадні велізарнага ўздыму ўсёй прапагандысцкай работы партыі. Для мэт прапаганды павінны быць шырока скарыстаны такія магутныя сродкі, як кіно, радыё, мастацтва.

Для таго, каб паспяхова кіраваць справай марксісцка-ленінскай прапаганды ў партыі і дзяржаве, для таго, каб паспяхова вырашаць задачы ліквідацыі тэарэтычнага і палітычнага адставання партыйных кадраў, ЦК павінен мець магутны апарат прапаганды і агітацыі,

у выглядзе Упраўлення прапаганды і агітацыі, якое сканцэнтроўвае ўсю работу па друкаванай і вуснай прапагандзе і агітацыі.

Ідэйная загартоўка выхавае ў совецкіх людзях усведамленне дастоінства совецкага грамадзяніна і ўпэўненасць у сваіх сілах. Як ніколі з выключнай сілай гучаць зараз словы таварыша Сталіна аб тым, што тэорыя дае практыкам сілу арыентыроўкі, упэўненасць у сабе, перспектыву, уменне не толькі бачыць, але і прадбачыць падзеі.

Перабудова нашай партыйнай прапаганды забяспечыць росквіт тэарэтычнай работы і зробіць нашу партыю яшчэ больш ідэйна ўзброенай **(бурныя апладысменты).**

## Аб перабудове партапарата і аб усесаюзных канферэнцыях.

Таварышы! Тэзісы аб зьмяненнях у статуце ВКП(б) высоўваюць задачу перабудовы апарата аддзелаў як у ЦК, так і на месцах.

Вытворча-галінныя аддзелы зараз не ведаюць, чым ім, уласна, трэба займацца, дапускаюць падмену гаспадарчых органаў, канкуруюць з імі, а гэта параджае абязлічку і безадказнасць у рабоце.

Вытворча-галінныя аддзелы ЦК ВКП(б) павінны быць ліквідаваны, за выключэннем сельскагаспадарчага аддзела, з прычыны асобай важнасці задачы кантролю і нагляду за дзейнасцю совецкіх і партыйных арганізацый у галіне сельскай гаспадаркі.

Зараз ва ўвесь рост перад нашай партыяй усталі задачы арганізацыйнага ўмацавання калгасаў, пытанні кіраўніцтва калгаснай эканомікай, арганізацыі працы ў калгасах, соўгасах і МТС. Аб гэтых задачах ярка і пераканаўча гаварыў на з'ездзе таварыш Андрэеў.

Пры наяўнасці некаторай слабасці работы Наркамзема і Наркомсоўгасаў і пры ўмове, калі работа ў галіне сельскай гаспадаркі патрабуе выключнай увагі і клопатаў з боку мясцовых партыйных арганізацый, захаванне Сельгасаддзела ў саставе апарата Цэнтральнага Камітэта, крайкомаў і абкомаў з'яўляецца неабходным.

Неабходна таксама захаваць аддзел школ ЦК у сувязі з тым, што ў нас няма саюзнага наркомасветы і ў сувязі з неабходнасцю кантраліраваць пастаноўку работы па народнай асвеце ва ўсіх рэспубліках, краях і абласцях.

У абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінны быць створаны аддзелы: кадраў, прапаганды і агітацыі, арганізацыйна-інструктарскі і сельскагаспадарчы. Усе астатнія вытворча-галінныя аддзелы павінны быць скасаваны.

У райкомах і гаркомах неабходна мець аддзелы: кадраў, прапаганды і агітацыі і арганізацыйна-інструктарскі.

Кіраўніцтва аддзеламі прапаганды і агітацыі і аддзеламі кадраў

у абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінна быць ускладзена на асобых сакратароў.

Я думаю, таварышы, што няма неабходнасці, пасля таго, што ўжо мною сказана адносна задач у справе падбору кадраў і праверкі выканання, а таксама адносна задач прапагандысцкай работы, матываваць неабходнасць такой рэарганізацыі апарата ЦК і мясцовых партыйных органаў. Структура апарата ЦК і мясцовых партыйных органаў, прапануемая на разгляд XVIII з'езда партыі, дазволіць забяспечыць умацаванне партыйнага кіраўніцтва рознымі галінамі нашай работы.

* * *

Ва ўмовах быстрага ўздыму соцыялістычнай гаспадаркі, быстрага палітычнага і культурнага росту рабочых, сялян і інтэлігенцыі, рэзка павысіўся тэмп партыйнага і дзяржаўнага жыцця. Для таго, каб ажыццяўляць кіраўніцтва дзяржаўнымі і партыйнымі справамі, быстра рэагаваць на запросы, якія высоўваюцца жыццём, і своечасова вырашаць наспеўшыя пытанні, неабходна дапоўніць існуючую схему цэнтральных арганізацый партыі—з'езд партыі, ЦК ВКП(б)—новым органам,—Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй. Гэта тым больш неабходна, што вялікі адрэзак часу паміж з'ездамі партыі абмяжоўвае магчымасць вылучэння на кіруючую работу і ў асаблівасці ў ЦК ВКП(б) вырасшых кадраў работнікаў партыі, а канферэнцыя магла-б даць партыі такую магчымасць. У сувязі з гэтым наспела неабходнасць дапоўніць схему цэнтральных арганізацый партыі—з'езд партыі, ЦК ВКП(б)—Усесаюзнай канферэнцыяй партыі, склікаемай не радзей аднаго разу ў год з прадстаўнікоў мясцовых арганізацый з тым, каб галоўнай задачай Усесаюзнай канферэнцыі лічыць абмеркаванне наспеўшых пытанняў палітыкі партыі.

Усесаюзнай канферэнцыі партыі трэба прадаставіць права замены часткі членаў ЦК, г. зн. права вываду з састава ЦК асобных членаў ЦК, якія не забяспечваюць выканання сваіх абавязкаў, як членаў ЦК, і замены іх новымі, але ў колькасці не больш адной пятай састава ЦК, выбранага з'ездам партыі. Канферэнцыя папаўняе састаў членаў ЦК з ліку кандыдатаў, выбраных з'ездам партыі і ўзамен іх выбірае адпаведную колькасць новых кандыдатаў у члены ЦК.

Рашэнні канферэнцыі, за выключэннем рашэння аб выбранні новых членаў ЦК і новых кандыдатаў у члены ЦК, якое не патрабуе зацверджання ЦК ВКП(б), падлягаюць зацверджанню ЦК ВКП(б). Рашэнні канферэнцыі, зацверджаныя ЦК ВКП(б), з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх партыйных арганізацый. Дэлегаты канферэнцыі выбіраюцца на пленумах абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый. Члены ЦК, калі яны не з'яўляюцца дэлегатамі па паўнамоцтву ад мясцовых арганізацый, удзельнічаюць у работах канферэнцыі з правам дарадчага голасу.

# Аб задачах вытворчых і савецкіх пярвічных партарганізацый.

Таварышы!

За прайшоўшы перыяд умацаваліся пярвічныя партыйныя арганізацыі, якія з'яўляюцца асновай нашай партыі, палепшылася іх сувязь з масамі, павысілася авангардная роля комуністаў, падняўся ўзровень партыйнага жыцця. Партыйныя арганізацыі бліжэй падышлі да практычных гаспадарчых і культурных пытанняў соцыялістычнага будаўніцтва.

Вопыт паказаў, што паспяховая работа партыйных арганізацый была забяспечана там, дзе пярвічныя партыйныя арганізацыі здолелі спалучыць партыйна-палітычную работу з барацьбой за паспяховае выкананне вытворчых планаў, за палепшанне работы дзяржаўнага апарата, за асваенне новай тэхнікі, за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны, разгортванне стаханаўскага руху, вылучэнне на партыйна-гаспадарчую работу новых кадраў. І, наадварот, там, дзе партыйныя арганізацыі адышлі ў бок ад гаспадаркі, абмежаваўшы свае задачы прапагандай і агітацыяй, або там, дзе партыйныя арганізацыі прынялі на сябе неўласцівыя ім функцыі **кіраўніцтва** гаспадаркай, падмяняючы і абязлічваючы гаспадарчыя органы, там работа немінуча пападала ў тупік.

Таварыш Сталін не раз указваў на неабходнасць правільнага спалучэння партыйна-палітычнай і гаспадарчай работы. Яшчэ у 1923 годзе ён гаварыў:

> «Неабходна ўцягнуць нашы вытворчыя ячэйкі ў круг пытанняў, звязаных з ходам спраў у прадпрыемствах і трэстах. Неабходна паставіць справу так, каб ячэйкі былі ў курсе работы ўпраўляючых органаў нашых прадпрыемстваў і аб'яднанняў, каб яны маглі мець уплыў на гэтую работу. Вы ведаеце, як прадстаўнікі ячэек, да чаго вяліка маральная адказнасць нашых вытворчых ячэек перад беспартыйнымі масамі за ход спраў у прадпрыемстве. Каб ячэйка магла кіраваць і весці за сабой беспартыйную масу на заводзе, каб яна магла несці адказнасць за ход спраў у прадпрыемстве,—а яна маральную адказнасць за прарэхі прадпрыемства безумоўна нясе перад беспартыйнымі масамі,—яна павінна быць у курсе гэтых спраў, яна павінна мець магчымасць так ці інакш рабіць уплыў на гэтыя справы. Неабходна таму, каб ячэйкі ўцягваліся ў абмеркаванне гаспадарчых пытанняў, звязаных з прадпрыемствам, каб час ад часу збіраліся гаспадарчыя канферэнцыі прадстаўнікоў ячэек прадпрыемстваў, уваходзячых у састаў трэста, для абмеркавання пытанняў, звязаных са справамі ў трэсце. Гэта адзін з верных шляхоў, не-

абходных як для ўзбагачэння гаспадарчага вопыту партыйных мас, так і для арганізацыі кантролю знізу».

(І. Сталін. Аб задачах партыі. Зборнік «Аб апазіцыі», стар. 24).

Спашлюся хоць-бы на вопыт партыйнай арганізацыі такога гіганта, як Кіраўскі завод у Ленінградзе. Трацкісцка-бухарынскія бандыты, якія стаялі некаторы час у кіраўніцтва завода, нанеслі заводу вялікую шкоду, давялі яго да такога стану, што ў сярэдзіне 1937 года завод па многіх пазіцыях выконваў праграму ледзь на 45—50 проц.

Зараз заводам кіруюць новыя людзі, якія падняліся з радоў заводскай тэхнічнай інтэлігенцыі, з радоў стаханаўцаў і ўдарнікаў.

За апошні год работа Кіраўскага завода сур'ёзна палепшылася і ў гэтай справе вялікую ролю адыграла партыйная арганізацыя і яе партыйны камітэт, якія здолелі правільна спалучыць партыйна-палітычную работу з гаспадарчай.

Практыка кіраўскіх комуністаў паказвае, што правільнае спалучэнне партыйна-палітычнай работы з гаспадарчай не вядзе да парушэння адзінаначалля, з аднаго боку, а з другога боку, да забыцця партыйна-масавай работы.

У гэтых адносінах вялікае значэнне мела тое, што да кіраўніцтва партыйнай арганізацыяй падняліся людзі, якія добра ведаюць тэхніку і эканоміку прадпрыемства, падняліся людзі з цэхаў, з асобных участкаў завода, людзі, якія моцна звязаны з усім калектывам рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў.

Партыйная арганізацыя Кіраўскага завода смела раскарчавала варожыя элементы на заводзе і вылучыла новыя кадры—да 500 лепшых стаханаўцаў інжынераў і тэхнікаў, якія зараз і ўпраўляюць заводам,—і ўпраўляюць нядрэнна.

Адносячыся ўважліва да сігналаў радавых рабочых і служачых, партыйная арганізацыя здолела прыняць удзел у вырашэнні раду буйных эканамічных пытанняў на заводзе. Партыйная арганізацыя прымала жывейшы ўдзел у рэформе сістэмы зарплаты на заводзе, якая была заблытана шкоднікамі. Замест 100 тарыфных сетак, зараз на заводзе асталося 4, перагледжаны сотні тысяч норм. Гэта мела каласальнае значэнне для правільнай арганізацыі і павышэння прадукцыйнасці працы на заводзе.

За апошнія поўгода завод выконвае вытворчыя заданні без перарасходу фондаў зарплаты пры значнай перапрацоўцы новых норм.

Партком Кіраўскага завода дапамог дырэкцыі навесці парадак у энергетычнай гаспадарцы завода, вылучыў на гэты ўчастак свежых людзей і дапамог распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы. У рэзультаце завод з чэсцю справіўся з урадавым заданнем падваення выпуску трактараў к веснавой сяўбе 1939 года.

Вось другі прыклад. Яраслаўскі Гумакамбінат 7 год не выконваў

вытворчай праграмы. Дрэнную работу Гумакамбіната, да кіраўніцтва якім некаторы час прабраліся ворагі народа, адчувала ўся краіна.

ЦК ВКП(б) дапамог большэвікам Гумакамбіната выкрыць і разграміць ворагаў народа і патрэбаваў у найкарацейшы тэрмін вывесці Гумакамбінат у лік перадавых прадпрыемстваў краіны. Партарганізацыя Гумакамбіната ўказанні ЦК ВКП(б) з чэсцю выканала. Праграма IV квартала 1938 года па выпуску аўтапакрышак была выканана камбінатам на 100 проц., у студзені на 106 проц., а ў лютым на 108 проц. Разам з гаспадарчымі поспехамі расла і партыйная арганізацыя. За чацверты квартал партарганізацыя Гумакамбіната ўзрасла больш, чым за папярэднія два годы.

На чым аснаваны поспехі партарганізацыі Гумакамбіната? Яны аснаваны на правільным спалучэнні гаспадарчай і палітычнай работы партарганізацыі. Партарганізацыя Гумакамбіната так будавала сваю работу, што задача выканання вытворчай праграмы была паднята на ўзровень вялікай палітычнай задачы і на гэтым выхоўваўся ўвесь калектыў Гумакамбіната. Партарганізацыя так здолела расставіць партыйныя кадры, што ёй удавалася дакладна ведаць, што робіцца на любым участку прадпрыемства. Райком ВКП(б) і партарганізацыя не падмянялі гаспадарчага кіраўніцтва. Больш таго, ствараліся ўсе неабходныя ўмовы для праяўлення самастойнасці і ініцыятывы гаспадарнікаў, але партарганізацыя была ў курсе кожнага кроку дырэкцыі і ў патрэбныя моманты, добра ведаючы становішча гаспадарчых спраў, накіроўвала, вучыла, дапамагала гаспадарчаму кіраўніцтву.

Рэзка крытыкуючы распушчанасць і безадказнасць, якія доўгі час прывіваліся ворагамі народа, партарганізацыя падтрымлівала і маральна і палітычна кожнага гаспадарчага кіраўніка, кожнага рабочага і служачага, якія чэсна працавалі на камбінаце.

Такіх прыкладаў, як прыклады з Кіраўскім заводам і Яраслаўскім Гумакамбінатам, можна прывесці дзесяткі і сотні. Завод «Калибр» і 1-шы Гадзіннікавы завод у Маскве; цэлы рад авіяцыйных заводаў; рад металургічных заводаў; Харкаўскі завод «Свет шахтера»; завод «Новое Сормово» ў Горкаўскай вобласці і многія іншыя прадпрыемствы таксама даюць прыклады правільнага спалучэння партыйнай і гаспадарчай работы ў жыцці пярвічных партарганізацый.

Ва ўсіх рэспубліках, краях і абласцях знойдзецца нямала партарганізацый, якія здолелі ўстанавіць правільныя адносіны да пытанняў гаспадаркі, наладзіць кантроль за становішчам справы на вытворчасці і дапамагчы гаспадарнікам выканаць і перавыканаць праграму.

Спашлюся далей на вопыт парторгаў ЦК на абаронных заводах. Гэтаму пытанню надае выключнае значэнне таварыш Сталін. Таварыш Сталін прапанаваў устанавіць на абаронных заводах інстытут парторгаў ЦК і пасылаць у якасці парторгаў кваліфікаваных інжынераў—спецыялістаў сваёй справы, добрых партыйцаў. Гэтае мерапры-

емства цалкам сябе апраўдала і дало выключныя рэзультаты. На абаронных заводах стварыўся новы тып работнікаў, якія спалучаюць партыйную работу з уменнем праверыць тое ці іншае гаспадарчае або тэхнічнае пытанне.

Вядома, што невуцтва ў тэхнічных і гаспадарчых пытаннях некаторых партыйных работнікаў было наруку шкоднікам. Нашы пярвічныя партыйныя арганізацыі—гэта перадавы атрад нашых прадпрыемстваў, гэта цвет нашых прадпрыемстваў. Неабходна выкарыстаць увесь вопыт гэтага перадавога слою, якім з'яўляюцца комуністы на прадпрыемствах. Для таго, каб праверыць становішча справы з выкананнем таго ці іншага адказнага заказу, з расходваннем дырэктарскага фонда, са становішчам у рабочых інтэрнатах, са становішчам у рабочых сталовых, трэба пакласці на чашу вагаў увесь вопыт партыйных арганізацый, асвятліць большэвіцкім пражэктарам усе бакі вытворчага жыцця прадпрыемства. Гэтым мы акажам велізарную дапамогу ўсёй справе гаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва.

У часе дыскусіі былі галасы, што, моў, прадастаўленне права кантролю вытворчым пярвічным партыйным арганізацыям—гэта ёсць удар па адзінаначаллю. Мне здаецца, што тыя людзі, якія лічаць, што адзінаначалле заключаецца ў тым, каб камандаваць заводам, без апоры на актыў, нічога ў адзінаначаллі не разумеюць.

Наша совецкае, большэвіцкае адзінаначалле заключаецца ва ўменні распарадзіцца, ва ўменні арганізаваць справу, падабраць кадры, даць правільную дырэктыву, патрэбаваць справаздачу, устараніць безадказнасць і абязлічку. Але яно азначае, разам з гэтым, і ўменне апірацца ў гэтай рабоце на партарганізацыю, на актыў прадпрыемства, на ўвесь калектыў прадпрыемства.

Таму, няправільны выказванні наконт таго, што можна як-небудзь абыйсціся без кантролю з боку пярвічных партыйных арганізацый. Дарэмна некаторыя гаспадарнікі баяцца такога кантролю.

У сувязі з гэтым наспела неабходнасць больш дакладна вызначыць задачы рознага тыпу пярвічных партыйных арганізацый і, у прыватнасці, такіх пярвічных партыйных арганізацый, як партыйная арганізацыя на вытворчасці (фабрыка, завод, соўгас, калгас) і партыйная арганізацыя наркамата.

Партыйнай арганізацыі вытворчага тыпу павінна быць прадастаўлена права кантролю за становішчам спраў прадпрыемства, соўгаса і калгаса. Гэта павінна прывесці да ўзмацнення ролі і адказнасці пярвічных партыйных арганізацый на вытворчасці.

Што датычыць партыйных арганізацый наркамацкага тыпу, то яны, не маючы, у сілу спецыфічных умоў сваёй работы, функцый кантролю, павінны ўзмацніць сваю ролю ў справе палепшання работы апарата. Іх абавязак—сігналізаваць аб недачотах таго ці іншага наркамата, адзначаць недахопы асобных работнікаў і паведамляць аб іх у ЦК і кіраўнікам наркамата.

Таварыш Сталін на пасяджэнні Оргбюро ЦК 15 сакавіка 1926 г., вызначаючы задачы совецкіх ячэек, гаварыў аб тым,

> «каб нашы совецкія ячэйкі былі ахоўнікамі сапраўднага совецкага парадку ў нашых установах...
>
> ... Ячэйкі павінны сачыць за тым, каб у совецкіх установах, дзяржаўных і гаспадарчых, каб у іх быў хоць-бы элементарны парадак, элементарная адзыўчывасць, гатоўнасць выслухаць людзей, было-б паменш бюракратызма. ...Трэба дабіцца таго, каб совецкая ячэйка жыла жыццём усёй партыі, каб яна дапамагала партыі палепшыць, упрасціць больш і зблізіць з насельніцтвам совецкі і гаспадарчы апарат, зрабіць яго чэсным і эканомным». (Гл. «Известия ЦК ВКП(б)» № 16—17 за 1926 г.).

Усе члены партыі, якія працуюць у тым ці іншым наркамаце, павінны аб'ядноўвацца ў агульнанаркамацкую партыйную арганізацыю. Сакратар пярвічнай арганізацыі наркамата павінен зацвярджацца ЦК ВКП(б). Неабходнасць гэтага апошняга мерапрыемства наўрад ці мае, таварышы, патрэбу ў прастраннай матывіроўцы і аргументацыі,—яна ясна сама па сабе.

* * *

Таварышы! Я ізлажыў асноўныя папраўкі і дапаўненні да статута ВКП(б), прапанаваныя тэзісамі.

Апрача гэтых паправак і дапаўненняў неабходна адзначыць яшчэ выцякаючыя з партыйнага вопыту дапаўненні аб неабходнасці мець у абкомах і крайкомах 4—5 сакратароў, аб прадастаўленні статутных правоў акруговым арганізацыям партыі, аб пашырэнні статутнага палажэння аб партарганізацыях у Чырвонай арміі таксама на партарганізацыі Ваенна-марскога флота. Гэтыя дапаўненні, памойму, не патрабуюць раз'ясненняў.

У змяненне існуючага палажэння прапануецца іменаваць у далейшым выбраныя органы пярвічных арганізацый не камітэтамі, а бюро партарганізацый.

Гэтае змяненне зыходзіць з таго, што камітэты арганізуюцца там, дзе аб'ядноўваюцца некалькі поўнапраўных партарганізацый. Такава традыцыя нашай партыі, адпавядаючая інтарэсам справы. Выбарныя-ж органы пярвічных партыйных арганізацый мэтазгодней іменаваць, у адрозненне ад камітэтаў, бюро.

Вялікае значэнне ЦК надае, таксама, прадастаўленню права цэхавым партыйным арганізацыям выбіраць—пры пэўных умовах, а іменна пры наяўнасці не менш 15 членаў партыі,—бюро цэхавай партарганізацыі. Вы ведаеце, што на буйнейшых заводах па рашэнню ЦК былі створаны цэхавыя камітэты. Вопыт іх работы цалкам апраўдаўся.

# Аб выніках дыскусіі па тэзісах даклада „Аб змяненнях у Статуце ВКП(б)“.

Пераходжу да паправак і змяненняў, якія былі ўнесены пры абмеркаванні ў партыйных арганізацыях тэзісаў даклада аб змяненнях у статуце ВКП(б).

Па тэзісах разгарнулася шырокая дыскусія. У рэзультаце дыскусіі тэзісы былі адобраны пераважнай большасцю членаў партыі і ўсімі партыйнымі арганізацыямі. **(Бурныя апладысменты).**

Абмеркаванне тэзісаў дало даволі вялікую колькасць паправак і дапаўненняў як да саміх тэзісаў, так і да раду іншых параграфаў зараз дзеючага статута, у якіх тэзісы не прадугледжвалі змяненняў.

З прычыны вялікай living розн... 

Ёсць рад пустапарожніх паправак, якія не маюць ніякай практычнай каштоўнасці, напрыклад: выбары парторганаў праводзіць адзін раз у 5 год; выбары сакратароў партарганізацый праводзіць на агульных сходах, а не камітэтамі або бюро, г. зн. зрабіць сакратара незалежным ад камітэта або бюро; праводзіць прыём у партыю на ўрачыстых сходах і т. д.

Гэтыя папраўкі і дапаўненні самі гавораць супроць сябе і няма ніякай неабходнасці супроць іх палемізіраваць. Яны адпадаюць самі сабой, як пусцяковыя. **(Смех. Апладысменты).**

Ёсць, па-другое, вялікі лік паправак, дапаўненняў і заўваг, якія не маюць прамых адносін да статута ВКП(б), а адносяцца да бягучай партыйна-арганізацыйнай работы.

Такія, напрыклад, прапановы аб выдзяленні не менш 3-х вечароў у пяцідзёнку свабодных ад усякіх сходаў і нарад для таго, каб таварышы маглі і адпачыць, і заняцца тэорыяй; прапановы аб правядзенні партыйных дзён; аб забароне выносіць рашэнні апытаннем; аб выбранні бюро райкомаў у малалікіх раённых партарганізацыях; аб пераводзе трактарыстаў і камбайнераў на ўчот у партарганізацыі МТС, аб ліквідацыі вузлавых чыгуначных партыйных камітэтаў і т. д. і т. п.

Тэмы ўсіх гэтых паправак і прапаноў, як бачыце,—некаторыя практычныя пытанні партыйнага будаўніцтва. Аўтары гэтых паправак, відаць, не ўяснілі розніцы паміж статутнымі пытаннямі і пытаннямі бягучай партыйнай работы і таму стараюцца ўціснуць у статут як мага больш усялякіх палажэнняў, забываючы аб тым, што статут дае толькі агульныя рамкі, асноўныя формы арганізацыйнай дзейнасці партыі і што статут не выключае, а наадварот, прадугледжвае бягучую дзейнасць партыйных органаў.

Статут ВКП(б), які зацвердзіць XVIII партыйны з'езд, дае арганізацыйную аснову для будучай дзейнасці кіруючых партыйных орга-

наў. Папраўкі і дапаўненні такога роду павінны быць накіраваны на разгляд новага састава ЦК ВКП(б).

Трэцяя група паправак мае прамыя адносіны да статута ВКП(б). Значная частка гэтых паправак мае рэдакцыйны характар і можа быць перадана ў статутную камісію XVIII з'езда, якую, я думаю, з'езд створыць, даручыўшы ёй устанавіць канчатковую рэдакцыю партыйнага статута.

Што датычыць паправак і дапаўненняў, якія маюць істотнае значэнне, то іх мэтазгодна разбіць на тры катэгорыі: папраўкі і дапаўненні, непрыймальныя, якія неабходна адвергнуць, папраўкі і дапаўненні, мэтазгоднасць якіх неабходна правентыліраваць на з'ездзе, і, нарэшце, папраўкі і дапаўненні, якія неабходна прыняць.

Спынюся на непрыймальных прапановах.

1. Папраўкі, якія маюць на ўвазе захаванне ў той ці іншай форме катэгорый па прыёму. Тут ёсць самыя рознастайныя прапановы. Усе яны выходзяць з нясвоечасовасці, па думцы аўтараў, знішчэння розных катэгорый. Прапануюць устанавіць 2 або 3 катэгорыі: адну для рабочых, другую—для сялян і інтэлігенцыі, або выдзеліць спецыяльную катэгорыю для прадстаўнікоў старой інтэлігенцыі і т. д. Гэтых прапаноў прымаць не варта.

Адзначальная рыса гэтых паправак заключаецца ў тым, што іх аўтары або ігнарыруюць, або не ўяснілі сабе сутнасці тых карэнных змяненняў у суадносінах класаў, якія адбыліся ў СССР. Яны або чапляюцца за старое, не бачачы новага, або проста спяць мёртвым сном і не заўважаюць, што навокал робіцца. **(Апладысменты).**

2. Ёсць рад паправак дыяметральна процілеглага тыпу, якія ідуць далей прапануемых тэзісамі норм, рэгуліруючых прыём у партыю. Калі першая група паправак, як мы толькі-што бачылі, прапануе захаваць старыя ўмовы прыёму, то другая група паправак прапануе пайсці значна далей тых норм, якія высунуты тэзісамі. Прапануюць, напрыклад, устанавіць кандыдацкі стаж не ў год, а ў 9 месяцаў, 6 месяцаў і нават 3 месяцы; адмяніць партыйны стаж для рэкамендуючых, зменшыць колькасць рэкамендуючых і т. д. і т. п. Я думаю, што падобнага роду папраўкі ідуць ад неразумення асобнымі членамі партыі пытання аб характары нашай партыі і сведчаць аб забыцці некаторымі членамі партыі таго асноўнага палажэння, што сіла нашай партыі заключаецца не ў тым, каб знішчыць граніцы паміж партыяй і непартыяй, паміж партыйнымі і беспартыйнымі, і расплыцца, растварыцца ў масе, а ў тым, што партыя, з'яўляючыся зборным пунктам передавых людзей з рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, не гоніцца за колькасцю членаў, а клапоціцца аб іх якасці, аб высокім званні членаў партыі, аб іх стойкасці і адданасці справе рабочага класа.

Аўтары падобных паправак зыходзяць з няправільнага ўяўлення, быццам партыя не мае больш намеру клапаціцца аб якасці сваіх

членаў і шырока адкрывае дзверы для ўсіх, хто пажадае ў яе ўвайсці. Такія няправільныя погляды не маюць нічога агульнага з устаноўкамі партыі на строга індывідуальны прыём у рады партыі сапраўды перадавых работнікаў.

Ці азначае, што істотныя змяненні парадку прыёму ў партыю ў якой-небудзь меры аслабляюць выпрабаваны ленінскі прынцып індывідуальнага адбору ў партыю? Ні ў якім разе.

ЦК і таварыш Сталін многа раз з прадзельнай яснасцю ўказвалі на тое, што для партыі важна не столькі колькасць членаў, колькі іх якасць, іх стойкасць. Вось, напрыклад, што гаварыў ён 6 ліпеня 1921 года ў сваім дакладзе агульнаму сходу Тіфліскай арганізацыі Комуністычнай партыі Грузіі:

> «Трэба раз назаўсёды запомніць, што сіла і ўдзельная вага партыі, асабліва Комуністычнай партыі, залежыць не столькі ад колькасці членаў, колькі ад іх якасці, ад іх стойкасці і аддансці справе пролетарыята».

На другім Усесаюзным з'ездзе Советаў 26 студзеня 1924 года ў сваёй вялікай клятве па поваду смерці Леніна тав. Сталін гаварыў:

> «Не ўсякаму дано быць членам такой партыі. Не ўсякаму дано вытрымаць нягоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі. Сыны рабочага класа, сыны нужды і барацьбы, сыны неймаверных лішэнняў і гераічных намаганняў—вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі такой партыі. Вось чаму партыя ленінцаў, партыя комуністаў, называецца разам з тым партыяй рабочага класа».

У рэзалюцыі XIII партз'езда «Аб чарговых задачах партыйнага будаўніцтва» партыя ўказвала, што пры прыёме новых членаў важны не фармальныя крытэрыі, а сутнасць справы. У гэтай рэзалюцыі было сказана, што

> «пры прыёме павінны захоўвацца не толькі ўстаноўленыя фармальныя ўмовы, але таксама павінна абавязкова высняцца **па сутнасці** здольнасць новага члена партыі на справе дапамагаць партыі і органам пролетарскай дыктатуры».

Гэты прынцып строга індывідуальнага падыходу пры прыёме ў партыю з'яўляецца непахісным законам нашай партыі і не падлягае змяненню.

Цэнтральны Камітэт партыі на працягу паміж XVII і XVIII з'ездамі партыі неаднаразова ўказваў на небяспеку забыцця прынцыпа індывідуальнага прыёму ў партыю.

Чуждыя, варожыя элементы заўсёды імкнуліся ўвайсці ў рады ВКП(б) для таго, каб, прыкрываючыся званнем члена партыі, падрываць вялікую справу рабочага класа.

Цэнтральны Камітэт партыі правёў велізарную работу па барацьбе з нарушэннем прынцыпаў індывідуальнага адбору ў партыю.

Цэнтральны Камітэт партыі рашуча змагаўся са спробамі забыцця ўказання Леніна аб тым, што толькі наша партыя, адзіная ў свеце клапоціцца не аб павелічэнні ліку членаў, а аб павышэнні іх якасці.

Цэнтральны Камітэт партыі найстражэй папярэджваў партыйныя арганізацыі аб небяспецы скажэння і паўтарэння памылак, аб небяспецы замены стараннага індывідуальнага адбору ў рады партыі шкоднай валавой кампаніяй па прыёму ў партыю, што засмечвала рады ВКП(б) чуждымі, варожымі элементамі.

Праверка і абмен партыйных дакументаў ускрылі выключную запушчанасць і хаос у гэтых адносінах. Адсюль ясна, што прынцып індывідуальнага адбору ў партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа, лепшых людзей нашай краіны з рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі, правераных на розных участках барацьбы за соцыялізм, людзей, якія не дрэйфяць перад труднасцямі, а загартоўваюцца ў барацьбе з імі, быў, ёсць і астаецца рашаючым прынцыпам нашай партыі пры вырашэнні пытання аб прыёме ў партыю.

Разам з тым партыя зацікаўлена ў тым, каб стварыць усе магчымасці для ўступлення ў яе рады сапраўды перадавых людзей. Змяненні ў статуце гэтыя магчымасці на справе ствараюць.

3. Рад таварышоў прапануе ўстанавіць асобную катэгорыю для асоб, раней састаяўшых у партыі. Мне здаецца, у гэтым няма патрэбы. Калі гутарка ідзе аб таварышах, якія за час прабывання па-за партыяй паказалі сябе адданымі і актыўнымі работнікамі, то іх можна прымаць на такіх-жа падставах, на якіх прымаюцца ўсе новаўступаючыя таварышы. Калі-ж такія людзі за час свайго прабывання па-за партыяй не даказалі сваёй адданасці, то яны, відаць, прыняты не будуць, і рэкамендацыі ім ніхто не дасць.

4. Прапануюцца, далей, папраўкі наконт знаёмства па сумеснай рабоце рэкамендуючага з рэкамендуемым. Прапануюць для асоб, якія знаходзяцца ў радах Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, устанавіць 6 месяцаў, матывіруючы гэта асобымі ўмовамі жыцця Чырвонай арміі. Я думаю, што мы павінны адхіліць гэтую прапанову. Па-першае, яна стварае розныя ўмовы ў жыцці тэрытарыяльнай і армейскай партыйных арганізацый, што непажадана. Па-другое, рэкамендацыі могуць даваць таварышы, якія ведаюць па сумеснай рабоце не толькі на даным прадпрыемстве, у данай установе, але і ведалі яго па сумеснай рабоце да гэтага, прычым не следуе патрабаваць ад рэкамендуючых абавязковай прысутнасці пры прыёме. Нарэшце, партарганізацыя можа звярнуцца з запросам аб таварышу, які жадае ўступіць у партыю—калі гэта будзе патрэбна, калі няхопіць рэкамендуючых на месцы—у тыя арганізацыі, дзе ён працаваў раней або да тых таварышаў, якія яго могуць парэкамендаваць па ранейшай сумеснай рабоце.

5. Унесен рад прапаноў аб прадастаўленні права прыёму ў пар-

тыю цэхавым партыйным сходам у вялікіх партыйных арганізацыях, якія налічваюць не менш 500 членаў партыі, мінаючы агульны партыйны сход. Унесены таксама прапановы аб прадастаўленні права прыёму ў партыю ўсім цэхавым партыйным арганізацыям, мінаючы агульны сход пярвічнай партарганізацыі.

Я думаю, што мы тут павінны прыняць наступную прапанову: у вялікіх заводскіх партыйных арганізацыях, якія налічваюць звыш 500 або 700 членаў партыі (аб гэтым трэба абмяняцца думкамі на з'ездзе), даць права ствараць не бюро пярвічнай арганізацыі, а заводскі камітэт.

Некаторыя таварышы прапанавалі арганізаваць у такіх прадпрыемствах раённыя вытворчыя камітэты. Мне здаецца, гэта няправільна, бо тады ў нас атрымаюцца два розныя тыпы райкомаў— райкомы тэрытарыяльныя і райкомы вытворчыя. У такіх заводскіх партыйных арганізацыях, дзе налічваецца звыш 500 або 700 членаў партыі, мэтазгодна арганізаваць заводскія партыйныя камітэты з тым, каб цэхавым партыйным арганізацыям у такіх вялікіх прадпрыемствах даць статутныя правы.

Што датычыць прапаноў аб прадастаўленні права прыёму ў партыю ўсім цэхавым арганізацыям, г. зн. аб пашырэнні статутных праvоў на ўсе цэхавыя пярвічныя арганізацыі, то іх неабходна адхіліць, бо яны ідуць па лініі ўмалення значэння агульназаводскай арганізацыі. А нашай крэпасцю з'яўляецца перш за ўсё завод і было-б няправільна расклятваць агульназаводскую партарганізацыю, ставячы стаўку на цэх. Нельга змазваць выхаваўчую ролю агульназаводскай партыйнай арганізацыі і значэнне агульназаводскага партыйнага схода ў справе прыёму ў партыю.

6. Унесен рад прапаноў аб стварэнні ўсякага роду новых аддзелаў пры партыйных органах. Тэзісы ЦК, як вядома, накіраваны да таго, каб скараціць колькасць аддзелаў, прычым асноўнымі аддзеламі будуць Упраўленне кадраў і Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК і адпаведныя аддзелы на месцах. А таварышы ідуць, наадварот, на расшырэнне аддзелаў, прапануюць стварыць новыя аддзелы, накшталт аддзела аховы здароўя, аддзела стаханаўскага руху і т. д. **(Смех).**

Гэтую прапанову неабходна адвергнуць. Аб адным толькі аддзеле пытанне, па-мойму, з'яўляецца дыскутабельным: я маю на ўвазе пытанне аб стварэнні абаронных аддзелаў, якое трэба абмеркаваць на з'ездзе.

7. Прапануюць пашырыць пункт аб партыйных актывах таксама і на сельскія арганізацыі. Я думаю, што і гэтае пытанне з'езд павінен будзе абмеркаваць, бо тут ёсць меркаванні і за і супроць.

Якія меркаванні за? Яны зводзяцца да таго, што ў сельскіх раёнах, асабліва ў буйных і не заўсёды мэтазгодна збіраць толькі агульнараённыя сходы комуністаў, што трэба склікаць і партыйныя

актывы па прыкладу гарадоў для абмеркавання бягучых пытанняў партыйнай палітыкі. Што датычыць меркаванняў супроць, то яны выходзяць з таго, што ў большасці сельскіх раёнаў можна ва ўсіх неабходных выпадках склікаць агульныя сходы арганізацый. Вядома, што агульныя сходы маюць велізарнае выхаваўчае і арганізацыйнае значэнне. Некаторыя таварышы апасаюцца, як-бы актывы не падмянілі ролі агульнага партыйнага схода, што актывамі злоўжываць не трэба. Пытанне, як бачыце, мэтазгодна было-б правентыліраваць на з'ездзе.

8. Прапануюць увесці ва ўсіх абкомах і гаркомах, побач з бюро, сакратарыяты. Гэтая прапанова таксама мае патрэбу ў абмеркаванні на з'ездзе. Ёсць довады за і супроць. Довады за гавораць аб тым, што калі кіраўніцтву неабходна вырашаць вялікую колькасць арганізацыйных пытанняў, ёсць патрэба ў такім дадатковым органе, як сакратарыят. Не для ўсякага пытання, гавораць, патрэбна склікаць бюро. Гэта, на першы погляд, вельмі спакушальная, практычна мэтазгодная прапанова. Але з другога боку ёсць апасенне, ці не прывядзе стварэнне сакратарыятаў да ўмалення ролі бюро, да ўмалення ролі калектыўнага кіраўніцтва?! Ці не прывядзе яно да пэўнага перамяшчэння цэнтра цяжару кіраўніцтва ад бюро да больш вузкай калегіі—сакратарыята? Я думаю, што гэтае пытанне патрабуе таксама абмеркавання на з'ездзе.

9. Прапануюць знізіць стаж для кіруючых партыйных работнікаў, а некаторыя прапануюць наогул не звязваць з якім-небудзь стажам выбранне таварышоў на кіруючыя партыйныя пасты. Я думаю, што гэтая прапанова з'яўляецца няправільнай, бо стаж неабходзен не толькі як фармальны крытэрый, але і як сведчанне аб наяўнасці пэўнага вопыту партыйнай работы. Мы не павінны забываць указанняў таварыша Сталіна аб неабходнасці спалучэння вопыту маладых і старых членаў партыі. Таму, прапанова аб змяненні пэўных пунктаў статута аб стажы для кіруючых партыйных работнікаў, унесеная тэзісамі ЦК, дастаткова забяспечвае вылучэнне маладых кадраў і ісці далей у бок далейшага зніжэння нямэтазгодна.

10. Прапануюць прадаставіць права кантролю совецкім ячэйкам таксама, як вытворчым. Я думаю, што гэтая прапанова непрыймальна, бо яна выходзіць з забыцця спецыфічных умоў дзейнасці совецкіх ячэек.

Да чаго прыводзіць гэтае забыццё спецыфічных умоў дзейнасці совецкіх ячэек, паказвае вопыт работы партыйных арганізацый Наркамзема СССР і Наркомсоўгасаў СССР.

Гэтыя партыйныя арганізацыі збіліся на кантроль за дзейнасцю кіраўніцтва наркаматаў і па сутнасці стварылі ў наркаматах другі цэнтр, які звязваўся з перыферыяй, даваў ёй дырэктывы і т. д. Сапраўды, гляньце хоць-бы на тыя пытанні, якія абмяркоўваюць гэтыя партарганізацыі. Партарганізацыя Наркамзема абмяркоўвала

пытанне аб ходзе сяўбы па СССР! **(Смех).** Гэта-ж камічна! Як быццам яна можа адсюль улічыць, што робіцца дзе-небудзь на Кубані, у Сярэдняй Азіі па ходу сяўбы,—і дае «дырэктывы». Абмяркоўвае пытанні аб падрыхтоўцы да ўборачнай кампаніі, аб забеспячэнні МТС гаручым, нармальным фінансіраванні МТС і т. д. і т. п., г. зн. прабуе дубліраваць і падмяняць Наркамат. З гэтай справы нічога путнага не атрымаецца.

Партарганізацыя Наркомсоўгасаў абмяркоўвала пытанні аб ходзе сенаўборкі ў соўгасах Усхода **(смех).** Што яна можа па гэтаму пытанню сказаць? Яна прабуе таксама даваць «дырэктывы».

Замест таго, каб арганізаваць барацьбу за захаванне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, за належную праверку выканання ўрадавых дырэктыў, за стан апарата, дзелавой і палітычнай якасці яго работнікаў, сігналізаваць аб недахопах у рабоце апарата Наркамата—замест гэтага людзі прабуюць падмяніць кіраўніцтва Наркаматам, кіраваць перыферыяй.

Мы маем тут справу з парочнай практыкай, якую нельга заахвочваць. Гэта ўзорчык змяшання элементарных паняццяў аб задачах совецкай ячэйкі. Гэта пародыя на кіраўніцтва, спроба стварыць наркамат у наркамаце.

Спецыфіка дзейнасці совецкіх ячэек заключаецца ў тым, што яны не могуць браць на сябе функцыі кантролю работы совецкай установы па сутнасці,—для гэтага ёсць вышэйстаячыя партыйныя і совецкія інстанцыі.

Але гэта не азначае, што пярвічныя партарганізацыі совецкіх устаноў не маюць магчымасці рабіць уплыў на справу. Наадварот, роля совецкіх партарганізацый выключна важная. Калі партарганізацыя ўстановы своечасова падмячае непарадкі ў рабоце ўстановы—як, напрыклад, абстаіць справа з разборам скарг і заяў працоўных, з прыёмам наведвальнікаў (а гэтыя пытанні маюць вельмі вострае значэнне ў рабоце совецкіх устаноў), з працоўнай дысцыплінай, з работай апарата і т. д.,—калі совецкая ячэйка сігналізіруе аб гэтых недахопах у ЦК ВКП(б) і кіраўніцтву наркамата, то тым самым яна ажыццяўляе важнейшую справу палепшання дзяржаўнага апарата.

11. Прапануюць дазволіць арганізаваць бюро ў пярвічных партыйных арганізацыях і ў цэхавых партыйных арганізацыях з колькасцю членаў 10, 7 чалавек.

7 чалавек выбіраюць бюро з 3 чалавек! Гэта-б азначала падмяніць агульны сход партыйнай арганізацыі сходам бюро, што няправільна.

Такія тыя прапановы і дапаўненні, якія маюць прамыя адносіны да статута, але, на мой погляд, непрыймальны.

Перайду да тых прапаноў, якія, па-мойму, з'яўляюцца прыймальнымі.

1. Рад таварышоў указвае на неабходнасць перапрацаваць уступ

да статута ВКП(б) у адпаведнасці са змяніўшайся абстаноўкай у краіне.

Я думаю, што гэтая прапанова правільная і яе неабходна прыняць.

2. Вельмі ажыўлены абмен думкамі ў часе дыскусіі адбыўся вакол пытання аб групах спачуваючых. Мяркуючы па найбольш пашыраных думках, групы спачуваючых неабходна скасаваць.

Таварышы ўказваюць, што ва ўмовах велізарнага росту беспартыйнага актыва вакол партыі, ва ўмовах аднаўлення прыёму ў партыю групы спачуваючых перасталі ўжо адыгрываць сваю ролю. Прыём у партыю ідзе ў асноўным паміма груп спачуваючых. Аб гэтым гаворыць, напрыклад, той факт, што ў ліку навапрынятых у кандыдаты за апошнія два годы толькі 21 працант складаюць спачуваючыя.

Абавязаны мы ўлічыць гэты практычны вопыт? Я лічу, што абавязаны.

Вакол партыі ёсць вялікая колькасць арганізацый, якія звязваюць партыю з масамі. Я маю на ўвазе такую арганізацыю, як прафесіянальныя саюзы, якія павінны ў рэзультаце сваёй работы па выхаванню сваіх членаў падымаць узровень членаў прафесіянальнага саюза да ўзроўню разумення задач комуністычнага авангарда, г. зн. да ўзроўню партыйнасці і рыхтаваць лепшых сваіх людзей для ўступлення ў партыю.

Нашы профсаюзы, на жаль, не ў дастатковай меры ставяць перад сабою гэтую задачу, а між тым прамая задача комуністаў, якія працуюць у профсаюзах, заключаецца ў тым, каб праводзіць выхаваўчую работу ў профсаюзных арганізацыях з такім разлікам, каб у рэзультаце гэтай работы верхні слой, актыў саюзаў даводзіць да ўзроўню партыйнасці.

У нас ёсць разгалінаваная сістэма розных ґрамадскіх арганізацый—советы, комсамол, кааперацыя, Асоавіяхім і т. д., вакол якіх ёсць шырокі беспартыйны актыў, з якога мы можам адбіраць лепшых людзей для прыёму ў партыю.

З гэтага пункту гледжання групы спачуваючых звужаюць магчымасці падрыхтоўкі лепшых людзей рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі да ўступлення ў партыю.

Я лічу, што лепш прымаць падрыхтаваных, лепшых, перадавых людзей не ў групы спачуваючых, а прама ў кандыдаты партыі. **(Апладысменты, галасы: правільна).**

3. Прапануюць публікаваць у друку рашэнні аб аднаўленні няправільна выключаных з партыі.

Гэтае дапаўненне правільнае і можа быць прынята.

4. Прапануюць выключыць са статута пункт аб Камісіі Совецкага Кантролю ў сувязі з тым, што прапанова аб змяненні характару работы КПК павінна пацягнуць за сабой таксама і змяненне ха-

рактару дзейнасці КСК і што Палажэнне аб КСК неабходна зацвердзіць у совецкім парадку.

Я думаю, што гэтая прапанова правільная, бо канстытуцыйныя змяненні ў структуры нашых законадаўчых і выканаўчых органаў Совецкай улады, несумненна, патрабуюць унясення адпаведных карэктываў у адносінах КСК.

5. Затым, ёсць яшчэ дапаўненне да статута, якое неабходна прыняць. Прапануюць агаварыць у статуце, што ў партыю прымаюцца таварышы, якія дасягнулі 18-ці год. **(Апладысменты).**

6. Унесены вельмі істотныя дапаўненні, якія лічаць неабходным больш дакладна вызначыць у статуце рад пытанняў, што датычаць комсамола. У нас у статуце пытанні аб комсамоле недастаткова адлюстраваны. У статуце ёсць тры пункты аб комсамоле. Першы датычыць таго, што моладзь да 20-гадовага ўзросту прымаецца толькі праз комсамол. Другі пункт гаворыць аб тым, што рэкамендацыя райкома комсамола прыраўніваецца да 2 рэкамендацый членаў партыі і трэці пункт—адносна стварэння партыйна-комсамольскіх груп там, дзе няма пярвічных партарганізацый.

Гэтых статутных палажэнняў, якія вызначаюць узаемаадносіны партыі і комсамола, цяпер ужо недастаткова. Мне здаецца, што неабходна ўнесці на абмеркаванне з'езда два такія палажэнні:

Першае: комсамольцы, якія ўступілі ў партыю і не з'яўляюцца «камандным» саставам комсамола,—я маю на ўвазе радавых комсамольцаў,—не абавязаны састаяць у двух арганізацыях—партыйнай і комсамольскай. Правільней будзе, калі-б яны, гэтыя комсамольцы, якія не вядуць па даручэнню партыі адказнай работы ў кіруючых органах комсамола, састаялі толькі ў партыйнай арганізацыі. **(Апладысменты).**

Практыка такая (і практыка не зусім правільная), што ў нас у члены партыі з комсамола пачынаюць пераводзіць з 25—26-гадовага ўзросту, г. зн. галоўным чынам, пераросткаў. І зараз гавораць у комсамоле: спачатку будзем адбіраць у партыю пераросткаў, а затым мы ўжо прымемся за больш маладыя кадры. Статутнае дапаўненне аб тым, што ў партыю могуць прымацца маладыя людзі з 18-гадовага ўзросту, будзе мець вялікае значэнне для ўзмацнення выхаваўчай работы ў комсамоле. «Дваццацігадавалыя» **(смех)** знаходзяцца ў нас у цяжкім становішчы, таму што іх «вытрымліваюць» у комсамоле і не спяшаюцца перадаваць у партыю, а між тым яны прадстаўляюць сабой людзей у росквіце сіл, здароўя, маюць усе грамадзянскія правы. Я думаю, што было-б нямэтазгодна гэтых людзей затрымліваць па 5—6 лішніх год у комсамоле, затрудняючы ім прыём у партыю.

Для комсамольцаў, якія не вядуць кіруючай работы ў комсамоле і ўступілі ў партыю, неабходна дазволіць састаяць толькі ў адной, а іменна партыйнай арганізацыі. Тады школу і выхаваўчай, і аргані-

зацыйнай работы яны будуць праходзіць цалкам у партыі. Чаму ім трэба падпарадкавацца двум райкомам, двум пярвічным арганізацыям? Чаму яны павінны задумвацца над тым, у які гурток ім хадзіць—у комсамольскі або ў партыйны? Мне здаецца, трэба ясна вызначыць становішча партыйных комсамольцаў. Ты прайшоў у комсамоле падрыхтоўчую школу выхавання, ты дастойны цяпер быць у партыі і цябе прынялі ў яе рады. Стала быць ты і працуеш ў яе арганізацыі. Мне здаецца, што гэта ўнясе яснасць у становішча комуністаў комсамольскага ўзросту і адначасова ўзніме ўсю работу комсамола па выхаванню, па падрыхтоўцы лепшых людзей у партыю. **(Апладысменты).**

Другое. Мне здаецца, што настаў таксама час узмацніць ролю комсамола ў нашым дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве і адлюстраваць гэта ў статуце партыі.

Таварышы, комсамол, пры ўсім яго велізарным значэнні, пры ўсёй велізарнай дапамозе, якую ён аказвае партыі, мае адзін недахоп, на які неабходна звярнуць ўвагу і комсамола і нашых партарганізацый,—гэта недастатковы ўдзел комсамола ў дзяржаўным жыцці, празмерна вялікае захапленне ўнутрыкомсамольскімі пытаннямі.

Мы павінны паглядзець цяпер на справу з другога боку: калі гаварыць аб агітацыйна-прапагандысцкай рабоце комсамола, то ў святле апошняй пастановы ЦК ВКП(б) зусім відавочна, што гэтая работа ў значнай меры будзе весціся партыяй. Мы павінны ўсякім чынам дапамагчы комсамолу ў гэтых адносінах і кадрамі і вопытам. Інакш і нямысліма.

Унутрыкомсамольская работа—вельмі важная справа. Але ў імя чаго яна павінна весціся? Яна-ж не можа быць самамэтай. Я думаю, што ўся комсамольская работа павінна быць крута павернута на падрыхтоўку комсамольцаў для актыўнай дзяржаўнай і партыйнай дзейнасці, на рэалізацыю той важнейшай задачы комсамола, якая звязана з яго роляй **памочніка** партыі.

А што гэта значыць практычна? Практычна гэта азначае, што, напрыклад, дзе няма пярвічнай партарганізацыі, але ёсць пярвічная комсамольская арганізацыя, яна павінна ўзяць на сябе ролю актыўнага праваднікa партыйных дырэктыў. Чаму яна не можа прыняць удзел у абмеркаванні і вырашэнні гаспадарчых пытанняў? Скажам, няма парадку ў праўленні калгаса, дрэнна з сяўбой, дрэнна з працоўнай дысцыплінай,—чаму гэтыя пытанні не можа абмяркоўваць комсамольская арганізацыя? Чаму комсамольская арганізацыя не можа абмяркоўваць пытанне аб дрэннай рабоце праўлення калгаса і арганізаваць справу так, каб замяніць дрэннае праўленне добрым? Чаму комсамольская арганізацыя не можа абмяркоўваць пытанне аб дрэнных парадках у сельсовеце? Чаму яна не можа ўзяць на сябе, па даручэнню райкома партыі, правядзенне партыйных даручэнняў,

дырэктыў, якіх зараз няма каму выконваць, толькі таму, што няма пярвічнай партарганізацыі? Я думаю, што комсамольская арганізацыя можа і павінна гэта рабіць. Комсамольскія арганізацыі павінны мець права ініцыятывы пастаноўкі перад партыйнымі арганізацыямі вялікіх і малых пытанняў дзяржаўнай і гаспадарчай работы, пытанняў аб палепшанні гаспадарчай работы на прадпрыемстве або ў калгасе, аб стаханаўскім руху, аб становішчы лазні, аб становішчы пральні, аб дрэнных парадках у вулічным руху, аб хуліганстве ў школе і т. д.,—я не буду паўтараць усіх вялікіх і малых пытанняў нашага совецкага, гаспадарчага будаўніцтва. Ці многа займаюцца зараз гэтым нашы комсамольскія арганізацыі? Сцвярджаю, што мала. Калі комсамольскія арганізацыі возьмуцца за такія пытанні і будуць абмяркоўваць не толькі пытанні ўнутрыкомсамольскай работы, не толькі варыцца ў сваім уласным саку, то тым самым яны выйдуць на шырокую дарогу больш актыўнага ўдзелу ва ўсім нашым соцыялістычным будаўніцтве. Рост кадраў будучых партыйных і дзяржаўных дзеячоў значна паскорыцца. Комсамольцы атрымаюць сапраўдную школу выхавання. **(Апладысменты).**

Зыходзячы з гэтага, я лічу, што не трэба прымаць прапаноў аб ліквідацыі партыйна-комсамольскіх груп, прапаноў, якія зыходзяць з таго, што гэтыя групы, нібыта, нежыццёвы. Яны нежыццёвы зараз таму, што яны не ведаюць чым займацца. Калі мы ўвальем у работу партыйна-комсамольскіх груп новы змест, калі, напрыклад, комуністы сяла, раз іх недастаткова, каб арганізаваць партарганізацыю, і комсамольцы збяруцца разам і абмяркуюць пытанне, як палепшыць справу ў калгасе, як палепшыць культурна-палітычную работу, згаворацца аб агульнай лініі паводзін у важнейшых пытаннях палітычнай, гаспадарчай, культурнай работы на сяле,—то такія партыйна-комсамольскія групы неабходна захаваць, а не ліквідаваць. **(Узрыў апладысментаў).**

7. Наступная прапанова заключаецца ў тым, каб не адбіраць партбілет у выключанага з партыі да зацверджання выключэння абкомам. Гэтая прапанова правільная і яе неабходна прыняць.

8. Была прапанова, каб пленумы гаркомаў і райкомаў збіраць не радзей раза ў паўтара месяца. І гэтую прапанову мэтазгодна прыняць.

9. Прапаноўвалі ў змяненне адпаведнага параграфа статута дазволіць арганізоўваць партыйныя групы і ў тых партыйных арганізацыях, дзе няма ста комуністаў. Як вы ведаеце, па статуту партыйныя групы арганізуюцца толькі там, дзе налічваецца сто і вышэй комуністаў. Я думаю, гэтая прапанова таксама з'яўляецца прыймальнай.

10. Было прапанавана яшчэ адно змяненне статута, якое заключаецца ў тым, каб пры прыёме ў партыю не патрабаваць ад уступаючага водзыву грамадскіх арганізацый. Мне здаецца, што гэтая

прапанова мэтазгодна. Для ўступлення ў партыю зусім дастатковa рэкамендацый партыйных таварышоў.

Вось тыя прапановы і дапаўненні да статута, якія мэтазгодна прыняць.

* * *

Таварышы, дыскусія па статутных пытаннях прынесла партыі велізарную карысць. Яна паказала рост адказнасці членаў партыі за лёс партыі, рост клопатаў кожнага партыйца аб сваёй мацеры-партыі. Дыскусія паказала велізарны рост ідэйнай згуртаванасці членаў нашай партыі.

Па свайму размеру дыскусія з'явілася зусім небывалай з'явай у жыцці нашай партыі. Яна паказала, што партыя ідзе на ўсіх парах да поўнай актывізацыі сваіх радоў, якая азначае яшчэ нябачаны размах дзейнасці партыі.

СССР уступіў у новую паласу развіцця,—у паласу завяршэння будаўніцтва соцыялізма і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

На гэтым новым этапе нашай сусветна-гістарычнай справы яшчэ вышэй узнімаецца роля і значэнне нашай партыі.

Перад партыяй устаюць новыя грандыёзныя і захапляючыя перспектывы, устаюць новыя вялікія, складаныя задачы. Каб вырашыць гэтыя задачы і выканаць сваю ролю перадавога барацьбіта за пабудову комуністычнага грамадства, наша партыя павінна нястомна адточваць сваю арганізацыйную зброю. Статут партыі, прыняты нашым з'ездам, будзе статутам партыі перамогшага соцыялізма, статутам, які ўзбройвае членаў партыі для паспяховага выканання задачы паступовага пераходу да комунізма. **(Бурныя апладысменты).**

Узброеная перадавой тэорыяй, узброеная самай перадавой палітыкай, арганізацыяй і ідэалогіяй самага перадавога класа, згуртаваўшая вакол сябе вялікі многамільённы совецкі народ, наша партыя ідзе ў бой за паступовы пераход да комунізма. **(Бурныя апладысменты).**

Не раз сілы гніючага капіталізма прабавалі і будуць прабаваць спыніць наша пабеданоснае шэствіе.

Мы ведаем, што ўперадзе будуць труднасці. Мы разумеем складанасць пастаўленых перад намі новых задач. Але мы ведаем і сродкі і ўмовы для нашай канчатковай перамогі.

Таварыш Сталін яшчэ на XVI з'ездзе партыі гаварыў, што наша партыя непераможна, калі яна не баіцца труднасцей і ведае, куды весці справу. Такой непераможнай партыяй і з'яўляецца наша вялікая большэвіцкая партыя. **(Бурныя апладысменты ўсяго зала, усе ўстаюць).**

Таварышы, мы байцы арміі вялікіх пролетарскіх стратэгаў, арміі Леніна—Сталіна, згуртаваныя вакол ленінска-сталінскага ЦК, вакол свайго настаўніка і правадыра таварыша Сталіна, пранясем свой, авеяны славай, большэвіцкі сцяг да поўнай перамогі комунізма. **(Бурныя апладысменты ўсяго зала).**

Няхай жыве наша вялікая партыя!

Няхай жыве геній, мозг, сэрца большэвіцкай партыі, усяго совецкага народа, усяго прагрэсіўнага перадавога чалавецтва— наш Сталін! **(Бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю, усе ўстаюць, воклічы: «ура»).**

———

# САСТАЎ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ВКП(б), ВЫБРАНАГА XVIII З'ЕЗДАМ ВКП(б)

## ЧЛЕНЫ ЦК ВКП(б)

1. Андрэеў А. А.
2. Андрыанаў В. М.
3. Анцэловіч Н. М.
4. Багіраў М. Д.
5. Бадаеў А. Е.
6. Бенедзіктаў І. А.
7. Берыя Л. П.
8. Баркоў Г. А.
9. Будзённы С. М.
10. Булганін Н. А.
11. Бурмістэнка М. А.
12. Ваннікаў Б. Л.
13. Вахрушэў В. В.
14. Вазнесенскі Н. А
15. Варашылаў К. Е.
16. Вышынскі А. Я.
17. Дзвінскі Б. А.
18. Данской В. А.
19. Ефрэмаў А. І.
20. Жданаў А. А.
21. Задзіончэнка С. Б.
22. Захараў С. Е.
23. Зверэў А. Г.
24. Землячка Р. С.
25. Кагановіч Л. М.
26. Кагановіч М. М.
27. Калінін М. І.
28. Карніец Л. Р.
29. Каротчэнка Д. С.
30. Касыгін А. Н.
31. Кузняцоў А. А.
32. Кузняцоў Н. Г.
33. Кулік Г. І.
34. Літвінаў М. М.
35. Ліхачоў І. А.
36. Лазоўскі С. А.
37. Любавін П. М.
38. Маленкоў Г. М.
39. Малышэў В. А.
40. Мануільскі Д. З.
41. Меркулаў В. Н.
42. Меркулаў Ф. А.
43. Мехліс Л. З.
44. Мікаян А. І.
45. Міцін М. Б.
46. Міхайлаў Н. А.
47. Молатаў В. М.
48. Нікіцін В. Д.
49. Нікалаева К. І.
50. Пегаў Н. М.
51. Первухін М. Г.
52. Панамарэнка П. К.
53. Паскрэбышэў А. Н.
54. Паспелаў П. Н.
55. Пацёмкін В. П.
56. Рогаў І. В.
57. Седзін І. К.
58. Скварцоў Н. А.
59. Сталін І. В.
60. Тевасян І. Т.
61. Тімашэнка С. К.
62. Фадзееў А. А.
63. Хрушчоў Н. С.
64. Шахурын А. І.
65. Швернік Н. М.
66. Шкіратаў М. Ф.
67. Штэрн Г. М.
68. Шчадэнка Е. А.
69. Шчэрбакоў А. С.
70. Юсупаў У.
71. Праслаўскі Ем.

## КАНДЫДАТЫ Ў ЧЛЕНЫ ЦК ВКП(б)

1. Алемасаў А. М.
2. Антонаў Д. І.
3. Аруцінаў Г. А.
4. Багаеў С. І.
5. Бакрадзе В. М.
6. Бірукоў Н. І.
7. Байцоў І. П.
8. Вейнберг Г. Д.
9. Власаў І. А.
10. Гвішыані М. М.
11. Гоглідзе С. А.
12. Горкін А. Ф.
13. Громаў Г. П.
14. Гусараў Н. І.
15. Дзеканозаў В. Г.
16. Дзенісаў М. Ф.
17. Даронін П. І.
18. Дуброўскі А. А.
19. Жаваранкаў В. Г.
20. Жэмчужына П. С.
21. Жураўлёў В. П.

22. Зотаў В. П.
23. Ігнатаў Н. Г.
24. Ігнацьеў С. П.
25. Іскандзераў А. Б.
26. Карташоў К. К.
27. Кафтанаў С. В.
28. Качалін К. І.
29. Кабулаў Б. З.
30. Кавалёў М. П.
31. Калыбанаў А. Г.
32. Камароў П. Т.
33. Конеў І. С.
34. Круглоў С. Н.
35. Кулакоў П. Х.
36. Лакціонаў А. Д.
37. Макараў І. Г.
38. Масленнікаў І. І.
39. Мерэцкоў К. А.
40. Невежын Н. І.
41. Нікішэў І. Ф.
42. Паўлаў Д. Г.
43. Пальцэў Г. Н.
44. Патолічэў Н. С.
45. Папкоў П. С.
46. Папоў Г. М.
47. Пронін В. П.
48. Расцёгін Г. С.
49. Саўчэнка Г. К.
50. Самахвалаў А. І.
51. Селезнёў П. І.
52. Сергееў І. П.
53. Сердзюк З. Т.
54. Смушкевіч Я. В.
55. Соснін Л. А.
56. Старасцін М. І.
57. Старчэнка В. Ф.
58. Сторажэў Я. В.
59. Фекленка Н. В.
60. Фралкоў А. А.
61. Хахлоў І. С.
62. Чарквіані К. Н.
63. Чэрнаусаў Б. Н.
64. Чуянаў А. С.
65. Шагімарданаў Ф. В.
66. Шапашнікаў Б. М.
67. Штыкаў Т. Ф.
68. Ярцэў В. В.

## САСТАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ, ВЫБРАНАЙ XVIII З'ЕЗДАМ ВКП(б)

1. Абдурахманаў А.
2. Андрыенка А. А.
3. Аношын І. С.
4. Байцоў В. І.
5. Булатаў В. С.
6. Вагаў А. В.
7. Владзімірскі М. Ф.
8. Волкаў А. А.
9. Грэкава Н. Г.
10. Дзенісенка В. М.
11. Дукельскі С. С.
12. Ігнацьеў С. Д.
13. Ізотаў Н. А.
14. Кабанаў А. Ф.
15. Кануннікаў М. Я.
16. Квасаў М. Е.
17. Кіселёў В. А.
18. Кіселёў К. В.
19. Крыванос П. Ф.
20. Кудраўцэў А. В.
21. Кузнецоў І. А.
22. Кузнецоў Ф. Ф.
23. Кулієў Т. І.
24. Кулатаў Т.
25. Курбанаў М.
26. Лаўрэнцьеў П. В.
27. Лінкун Н. І.
28. Лабанаў П. П.
29. Лукін С. Г.
30. Любімаў А. В.
31. Мельнікаў А. Н.
32. Мішакова О. П.
33. Мішчэнка Г. К.
34. Маскатаў П. Г.
35. Муругаў І. В.
36. Огароднікаў Г. П.
37. Пірузян А. С.
38. Пратапопаў Д. З.
39. Саджая А. Н.
40. Сілкін Г. П.
41. Скрыннікаў С. Е.
42. Смірноў П. В.
43. Сцепаненка І. Л.
44. Суслаў М. А.
45. Тарасаў С. Н.
46. Ундасынаў Н.
47. Худай-Бергенаў А.
48. Цанава Л. Ф.
49. Чубін Я. А.
50. Шаталін Н. Н.

## Выбары камісіі па змяненню праграмы ВКП(б)

### ПАВЕДАМЛЕННЕ тав. АНДРЭЕВА.

Таварышы, па чацвертаму пункту парадку дня—выбарах камісіі па змяненню праграмы ВКП(б), я маю сказаць, па даручэнню ЦК ВКП(б), наступнае:

Як вядома, XVI з'езд партыі прыняў рашэнне і даручыў ЦК ВКП(б) перапрацаваць праграму ВКП(б). Але з'езд не выбраў тады праграмнай камісіі для выпрацоўкі праекта новай праграмы.

Няма чаго даказваць, што існуючая праграма нашай партыі ўжо не адпавядае тым змяненням, якія адбыліся ў СССР з часу яе прыняцця ў 1919 годзе. Наша праграма адстала ад нашых дасягненняў. А між тым вядома, што праграма павінна стаяць уперадзе нашых дасягненняў, яна павінна клікаць партыю ўперад для заваявання таго, што яшчэ не заваявана.

У сувязі з гэтым ЦК ВКП(б) прапануе з'езду выбраць камісію па перапрацоўцы праграмы ВКП(б) і абавязаць яе прадставіць на бліжэйшы з'езд партыі праект новай праграмы.

Вось, таварышы, тая прапанова, якую ўносіць ЦК ВКП(б) на разгляд з'езда.

Ці ёсць жадаючыя ўзяць слова па прапанове, унесенай ЦК, або жадаючыя ўнесці свае прапановы?

**Галасы:** Няма.

**Андрэеў** (старшынствуючы). Тады дазвольце галасаваць. Хто за тое, каб прыняць прапанову ЦК ВКП(б) аб выбранні камісіі па перапрацоўцы праграмы партыі, прашу падняць карткі.

Прашу апусціць.

Хто супроць? (Няма).

Хто ўстрымліваецца? (Няма).

Прапанова ЦК ВКП(б) прынята аднагалосна. **(Апладысменты).**

**Андрэеў.** Уносіцца наступная прапанова аб персанальным саставе камісіі па перапрацоўцы праграмы.

Перш за ўсё, уносіцца прапанова выбраць старшынёй камісіі па перапрацоўцы праграмы тав. Сталіна. **(Бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю, воклічы «ура!»).**

**Андрэеў** (старшынствуючы). Дазвольце галасаваць. Хто за тое, каб выбраць таварыша Сталіна старшынёй камісіі, прашу падняць

карткі. **(Апладысменты).** Прашу апусціць. Хто супроць? Устрымаўся? Прапанова прымаецца аднагалосна. **(Усе ўстаюць, бурныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю, воклічы «ура!»).**

Членамі праграмнай камісіі прапануюцца наступныя таварышы ў алфавітным парадку: Андрэеў, Багіраў, Бенедзіктаў, Берыя, Вазнесенскі, Варашылаў, Вышынскі, Данской, Жданаў, Калінін, Кагановіч Л. М., Каротчэнка, Лазоўскі, Маленкоў, Мануільскі, Мехліс, Мікаян, Міцін, Молатаў, Паспелаў, Скварцоў, Хрушчоў, Швернік, Шчэрбакоў, Юсупаў і Яраслаўскі.

Ці ёсць іншыя прапановы па саставу камісіі?

**Галасы.** Няма.

**Андрэеў.** Дазвольце галасаваць, як—персанальна ці ў цэлым?

**Галасы.** У цэлым.

**Андрэеў.** Хто за тое, каб зацвердзіць названы састаў праграмнай камісіі, прашу падняць карткі. Хто супроць? Устрымаўся? Састаў камісіі зацвярджаецца аднагалосна.

## *Састаў камісіі па змяненню праграмы ВКП(б), выбранай XVIII з'ездам ВКП (б)*

1. **Сталін** (старшыня)
2. **Андрэеў**
3. **Багіраў**
4. **Бенедзіктаў**
5. **Берыя**
6. **Вазнесенскі**
7. **Варашылаў**
8. **Вышынскі**
9. **Данской**
10. **Жданаў**
11. **Калінін**
12. **Кагановіч Л. М.**
13. **Каротчэнка**
14. **Лазоўскі**
15. **Маленкоў**
16. **Мануільскі**
17. **Мехліс**
18. **Мікаян**
19. **Міцін**
20. **Молатаў**
21. **Паспелаў**
22. **Скварцоў**
23. **Хрушчоў**
24. **Швернік**
25. **Шчэрбакоў**
26. **Юсупаў**
27. **Яраслаўскі**



Уп. Галоўлітбела № 230.
Тыраж 8.700 экз.
668.800 друк. зн. (12½ арк.)
Здана ў набор 15/III—39 г.
Падпісана да друку 7/IV—39 г.

РЭДКАЛЕГІЯ

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку. Зак. № 406.




ЦАНА 40 кап.